


падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
01/2017




Маладосць 01/2017

Таму, хто думае

у нумары:

Пяць стагоддзяў беларускага кнігадрукавання за адзін «маладосцеўскі» год

У кожным нумары 2017-га

Хрэстаматыйнае і малавядомае

Ад Скарыны да...

Спецыяльны праект

# «Варштат»






# 01

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(758) СТУДЗЕНЬ, 2017**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар

**Святлана Дзмітрыеўна**

**ВОЦІНАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ**

Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку 16.01.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк.17,02. Тыраж 1378 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

Змест

## КІТАЙСКІ СШЫТАК



## ПУБЛІЦЫСТЫКА, КРЫТЫКА



## ПАЭЗІЯ, ПРОЗА



## ПРАЕКТ «ВАРШТАТ»

*Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*



## З БОГАМ

# Карп, які стаў драконам

Вітаем цябе, дарагі чытач!

Ты трымаеш у руках кітайскі нумар «Маладосці» і, напэўна, у тваёй галаве мітусяцца пытанні. Напрыклад: што можа яднаць наш часопіс і Кітай? Не будзем ўключаць загадкавасць, адразу і з задавальненнем адкажам.

Існуе кітайская легенда пра карпаў, якія смела ідуць супраць плыні ракі Хуанхэ. Плынь моцная, не кожны здолее ёй супрацьстаяць. Тым больш, гэта ўсяго толькі першы этап на дарозе да вышыні. Што цікава, словы «да вышыні» ў дадзеным выпадку даволі двухсэнсоўныя. Маецца на ўвазе не толькі якая-небудзь уяўная вышыня, а і самая фізічная. Карпы плывуць да Драконавага парога, а там выскокваюць з вады, каб пераадолець гэты вадаспад. Большасць не спраўляецца. Пасля некалькіх спроб яны вяртаюцца да свайго звычайнага жыцця, страціўшы ўсе сілы і не могучы больш змагацца са стыхіяй. Але ёсць і тыя, хто дасягае сваёй мэты. Гэтыя карпы ператвараюцца ў драконаў.

Заўсёды сярод беларускага народа (як і любога іншага) з'яўляліся дзіўныя людзі. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, нягледзячы на моц будзённасці, шэрасці, звычайнасці ішлі яны супраць плыні. Хацелі ўзняцца над вадой, хацелі стаць па-за межамі сваіх рыбных касякоў. Сярод іх хочацца ў першую чаргу назваць дзеячаў літаратуры. Часопіс «Маладосць» з'яўляўся і з'яўляецца для іх Драконавым парогам. Месцам, праз якое можна стаць драконам або, карыстаючыся мясцовым сімвалам, зубрам.

Шмат кніг і даследчых работ прысвечана рознасці паміж усходнім менталітэтам і заходнім. Шмат моцных заяў пра немажлівасць знайсці агульную мову. Але насамрэч беларускі часопіс з'яўляецца ўвасабленнем кітайскай легенды. То бок усе людзі нашай планеты, наколькі б далёкімі яны ні здаваліся, мову агульную заўсёды змогуць знайсці. Калі мова гэта ўзброена мастацтвам і ўсмешкай, а не танкам і нянавісцю.

Сёння беларускі чытач атрымае прыемную мажлівасць пазнаёміцца бліжэй з Кітаем. Нашы старонкі пакрыты перакладзенымі на літары іерогліфамі кітайскіх пісьменнікаў і паэтаў. Акрамя таго вас чакае цікавая інфармацыя пра кітайскую культуру, гісторыю і сучаснасць, пададзеная праз артыкулы і інтэрв'ю. А для візуальнага эфекту ў нумары размешчаны чароўныя ілюстрацыі.

Па агульным меркам наша краіна яшчэ маладая. У параўнанні з кітайскай наша культура яшчэ падлетак. Адсюль і гэты так неабходны нам дыялог. Нам патрэбны прыклад, не той прыклад, з якога можна проста і несумленна ўсё змаляваць, а прыклад, на які можна глядзець з павагай. Бо традыцыйнасць і беражлівасць Кітая ў адносінах да сваёй культуры заслугоўвае павагі. Заслугоўвае таго, каб пазнаёміцца з ёй уважліва, са шчырым жаданнем зразумець і прыняць. Каб кожны карп у нашым Хуанхэ захацеў стаць драконам.

*«М»ы*





# Аляксандр Гардзей: «Ёсць ідэалы, і зразумела, куды рухацца»

**Сёлета дыпламатычным адносінам Беларусі і Кітая спаўняецца чвэрць стагоддзя, а ў снежні першы ў Беларусі Інстытут імя Канфуцыя адзначыў свой 10-гадовы юбілей. З гэтай нагоды карэспандэнт «Маладосці» Юля Ваўчок паразмаўляла з намеснікам дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандрам Гардзеем.**

**— Чаго ўдалося дасягнуць за амаль дзесяць гадоў існавання Інстытута?**

— Інстытут арганізоўваўся намаганнямі калектыву кафедры мовазнаўства і краіназнаўства Усходу, тады яна называлася кафедра ўсходніх моў. Усё пачыналася са стварэння ў БДУ Рэспубліканскага цэнтра кітаязнаўства «Іерогліф». Потым ён быў вылучаны ў самастойную структуру, якая падпарадкоўвалася ўжо непасрэдна ўніверсітэту — была выведзена са складу факультэта міжнародных адносін, але цесна ўзаемадзейнічала з кафедрай. Цэнтр быў створаны ў 2003 годзе як прататып самога інстытута. Тады пра праграму Інстытута імя Канфуцыя мала хто што-небудзь ведаў. І планы гэтыя, па маім меркаванні, не былі нават апублікаваныя ў КНР. Калі ў 2006 годзе інстытут быў створаны, ён з'явіўся першым у сваім родзе. Пазней, у 2011-м, дзякуючы намаганням калектыву, пры дапамозе кіраўніцтва БДУ і партнёрскай арганізацыі — Даляньскага політэхнічнага ўніверсітэта, а таксама Пасольства КНР у Рэспубліцы Беларусь наш Інстытут быў прызнаны адным з лепшых інстытутаў у свеце — увайшоў у дваццатку мацнейшых. Дыплом «Адзін з лепшых інстытутаў года» ўручала асабіста спадарыня Лю Яньдун на Сусветным форуме Інстытутаў імя Канфуцыя, які прайшоў у Пекіне ў тым жа годзе. Лю Яньдун — віцэ-прэм'ер Дзяржсавета КНР, член Палітбюро ЦК КПК, якая курыруе сацыяльную сферу і работу Інстытутаў імя Канфуцыя. У 2013 годзе мы правялі Еўрапейскі форум Інстытутаў імя Канфуцыя ў БДУ. Да нас прыехалі прадстаўнікі дэлегацый з ўсходнееўрапейскіх інстытутаў. Гэта, дарэчы, таксама адна з праяў прызнання нашых заслуг кітайскім бокам. Па выніку гэтага форуму былі прынятыя розныя праграмы. У прыватнасці, стварэнне Інстытута імя Канфуцыя ў БНТУ. У тым жа 2013 годзе рэктар БДУ Сяргей Абламейка быў узнагароджаны сярэбраным медалём Дзяржканцылярыі КНР за поспехі ў развіцці кітайскай мовы ў БДУ з уручэннем дзяржаўнай прэміі КНР.

Цяпер Інстытут імя Канфуцыя практычна выйшаў на формулу «ўзорны Інстытут імя Канфуцыя». У адпаведнасці з нарматыўнымі дакументамі КНР з усіх інстытутаў імя Канфуцыя вылучаюцца ўзорныя, якія маюць асаблівы статус, асаблівае фінансаванне, асаблівае стаўленне, асаблівы падыход і г. д. Для таго, каб стаць узорным інстытутам, трэба адпавядаць пэўным умовам, якія вылучае кітайскі бок. Сярод гэтых умоў: інстытут як мінімум адзін раз павінен быць прызнаны інстытутам года, кіраваць інстытутам павінен прафесійны кітаязнавец. Інстытуты Канфуцыя ствараліся ў розных месцах, у тым ліку і там, дзе не было традыцыі выкладання кітайскай і ўсходніх моў. І многія інстытуты імя Канфуцыя ў такіх умовах развіваліся толькі дзякуючы тытанічным намаганням і дапамозе кітайскага боку, які накіроўваў сваіх спецыялістаў. А ў нас толькі на кафедры мовазнаўства краін Усходу цяпер працуе каля сарака спецыялістаў.

Яшчэ адна ўмова — Інстытут імя Канфуцыя павінен мець філіялы. Мы сталі ствараць іх да таго, як такая праграма з'явілася. Проста разумелі, што неабходныя ўмовы для вывучэння кітайскай мовы не толькі ў Мінску, але і ў беларускіх рэгіёнах. І мы стварылі філіял у Гомельскім дзяржаўным універсітэце, у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце і ў беларускамоўнай мінскай гімназіі № 23. Магчыма, мы яшчэ адкрыем філіял у Оршы ці Віцебску.

Цяпер пад эгідай Рэспубліканскага Інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя мову вывучаюць каля дзвюх тысяч трохсот чалавек. Толькі на базе інстытута кітайскую мову вывучаюць прыкладна трыста чалавек. Прычым мы маем курсы рознага ўзроўню: пачатковага, сярэдняга, вышэйшага. Доўжацца яны ў сярэднім два гады. Ёсць і кароткатэрміновыя курсы — летнія. Для дзяцей, юнакоў, дарослых. Школьнікаў-слухачоў дзесьці на дзве траціны больш, чым дарослых.

Мы нядрэнна супрацоўнічаем з Акадэміяй навук — праводзім розныя мерапрыемствы, штогадовую канферэнцыю «Кітайская цывілізацыя ў дыялогу культур», выдаём зборнікі. Ажыццяўляецца сумесны праект «Кадыфікацыя арфаграфіі ў запісе кітайскіх імёнаў і прозвішчаў» — мы павінны мець такую сістэму транслітарацыі кітайскіх імёнаў і прозвішчаў, якая б, з аднаго боку, выкарыстоўвала ўсе арфаэпічныя перавагі беларускай мовы, а яна дазваляе лепш транскрыбіраваць, чым руская, гучанне кітайскіх слоў. Але, з іншага боку, мы не павінны моцна адыходзіць ад азбукі Паладзія, якая з'яўляецца прынятым стандартам пры транскрыбіраванні кітайскіх імёнаў і прозвішчаў сродкамі рускай мовы, бо патрэбныя пераходы, супастаўленні.

Акрамя гэтага ёсць часопіс «Беларусь-Кітай» і канферэнцыя для выкладчыкаў кітайскай мовы, якая праходзіць у розных гарадах Беларусі. І, вядома, вельмі б хацелася, каб Мінск стаў значным сусветным цэнтрам у развіцці кітаязнаўства і ўсходазнаўства, якімі, напрыклад, з'яўляюцца Масква ці Пецярбург. Лепшымі дасягненнямі Савецкага Саюза былі космас, балет, фігурнае катанне і кітаязнаўства. Тыя стандарты, якія прымаліся ў СССР, у тым ліку і па транскрыбіраванні кітайскіх іерогліфаў і самім вывучэнні, распаўсюджваліся на ўсе краіны свету і былі прынятыя і ў Амерыцы, і ў Кітаі. У нас ёсць добрыя перспектывы, ёсць ідэалы, і зразумела, куды рухацца, да чаго імкнуцца.

**— Якім чынам Рэспубліканскі Інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя спрыяе прадстаўленню, развіццю і, магчыма, дэманстрацыі культуры Беларусі ў Кітаі і кітайскай культуры ў Беларусі?**

— У шэрагу выпадкаў мы можам атрымаць супастаўленні, і вось калі мы нясём наш традыцыйны ўклад жыцця, нашы ўяўленні, нашы культурныя традыцыі, у нас ёсць магчымасць прымацоўвацца да кітайскай культуры праз іх. Бо, калі ў людзей няма адзінства ва ўспрыманні, узаемадзейнічаць немагчыма. У абраднасці ёсць супадзенні, хоць, вядома, хаваюць яны сваіх памерлых не так, як мы. У нас ёсць Крывыя вечары, у Кітаі таксама ёсць такое паняцце. Харавы спеў і тое, што рабілі Уладзімір Мулявін і ансамбль «Песняры», — выдатныя кропкі судакранання: я ведаю, што кітайцам падабаюцца такія спевы. Ім да гэтага часу даспадобы «Падмаскоўныя вечары», іх мелодыка і рытм. Кітайцы вельмі моцна пацярпелі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Іх страты большыя, чым нават у нас… Маем таксама шэраг супольных праектаў: нядаўна выйшла кніга перакладаў з кітайскай мовы на беларускую «Пад крыламі дракона. Сто паэтаў Кітая», мы актыўна супрацоўнічаем з літаратурнымі часопісамі РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Але ёсць і праблемы. У прыватнасці, у сферы перакладаў. У беларускамоўнай мінскай гімназіі № 23 выкладаюць кітайскую мову, але няма беларуска-кітайскіх падручнікаў. Калі гэтую праблему трошкі закранулі, быў зварот з боку Міністэрства адукацыі: ці не маглі б мы дапамагчы ў падрыхтоўцы такіх падручнікаў. Мы б маглі, але складанасці ёсць у фінансаванні, таму што мала школ, якія з'яўляюцца беларускамоўнымі і дзе разам з тым выкладаецца кітайская мова. Як гэтую праблему вырашыць? Гэта ж сапраўды праблема.

Што датычыцца культуры Кітая, мы праводзім Свята ліхтароў, прысвечанае заканчэнню кітайскага Новага года. На гэтым святце з нумарамі мастацкай самадзейнасці выступаюць нашы слухачы, студэнты ВНУ, прафесійныя калектывы. Мы,

вядома, уключаем у праграму свята і беларускія харэаграфічныя кампазіцыі, але нам хочацца, каб нашы танцавальныя калектывы маглі выступаць і ў Кітаі. З кітайскім бокам мы практычна дамовіліся пра фінансаванне калектываў, якія ўжо знаходзяцца ў Кітаі. Але ўсё роўна засталося пытанне з дарогай: хто будзе яе аплачваць?

У Кітаі ёсць невялікі Цэнтр беларускай культуры, які знаходзіцца ў Шанхайскім універсітэце. Дарэчы, узначальвае яго былы сакратар па пытаннях адукацыі пасольства КНР у нас — Бэй Вэнлі. Ён трохі размаўляе па-беларуску, у яго выдатная руская. Але мы не можам так, як Расія, якая фактычна кожнаму Інстытуту імя Канфуцыя, які ўзнікае ў яе межах, ставіць умову ўзнікнення Цэнтра рускай мовы ў Кітаі.

**— Навошта сёння беларусы вучаць кітайскую мову?**

— Першая і самая галоўная прычына — эканоміка. Кітай — лідар XXI стагоддзя. Гэта было зразумела яшчэ пяцьдзясят гадоў таму. Напрыклад, якая цяпер колькасць кітайскіх тавараў у нас? Калі раней гэта была толькі лёгкая прамысловасць, то цяпер гэта і электроніка, і высокія тэхналогіі, і шмат што яшчэ. Поспехі ў эканоміцы — асноўнае.

Другое — экзотыка. Усё зусім не так, як у нас. Цікавасць выклікаюць іерогліфы, разнастайная кітайская атрыбутыка, фэн-шуй, курыльныя палачкі, танцы дракона. Выдатная кухня: кітайскія пампушкі і кітайскія пельмені. А таксама выразанне з паперы, ліхтары, якія там запускаюць, традыцыйны кітайскі касцюм.

Трэцяе — жаданне зразумець. Кітайскую філасофію, кітайскую культуру, кітайскую традыцыю, кітайскі погляд на свет.

**— Колькі студэнтаў ці тых, хто проста вывучыў мову, з'язджаюць у Кітай, каб вучыцца або застацца жыць?**

— Адзін час праблема адтоку нашых спецыялістаў палохала кіраўніцтва, маўляў, што адбываецца — велізарная колькасць студэнтаў з'язджае ў Кітай. Але справа ў тым, што Кітай цяпер прапануе розныя праграмы: уключанай адукацыі і пачатковай. Ёсць магістарскія двухгадовыя праграмы і на PhD. Сапраўды, вельмі шмат людзей знаходзіць работу ў Кітаі, і ўзровень зарплаты там нашмат вышэйшы, чым у нас. Навошта наракаць на адток працоўнай сілы? У беларусаў ёсць схільнасць ужываць простыя метады ў складаным свеце. Зараз свет высокіх тэхналогій, ствараюцца аддаленыя працоўныя месцы. Трэба шанаваць сваіх спецыялістаў, даваць ім годную заработную плату. Вызначыць, якія галіны з'яўляюцца найбольш перспектыўнымі, якія трэба падтрымліваць у першую чаргу. Мы разумеем, што Беларусь — гэта не Кітай, і мы не можам акумуляваць такі золатавалютны рэзерв, які акумулюе Кітай. Ніхто пра гэта не кажа, і ніхто на гэта не прэтэндуе. Але нешта ў нашай рэструктурызацыі маглі б палепшыць. І гэта залежыць ад людзей на месцах. Вельмі многія жывуць па-старому, не заўсёды прымаюць хуткія рашэнні, якія трэба прымаць. Гэта залежыць ад чалавека — кожны можа зрабіць лепш, чым робіць. Кітайцы ў гэтым сэнсе вельмі мабільныя і рухомыя. Да іх можна з вуліцы прыйсці, калі ёсць які-небудзь добры праект, расказаць — і яны яго падхопяць, падтрымаюць, прафінансуюць нават. Хуткасць прыняцця рашэння там вельмі вялікая. І гэта дазваляе Кітаю дамагацца тых вынікаў, якіх ён дамагаецца.

Але трэба разумець, што еўрапеец колер скуры не памяняе, ён усё ж будзе замежнікам. У Кітаі зараз не так востра стаіць палітыка абмежавання нараджальнасці: адна сям'я — адно дзіця. Але ўсё ж такі, каб нарадзіць другое, трэба атрымаць дазвол. І пытанні па сацыяльнай сферы і ахове здароўя ёсць. А вось дзе будзе лячыцца наш супрацоўнік у Кітаі, калі з ім нешта здарыцца? Хто будзе аплачваць страхоўку? А калі народзіцца дзіця? У які сад яно пойдзе? У якую школу? І ў Кітаі больш заахвочваюць, каб выязджалі за мяжу і ўступалі там у шлюбы, чым асіміляцыю ўнутры краіны. Працаваць там можна, але вось замацавацца... Многія вяртаюцца. Гэта добра для Беларусі — людзі набраліся вопыту, паглядзелі, як працуе краіна, якая становіцца лідарам на міжнароднай арэне, як там наладжана жыццё, як эканоміка рухаецца. Потым, наколькі мне вядома, яшчэ ні адзін беларус не абараніў дысертацыю на PhD у Кітаі, і магістарскіх дысертацый абаронена вельмі мала. Адток нашых спецыялістаў у Кітай назіраецца, але яго значэнне відавочна перабольшана.

**— Што ўяўляе сабой кітаязнаўчы асяродак ў Беларусі?**

— Кітаязнаўчы асяродак вельмі складана стварыць — трэба мець хаця б тры пакаленні кітаязнаўцаў. Абавязкова трэба ведаць мову і культуру Кітая, прычым, калі ў мове самы важны аспект — семантычны, то ў культуры — рэлігійны. Калі ствaралася спецыяльнасць «лінгвакраіназнаўства», у аснову быў пакладзены прынцып: паглыбленае веданне мовы, у тым ліку і старажытнакітайскай, і вывучэнне культуры з ухілам у рэлігійны складнік. У нас вучацца студэнты, ёсць магістратура па ўсходазнаўстве, аспірантура моўнага і культуралагічнага профілю, дактарантура. Але складанасці ёсць у тым, што няма ўсходазнаўчага савета па абароне дысертацый. Такі ёсць у Расіі. Але для таго, каб правесці экспертызу толькі на папярэднім узроўні, трэба заплаціць 2 000 долараў. А гэта вельмі складана. Я ўжо не кажу пра тое, хто будзе аплачваць паездкі і далейшае, не папярэдняе, праходжанне. А таксама складанасці з працэдурай настрыфікацыі, атрыманнем дазволу ад нашага ВАКа на абарону і г. д. Для таго, каб стварыць тут савет, трэба мець як мінімум тры дактары навук у гэтай галіне, якія працуюць у адной і той жа ўстанове. Але ваш пакорны слуга адзіны такі прафесар і доктар навук у Беларусі. І з кандыдацкімі ёсць пытанні і праблемы. У прынцыпе, моўных выкладчыкаў, якія абараняюць доктарскія і кандыдацкія, вельмі мала. Чаму гэта адбываецца? У іх вялікія аўдыторныя нагрузкі. Каб больш-менш навучыць замежнай мове, патрабуецца 14—16 гадзін у тыдзень. Калі займацца навуковай дзейнасцю? Акрамя таго, выкладчык, які выдатна валодае мовай, запатрабаваны на рынку. Ён працуе перакладчыкам за даволі вялікую плату. Вось навошта яму навука? І студэнты імкнуцца зарабіць. Такая праблема патрабуе і ўвагі, і падтрымкі на дзяржаўным узроўні. І галоўнае — разуменне гэтай праблемы, таму што мы імкнёмся да супрацоўніцтва. Напрыклад, у нас ёсць задумка стварыць арганізацыю ААНаўскіх перакладчыкаў ў Беларусі. Кітаязнаўчы асяродак знаходзіцца на этапе фарміравання, ён яшчэ не склаўся цалкам. Але ён вельмі патрэбны і важны для краіны, таму што ўсе негатыўныя наступствы наперадзе, і мы з імі сутыкнёмся.

**— Якім чынам Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя ўдзельнічае ў дыпламатычных адносінах Беларусі і Кітая?**

— Напрыклад, як прадстаўніцкая ўстанова. У нас часта бываюць візіты. Пабываў спадар Лю Юньшань — член Палітбюро ЦК КПК, які адказвае за сродкі масавай інфармацыі. Калі прыязджаў, наведаў па патрабаванні кітайскага боку менавіта Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя ў першую чаргу, як найбольш стары і развіты. І, вядома, тое, што ён застаўся задаволены нашай работай і тымі ўмовамі, пры якіх адбываецца навучанне кітайскай мове і культуры, — добры знак і фон для далейшых палітычных зносін і супрацоўніцтва. Ёсць і іншыя факты. У нас ужо тры разы была дырэктар канцыляры КНР па міжнародным распаўсюджванні кітайскай мовы спадарыня Сюй Лінь. У свеце Інстытутаў імя Канфуцыя амаль тысяча і недзе дзве тысячы кабінетаў, таму падобныя візіты падкрэсліваюць высокі ўзровень нашай установы. Што датычыцца сумесных мерапрыемстваў: ёсць канферэнцыя Інстытута імя Канфуцыя, сёлета мы павінны правесці міжнародны форум па Вялікім Шаўковым шляху. Гэтая ініцыятыва была прапанавана старшынёй КНР Сі Цзіньпінам.

**— У наступным годзе спаўняецца дваццаць пяць гадоў дыпламатычным адносінам Беларусі і Кітая. Як будзе задзейнічаны Інстытут?**

— Вядома, мы правядзём канферэнцыю «Пояс і шлях»: перспектывы для Беларусі». Будзе створана пэўная праграма на Свята ліхтароў, у нашых майстар-класах пагаворым пра ўсталяванне дыпламатычных адносін. Пройдуць Дні кітайскага кіно, дзе будзе закранута тэма камунікацыі з Кітаем. Можа быць, мы зробім нешта падобнае таму, што зрабілі да юбілею перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, — мы дэманстравалі фільм Элема Клімава «Ідзі і глядзі» ў кіназале Музея Вялікай Айчыннай вайны з субцітрамі на кітайскай мове. Трэба толькі падабраць фільм. Думаю, што пазней сфарміруюцца і іншыя мерапрыемствы…

**Алена Раманоўская**

# «Дарога ўверх — заўсёды цяжкі шлях»

## Ван Годжэнь 汪国真 (1956—2015)



Ван Годжэнь нарадзіўся 22 чэрвеня 1956 года ў Пекіне. Бацькі Ван Годжэня родам з горада Сямэнь (правінцыя Фуцзянь). Пад іх уплывам хлопчык ужо ва ўзросце васьмі гадоў чытаў творы кітайскай класічнай літаратуры (раманы «Трая царства», «Рачныя затокі», класічную паэзію) і творы заходняй літаратуры.

У 1971 годзе Ван Годжэнь скончыў няпоўную сярэднюю школу. У той час працягвалася «культурная рэвалюцыя», і з сарака вучняў класа толькі некалькі чалавек змаглі вучыцца далей, астатнія пайшлі служыць у войска, сталі працаваць на прамысловых прадпрыемствах ці ў сельскай гаспадарцы. Ван Годжэнь трапіў на прыборабудаўнічы завод у Пекіне, дзе працаваў на працягу сямі гадоў. Па ягоных словах, сем гадоў прайшлі «ў тры змены каля фрэзернага станка», вольны час хлопец бавіў, гуляючы ў карты і пінг-понг ды сёе-тое чытаючы. Але прымірыцца з такім жыццём Ван Годжэню было вельмі цяжка.

У 1977 годзе, пасля заканчэння «культурнай рэвалюцыі», 22-гадовы Ван Годжэнь пачаў рыхтавацца да ўступных іспытаў у вышэйшую навучальную ўстанову. У 1978 годзе ён паступіў на факультэт кітайскай мовы Цзінаньскага ўніверсітэта, які скончыў у 1982 годзе па спецыяльнасці «кітайская літаратура». Падчас вучобы ўдзяляў увагу перш за ўсё тым дысцыплінам, якія яго цікавілі, праяўляў незалежнасць у меркаваннях і паводзінах. Ва ўніверсітэце ён пачаў пісаць вершы, пераважна невялічкія. Упершыню верш Ван Годжэня быў надрукаваны ў 1979 годзе ў «Кітайскай маладзёжнай газеце» («Джунго цсінняньбаа»). Публікацыя верша і аўтарскі ганарар у два юані надзвычайна натхнілі Ван Годжэня, і ён пачаў актыўна дасылаць свае творы ў рэдакцыі. Але на працягу доўгіх гадоў большасць яго твораў рэдактары не прымалі. Дасягнуўшы трыццаці гадоў, таго ўзросту, калі надыходзіць час цвёрда стаяць на нагах (як казаў Канфуцый, «у трыццаць гадоў я зацвердзіўся»), Ван Годжэнь пачуваў сябе поўным няўдачнікам. Час мінаў сярод рэгулярных адмоў друкаваць ягоныя творы, пастаяннага безграшоўя (як ён казаў пазней, «аўтарскі ганарар у 80 юаняў быў для мяне маннай нябеснай»). Але ён ўпарта працягваў пісаць і дасылаць творы ў рэдакцыі.

Верш «Горача любіць жыццё» быў не прыняты дзвюма рэдакцыямі і надрукаваны толькі з трэцяй спробы ў 1988 годзе, пасля чаго запаветная мара Ван Годжэня не толькі ўвасобілася ў рэальнасць, але нават перасягнула чаканні. Першы зборнік паэзіі Ван Годжэня «Хваляванне маладосці», які выйшаў у 1990 годзе накладам у 150 тысяч асобнікаў, адразу знайшоў вялізную колькасць прыхільнікаў і пазней перавыдаваўся пяць разоў. Ван Годжэнь пачаў пісаць артыкулы для часопісаў «Моладзь правінцыі Ляанін», «Кітайская моладзь», «Сяброўка». Пазней выйшлі зборнікі «Норавы маладосці» (1990), «Разважанні маладосці» (1991).

Творы Ван Годжэня паступова набывалі небывалую папулярнасць. Агульная колькасць асобнікаў зборнікаў з серыі «Маладосць» перавысіла адзін мільён. У кнігарні на пекінскай вуліцы Ванфуцзін толькі за адзін месяц былі прададзены 5 тысяч экзэмпляраў. У навукова-даследчы інстытут мастацтва, дзе працаваў паэт, штодня прыносілі па некалькі соцень лістоў, з-за чаго нават давялося павялічыць колькасць супрацоўнікаў рэгістратуры з аднаго да трох чалавек. Ван Годжэня запрашалі выкладаць у больш чым сорак навучальных устаноў КНР. 1990 год атрымаў назву «года Ван Годжэня». Творы паэта атрымлівалі прэмію «Залаты ключ» у 1991, 1992, 1993 гадах. З 2000 года яго творы вывучаюцца ў межах школьнай праграмы.

Пасля набыцця такой шалёнай папулярнасці Ван Годжэня часта прасілі даць аўтограф. Але літаратар заўсёды вельмі кепска пісаў іерогліфы, ва ўніверсітэце яму нават давялося шукаць чалавека, каб той перапісаў яго дыпломную работу. У 1993 годзе Ван Годжэнь пачаў сур'ёзна займацца каліграфіяй. Ён практыкаваўся на працягу года па адной гадзіне ў дзень, і вынікі аказаліся вельмі значнымі. Калі супрацоўнік Сучаснага выдавецтва літаратуры і мастацтва атрымаў рукапісныя лісты Ван Годжэня, то прапанаваў выдаць зборнік каліграфічных надпісаў. Неўзабаве каліграфія Ван Годжэня набыла папулярнасць па ўсёй краіне, асабліва ў правінцыях Хэнань і Шаньсі. Цяпер каля васьмідзесяці тысяч каліграфічных надпісаў паэта захоўваюцца ў Пекіне, Нанкіне, Чанчуне і іншых мясцінах Кітая і па-за яго межамі.

Для Ван Годжэня заўсёды было ўласцівым імкненне да развіцця, да праявы свайго таленту ў самых розных сферах. Ён добра маляваў, самастойна навучыўся пісаць музыку. У 2003 годзе Ван Годжэнь сумесна з паркам Бэй'уданшань правінцыі Шаньсі выпусціў дыск «Шчасце пад назвай Заўсёды», а ў 2006 годзе — DVD «Майстры пяюць пра Бэй'удан». Пазней Ван Годжэнь напісаў музыку для больш чым 300 старажытных вершаў.

З 2005 года і да канца жыцця Ван Годжэнь узначальваў Цэнтр гуманітарных навук пры Навукова-даследчым інстытуце мастацтваў КНР, пісаў артыкулы для часопісаў «Кітайская літаратура», «Біяграфічная літаратура». 26 красавіка 2015 года Ван Годжэнь памёр ад хваробы.

Ван Годжэнь — чалавек, які сваім жыццём даказаў, што шлях уверх не бывае лёгкім, што цуды спраўджваюцца пасля вялікіх выпрабаванняў. Паэту заўсёды былі ўласцівыя любоў да жыцця і людзей, шчырае служэнне дабру, імкненне разумець свет і сябе ў гэтым свеце. Ён казаў: «Я з усмешкай іду насустрач жыццю, і няважна, якім чынам жыццё мне адкажа. Адкажа раўнінай? Я буду радаснай і імклівай рачулкай. Адкажа абрывам? Я буду высокай гарой у велічнай працы думкі!»

Шмат якія выказванні Ван Годжэня зрабіліся афарызмамі.

*«Няма гары занадта высокай для чалавека, няма дарогі занадта доўгай для таго, хто ідзе».*

*«Не трэба лёгка любіць, тым больш не трэба лёгка ненавідзець, дазволь сабе жыць больш вольна, дазволь вясне пакінуць на сэрцы больш натуральных адбіткаў, ты радасны, бо ты чысты, ты прывабны, бо маеш цярплівае сэрца».*

*«Аднолькава важна падтрымліваць уласную індывідуальнасць і паважаць індывідуальнасць іншых людзей. Нязадольнасць падтрымліваць уласную індывідуальнасць — гэта слабасць, нязадольнасць паважаць індывідуальнасць іншых — гэта тыранія».*

*«У чалавечым жыцці няма правільнага і няправільнага, а поспех заўсёды будзе належаць тым, хто змагаецца».*

*«Бывае так, што характар чалавека можа не супадаць з «плынню», але супадае з жыццём».*

*«Калі мы пакутуем ад выпрабаванняў лёсу, мы можам уздыхаць аб яго несправядлівасці. Але калі лёс прыносіць нам удвая радасці, мы спакойна яе прымаем і ўжо больш не думаем аб справядлівасці альбо несправядлівасці лёсу».*



«Няма гары, занадта высокай для чалавека»



«Калі ўжо абраны далёкі шлях, уперад пайду і праз дождж, і праз буру».

### Вясна не знае перашкод

Журбе здавён пашчасціла расці
І сэрцы біць ушчэнт, і душы — на кавалкі…
Не ведаю, куды прымушаны пайсці,
Чаму аддацца з галавою, цалкам?

Цікавіўся ў вятроў, дажджоў і лунных промняў,
Звяртаўся да Вялікае Зямлі;
Блукалі ў галаве ўспамінаў сонмы —
Да праўды так мяне й не прывялі.

…Дні і гады сыходзяць, як па́ра з траваў росных,
Але ж ніхто не хоча стагнаць і сумаваць!
…Дні і гады сыходзяць, як па́ра з траваў росных,
Але ж ніхто не хоча губляцца і губляць!

З аблокамі ўзнімуся да сонца пад нябёсы —
Няхай часамі сіл мне будзе не ставаць.
Услаўлю кожны момант — без славалюбства,
проста —
Няхай ніхто не будзе душы маёй люляць.

Жыццёвасць і імпэт пракладваюць дарогу
Наперад,
да нязнаных рубяжоў.
Нікому, як вясне, не верыў і не веру,
Бо маладосць заўсёды верх бярэ!

### Стаць большым за таго, кім быць прывык

Магчыма падмануць каго заўгодна —
Сябе ніхто не здольны падмануць.
Прыйшоўшы ў Травень — край калісьці родны,
Дзе кожны ліст шапоча пра вясну,
Ты ўжо не страціш маладосць і плён,
Ты не забудзеш шум купчастых крон…

Дарога ўверх — заўсёды цяжкі шлях,
Ды найцаннейшае у звілістым жыцці —
Хай зморанасць заблішча на вачах —
Рамантыкі душэўнай не згубіць.
Камусьці мілым падаецца скон,
Камусьці свет — пяшчотны, дзіўны сон.

…Перасягаючы высокі горны пік,
Ты станеш большым за таго, кім быць прывык.

*Пераклад Мікіты Крыцука*



«Я хацеў толькі ветрам вясновым дыхнуць, а ты мне вясну падарыла».

**Няхай зоркі асвечваюць нас**

Дазволь мне нешта сказаць табе
Але ж я не ведаю, як
Я закахаўся ў іншую
А ты пакахала мяне

Быць палкім з табой
Ці халодным
Я не мог
Дзеля цябе… Я мог толькі быць
Маўклівай зоркай
Ціхенька ззяць
У бязмежных нябёсах

Ззяць. Не затым каб цябе спакушаць
А затым каб зіхоткім святлом
Асвечваць цябе
Ды асвечваць сябе
Асвечваць срабрысты ручай
Асвечваць празрыстую рэчку

**Толькі б надышло заўтра**

Толькі б настала вясна…
І я б не сумаваў,
Калі б нават цёмная ноч паглынула ўсё навакол:
Сонца яшчэ можа ўзысці.

Толькі б наперадзе чакала жыццё…
І я б не сумаваў,
Калі б нават зямля пераўтварылася ў бязмежную пустку:
Жаданы аазіс можна знайсці.

Толькі б надышло заўтра…
І я б не сумаваў:
Урэшце непрыкметна растане зімовы снег,
Грукочучы, прыйдуць вясновыя навальніцы.

*Пераклад Анастасіі Лабанавай*

### Разняволенасць ёсць дабрачыннасць

Я праз вочы
Цябе прачытаў
Ты праз словы
Мяне зразумела
Прыхаванасць — якасць прыроды
Разняволенасць ёсць дабрачыннасць

Не кажы мне нічога
Толькі ў вачах
Сапраўды ёсць праява душы
Калі слоў няма
Тады ў цішыні
Атрымаць можам толькі маўчанне…

### Удзячнасць

Як мне табе аддзячыць
У той час, калі йшоў да цябе
Я хацеў толькі ветрам вясновым дыхнуць
А ты мне вясну падарыла

Як мне табе аддзячыць
У той час, калі йшоў да цябе
Я хацеў жменьку пены ў далоні ўзяць
А ты падарыла мне мора

Як мне табе аддзячыць
У той час, калі йшоў да цябе
Я хацеў толькі лісцік кляновы сарваць
А ты мне ўвесь лес падарыла

Як мне табе аддзячыць
У той час, калі йшоў да цябе
Хацеў я сняжынку пяшчотна крануць
А знайшоў цэлы срэбраны свет

### Калі талент не мае прызнання

Калі талент не мае прызнання
Чым праклінаць лепей трываць
У трыванні сілы збіраць
Засяваючы глебу, маўчаць

Праклёны хіба чым памогуць
Спрадвечнае ззянне могуць азмрочыць
У цемры, што прыйдзе на месца святла
Страчваеш больш душу вялікага дрэва

Сюды прыплываюць аблокі
І адсюль сплываюць аблокі
Калі сёння няма
Таго, хто ўсвядоміў бы зоркі
То заўтра
Чаму б не зрабіцца месяца яркім дыскам

### Я не чакаю адплаты

Я табе аддаю
І я не чакаю адплаты
Калі аддаваць
Для таго каб аднойчы спагнаць
Тады — нікчэмным я стану, а не багатым

Калі б ты была возерам
Мне шчасце быць дамбай,
пяшчотным тваім атачэннем
Калі б ты была горнай вяршыняй
Мне шчасце травой быць,
зялёным упрыгажэннем

Чалавек — не заўсёды ён здольны
вялікім сябе зрабіць
Але можа заўжды
Высакароднасць набыць

### Думкі — матыў для карціны

Толькі адна маўклівая постаць
А хопіць каб свет паланіць
Не толькі таму што гэта чыста
Не толькі таму што гэта спакойна
А яшчэ таму, што гэта празрыста
А яшчэ таму, што гэта плённа
А яшчэ таму, што праз сучаснасць
Яна нам кажа
— У маўчанні прыўкраснасць

### Горача любіць жыццё

Не збіраюся думаць аб тым,
ці змагу я дабіцца прызнання
Калі ўжо абраны далёкі шлях
Уперад пайду і праз дождж, і праз буру

Не збіраюся думаць аб тым,
ці змагу дамагчыся кахання
Калі ўжо пяшчотаю ружу атульваць
Душу раскрываць да канца ёй буду

Не збіраюся думаць аб тым,
ці ўдарыць пранізлівы вецер у спіну
Калі ўжо мэтаю стаў далягляд
То свету адзін толькі цень свой пакіну

Не збіраюся думаць аб тым,
наперадзе роўнядзь ці багна
Калі горача любіш жыццё
Тады ўсё — адпаведна чаканням

*Пераклад Алены Раманоўскай*

### За далягляд ідуць празрыстыя аблокі

Кахаючы, не заключай душы ў турму —
Не трэба дзеля ўласнай асалоды
Зняпраўджваць, прыгнятаць чужой свабоды.
Не будзе у жыццёвым карагодзе
Ўвесь час прыемнае і добрае прыходзіць.
Зарадасная ж музыка спародзіць
Пануры звон «сумуй, сумуй, сумуй…»
Туга і жаль шчымлівы боль прыводзяць —
Зашчасны дзень не лепей за нягоды.
Цурчаць асеннія рачныя воды.
Празрыстай параю ахутана прырода.
Празрысты дождж спяе, не знаючы чаму.
І, маючы няясную нагоду,
Нячутнымі размеранымі крокамі
За далягляд ідуць празрыстыя аблокі.

### Калі табе, мой сябар, шчасця не стае

Калі табе, мой сябар, шчасця не стае,
Не трэба грозна зводзіць свае бровы:
Наш век — кароткі гук бясконцае размовы —
Узніклы ў ёй, у ёй жа растае.
Навошта аддаваць яго журбе?
Дык адчыні вароты і аконцы,
Каб кожны кут твайго жылля купаўся ў сонцы,
Каб па Жыцці ты басанож пабег!
Хай вецер будзе дзьмуць у дужы твар —
У шырыні палёў забудзецца маркота…
Мінорная бязрадасная нота
Ніжэй за музыку мажорных светлых чар!

*Пераклад Мікіты Крыцука*

*Пры напісанні артыкула былі выкарыстаны пераклады студэнтаў кафедры мовазнаўства і краіназнаўства Усходу БДУ і матэрыялы з сайта www.blog.sina.com.cn (каліграфічныя надпісы).*

**Кацярына Гардзей**

# Пра спецыфіку кітайскай мовы і мыслення, а таксама пра некаторыя складанасці пры перакладзе з кітайскай мовы

**У XXVII стагоддзі да нашай эры ў гарах Куньлунь, што на захадзе ад басейна ракі Хуанхэ, Хуан-дзі, вядомы таксама як Жоўты імператар, стварыў першую кітайскую дзяржаву. Ад Хуан-дзі трон перайшоў да Шао-хао, затым — да Джун-сюя, потым да Дзі-ку, і нарэшце да Яо, які быў найвышэйшым увасабленнем дабрачыннасці і мудрасці кіраўніка. Ён аб'яднаў і прывёў да гармоніі краіну, усталяваў згоду паміж людзьмі, прызначыў умелых памочнікаў сачыць за парадкам і клапаціцца аб правільным летазлічэнні. Пераемнікам сабе Яо абраў дабрадзейнага Шуня. Ад Шуня ўлада перайшла да прамога нашчадка Хуан-дзі, Юя з роду Ся...**

Як велічна і паэтычна пачынаецца гісторыя Паднябеснай у кітайскіх міфах. Чараўніцтва, усведамленне сваёй унікальнасці і гонар прасякаюць культуру гэтага народа, і ў той жа час кожны міф, легенда, філасофскі пастулат падкрэсліваюць важнасць чалавечых якасцей. Дао, інь і ян, гармонія, дабрачыннасць... Тое, з чаго ўсё пачалося, тое, што вечнае, і тое, да чаго павінен імкнуцца чалавек. У інфармацыйны век, нягледзячы на тэхнічны, тэхналагічны прагрэс і глабалізацыю, вучэнні даасізму і канфуцыянства ўсё яшчэ фарміруюць светапогляд кітайскай нацыі, а вывучэнне гэтага светапогляду з'яўляецца вельмі займальным працэсам.

Хоць кітаязнаўства з'явілася даўно — у Еўропе ў XVII стагоддзі, а ў Расіі ў XVIII стагоддзі, тым не менш існуе яшчэ вельмі шмат загадак, і даследчыкі задаюцца вялікай колькасцю пытанняў, звязаных з гісторыяй, рэлігіяй, філасофіяй гэтай краіны. Для перакладчыкаў праца з кітайскімі пісьмовымі тэкстамі ўяўляе асаблівую складанасць. У большасці выпадкаў для перакладу кітайскага твора неабходна валодаць не толькі мовай, але і ведамі ў розных галінах гісторыі і культуры Кітая. Для кітайскіх тэкстаў, асабліва мастацкіх, характэрна арыентаванасць на вельмі адукаваных чытачоў. Творы напоўненыя гістарычнымі падзеямі, у іх згадваюцца вядомыя кітайскаму чытачу асобы, якія не заўсёды знаёмыя еўрапейскаму, расказваецца пра рэаліі, не характэрныя для нашай культуры, прыводзяцца цытаты са старажытных твораў, не заўсёды змешчаныя ў двукоссі. Пры ўсім гэтым мы не знойдзем у кітайскіх тэкстах зносак або каментарыяў пісьменніка. Таму перакладчык, працуючы з творамі на кітайскай мове, ставіць перад сабой большую колькасць задач, чым калі ён працуе з тэкстамі на еўрапейскіх мовах. Тут трэба не толькі перакласці, неабходна яшчэ разабрацца ў тым, што незвычайнае для нашага светапогляду, і знайсці правільныя словы, якія, з аднаго боку, маглі б стварыць ва ўяўленні чытача вобраз, які адпавядае нашай «моўнай карціне свету», а, з другога, дапамаглі б зразумець «спецыфіку кітайскай думкі». Як пісаў М. Ледэрэр: «Пры перакладзе недастаткова зразумець самому, трэба, каб зразумелі іншыя. Па вызначэнні, пераклад распадаецца на дзве часткі: успрыманне сэнсу і яго перадача»[1].

Сёння нам добра вядомыя кітайскія паняцці «інь і ян», якія перакладаюцца як «жаночы і мужчынскі пачатак». Вывучаючы рэлігіі Кітая, мы прывыклі думаць, што інь і ян з'яўляюцца асновамі існавання. Аднак гэта не зусім так. У адпаведнасці са старажытнай кітайскай думкай, асноўным законам існавання нашага свету і Сусвету ў цэлым з'яўляецца *ўзаемадзеянне* жаночай і мужчынскай энергіі. А традыцыйны малюнак «двух пачаткаў» толькі пацвярджае гэта. Памятаеце белую мужчынскую кропельку ў чорнай інь і чорную жаночую ў белым ян? Ды і сама форма выявы інь і ян дзіўная. Круг не проста падзелены напалову. Малюнак дае дакладнае ўяўленне пра тое, што жаночая энергія, набіраючы моц, пачынае трансфармавацца ў мужчынскую, мужчынская з часам ператвараецца ў жаночую. У XIX

---

[1] Lederer M. Interpreter pour traduire. — Paris, 1997. — P. 31.

стагоддзі еўрапейскія вучоныя змаглі навукова растлумачыць тое, што было вядома кітайскім філосафам даўно. У гэты час Маер і Джоўль сфармулявалі ўніверсальны закон захавання і ператварэння энергіі, а Клаўзіус і Кельвін увялі паняцце энтрапіі. Так узнікла «тэрмадынаміка». Кажучы пра ўзаемадзеянне інь і ян, хочацца звярнуць увагу і на асноўнае адрозненне кітайскага ладу мыслення ад нашага. Для еўрапейца галоўным з'яўляюцца рэчы, а для кітайца — адносіны паміж рэчамі. Прасцей кажучы, мы мыслім фактамі, а кітайцы — працэсамі. Старажытны кітайскі філасофскі тэкст Іцзін (каля 700 г. да. н. э.), больш вядомы еўрапейцам як «Кніга Перамен», раскрывае працэс 易 (yì) — змяняць, змены, перамены. Усё ў гэтым свеце складаецца з перамен, а перамены ажыццяўляюцца паводле пэўных законаў.

Пра тое, што кітайцы ўяўляюць свет інакш, чым мы, кажа і іерагліфічная пісьменнасць, і сама кітайская мова. Як кітаісту мне б вельмі хацелася згадаць той факт, што кітайская культура з усіх старажытных культур адзіная захавала сваю сістэму пісьменнасці. Гэтая сістэма абапіраецца на візуалізацыю, вынікам якой з'яўляюцца іерогліфы. Сярод навукоўцаў існуе меркаванне, што ўзаемасувязь мовы, пісьменнасці і мыслення абавязкова выяўляецца ў культуры. Давайце спынімся крыху і на гэтым аспекце.

З урокаў біялогіі нам добра вядома, што ў працэсе маўлення або ўспрымання мовы ўдзельнічаюць абодва паўшар'і галаўнога мозга, аднак адказваюць яны за розныя функцыі. Левае паўшар'е аналітычна апрацоўвае вербальную інфармацыю, успрымае візуальныя вобразы па частках. Правае дзейнічае ў большай ступені пры праслухоўванні музыкі, пры візуалізацыі і вырашэнні задач, якія ўключаюць у сябе параўнанне і паступовае змяненне. Левае паўшар'е чалавека адказвае за вымаўленне і лагічнае мысленне, а правае — за інтанацыйнае афармленне маўлення, міміку, жэстыкуляцыю, расстаноўку націскаў і акцэнтаў. Кітайская мова валодае абмежаваным фанетычным складам, а разнастайнасць гукаў дасягаецца за кошт танальнасці. Таму кітайская мова па сваёй прыродзе музычная. Даследаванні ўспрымання кітайскай мовы паказалі, што чалавечы мозг спачатку апрацоўвае ў правым паўшар'і музычную частку, інтанацыю слоў, і толькі пасля гэтага ў левым паўшар'і адбываецца асэнсаванне інфармацыі. Такія вынікі сведчаць аб тым, што працэс успрымання кітайскай мовы на слых адбываецца складаней, чым, напрыклад, англійскай ці рускай. Чалавек, які прывык з дзяцінства адрозніваць інтанацыйны сэнс гукаў, мае больш развітае правае паўшар'е. Гэта развіццё падмацоўваецца і іерагліфічнай пісьменнасцю, якая карэнным чынам адрозніваецца ад алфавітнай. Такое адрозненне крыецца ў самім прынцыпе пісьмовага выказвання думкі. Кожны іерогліф кітайскай мовы — гэта абазначэнне сэнсу якой-небудзь выявы з дапамогай адной карцінкі: 日 — сон-



*«Хоць кітаязнаўства з'явілася даўно — у Еўропе ў XVII стагоддзі, а ў Расіі ў XVIII стагоддзі, тым не менш існуе яшчэ вельмі шмат загадак, і даследчыкі задаюцца вялікай колькасцю пытанняў, звязаных з гісторыяй, рэлігіяй, філасофіяй гэтай краіны». Белая кітайская піраміда.*

ца, 礼 — рытуал. Калі мы чытаем іерогліфы, разуменне іх сэнсу адбываецца імгненна і цэласна. А слова любой алфавітнай мовы раскрывае свой сэнс толькі пасля прачытання ўсіх літар, з якіх яно складаецца. Можна смела казаць пра тое, што пры чытанні і напісанні кітайскага тэксту актыўна дзейнічае прасторава-вобразнае мысленне, за якое адказвае правае паўшар'е галаўнога мозга, а пры чытанні, напрыклад, рускага тэксту працуе логікавербальнае мысленне левага паўшар'я, дзе вербальная інфармацыя апрацоўваецца «пакрокава», па меры яе паступлення. Менавіта таму кітайцы чытаюць свае тэксты вельмі хутка, не вымаўляючы кожны іерогліф. Вельмі важна разумець адрозненне нашага мыслення ад кітайскага і пры перакладзе, і пры зносінах з кітайцамі. Тое, як кітайцы «мысляць» гэты свет, выліваецца ў культуру, у прыватнасці, у этыкет. Напрыклад, пры знаёмстве кітаец зробіць *невялікі паклон і дзвюма рукамі* перадасць сваю візітную картку. Такія дзеянні азначаюць павагу да суразмоўцы, і калі іншаземец зробіць тое ж самае, то ў вачах кітайскага сябра ён заслужыць яшчэ большую павагу.

З кітайскай мовай звязана яшчэ вельмі шмат цікавых фактаў, не ўласцівых еўрапейскім мовам. Як ужо згадвалася, кітайская мова танальная, таму недакладнае ўспрыманне тону прыводзіць да шматлікіх цяжкасцей і непаразуменняў пры вусным перакладзе. Напрыклад, 国 guó — дзяржава і 果 guǒ — плод, фрукт. З кантэксту павінна быць зразумела, што маецца на ўвазе, аднак з асабістых назіранняў магу сказаць, што для тых, хто толькі пачаў вывучаць кітайскую мову, кантэкст яшчэ не з'яўляецца вялікім памочнікам, і амонімы збіваюць з толку. Вось яшчэ прыклад, у кітайскай мове ёсць такі склад *li*. Пры вымаўленні яго другім тонам склад азначае сліву, а трэцім — грушу. У такіх выразах як «я хачу купіць *li*» або «колькі каштуе кілаграм *li*» важна пачуць тон або правільна яго вымавіць, інакш суразмоўца вас не зразумее.

Наяўнасць вялікай колькасці слоў, падобных фанетычна, нарадзіла цікавыя традыцыі. Напрыклад, на свята Чуньцзэ (Свята Вясны або кітайскі Новы год) асаблівай папулярнасцю карыстаецца малюнак іерогліфа фу 福 «шчасце». Яго звычайна вешаюць на дзверы дагары нагамі: шчасце прыйдзе або зваліцца на гаспадароў, бо словы «дагары нагамі» і «прыйсці» гучаць аднолькава, усё разам азначае «прыйдзі, удача». Для прыцягнення багацця ў надыходзячым годзе абавязковай стравай з'яўляецца рыба, таму што словы «рыба» і «багацце» гучаць аднолькава. Такіх шчаслівых сімвалаў, якія ўтварыліся дзякуючы амонімам, існуе вельмі шмат: кажан — шчасце, алень — службовыя ўзнагароды, ваза — ціхамірнасць, сядло — спакой і г. д.

Несумненна, што мова, мысленне і культура кітайскага народа ўтвараюць унікальную карціну свету, вывучэнне якой пэўным чынам змяняе светапогляд і стварае ў нашым уяўленні новы свет, поўны чароўнасці і нечаканасцей.



*«Як велічна і паэтычна пачынаецца гісторыя Паднябеснай у кітайскіх міфах! Чараўніцтва, усведамленне сваёй унікальнасці і гонар прасякаюць культуру гэтага народа». Вялікая кітайская сцяна.*

# Чатыры высакародныя расліны ў кітайскай класічнай паэзіі

У кітайскай паэзіі прыгажосць прыроды непадзельна звязаная з прыгажосцю ўнутранага свету чалавека, таму апісанне прыроды ў кітайскім вершы часцей за ўсё вызначаецца філасофскай і этычнай насычанасцю. Згодна з якасцямі пэўнай расліны передаюцца рысы характару і асаблівасці ўнутранага свету чалавека. Часам канкрэтны вобраз служыць увасабленнем самога паэта, ягонага душэўнага складу і жыццёвага шляху.

Улюбёнымі вобразамі кітайскай класічнай паэзіі і жывапісу з'яўляюцца «чатыры высакародныя» (сы цзюньдзы): сліва (мэйхуа), архідэя (лань), бамбук (джу), хрызантэма (цзюй). Згодна з канфуцыянскімі ўяўленнямі для «цзюньдзы» — «высакароднага мужа» — уласцівая любоў да іншых, справядлівасць, непахіснасць, пазбаўленне ад мітусні. Цзюньдзы жыве ў гармоніі з навакольным светам, але разам з тым не страчвае сваёй індывідуальнасці.

Дзікая сліва мэйхуа з'яўляецца нацыянальнай кветкай кітайцаў. Рана ўвесну, калі снег яшчэ не сышоў і маразы скоўваюць зямлю, пяшчотныя кветкі мэйхуа пакрываюць чорныя каржакаватыя бязлістыя галіны, утвараючы на іх чароўны ружовы ўзор. Пра гэта казалі так: «Мэйхуа захапляе вытанчанасцю рытму, высокім стылем». З той прычыны, што сліва мэйхуа зацвітае падчас маразоў, яна сімвалізуе нязломную волю, трываласць, незалежнасць, але разам з тым — пяшчоту і прыгажосць. Мэйхуа — гэта і сімвал кітайскага Новага года, вясны, звязаных з ёю надзей і прабуджэння жыццёвых сіл. Мэйхуа суадносілі з паняццямі класічнага канона «Іцзін»: кветкі сімвалізавалі пачатак ян, галіны — пачатак інь, кветаножка — Вялікую Мяжу (Тай Цзі), пяць пялёсткаў — пяць элементаў (у сін), сем тычынак — пяць планет, Сонца і Месяц; восем разгалінаванняў на канцы галін — восем трыграм.

Архідэя сімвалізуе сціпласць, тонкасць, няўлоўнасць, вытанчаную высакароднасць. Яна славіцца сваім моцным водарам і прадаўгаватым лісцем. Раней архідэя расла толькі ў аддаленых, цяжкадаступных мясцінах — у глыбокім гушчары ці пустынных гарах, таму служыла сімвалам схаванасці, далёкасці ад мітусні. Джэн Сысяо ў сваім трактаце «Маляваць архідэю» пісаў так: «Гэта — чысты цзюньдзы, у ёй няма і грама малога чалавека».

Бамбук, які застаецца зялёным і ўлетку, і ўзімку, — сімвал высокага маральнага духу, трываласці і гібкасці, чысціні і справядлівасці. Бамбук цэняць за прамую і адначасова гнуткую постаць, пустую сярэдзіну, якая служыць увасабленнем найважнейшай філасофскай катэгорыі «сюй» — пустаты, якую, згодна з трактатам «Даодэцзін», наймудрэйшыя імкнуцца выхаваць у людзях. Каленцы бамбуку (цзе) сімвалізуюць гонар (цзе цсі). Бамбук аддана служыць людзям: парасткі бамбуку ўжываюцца ў ежу, сцябліны — для будоўлі і вырабу шматлікіх рэчаў, у тым ліку — палачак для ежы, прылад для жывапісу і каліграфіі.

Хрызантэма — сімвал стойкасці, гонару і чысціні. Ярка-жоўтыя хрызантэмы параўноўваюць з золатам, а белыя хрызантэмы — са срэбрам. Хрызантэма цвіце падчас восеньскіх маразоў, якія не здольныя вытрываць іншыя кветкі, і засыхае на прамой сцябліне, не згінаючыся пад парывамі ветру. Прыхільнікі хрызантэмы называюць яе «ўзвышаным чалавекам». Вобраз хрызантэмы, што расце пад усходнім плотам, быў створаны славутым паэтам Тао Юаньмінам, які сышоў з дзяржаўнай службы, абраўшы няпростае, але вольнае жыццё на прыродзе. Таму хрызантэма зрабілася сімвалам незалежнасці, узвышанай самоты, пазбаўлення ад мітусні. З хрызантэмамі таксама звязана Свята падвоенай дзявяткі ці Свята хрызантэм (адзначаецца ў дзявяты дзень дзявятага месяца па кітайскім месяцовым календары). У гэты дзень людзі падымаюцца на ўзвышша, любуюцца хрызантэмамі і п'юць віно з хрызантэм, якія, як лічыцца, валодаюць ачышчальнай сілай.

*Тэкст артыкула і пераклады з кітайскай мовы Алены Раманоўскай.*

*Малюнкі Зміцера Алава.*

«Ранняя сліва», Лю Дзун'юань 柳宗元 (773—819)



«Архідэя», Тао Юаньмін 陶渊明 (365—427)



«Хацінка сярод бамбуку», Ван Вэй 王维 (699—759)



«Пяю пра хрызантэму», Бо Цзюй'і 白居易 (772—846)





**Яна Мурашка**

# Феномен нюй-шу і яго адрозненні ад кітайскага пісьма

Тайнапіс нюй-шу зарадзіўся ў павеце Цзян'юн, правінцыі Хунань. Узнікла пісьменнасць нюй-шу як адказ на нань-шу — «мужчынскае пісьмо», гэта значыць звычайнае кітайскае пісьмо.

Пры заканчэнні кіравання дынастыі Мін (1368—1644 гг.), калі кітайскія імператары ператварылі Хунань у сваю ваенную базу, для жанчын пачаліся цяжкія часы. Але менавіта з прыходам чужынскай ханьскай культуры нюй-шу расквітнела.

Крыніцы: так званыя пасланні трэцяга дня (сань чао шу). Гэта скручаныя тканыя кніжыцы, на якіх сяброўкі і маці нявесты вышывалі песні з дапамогай нюй-шу: маладая атрымлівала іх на трэці дзень пасля вяселля. Песні выказвалі надзею, што дзяўчына знойдзе шчасце ў незнаёмай вёсцы і будзе сумаваць па пакінутых родных.

Таксама захаваліся вышытыя паясы, стужкі і іншыя прадметы быту, на якіх жанчыны запісвалі вершы і песні. Словы выглядалі, як арнамент, іх лёгка было вышыць. Менавіта так іх і ўспрымалі мужчыны, не здагадваючыся пра іх сапраўднае значэнне на працягу стагоддзяў.

Каб абмяняцца лістамі, жанчынам прыходзілася звяртацца да самых розных хітрыкаў, бо магчымасцей пакідаць дом было зусім няшмат. Адной з рэдкіх «уважлівых» прычын лічылася наведанне храмаў, а таму часцей за ўсё менавіта там жанчыны абменьваліся пасланнямі.

На нюй-шу звярнулі ўвагу толькі ў канцы XX стагоддзя. Пачаліся даследаванні. А аб існаванні пісьменнасці нюй-шу стала вядома ў 1950-х гадах, і заслуга першаадкрывальнікаў у большасці належыць паліцыі правінцыі Хунань, дзе на вакзале знайшлі параненую жанчыну. У яе багажы аказаліся запісы на незразумелай мове, і паколькі ніхто не мог зразумець іх сэнсу, жанчыну западозрылі ў тым, што яна шпіёнка, закінутая ў Кітай на парашуце, — цалкам натуральны ход думак для таго часу.

У час «культурнай рэвалюцыі» напісаныя нюй-шу кнігі спальваліся паасобку і цэлымі бібліятэкамі. Акрамя таго на працягу стагоддзяў жанчын хавалі з іх запісамі — лічылася, што гэта дапаможа ім мець зносіны з сёстрамі ў замагільным жыцці. Таму шмат што беззваротна страчана.

Мова стала пакрыху адміраць яшчэ ў 1920-х гадах, калі Кітайскі рух за вызваленне жанчын пачаў адкрываць школы для дзяўчынак. Аднак з-за непатрэбнасці гэта пісьменнасць памірае.

У нашы дні веды аб нюй-шу даволі бедныя. Сёння ў Кітаі засталося ўсяго некалькі жанчын, якія валодаюць нюй-шу, — ім усім ужо за 80 гадоў. Аднак робяцца спробы ўзнаўлення пісьменнасці. Самымі буйнымі даследчыкамі ў гэтай вобласці лічацца Чжоў Шоўі і Эндо Орыэ.

## Характарыстыкі нюй-шу

На нюй-шу толькі перапісваліся. (Размоўнага варыянта, зразумела, не існавала, бо нюй-шу ў вуснай форме даволі падобны на вымаўленне традыцыйнага кітайскага путунхуа, а таму быў зразумелы мужчынам.)

Аналагаў нюй-шу няма. Сёння гэта пісьменнасць лічыцца адзінай на ўсім зямным шары жаночай пісьменнасцю.

Фанетычнае складовае пісьмо. Кожнаму іерогліфу адпавядае свой склад мясцовага дыялекту сяннань тухуа. Да гэтага часу даследчыкі спрачаюцца аб колькасці знакаў: некаторыя сцвярджаюць, што іх 600, іншыя налічваюць аж 2000, аднак, адкінуўшы markznapisanne, фактычна мы маем справу якраз з гэтымі шасцюстамі знакамі. (140 з іх відавочна кітайскія, што складае ¼.) 600 — гэта толькі самыя ўжывальныя іерогліфы.

## Форма знакаў

Ромбападобная форма. Колькасць асноўных рыс: 9. Нахіленая направа, нахіленая налева, дуга, звернутая направа, дуга, звернутая налева, кропка, дуга, звернутая ўніз, дуга, звернутая ўверх, кароткая вертыкальная, кароткая гарызантальная. Першыя чатыры сустракаюцца найбольш часта.

Іерогліф з самай меншай колькасцю рыс утрымлівае адну рысу, з самай большай — 20. Найбольш распаўсюджаныя іерогліфы з колькасцю рыс 8.

Парадак напісання: зверху ўніз; злева направа; спачатку сярэдзіна, потым па баках; спачатку доўгая рыса, потым кароткая; спачатку асноўны элемент, потым дадатковы; спачатку знешні контур, потым унутраныя рысы. А само пісьмо — традыцыйна зверху ўніз і справа налева.

Існуюць тры навуковыя версіі паходжання нюй-шу:

Арыгінальнае пісьмо. Дзве падверсіі: 1) паходзіць ад старажытных насечаных на камянях ці дрэве знакаў. Аднак на карысць гэтай тэорыі выкарыстоўваюцца толькі самыя простыя па форме знакі, без уліку іх чытання і значэння. 2) паходзіць ад знакаў на парчы, якую ткалі жанчыны. Аднак аргументацыя такая ж, як і ў папярэдняй версіі.

Арыгінальнае пісьмо з запазычаннямі з кітайскага. Некаторыя кажуць аб 80% запазычанняў з кітайскага і 20% арыгінальных знакаў. Некаторыя вучоныя, насупраць, мяркуюць, што ў нюй-шу большую частку складаюць арыгінальныя знакі, а меншую — запазычанні з кітайскага пісьма.

Роднаснае кітайскаму пісьму. Таксама дзеліцца на некалькі падверсій. Першая: нюйшу мае адзінае паходжанне з цзягувэнь і вельмі блізкае да яго старажытнай формы. Другая: пераймае сяочжуань ці ўзыходзіць да пісьмёнаў эпохі Ваюючых царстваў. Трэцяя: нацменшасцям вучыць іерогліфы цяжка, таму часта пісалі памылкова, з прычыны чаго нарадзілася асобнае пісьмо. Чацвёртая: перайначванне кайшу, некаторыя з папулярных кітайскіх іерогліфаў з'яўляюцца першапачаткова знакамі нюй-шу.

## Спосабы стварэння знакаў

1. Змена напрамку
2. Змена формы рыс
3. Дадатак рыс
4. Выдаленне рыс
5. Злучэнне рыс
6. Раздзяленне рыс
7. Падаўжэнне рыс
8. Скарачэнне рыс
9. Змяненне месцазнаходжання рыс
10. І інш.

## Выкарыстанне знакаў для запісу маўлення

Нюй-шу з'яўляецца складовым пісьмом. Два тыпы: перайманне па гучанні і перайманне па значэнні.

Першы тып:

Створаны знак нюй-шу мае такое ж гучанне і значэнне, як і кітайскі. Таксама распаўсюджаная з'ява, калі ў кітайскага іерогліфа з некалькімі чытаннямі выбіраецца адно, а для другога ствараецца іншы знак нюй-шу. І наадварот: не ўсе значэнні мнагазначнага кітайскага іерогліфа адлюстроўваюцца ў знаку нюй-шу.

Выкарыстанне падобных па гучанні іерогліфаў. Спачатку пераймалася і перайначвалася форма кітайскага іерогліфа, а потым створаны іерогліф выкарыстоўваўся для розных слоў, падобных па гучанні з гэтым іерогліфам.

## Выкарыстанне блізкіх па гучанні слоў

Другі тып: прадугледжвае выкарыстанне знака нюй-шу не толькі для запісу блізкага па гучанні слова, але і звязанага з гэтым словам другога слова, блізкага па значэнні.

У большай частцы знакаў не выяўляюцца сувязі паміж значэннем іерогліфа і яго ўнутранай структурай.

Такім чынам, па пытанні аб тым, з'яўляецца нюй-шу самастойнай пісьменнасцю ці проста пазней перайначанай кітайскай, вучоныя да гэтай пары не прыйшлі да адзінага меркавання.

Але мы схіляемся да думкі аб немагчымасці разглядання нюй-шу як самастойнай мовы.

Як доказ маюцца наступныя аргументы, якія дазваляюць так лічыць: 1) нюй-шу з'яўляецца толькі запісам складоў знешняга дыялекту; 2) дастаткова вялікая колькасць знакаў нюй-шу маюць непасрэдную сувязь з кітайскімі іерогліфамі.

**Джу Вэньін** 朱文颖

# Гавана

## 1

Тры дні таму я ў Шанхаі зноўку сустрэла Ван Ляньшэна.

Я не бачыла яго ўжо чатыры гады. Ван Ляньшэн увесь гэты час прабыў за мяжой, прычым у самых розных месцах: ад адзінокай Азіі да самотнага Ціхага акіяна. Праўда, ён увесь час слаў мне лісты, якія былі напоўненыя рознымі геаграфічнымі назвамі, накшталт: «З верасня я знаходжуся ў Еўропе, спачатку правёў тыдзень у Францыі, потым выкладаў у фінскім універсітэце. На Каляды пабываў у Англіі, потым наведаў Нью-Ёрк і Фларыду. Тут я прабуду па меншай меры да канца мая. Куды накіруюся потым, пакуль не вызначыўся. Ты маеш рацыю ў тым, што я, быццам тая птушка, якая знікла без вестак. У наступным годзе ў мяне, магчыма, будзе шанц паўдзельнічаць у праекце Шанхайскага ўніверсітэта: здзейсніць кругасветнае падарожжа, займаючыся выкладаннем проста на караблі. Сапраўднае турнэ. Мы наведаем Венесуэлу, Бразілію, Паўднёвую Афрыку, Індыю, В'етнам, Ганконг, Філіпіны, Японію».

Ох ужо гэты Ван Ляньшэн! Чатыры гады прайшло ўжо з таго часу, як я пазнаёмілася з ім на карпаратыве. Тады Ван Ляньшэню было трыццаць шэсць гадоў. Звычайна мужчыны ў гэтым узросце пачынаюць паступова папраўляцца, але Ван Ляньшэн быў, хутчэй, хударлявым.

На тым карпаратыве ўсе расказвалі смешныя гісторыі, Ван Ляньшэн таксама расказаў адзін анекдот. Ён паведаў, што ў час свайго жыцця ў Амерыцы разам са сваімі аднакласнікамі-амерыканцамі пакаштаваў аднойчы так званы атрутны грыб. Грыб гэты з'яўляецца галюцынагенным, і амерыканскія індзейцы ядуць яго ў час здзяйснення абрадаў.

Ван Ляньшэн расказаў, што пасля таго, як ён пакаштаваў гэтых грыбоў, у яго і сапраўды пачаліся галюцынацыі. Напрыклад, яму раптам пачало мроіцца, быццам бы верхняя палова цела аддзялілася ад ніжняй і накіравалася ўслед за Чырвонай арміяй на гару Цзінган, а ніжняя палова цела пабегла ў той жа час за адной амерыканскай дзяўчынай.

У той дзень карпаратыў праводзіўся ў рэстаране «Хэпін» у Шанхаі. Выбраў рэстаран Ван Ляньшэн, але аплачваў мерапрыемства не ён. Потым Ван Ляньшэн заўважыў мяне. Мы станцавалі з ім два танцы пад джаз і сіні аксаміт. Ван Ляньшэн прапанаваў пасля заканчэння карпаратыву змяніць абставіны, выпіць кавы альбо чаго-небудзь больш моцнага.

— За мой кошт, зразумела ж, — адразу ж дадаў ён.

У той дзень на мне было цсіпао[1]. Трэба адзначыць, што ў той час яшчэ не выйшлі такія фільмы, як «Жуань Лін'юй»[2] і «Любоўны настрой»[3]. А Ван Ляньшэн зусім не ведаў, што ў Коўлуне[4] маецца шанхайскі майстар, які шыў цсіпао для самой Мэгі Чун[5], хоць пазней паспяшаўся яго адшукаць. Старому майстру было ўжо больш за семдзесят гадоў, ён зірнуў на эскіз сукенкі, які прынёс Ван Ляньшэн, і сказаў, што такая работа вельмі тонкая і яе не параўнаць з тымі цсіпао, якія ён рабіў у дваццатыя гады. А вось фасон падобны ён ужо сустракаў: у дзяцінстве бачыў, як тагачасныя майстры шылі такія сукенкі. Але зрок у старога ўжо не такі, як раней, і таму ён пры ўсім жаданні не зможа дапамагчы.

---

[1] Жаночы халат, маньчжурская жаночая сукенка звычайнага ў часы дынастыі Цын пакрою, пазней, у некалькі відазмененым выглядзе, — звычайная ў Кітаі жаночая сукенка, доўгая, у талію, са стаячым каўнерыкам і шырокім правым крысом (тут і далей — заўвагі перакладчыка).

[2] Кітайская актрыса нямога кіно (1910—1935), была вельмі папулярнай у сябе на Радзіме ў 30-я гады.

[3] Ганконгская артхаусная меладрама, знятая Вонгам Карваем у 2000 годзе.

[4] Паўастраўная частка гарадской зоны Ганконга.

[5] Актрыса з Ганконга (год нар. 1964).

Чатыры гады таму Ван Ляньшэн гэтага яшчэ не ведаў. Сустрэча ў рэстаране «Хэпін» была яшчэ ў самым разгары, а Ван Ляньшэн ужо мяне, апранутую ў цсіпао, і яшчэ некалькі чалавек павёў піць каву. Ён падаўся мне такім натхнёным і ўвесь час штосьці шаптаў мне на вуха.

Прыкладны сэнс гэтых шэптаў быў наступным:

Па-першае, тая гісторыя, пра якую Ван Ляньшэн апавядаў раней, не зусім праўдзівая. Дакладней, яна праўдзівая толькі напалову.

У яго і сапраўды пачаліся галюцынацыі. Верхняя частка ягонага цела на самай справе быццам бы пабегла ўслед за Чырвонай арміяй на гару Цзінган, а вось ніжняя ягоная частка не кінулася ганяцца за амерыканскай дзяўчынай. Ван Ляньшэн сказаў, што ён ужо атрымаў від на жыхарства, і таму не мела сэнсу ганяцца за амерыканскімі прыгажунямі, тым больш што яму заўсёды падабаліся менавіта кітаянкі. Мяккія і выхаваныя ўсходнія жанчыны. Ён сказаў, што не можа сабе нават уявіць, як гэта: прачнуцца раніцай побач з жанчынай, у якой блакітныя вочы і залацістыя валасы.

Пачуўшы гэтыя словы Ван Ляньшэна, я нават разгубілася крыху, але і віду не падала. Праўда, мае валасы бялявымі назваць нельга, што ж датычыцца вачэй, то і яны, хоць і не зусім чорныя, але, як мінімум, азіяцкага тыпу. І ўсё ж, будучы, без усялякага сумнення, усходняй жанчынай, я ніяк не магла назваць сябе вельмі ўжо мяккай і добра выхаванай. Таму трымалася стрымана, робячы выгляд, быццам усё тое, што паведамляе зараз Ван Ляньшэн, мяне і наогул не датычыцца.

А Ван Ляньшэн між тым працягваў свой аповед.

Ён сказаў, што яму прымроілася, быццам ніжняя палова цела на самай справе пабегла менавіта за ўсходняй жанчынай. Кітаянкай. Але, магчыма, што і за японкай, індыянкай альбо карэянкай. Ван Ляньшэн дадаў, што той жанчыне хапіла аднаго толькі погляду ў ягоны бок, яе ён адразу ж за ёй пабег. Узрадаваны і задаволены. У адзін момант пакінуўшы за сабой і гару Цзінган, і Імэн, і нават мост «Залатыя вароты».

— А апранутая тая жанчына была, як і ты зараз, у цсіпао, — дадаў Ван Ляньшэн і змоўк.

У глыбіні душы я абурылася: вось жа, які хуліган! І тым не менш адначасова мне было вельмі прыемна, бо відавочна, што гэткім чынам Ван Ляньшэн фліртаваў са мной. Да таго ж, ён не быў асабліва надакучлівым.

## 2

У той дзень мы вельмі доўга пілі каву.

Затым адзін з сяброў Ван Ляньшэна прапанаваў пайсці ў бар, і мы ўсе згадзіліся. Шанхай — горад, які вельмі падыходзіць для аматараў весела бавіць час. Нават месяц, здавалася, знаходзіўся ўнутры памяшкання, нібыта выразаны нажніцамі з белай паперы. А ўсе гэтыя неонавыя агні, сталёвыя трубы, шматпавярховыя будынкі, як толькі надыходзіў вечар, рабіліся такімі маналітнымі. Ван Ляньшэн сказаў, што яны ўсе падобныя на светла-зялёныя купюры амерыканскіх долараў.

Пакуль мы пілі каву, Ван Ляньшэн зноў запрасіў мяне на танец. Танцаваў ён няблага, хоць і не зусім правільна, але, што вельмі важна, ён валодаў свабодным пачуццём прыгожага. Што ж датычыцца захаплення жанчынамі, тут, здаецца, у Ван Ляньшэна быў багаты жыццёвы досвед. Дзве мелодыі, пад якія ён запрашаў мяне танцаваць, мне спадабаліся. Адна называлася — «Я вар'ят», другая была з фільма «Апошняе танга ў Парыжы». Ван Ляньшэн умела трымаў свае рукі на маёй таліі, калі мы кружыліся і перамяшчаліся ў такт музыцы, ён быў неверагодна абаяльным, неяк пасаблівому, па-джэнтльменску абаяльным. Нават у час танца Ван Ляньшэн не забываўся гутарыць са мной, з вуснаў ягоных не сыходзіла лёгкая ўсмешка.

Ван Ляньшэн сказаў, што я вельмі нагадваю яму адну дзяўчыну, з якой ён жыў па суседстве ў Лос-Анджэлесе. Дзяўчына была з Тайваня, і Ван Ляньшэн часта запрашаў яе на вечаровыя прагулкі. Часам яны заходзілі пры гэтым у кафэ альбо бар, але часцей проста вярталіся пасля

прагулкі дадому. Дзяўчына гэтая, па словах Ван Ляньшэна, любіла і ўмела гатаваць розныя стравы, часам яна запрашала яго да сябе на вячэру альбо абед. У асноўным гэта былі стравы фуцзянскай[6] кухні, але дзяўчына гэтая ўмела гатаваць і шанхайскія стравы.

Ван Ляньшэн не стаў распаўсюджвацца аб тым, якія паміж ім і гэтай тайваньскай дзяўчынай, у рэшце рэшт, склаліся адносіны, і так і не сказаў, што ж у мяне з ёй было агульнага. Замест гэтага пачаў расказваць другія гісторыі. Напрыклад, аб тым, як летась ён у Лос-Анджэлесе адзначаў Свята вясны[7]. Адзначалі вельмі весела і святочна. Сабралася шмат кітайцаў-эмігрантаў, усе стараліся ў дэталях прытрымлівацца старых навагодніх звычаяў. Мужчыны і жанчыны, апранутыя ў традыцыйныя кітайскія ўборы, запускалі петарды, кланяліся зямлі, прыносілі ахвяры продкам, дарылі дзецям грошы ў чырвоных канвертах, наведвалі родзічаў і гэтак далей. Ван Ляньшэн сказаў, што ён ужо шмат гадоў не адзначаў Новы год у Кітаі. Здаецца, кітайцы цяпер усё больш і больш азіраюцца на краіны еўрапейскай цывілізацыі і лічаць усё тое, што ўшаноўвалася ў Кітаі раней, нейкімі сярэдневяковымі перажыткамі.

— А для мяне тое адчуванне свята ў Лос-Анджэлесе было проста цудоўным, — дадаў Ван Ляньшэн.

Калі Ван Ляньшэн апавядаў мне пра ўсё гэта, выраз твару яго быў сур’ёзны і адначасова такі шчыры, і гэта падалося мне тады вельмі кранальным, Таму, калі Ван Ляньшэн прапанаваў праводзіць мяне дадому пасля бара, я згадзілася.

Мы выклікалі таксі, але спатрэбілася немалая доля спрыту і майстэрства, каб элегантна забрацца ў машыну з такім выразам на цсіпао, як у мяне. Я спадзявалася, што Ван Ляньшэн сядзе ў таксі на пярэдняе сядзенне, каб самой у поўнай меры расслабіцца на заднім, але ён, адчыніўшы заднія дзверцы таксі, працягваў стаяць каля машыны. Пры гэтым Ван Ляньшэн увесь час уважліва глядзеў на мяне з нейкай дзіўнай усмешкай, затым, хоць пярэдняе сядзенне было свабодным, ён уладкаваўся побач са мной.

— Ты такая прывабная, — сказаў ён. — За табой я і сапраўды б пабег.

### 3

Ван Ляньшэн часта слаў мне лісты з-за мяжы.

Гэтыя ягоныя лісты былі цудоўныя, поўныя вытанчанасці і пачуцця такту. Ён увесь час падарожнічаў па ўсім свеце, выкладаў ва ўніверсітэтах розных краін, выступаючы настаўнікам для студэнтаў розных рас і колераў скуры. У сваіх пасланнях Ван Ляньшэн апісваў прыгажосць прыроды, што дазваляла хоць на крышачку адарвацца ад паўсядзённага жыцця. Напрыклад, аднойчы, у лісце з Афрыкі, ён расказаў пра моцны лівень. На зямлі, па словах Ван Ляньшэна, сабралася такая вялікая колькасць вады, што можна было даплыць да верхавінак пальмаў. А ўдалечыні два чалавекі ў саламяных капелюшах імкліва беглі цераз поле.

«У сезон дажджоў у афрыканскіх тропіках нават табуны коней здаюцца светла-блакітнага колеру», — пісаў Ван Ляньшэн. Яшчэ ён пісаў, як аднойчы бачыў львоў. З аднаго боку — самца, а з другога — самку. Яны сядзелі на земляным насыпе ўжо даволі працяглы час. Здавалася, яны сачылі адтуль за статкам антылоп альбо яшчэ якой патэнцыяльнай ахвярай. Хоць дакладна сам Ван Ляньшэн гэтага не ведаў.

Прызнаюся, мне падабалася чытаць гэтыя лісты. Але часам у мяне ўсё ж закрадвалася сумненне. А які ён, сапраўдны Ван Ляньшэн? Можа, чатыры гады таму, калі ў шанхайскім клубе ён шаптаў мне на вуха: «Менавіта ў бары адточваецца вастрыня зроку. Калі хочаш даведацца, прывабная жанчына альбо не, бар — самае зручнае для гэтага месца». І адразу ж услед за гэтым дадаў, і гэтыя словы ягоныя неяк адразу ж разанулі мне слых:

[6] Фуцзянь — правінцыя на ўсходзе Кітая.
[7] Кітайскі Новы год па месяцовым календары.

— Конь альбо мул — не мае розніцы, цягні і ідзі гуляць.

Калі я перачытвала ягоныя лісты, перад вачыма маімі пастаянна ўсплываў ягоны хітраваты позірк. І гэтыя словы, што так мне не спадабаліся: «Конь альбо мул — не мае розніцы, цягні і ідзі гуляць». Пэўна ж, ён любіў фліртаваць з жанчынамі, але разам з тым нельга было яму так наіўна верыць. Нельга было абвінавачваць яго ў подласці, разам з тым, нельга было прымаць за чыстую манету ягоную фальшывую клапатлівасць. І хоць я верыла, што гэтая напалову жартоўная манера зносін ніяк не азначае, што Ван Ляньшэн не валодае цудоўнымі душэўнымі якасцямі, гэты мужчына адназначна быў не простым. Сярэдніх гадоў. Загадкавы, але цікавы.

Вядома ж, галоўная праблема заключалася ў тым, што гэтыя асаблівасці Ван Ляньшэна цалкам супадалі з маім уласным характарам.

Так, самы час зараз расказаць крыху аб сабе.

Нарадзілася я ў 1972 годзе. Родам з Шанхая. Працую ў офісе на шанхайскай набярэжнай і, здаецца, атрымала ад Шанхая ў спадчыну ўсе тыя асаблівасці, якія так адрозніваюць шанхайцаў: меркантыльнасць, імкненне праславіцца (не мае значэння, у чым канкрэтна), і адначасова кемлівасць і матэрыялізм. Ва ўсякім разе, я дакладна ведаю, чаго жадаю.

Кожны дзень я іду на работу ў офіс на вуліцы Хуайхай, я — дырэктар па маркетынгу аддзела продажу касметычнай кампаніі. Як і пераважная большасць «белых каўнерыкаў», працую з дзевяці да пяці. Ідучы на работу, апранаюся ў офіснае адзенне, у абед іду перакусіць у бліжэйшае бістро альбо ў Макдональдс.

Са сваімі падначаленымі я стараюся захоўваць дыстанцыю, але ў меру. Яны мяне пабойваюцца, хоць нельга не прызнаць, што маюцца ў мяне і паклоннікі. Неяк раз на працягу цэлага тыдня я кожную раніцу знаходзіла букет руж. Свежых руж, то чырвоных, то жоўтых. Сумняваюся, што іх прыносіў адзін з маіх калег, праяўляючы, такім чынам, да мяне павышаны інтарэс, хоць з поўнай упэўненасцю сцвярджаць не магу. Але, нягледзячы на гэта, я не з тых, хто заахвочвае службовыя раманы. На рабочым месцы ім проста не месца.

У першую чаргу я прафесіянал, а потым ужо жанчына. Такі мой прынцып. У сваім скураным крэсле я — строгі і спакойны дырэктар па маркетынгу, і ніхто не можа распазнаць, якія пачуцці могуць ахопліваць мяне ў гэты ж самы час.

Вось што зусім нядаўна я прачытала ў адным модным часопісе:

«Вялікі майстар, які знаходзіцца побач з шэфам, сумяшчае ў сабе прыгожую знешнасць і востры розум; у яе ўсмешцы адсутнічае пяшчота, але яе стрыманасць нічым не нагадвае бессардэчнасць. Увесь час побач з табой, і ў той жа час заўсёды на пэўнай адлегласці. Вось ён, твой ідэал, які можна вобразна назваць: анёл Чарлі».

Я задумалася, нібыта пра мяне сказана. Нашага шэфа, вядома ж, завуць не Чарлі, ды і я не анёл, але, нягледзячы на гэта, мне ўсё ж падалося, што напісана менавіта пра мяне.

Наш шэф — кітайскі эмігрант, мы ўсе называем яго Біл. Біл захапляецца мастацтвам, асабліва музыкай. Ён чалавек шырокіх поглядаў, яму ўсё цікава, нават тыя рэчы, якія нібыта супярэчаць адна адной. Напрыклад, Біл любіць джаз і брадвейскія мюзіклы, а таксама класічную сімфанічную музыку. І ў той жа час Білу вельмі падабаюцца хэві-метал і спецыфічная авангардная музыка.

Біл шмат дзе паспеў пабываць і шмат чаго зведаць у жыцці, але ён заўсёды праводзіў вельмі выразную грань паміж сексам і каханнем, жонкай і палюбоўніцай, марай і рэчаіснасцю. А мне гэта, наадварот, заўсёды дапамагала адчуваць рэальнасць таго, што адбываецца.

Свайго шэфа я заўсёды адносіла да пэўнага тыпу мужчын. Мужчыны такога роду маюць багаты вопыт і шырокае разуменне свету, але вельмі лёгка ўводзяць у зман наіўных і праставатых людзей наконт разважанняў пра дабро і зло. Людзей такога тыпу я звычайна называю «Паўднёвая Амерыка».

Логіка маіх разважанняў вельмі простая. У Біла на стале пад шклом ляжыць вялікі фотаздымак, які ён зрабіў, калі падарожнічаў па Кубе. Надзвычай прыгожы начны пейзаж, не зразумець толькі, сапраўдны ён альбо гэта фотакалаж. Калі мы аднойчы гутарылі з Білам, ён сказаў мне, што ягонае падарожжа па Паўднёвай Амерыцы можна апіса́ць усяго толькі дзвюма кароткімі фразамі. Першая — гэта «барока», другая — «любоўны раман». І я падумала, што ў словах Біла і сапраўды прысутнічае пэўная логіка. Прырода Паўднёвай Амерыкі некранутая і першабытная, яе вытокі сфарміраваліся параўнальна позна. Тым не менш, дзякуючы сумеснаму існаванню трох культур: еўрапейскай, індзейскай і афрыканскай, а таксама іх несумненнаму ўплыву адна на адну, гэты кантынент заслугоўвае назвы «барока».

Што ж датычыцца выразу «любоўны раман», то проста пакіну за Білам магчымасць самому тлумачыць выбар гэтай фразы.

Біл «Паўднёвая Амерыка» заўсёды выказваў прыхільнасць у адносінах да мяне, але ў меру і не без разважнасці. Думаю, ён таксама не хацеў лішніх клопатаў на рабочым месцы. Мы з ім, вядома ж, у адной звязцы, я стаўлюся да яго з сімпатыяй, ён да мяне таксама, але і прынцыпы ў нас з ім аднолькавыя.



Ілюстрацыя Алесі Жыткевіч.

## Керамічныя знаходкі

З 1974 да 1976 года ў вёсцы Янцунь, раён Ліньтун (горад Сіань, правінцыя Шэньсі), былі знойдзены пахаванні тэракотавых статуй воінаў і баявых коней. Памеры скульптур, колькасцю каля 7 тысяч, адпавядаюць памерам рэальных людзей і коней. Адкрыццё гэтых пахаванняў стала знамянальнай падзеяй, а Тэракотавую армію пачалі называць «Восьмым цудам свету».

Таксама ў правінцыі Шэньсі, але ўжо ў гарадской акрузе Сяньян, у пасёлку Янцзявань былі знойдзены размаляваныя гліняныя фігуркі воінаў і коннікаў. На галовах у іх шалікі, некаторыя фігуркі апранутыя ў чырвона-белыя ваенныя кафтаны, іншыя — у даспехі чорнага колеру і высокія боты. Іх выкананне адрозніваецца дакладнасцю і выразнасцю. Майстры стварылі вельмі кранальныя вобразы ваяроў, якія валодаюць моцным духам.

У горадзе Чэнду правінцыі Сычуань знойдзеныя цікавыя фігуркі музыкаў. У іх вясёлы выгляд. Верхняя частка цела статуэтак аголена. Левай рукой фігурка трымае барабан, а правай — палку, правая нага сагнута ў калене, а левая выцягнута. Фігуркі музыкантаў — класічны прыклад стварэння адухоўленага вобраза. Яны ўяўляюць сабой вырабы з чырвонай керамікі, тэмпература абпалу параўнальна нізкая, тэкстура друзлая.

Хтосьці калісьці сказаў: «Шанхай — гэта жанчына». Я цалкам згодная. І Біл згодны. Біл заўжды кажа, што ён проста зачараваны ўнутранай жаноцкасцю гэтага горада. Ён сцвярджае, што ведае, у якім месцы і пры якім надвор'і можна знайсці сапраўдных шанхайскіх прыгажунь. І ў нашым офісным будынку, не мае значэння, у час работы альбо ў абедзенны перапынак, заўсёды чутна слабая фонавая музыка. Вядома ж, гэта таксама адно з дзівацтваў нашага Біла.

Усе ўзнагароды сваім супрацоўнікам Біл падзяляе на яўныя і ўмоўныя. Яўныя — гэта канверт з грашыма два разы ў год, умоўныя — паход у Вялікі тэатр на оперу некалькі разоў у год.

— Апранайцеся як мага прыгажэй! — кажа Біл. — Нібыта паўліны…

І сапраўды, у Вялікім тэатры можна ўбачыць вельмі шмат раскошна апранутых жанчын. Яны ветліва працягваюць руку. І не менш элегантна цалуюць адна адну пры сустрэчах. Нібыта францужанкі з французскіх калоній, яны робяць гэта дзеля сваіх палюбоўнікаў, дзеля таго, каб паехаць у Еўропу, каб правесці адпачынак у Італіі, каб своечасова сабраць калекцыю самых разнастайных сукенак для шасцімесячнага адпачынку раз у тры гады. Яны ў чаканні. Таму што мы таксама чакаем гэтыя словы Біла. «Аіда», «Капелія», «Травіята». І гэтая арка Вялікага тэатра, так падобная на малады месяц, гэтыя гукі галасоў, што радасна вітаюць старых сяброў у зале, поўнай чырвоных крэслаў…

Гэта час людзей, якія разбіраюцца ва ўсіх нюансах сучаснай моды. Вы можаце заўважыць, што мода дзейнічае на ўсё разбуральна. Але ўсё не так проста. Таму што я таксама магу сказаць: не ведаю, як у іншых месцах, але ў Шанхаі мода — гэта сакрэт гэтай эпохі.

**4**

Цсіпао я нашу толькі пасля работы.

Калі я слухала той жарт пра гару Цзінган і амерыканскую дзяўчыну, то адначасова думала аб верхняй і ніжняй частках цела. У мяне б верхняя частка цела была б усё ж апранутай у офіснае адзенне, а ніжняя — у цсіпао. А можа, наадварот. Дакладна не магу растлумачыць. Калі верхняя частка цела сімвалізуе сабой інтэлект, а ніжняя — інстынкты, то тлумачэнне Ван Ляньшэна, хутчэй за ўсё, патрабуе нейкага дадатковага асэнсавання. А вось з Білам усё зразумела. Можна беспамылкова адзначыць наступнае: што верхняя, што ніжняя паловы цела — у Біла ўсё аднолькавае.

Аднак Ван Ляньшэн вельмі хутка зноў збіў мяне з панталыку.

Аднойчы я даслала яму ліст, у якім спыталася: «Ты быў у Гаване?»

Гэта пытанне прагучала крыху нечакана. А на самай справе адбылося наступнае.

Неяк вечарам Біл «Паўднёвая Амерыка» прызначыў мне спатканне. Такога раней ніколі яшчэ не было, і я проста не ведала, як быць. Дакладней, проста запанікавала, калі зразумела, што гэта магло азначаць. А азначаць гэта магло толькі адно…

І што далей?

Бо ў выпадку, калі такая сумніўная сустрэча тэт-а-тэт скончыцца няўдала, у мяне застануцца толькі два выйсці: альбо скласці свае анёльскія крылы, альбо проста сысці з работы.

З неспакойнай душой накіравалася я на гэта спатканне.

Біл запрасіў мяне ў еўрапейскі рэстаран. Мы з ім крышачку паразмаўлялі аб тым-аб сім, а ў дзевяць гадзін Білл вырашыў праводзіць мяне дадому. Спыніўшы каля самага ўвахода машыну, ён расчыніў дзверцы, а потым, калі я выйшла, нечакана сціснуў маю руку і сказаў:

— Паехалі са мной у Гавану на наступны год.

Пакуль я чакала ліфт, то ўвесь час успаміналa гэтыя словы Біла.

Гавана. Вядомы марскі порт на Кубе, цыгарэты маркі «Гавана», якія Біл часцяком трымаў у зубах, а яшчэ песня, што звычайна гучыць у абедзенны час у сценах нашага офіса: «Калі ў адзіноце пакіну я тую далёкую гавань Гаваны, ніхто здагадацца не зможа, як горка ў мяне на душы».

Я ведала, што ў Біла з гэтым горадам звязаныя асабістыя ўспаміны. Той, самы вялікі, фотаздымак, што вісеў у Біла над сталом, быў зроблены менавіта ў Гаване. Біл мне расказваў: што ў той самы вечар ён выйшаў з вядомага бара-рэстарана «Ла Бодэгіта дэль Медыа». Крыху выпіў. Кубінскія пасядзелкі за шклянкай «Махіта». У той самы момант здалёк данесліся гукі артылерыйскай кананады. Біл сказаў, што гэта была традыцыя з больш чым трохсотгадовай гісторыяй: гарадскія вароты Гаваны здаўна зачынялі пад залпы гармат, каб абараніць ад раптоўнага нападу піратаў.

Я не зусім зразумела, што ўсё ж Біл меў на ўвазе, калі сказаў: «Паехалі са мной у Гавану». Гэтая няпэўная фраза, выказаная ім, — магчыма, што гэта ўсяго толькі шоргат пёраў, а можа, гэта і залп гармат, якія папярэджваюць аб небяспецы, што ўжо непадалёку. Зайшоўшы ў кватэру, я чамусьці дастала з палічкі турыстычны даведнік. Перагарнула яго да старонкі «Амерыка».

*Гавана. Некаторыя гісторыкі лічаць, што слова «Гавана» паходзіць з мовы мясцовых абарыгенаў: па адной версіі азначае «прэрыя» альбо «стэп», па другой — «маленькая бухта» альбо «якарная стаянка». Але яшчэ больш распаўсюджаны пункт гледжання, што назва горада бярэ пачатак ад прозвішча правадыра мясцовага індзейскага племені, якое жыло ў гэтых мясцінах у старажытнасці.*

Можа гэта падасца дзіўным і не зусім зразумелым, але на душы маёй было неспакойна, хоць тое, што адбылося, не зусім адпавядала маім папярэднім здагадкам. Анёльскія крылы, у рэшце рэшт, не трэба будзе складваць, ды і звальняцца з работы зусім нават неабавязкова, але адчуванне ўсё роўна было не з самых прыемных. Таму што пачынаючы з гэтага вечара я раптам адчула: я сама стала часткай «Паўднёвай Амерыкі».

Вось так, у той самы вечар, я і ўспомніла пра Ван Ляньшэна.

Інтуітыўна я адчувала, што вельмі падабаюся яму. Вядома ж, у яго таксама «паўднёваамерыканскі» стыль, але нічога страшнага ў гэтым не было. Тым больш, я спадзявалася, што стыль можа палепшыцца і Ван Ляньшэн будзе надалей ставіцца да мяне ў зусім іншай, класічнай і нават азіяцкай манеры.

І я адаслала яму паштоўку. У якой задала пытанне: «Ты быў у Гаване?»

Зваротны ліст ад Ван Ляньшэна не прымусіў сябе доўга чакаць.

## Фарфор

Адной з самых знамянальных падзей часоў дынастый Цсінь (221—207 гг. да н. э.) і Хань (206 г. да н. э. —220 г. н. э.) было вынаходства фарфору. Нягледзячы на тое, што фарфор быў вядомы кітайцам вельмі даўно, вытворчасць сапраўднага фарфору пачалася толькі ў канцы дынастыі Усходняя Хань. У гарадскіх акругах Шаосінь і Цзіньхуа правінцыі Джэцзян была знойдзена вялікая колькасць печаў для абпалу, якія адносяцца да канца дынастыі Усходняя Хань (25—220 гг.). Навукоўцы адзначылі, што тэмпература ў гэтых печах можа дасягаць 1310 градусаў Цэльсія, а трываласць на выгіб — 710 кг на кожны квадратны метр. Фарфоравыя вырабы валодаюць вялікай пругкасцю і антыкаразійнай устойлівасцю, яны напаўпразрыстыя, лёгка мыюцца і вельмі прыгожыя. У часы Траяцарства (220—280 гг.), Заходняй і Усходняй Цзінь (265—316 гг., 317—419 гг.) фарфор выцесніў ганчарныя, медныя, лакавыя вырабы і стаў асноўным матэрыялам для прадметаў шырокага ужытку.



Ілюстрацыя Алесі Жыткевіч.

У гэтым лісце ён так і не адказаў мне, быў ён раней у Гаване ці не быў. Затое паведаў мне пра многае іншае. Напрыклад, як раней ён адправіўся ў В'етнам. На пароме, па рацэ Меконг. Меконг, па ягоных словах, і на самай справе вялікая рака. Раптам ён убачыў рачную хвалю, якая ўздымалася амаль да самага неба. З шалёнай сілай вада імчалася проста на паром, падхапіла яго і панесла кудысьці. Водны паток прайшоў праз рысавыя палі, што размяшчаліся каля ракі, затым яны з возера Тонлесап і камбаджыйскіх лясоў паімчалі па плыні. Паток вады змываў усё, з чым толькі не сутыкаўся: хацінкі і хібаркі, лясныя зарасці, мёртвыя птушкі і сабакі, каровы, якія затанулі, суцэльная сумесь вады і бруду — усё гэта было падхоплена павадкам і вынесена ў Ціхі акіян.

Чытаючы гэты ягоны ліст, я літаральна калацілася ад жаху і не ведала, хлусіць мне Ван Ляньшэн альбо чыстую праўду паведамляе. Але адразу ж услед за гэтым паведамленнем манера пісьма змянілася. Ван Ляньшэн пісаў, як ён, назіраючы за вадой, якая змятала ўсё на сваім шляху, раптам адчуў сябе адзінокім, у вышэйшай ступені адзінокім. Яшчэ ніколі не адчуваў ён такога адзіноцтва. І ў гэты момант ён успомніў пра мяне…

Чытаючы гэта, я ўзрадавалася, але амаль адразу ў мяне зноўку ўзнік цень сумнення: я не ведала, можна давяраць Ван Ляньшэну альбо не. У такім горадзе, як Шанхай, наўрад ці ўбачыш хвалю да неба, якая бязлітасна знішчае ўсё на сваім шляху. У Шанхаі, вядома ж, ёсць рака Хуанпу. Але вада ў ёй спакойная. Уздоўж Хуанпу не размешчаныя рысавыя палі, а аб мёртвых сабаках і каровах нават гаварыць не варта. Рэстаран «Хэпін», у якім мы калісьці з Ван Ляньшэнам упершыню сустрэліся, якраз знаходзіцца на набярэжнай ракі Хуанпу. Там сіні аксаміт і джаз. Гардзіны напалову апушчаныя. А неба зусім не сіняе, з-за забруджанага паветра яно звычайна шэра-блакітнае альбо проста змрочна-свінцовае.

А на заднім плане можна ўбачыць велічную «Усходнюю жамчужыну»[8] альбо знакаміты і велічэзны Луцзядзуй[9].

Мне было даволі складана ўявіць карціну, як Ван Ляньшэн стаіць на пароме, што плыве па рацэ Меконг. Але тым не менш мяне вельмі кранулі ягоныя апошнія словы. Нягледзячы на тое, што Ван Ляньшэн і Біл, на мой погляд, абодва належаць да тыпу «Паўднёвая Амерыка», я была ўпэўненая, што Біл ніколі не скажа мне такіх слоў. Ён скажа: «Паехалі са мной у Гавану на лета». Альбо яшчэ штосьці падобнае. І нават калі б я паехала з Білам у Гавану, вельмі малаверагодна, што ён сказаў бы мне гэтыя словы.

З Білам усё зразумела, ён нават сам не адрознівае верхнюю і ніжнюю часткі свайго цела.

Павінна прызнацца, я нечакана для сябе самой пачала раптам думаць пра Ван Ляньшэна.

Неяк раз пасля работы я сядзела у сваім крэсле з чорнай скуры і разважала. Ні аб чым канкрэтна, проста аб жыцці.

Аб тым, напрыклад, што на свеце занадта шмат мужчын з багатым жыццёвым досведам і шырокім кругаглядам, якія будуць шаптаць табе бяскрыўдныя словы пра каханне. Ды толькі што яны значаць, гэтыя іх словы? Я ж з Шанхая і не адарваная ад рэальнасці. Мой шчыт рэальнасці з лёгкасцю зможа супрацьстаяць усім дзідам ілюзій, мне гэтага дастаткова. Я ніколі гэтага не баялася. Але справа ў тым, што за гэтымі дзідамі ілюзій было схавана яшчэ штосьці…

Я крыху разумела смак гэтага «галюцынагеннага грыба».

Зараз мая верхняя палова была непахіснай. Яна крычала мне: Ван Ляньшэн падманшчык!

А вось ніжняя мая палова не прыдала гэтаму асаблівага значэння. Праявіўшы вытрымку і выявіўшы шырыню поглядаў, яна, наадварот, прадэманстравала лепшыя свае якасці. Яна нічога не казала. Толькі пасмейвалася.

[8] Знакамітая тэлевежа ў Шанхаі.
[9] Фінансавая гандлёвая зона ў Шанхаі.

Такія паводзіны ніжняй паловы прымусілі мяне ўспомніць словы Ван Ляньшэна, якія ён напісаў мне ў адным са сваіх папярэдніх лістоў: «У час трапічных дажджоў у Афрыцы нават табун коней здаецца блакітнага колеру».

Я была ў разгубленасці, але адначасова з гэтым адчувала лёгкае хваляванне.

**5**

Калі я зноўку сустрэлася з Ван Ляньшэнам, у першую чаргу ён расказаў мне пра «квартал чырвоных ліхтароў» у Фінляндыі.

Мы не бачыліся чатыры гады, а Ван Ляньшэн амаль зусім і не змяніўся. Ён абняў мяне на манер еўрапейца, замест таго, каб проста кіўнуць у знак вітання, як чатыры гады таму. І прашаптаў мне на вуха: «Я так сумаваў па табе».

Апынуўшыся са мной сам-насам, Ван Ляньшэн, вядома ж, аплаціў рахунак і быў вельмі далікатным са мной: прытрымаў дзверы, падсунуў крэсла і ўсё глядзеў і глядзеў на мяне закаханымі вачыма. І ў мяне зноўку змянілася меркаванне аб ім.

На мне было цсіпао. Я спецыяльна паспяшалася пашыць яго, ведаючы, што Ван Ляньшэн у хуткім часе прыедзе. Дзеля таго, каб адправіцца на спатканне, я і на работу прыйшла ў цсіпао. Попельна-блакітны шоўк сакавітым бляскам расцякаўся па крэсле з чорнай скуры, а потым нечакана ўвайшоў Біл «Паўднёвая Амерыка», і вочы ягоныя заблішчэлі. А потым ён усміхнуўся мне і пацiснуў плячыма.

Калі б я апранула цсіпао раней, калі б злучыць верхнюю і ніжнюю часткі цела, магчыма, нашы адносіны з Білам былі б крыху іншымі. Яму тады зусім нават не трэба было б ні аб чым намякаць, а проста выкарыстаць метад «Паўднёвай Амерыкі». І «анёл Чарлі» ў імгненне вока ператварыўся б у «малышку Біла». Хаця, з іншага боку…

Бачыла я некалькіх такіх «малышак», з якімі Біл хоць заўтра мог адправіцца ў падарожжа. Шкада толькі, што прыклад браць проста няма з каго…

Але калі Біл мне ўсміхнуўся і пацiснуў плячыма, мне ўсё ж пачуліся ягоныя словы: «Паедзем са мной у Гавану на лета».

У той вечар, калі мы зноўку сустрэліся з Ван Ляньшэнам, у кафэ граў джаз. У Шанхаі такіх месцаў шмат: мільгаюць цені людзей, паветра цяжкае, і нібыта навісла ў ім нейкая туга і самота.

*«З узыходам сонца на мяне напала меланхолія,*
*Слёзы на маіх вачах,*
*З узыходам сонца на мяне напала меланхолія,*
*Слёзы на маіх вачах,*
*Не люблю я такія пачуцці,*
*Яны прымушаюць людзей сумаваць».*

Ван Ляньшэн сядзеў насупраць і ўсміхаўся. Па ягоным твары і не скажаш, што калісьці ён адчуваў адзіноту, аб якой паведамляў мне ў лістах. Ён запаліў цыгарэту і, нібыта так, між іншым, заўважыў: «А ты зусім не змянілася». Пры гэтых словах ён нават не глядзеў у мой бок. З амаль упэўненым выглядам. Нібыта ўвесь гэты час я пражыла побач з ім, і не трэба ніякіх доказаў.

Затым Ван Ляньшэн расказаў аб тым, што адбылося ў Фінляндыі. Самае незабыўнае ўражанне засталося ў яго ад фінскага лесу. А яшчэ ад «квартала чырвоных ліхтароў». Ван Ляньшэн параіў мне абавязкова з'ездзіць у Еўропу і самой паглядзець.

— Жанчыны ў музеі і на вуліцах маюць свой асаблівы стыль, — сказаў Ван Ляньшэн. Затым дадаў, што за дзесяць хвілін хады ад таго месца, дзе ён жыў, знаходзіўся лес. Там вельмі спакойна, паўсюдна лістота дрэў, а яшчэ там маецца прыгожае возера, бліскучае, нібыта люстэрка. Ён часта хадзіў у лес гуляць.

Яшчэ адным месцам, куды любіў хадзіць Ван Ляньшэн, быў «квартал чырвоных ліхтароў». Ён сказаў, што гэта не ў прамым сэнсе слова «квартал чырвоных ліхтароў». Гэта больш падобна на вітрыны крамаў, дзе вельмі шмат людзей. «Тавар» быў выстаўлены за вялізным шклом, знутры гарэлі ліхтары самых розных колераў: халодных і цёплых. Жанчыны стаялі альбо сядзелі ўнутры ў розных позах у надзеі, што мужчыны, якія праходзяць міма, убачаць іх ва ўсёй красе.

Ван Ляньшэн сказаў, што аднойчы ён убачыў жанчыну ў фіялетавым бікіні. Яна сядзела моўчкі і толькі глядзела на яго. Быццам нячысцік.

— Я быў зачараваны, — сказаў Ван Ляньшэн. Ён зусім не мог падумаць, што гэта адна з жанчын лёгкіх паводзін, і толькі адчуваў штосьці містычнае і загадкавае. Быццам воды возера з таго самага лесу. У той дзень Ван Ляньшэн якраз гуляў па вуліцах са сваёй дзяўчынай. Калі яны прайшлі гэты раён, сяброўка сказала раптам, што хоча яшчэ раз паглядзець на тую жанчыну ў фіялетавым бікіні. Тую жанчыну яна палічыла неверагодна прыгожай.

Мне чамусьці адразу паверылася ў словы Ван Ляньшэна. «Пасля таго, як мая сяброўка гэта сказала, яна стала мне асабліва сімпатычнай», — прагаварыў ён. Гэта вельмі падобна на Ван Ляньшэна. Усё, што адбылося, было вельмі на яго падобна. І тое, што ён бадзяўся без справы з часовай сяброўкай па кварталах горада, і тое, што ён паведамляў мне ў сваіх лістах, якім адзінокім сябе адчувае і як сумуе па мне.

Тым вечарам я адна вярталася дадому, нават не дазволіўшы Ван Ляньшэну мяне праводзіць. Яму стала крышачку няёмка, гэта бачна было па ягоным твары. «Сярдуеш?» — неяк нерашуча запытаўся ў мяне Ван Ляньшэн. Я нічога не адказала. Памаўчаўшы крыху, ён зазірнуў мне ў вочы і сказаў: «Я заўтра табе патэлефаную».

**6**

На другі дзень я сама праявіла ініцыятыву і патэлефанавала Ван Ляньшэну.

А перад гэтым я доўга не магла заснуць, таму што шкадавала. Бо, калі таксі скранулася з месца, я ў люстэрку ўбачыла Ван Ляньшэна, які стаяў на ўзбочыне. Каля яго праязджала шмат машын, а ён усё стаяў, рукі за спінай, як і чатыры гады таму.

На самай справе шкадаваць я пачала ўжо ў той самы момант. Яшчэ крыху і я б папрасіла таксіста спыніць машыну і вярнуцца. А затым дазволіць Ван Ляньшэну сесці побач са мной, як і чатыры гады назад.

Вядома ж, я гэтага не зрабіла. Таксі кранулася з месца і ўлілося ў паток машын, што праязджалі па вуліцах Шанхая.

Здавалася, толькі што я ледзь не страціла над сабой кантроль. Без усялякай прычыны я вось што нарабіла: як толькі мужчына сказаў мне, што «ён сумуе ў адзіноце», і я паверыла ўжо, што ён не з тых, хто можа сказаць: «Паехалі са мной у Гавану на лета». Гэта, што называецца, адплаціць чорнай няўдзячнасцю…

Незадоўга да гэтага мяне запрасілі на адно вяселле. Побач са мной сядзела спявачка, якую запрасілі на вяселле спяваць. Яна сказала мне, што яе часта запрашаюць спяваць на вяселлях, многія жанчыны пачынаюць плакаць, калі чуюць яе спеў. А некаторыя замужнія жанчыны папракаюць спявачку: яна, на іх думку, псуе вясельны настрой. Але маюцца і такія, хто ні ў чым яе не абвінавачвае.

Гэтая спявачка ў светлым парыку сказала мне, што на самай справе папракаюць яе толькі тыя, хто сам паспытаў смак адзіноты. Яна нахіліла галаву, паглядзела на мяне і раптам дадала: «І асабліва, калі побач таксама хтосьці адзінокі».

Ну трэба ж, гэтая спявачка таксама гаворыць аб самоце. Ды яшчэ так прыгожа. Пэўна ж, не ўсё з гэтым так проста. А я, жанчына з Шанхая, «анёл Чарлі», хачу так проста ўзяць і вырашыць гэтую праблему. З гэтым я не магу мірыцца.

Што яшчэ горш, мае хітрыкі выдаюць дзве рэчы: па-першае, «анёлы Чарлі» таксама час ад часу спускаюцца з нябёсаў, а па-другое, гэты ягоны «сум у адзіноце», магчыма, куды больш небяспечны, чым фраза Біла «паехалі са мной у Гавану».

Магу расказаць аб маёй папярэдняй закаханасці.

Маё мінулае каханне скончылася тры месяцы таму. Мы з маім экс-бойфрэндам елі наш апошні сумесны сняданак у адным з гандлёвых цэнтраў Шанхая. Потым мы абняліся і нават пацалаваліся на развітанне. Калі ж экс-бойфрэнд нарэшце пайшоў, я ўзняла галаву і паглядзела на будынак Портман. Было такое адчуванне, што я — нібыта страказа, што ніяк не можа ўзляцець з нізіны. Праўда, адчуванне гэта было аднолькавым і да гэтага апошняга сумеснага сняданка, і пасля яго.

Хоць была адна дэталь, якая да гэтага часу захавалася ў памяці.

У той момант, калі я ўзняла галаву, я ўбачыла ў небе над горадам хмару. Так, у самым сэрцы Шанхая, над «Портман Рытц». Я ўбачыла, як хмара гэтая праплывае міма, і не проста праплывае міма. Хмара была шэра-блакітнага колеру, а знутры белая, нібыта вата. Яна вельмі павольна плыла здалёк. І паступова накрывала дах вышыннага будынка.

Гэтая хмара…

Хмары звычайна ўзнікаюць над рысавымі мяцёлкамі, стагамі сена, статкамі кароў альбо табунамі светла-блакітных коней. А зараз адна з іх кружылася над вышынным будынкам. Незвычайная. І была ў мяне да яе нейкая нават сімпатыя.

Але толькі ў той момант.

А потым адбылося нешта нечаканае. Хмара раптам знікла. Вялізная хмара разбілася на мноства дробных лахманоў, а лахманы гэтыя рабіліся ўсё драбнейшымі і драбнейшымі, і нарэшце ператварыліся ў белы туман.

Гэта быў будынак «Портман Рытц». Хмара перасякла ўвесь горад і разбілася над будынкам «Портман Рытц».

Я ўсё глядзела. Маладая жанчына, якая толькі што развіталася назаўсёды з каханым чалавекам, сама таго не жадаючы, становіцца больш слабай. Раптам захацелася аклікнуць таго, хто яшчэ адышоў не надта далёка.

І я выгукнула: «Гэй!»

Але ён не пачуў. Вакол было шумна. Да таго ж ён не ўзнімаў галавы і не глядзеў на неба. Пасля развітальнага пацалунка ён спакойна пайшоў прэч. Ён заўсёды лічыў мяне разумнай жанчынай і нават уявіць сабе не мог, што я стану глядзець на неба. Ды яшчэ аклікну яго…

Але «анёлы Чарлі» двойчы не аклікаюць. Усё ж анёлы ёсць анёлы, яны адрозніваюцца ад звычайных людзей. А вось зараз я падумала, што калі б на ягоным месцы быў Ван Ляньшэн, я б аклікнула яго двойчы. І ўсё было б інакш.

Калі я тры месяцы таму убачыла тую хмару, будынак раптам падаўся мне такім велічэзным, а людзі побач з ім такімі маленькімі, што ногі ў мяне адразу ж падкасіліся, і мне захацелася аклікнуць свайго экс-бойфрэнда. Але гэтым разам розніца была ў тым, што Ван Ляньшэн, магчыма, і ёсць тая хмара, якая праходзіць міма над маёй галавой.

І мне вельмі не хацелася, каб хмара гэтая раскалолася аб верхавіну будынка і ператварылася ў туман, які не пакіне пасля сябе ні ценю, ні слядоў.

**7**

Усё ж паступова я больш і больш даведвалася пра Ван Ляньшэна. Напалову рэальнасць, напалову фантазія. Часам, калі я сядзела ў сваім крэсле з чорнай скуры ў офісе, перад вачыма ў мяне ўсплываў букет свежых руж. Альбо, калі Біл уваходзіў да мяне ў кабінет і раіўся са мной аб чарговым звальненні высокапастаўленага работніка, ён рабіў рух рукой, на якой быў брыльянтавы пярсцёнак: складваў пяць пальцаў, нібыта лязо нажа.

Гэта быў наш з Білам умоўны знак. Жэст тлумачыў усё, і я па сіле, напрамку, хуткасці і нават ледзь прыкметным нахіле жэста, магла меркаваць аб некаторых канкрэтных рэчах.

Зрабіўшы гэты жэст, Біл звычайна пачынаў гутарыць са мной пра паўсядзённыя справы. Настрой лёгкі і прыязны. І пасля гэтага выходзіў з кабінета. Проста і элегантна.

Сілуэт Біла я часам магла пераблытаць з Ван Ляньшэнам. Аднойчы я ледзь не выкрыкнула: «Ван Ляньшэн!» Яшчэ крышачку і ў мяне сарвалася б з вуснаў ягонае імя. Біл, нібыта адчуўшы, што я хацела яго аклікнуць, павярнуўся і ўважліва паглядзеў на мяне.

— А? — сказаў ён.

Не ведаю, што ў той момант на мяне найшло. Але, без усялякага сумнення, Ван Ляньшэн паранейшаму быў у маіх думках. Вось толькі мая асаблівасць у тым, што я магу дабрацца да галоўнага, ухапіўшыся за самы кончык лёсавызначальнай ніткі. Я лічу, што гэта і ёсць падарунак, які падараваў мне Шанхай: да класічнай усходняй асновы дадаць заходнюю працаздольнасць — і атрымаеш шанхайскую цвёрдасць, супярэчлівасць і ненармальнасць у злучэнні са своеасаблівай жыццёвай мудрасцю.

Я лічу, што Ван Ляньшэн валодаў гэтай дзіўнай мудрасцю. А яшчэ ў яго была нейкая ўтрапёнанястрыманая абаяльнасць. Нібыта белае святло на закінутых могілках у спякотны дзень, ён прымушае твае вочы прыжмурвацца ад болю, і ўсё ж ты, губляючы самавалоданне, не можаш стрымаць цікаўнасць.

Што да таго хлопца, з якім я разышлася тры месяцы таму… Ён меў цесную сувязь з рэальнасцю, гэты шанхайскі «белы каўнерык», які так элегантна пацалаваў мяне на развітанне. Цяпер мне падаецца, што мы з ім вельмі падобныя. Па крайняй меры, з маёй верхняй паловай. Магчыма, ён і не быў на сто працэнтаў нармальным, але знешне ён быў тыповы шанхаец. Шкада, што за час нашых з ім адносін ён так і не змог зразумець, што ж хаваецца за маім офісных крэслам з чорнай скуры. А мне, наадварот, здавалася, што ў нас з ім і не было нічога агульнага, за выключэннем той самай верхняй паловы.

Так, я родам з Шанхая. Але я не люблю знешнюю напускную шанхайскую паказушнасць. Іншымі словамі, я, хоць і сноб, але сама з пагардай стаўлюся да падобнага роду снабізму.

Той раніцай я крышачку паразмаўляла па тэлефоне з Ван Ляньшэнам.

Ён нібыта толькі што падняўся з ложка. А можа, і зусім яшчэ не паднімаўся. Голас Ван Ляньшэна быў лянівым, але настрой неблагім. Па ягонай інтанацыі нельга было распазнаць здзіўленне, нібыта званок мой павінен быў прагучаць яшчэ на світанку.

— Пачакай крыху, — сказаў ён.

Крыху пазней Ван Ляньшэн растлумачыў, што акно расчынілася і ў пакой заляцеў вецер разам з дажджом. Таму яму прыйшлося ўстаць, каб зачыніць акно. Яшчэ Ван Ляньшэн сказаў, што не ведае, калі пачаўся гэты дождж. Вечарам, калі ён вярнуўся дадому, надвор'е было цудоўным, і ніякага дажджу нават не прадбачылася. Тым больш, што пасля таго, як я паехала на таксі, ён не адразу вярнуўся дамоў. А прагуляўся па начным Шанхаі. Зноў зайшоў у рэстаран «Хэпін». А яшчэ…

— Я сеў на тое самае месца, дзе мы сядзелі з табой чатыры гады таму.

У мяне нават сэрца падскочыла. А ўслед за паскораным сэрцабіццем уся мая ніжняя палова прынялася пераможна скакаць ад радасці, так хацелася мне сказаць яму: «На самай справе я вельмі аб табе сумавала».

Але мая верхняя палова не дазволіла. Яна працягвала ставіцца да Ван Ляньшэна з недаверам. У паўсядзённым жыцці верхняя мая палова была чымсьці накшталт болепатольнага сродку і лекаў ад прастуды. Альбо чымсьці падобным. Альбо сеткай з дроту на заднім двары, ці, можа, нават мінай запаволенага дзеяння, а, магчыма, атрутай, якая забівае не адразу. Яшчэ яна магла быць паўднёваамерыканскай атрутнай змяёй. Ці зялёнай раслінай непараўнальнай прыгажосці, у жыццёвых соках якой змяшчаецца смяротная атрута.

Адным словам, Ван Ляньшэну не давярала верхняя мая палова. І не проста не давярала. Каб абараніць мяне ад пакут і трывог, яна, мой доктар і целаахоўнік, пачала дзейнічаць рашуча і непарушна.

— А… ты яшчэ памятаеш? А я ўжо забылася, — амаль натуральна прагаварыла я.

З трубкі данёсся характэрны гук запальніцы. І я нібыта адчула «пах лёгкага тытуню», як любяць казаць гарадскія піжоны. Мой экс-бойфрэнд аддаваў перавагу менавіта такім цыгарэтам. Ён заўсёды звяртаў увагу на марку цыгарэт. На марку запальніцы. На марку кашулі, нават на марку запінак. На разнастайныя маркі. Напрыканцы мне пачало здавацца, што ён сам ператварыўся ў гандлёвую марку. І мяне гэта пачало стамляць. Шанхай не адчувае недахопу ў падобных рэчах, чаго тут сапраўды не хапае — гэта свабоды перамяшчэння і прыгажосці. Калі б мой былы хлопец, апынуўшыся пад той велічэзнай хмарай над «Портман Рытц», кінуўся да мяне і схапіў мяне ў свае абдымкі, нібыта дзікі афрыканскі леў, здаецца, я б змагла зноў у яго закахацца. Вядома ж, гэтага не адбылося, і ніколі ўжо не адбудзецца. Але я не магла ўспомніць, якая ж марка цыгарэт была даспадобы Ван Ляньшэну. Хутчэй за ўсё, гэта былі цыгарэты самых розных марак. Зусім, як тып «Паўднёвая Амерыка».

**8**

Праз тры дні Ван Ляньшэн патэлефанаваў мне і прызначыў спатканне. Ён вельмі проста ўсё растлумачыў. Сказаў, ёсць нейкая справа, якую ён жадаў бы са мной абмеркаваць.

А за гэтыя тры дні здарылася яшчэ штосьці. Для Шанхая, дарэчы, гэта звычайная справа. Кожны дзень мноства белых і рознакаляровых воблакаў і чорных хмар расколваецца над востраканечнымі дахамі вышынных будынкаў. Мноства «паўднёваамерыканскіх тыпаў» з'явілася на вуліцах Нанкіна, Хуайхай і Сян'яна. І ў людзей разбрыліся ў розныя бакі іх верхнія і ніжнія часткі цела. Добраахвотна разбрыліся. Разлучаючы: і проста закаханых, і даўно жанатых. Ды й так, што зноўку ім ужо не наканавана больш злучыцца. Што ж, у вялікім лесе розныя птушкі водзяцца.

Перш за ўсё мой начальнік Біл.

Біл у час аднаго з наведванняў оперы пазнаёміўся з мясцовай шанхайскай дзяўчынай. «Мяне завуць Асань», — сказала яна Білу.

Асань была вельмі прыгожай. У серабрыстай сукенцы з вузкімі плячыма. Стоячы пасярод залітага залатым святлом Вялікага тэатра, яна была падобнай да мініяцюрнай статуэткі са срэбнай руды. Асань не належала да тых, хто абменьваецца пацалункамі і элегантна падае руку ў знак вітання, а яшчэ адразу ж было зразумела, што ў тэатр яна прыйшла адна. Ніякіх знаёмых. Тым не менш, дзяўчына не адчувала сябе тут у адзіноце. Многія з прысутных назіралі за гэтай статуэткай.

А Біл, напэўна, вырашыў правесці разведку запасаў гэтай сярэбранай руды.

Складана сказаць, хто з іх павітаўся першым. Так ці інакш, да таго часу, калі мы ўсё ж заўважылі такое развіццё падзей, Біл ужо накіроўваўся да выхада з Вялікага тэатра, прыабняўшы за левае плячо Асань. Праўда, перад тым як выйсці, Біл не забыўся памахаць нам рукой.

Біл нейкі час жыў у Францыі, і ягонае майстэрства заключалася ў тым, што ён свае паўднёваамерыканскія любоўныя гісторыі сумяшчаў з французскай элегантнасцю. А я, не ўпускаючы зручнага моманту, тым часам ўсміхнулася Білу і кіўнула Асань, якая ішла побач з ім, у знак прывітання.

І ў той жа самы час я трошкі асуджала сябе і нават палічыла сябе крывадушніцай.

А на наступную раніцу Біл увайшоў у мой кабінет. За ім следам — шанхайская прыгажунька Асань. Біл спачатку пахваліў маю сукенку, а потым, паказваючы на Асань, сказаў мне:

— Вось твая новая памочніца.

У мяне нібыта гара з плеч звалілася, але амаль адразу ж я адчула лёгкае расчараванне ў адносінах да Біла. Бо тое, што адбывалася, крыху нагадвала бульварны раман. Гэтага я не разу-

мела. Ды і разумець тут не было чаго. Проста паводзіны Біла здаліся мне нейкімі дзіўнымі. Папершае, ён мяне недастаткова паважае. З-за нейкай там дзяўчыны, з якой ён пазнаёміўся ў Вялікім тэатры, Біл нанёс крыўду свайму самаму каштоўнаму супрацоўніку. Гэта было зусім не ў яго стылі. Па-другое, мне былі незразумелыя сапраўдныя намеры Біла: як можна авангардны эксперыментальны твор змешваць з сімфанічнай музыкай? У рэшце рэшт, Асань — штосьці чужароднае. Фальшывая нота, якая ўносіць дысгармонію. І Білу, па цвярозаму разважанню, трэба было паставіць Асань на нейкі іншы шлях. Шлях, па якому яна павінна ісці сама. Але гэта толькі Біл цалкам у стане выканаць.

Як бы там ні было, я ўсё ж была ветлівай у адносінах да Асань. Я ўвяла яе ў курс спраў і даручыла некалькі заданняў, а затым ужо непрыкметна назірала за ёй.

Зусім не тая катэгорыя жанчын, якія карыстаюцца прыхільнасцю. І хоць Асань нарадзілася ў канцы сямідзясятых, яна валодала спрытам і разважлівасцю не па ўзросту. Яна разумела ўсё літаральна з паўслова, ды і ў працы была даволі кемлівай. Разам з тым, погляд у яе быў «вельмі атрутны». Таму праз нейкіх паўгадзіны я ўжо магла з упэўненасцю сказаць сабе, што ўчора ў Вялікім тэатры Асань першая павіталася з Білам. Гэтая бліскучая статуэтка нетаропка наблізілася да яго і сказала:

— Прывітанне, маё імя — Асань!

Вядома ж, гэтая сцэна мела значэнне з жаночага пункту гледжання. Яна ўжо не проста смазлівая шанхайская прыгажунька. Яна зараз «асістэнтка Асань». І гэта, само па сабе, мела ўжо вялікі сацыяльны сэнс. Асань ужо стала часткай кампаніі, што знаходзіцца ў офісным будынку на вуліцы Хуайхай. Яна ўжо выконвае пэўную грамадскую ролю. Яна ўбачыла акенца з гэтага горада ў знешні свет. І ёй ужо няма неабходнасці жыць на ўтрыманні ў мужчыны.

Яна была вельмі разумнай. Больш таго, колькі ж яшчэ ў гэтым горадзе такіх вось «Асань»!

Раптам у галаве маёй нарадзілася дзіўная думка...

А раптам Асань ужо сустракалася з Ван Ляньшэнам? Раптам яна, гэтак жа міла ўсміхаючыся, падышла да яго і сказала:

— Прывітанне, маё імя — Асань!

Чым больш я думала аб гэтым, тым больш трывожна рабілася ў мяне на душы. Я спрабавала дэталёва ўспомніць усе падрабязнасці нашых сустрэч з Ван Ляньшэнам, уключыла мабільны тэлефон і перавяла яго з рэжыма вібрацыі ў звычайны. Асань увесь гэты час маячыла ў мяне перад вачыма, а потым я паклікала яе і сказала, каб яна пайшла на сустрэчу з адным кліентам.

Калі Асань выйшла, я набрала нумар свайго былога бойфрэнда.

Голас у яго быў нейкім нерашучым. Быццам штосьці здарылася. Прайшло прыкладна пяць хвілін, перш чым ён прызнаўся мне, што ў яго нейкія праблемы. «Не тое, каб надта ўжо сур'ёзныя», — пачаў ён. А потым дадаў, што ён зараз у паліцэйскім участку і яму патрэбен паручыцель. І ён адразу ж падумаў пра мяне.

— Гэта нейкае непаразуменне, — яшчэ раз падкрэсліў мой былы бойфрэнд.

Я паняцця не мела, дзе знаходзіцца гэты паліцэйскі ўчастак. І хоць ён сказаў: «Гэта якраз непадалёку ад вуліцы Хуайхай», — я ўсё роўна нічога не зразумела. Калі я блукала па вуліцах з паперкай у руках, у грудзях у мяне было нейкае нядобрае прадчуванне.

Па словах майго былога сябра, адбылося наступнае: учора ён вячэраў разам са сваімі кліентамі. Яны выпілі. І выпілі крыху больш, чым трэба. Пасля вячэры кліентам захацелася яшчэ трошкі «вострых уражанняў», і ён павёў іх у начны клуб. Там якраз паказвалі стрыптыз-танцы. Валасы ва ўсіх танцоўшчыц былі абясколераныя, і пры святле лямпаў усе яны здаваліся бландынкамі.

У гэтым клубе мой экс-бойфрэнд і яго кліент пасядзелі нейкі час, выпілі яшчэ сем-восем бутэлек піва. І, перакінуўшыся некалькімі фразамі з нейкімі дзеўкамі, перайшлі ў асобныя пакоі.

Мой былы сябар сказаў: ён не ведае аб тым, што ж адбылося пасля. Калі ён апрытомнеў, перад ім стаялі нейкія незнаёмцы. «Мы з паліцэйскага ўчастка», — паведамілі яны. Выразы твараў у іх былі вельмі сур'ёзнымі. Яны паглядзелі на яго з пагардай і сказалі, што яны праводзяць пазапланавую праверку, і яму патрэбна праехаць з імі ў паліцэйскі ўчастак. Карацей, майго экс-бойфрэнда западозрылі ў двух рэчах: наведванне прастытутак і незаконнае захоўванне наркотыкаў.

Мой былы сцвярджаў, што яго несправядліва абвінавацілі. У яго было падазрэнне, што яму падсыпалі штосьці ў піва. Але яму ніхто не паверыў. Таму што ўлікі былі супраць яго, а у кішэнях ягоных штаноў знайшлі слабы наркотык. У суседнім нумары застукалі яшчэ аднаго аматара «прадажнага кахання». Што ж да астатніх кліентаў, іх ужо даўно і след прастыў.

— Мяне несправядліва абвінавачваюць, ламаюць жыццё чалавеку, — казаў мой экс-бойфрэнд.

Я шукала адрас таго паліцэскага ўчастка з паперкай у руках.

Сонца свяціла ярка. На небе не было ні аблачынкі, і можа з-за гэтага яно здавалася такім далёкім. І так шмат людзей на вуліцах і ў будынках. Так шмат ніжніх і верхніх частак цела, анёлаў Чарлі, малышак Біла, закаханых у Біла Асань і проста дзяўчат, што танчаць на пілоне. Усе яны ходзяць па гэтых вуліцах, зусім не заўважаючы і не ведаючы адзін аднаго. Але на тварах у іх адзін і той жа выраз. Абыякавасць. Недаверлівасць. Насцярожанасць. Што яшчэ больш узмацніла маё ўнутранае хваляванне...

Нібыта адзінокі леў, які аглядае свае ўладанні на паўднёваафрыканскай раўніне…

Я раскрыла парасон. Каб пазбегнуць сонечных апёкаў. Сонца зусім не белае. Яно пякучае. Але галава мая была па-ранейшаму яснай. Я старанна прааналізавала здарэнне, якое звалілася на мяне, нібыта снег на галаву. Пакуль што напрошваліся тры высновы.

Па-першае, неабходна выразна адрозніваць верхнюю і ніжнюю паловы. Гэта, вядома ж, зрабіць не так і проста. Бо розніца можа аказацца як істотнай, так і павярхоўнай.

Па-другое, мой былы, магчыма, ніколі і не быў у мяне закаханы. Але, нягледзячы на гэта, штосьці тут было не тое. Бо такую бяду можна раздзяліць толькі з двума тыпамі людзей: з тымі, хто табе вельмі блізкі, альбо з тымі, хто не мае для цябе асаблівага значэння. Зараз я, хутчэй за ўсё, адносілася менавіта да другога тыпу.

І апошняе, пад спякотным сонцам я, нечакана нават для сябе самой, зразумела, што мне вельмі не хапае Ван Ляньшэна. Горад такі вялікі, сонца такое жорсткае. І мне падалося, што пёрыстыя воблакі, якія праплывалі над маёй галавой, — гэта знак ад Ван Ляньшэна.

**9**

Я ўспрыняла ўсур'ёз гэта спатканне з Ван Ляньшэнам.

Хоць ён нічога канкрэтнага па тэлефоне не сказаў, толькі: «Я б жадаў абмеркаваць з табой некаторыя пытанні».

Але я пачала трошкі хвалявацца.

Сказаць па праўдзе, ён рэдка размаўляў са мной у такой манеры. Ён, наогул, пазбягаў усялякай канкрэтыкі ў размовах са мной. Альбо ў прасторы: «сезон дажджоў у Афрыцы», «квартал чырвоных ліхтароў у Фінляндыі», альбо ў часе: «месца, дзе мы з табой сядзелі чатыры гады таму».

У той вечар мы сустракаліся ў рэстаране на набярэжнай. На апошнім паверсе высотнага будынку, так што мы маглі любавацца відам начнога Шанхая. Вядома ж, усё гэта загадзя прадугледзеў Ван Ляньшэн.

— Там больш спакойна, — сказаў ён.

Я была крыху расчараваная. Чамусьці мне думалася, што мы прагуляемся з ім па вуліцы Хэньшань альбо проста пойдзем у рэстаран «Хэпін». Хоць некаторыя і сцвярджаюць, што вуліца Хэньшань занадта прыкрая, поўная няшчырай настальгіі па старому Шанхаю. Але я так не думаю. Я ўжо даўно адношу сябе да дробнай буржуазіі. І ніколі не лічыла гэта чымсьці ганебным і абразлівым. Фінансава незалежная жанчына, для якой не важныя меркаванні мужчын, — такі імідж не з самых горшых. Я лічу, што чалавек павінен цвёрда прытрымлівацца нейкіх пэўных прынцыпаў, пажадана, сваіх уласных. Не мае значэння, якіх менавіта. Гэта не сорамна. Што ж тычыцца Ван Ляньшэна, то такая залежнасць ад прынцыпаў мела яшчэ адзін сэнс: мне хацелася праявіць свае лепшыя якасці.

Ван Ляньшэн сядзеў у кутку залы. Спінай да мяне.

Мне раптам падалося, што сёння вечарам святло нейкае асаблівае. У інтэр'еры гэтага рэстарана галоўным чынам прысутнічалі два колеры. Сіні. І яшчэ жоўты. Ярка-сіні. І ярка-жоўты. На Усходзе прынята лічыць, што яны мала суадносяцца адзін з адным. Скажоная раскоша. Гэта крыху спрэчнае меркаванне. Крыху адарванае ад рэчаіснасці.

Толькі я здзівілася не гэтаму.

У той дзень я на панарамным ліфце ўзнялася на верхні ўзровень.

Два афіцыянты выйшлі мне насустрач. На іх былі сінія пінжакі з залацістымі матылямі. Абодва амаль сінхронна ўсміхнуліся мне.

— Вас чакаюць, — сказаў мне ніжэйшы ростам.

Усё было ў парадку. Але мне чамусьці падалося, што штосьці тут не так. Не магу сказаць дакладна, у чым прычына. Але штосьці не так. Будынак занадта высокі? Залішне спакойна тут? Усмешкі афіцыянтаў занадта загадкавыя? Альбо сілуэт Ван Ляньшэна вельмі ўжо адзінокі?

Я часта ўяўляла сабе, як маглі б развівацца тыя ці іншыя падзеі. Да прыкладу, сённяшні дзень мог бы пачацца такім чынам.

Я ў офісе павіталася з Білам. І сказала б яму, што не змагу сёння з ім павячэраць.

— У цябе спатканне? — зірнуў на мяне Біл, хаваючы лёгкую ўсмешку.

У гэты дзень прыйшла ў офіс Асань, і «Паўднёвая Амерыка» быў са мной, вядома ж, надзвычай ветлівым. Ён нават засунуў мне ў сумку чырвоны канверт з грашыма. Ён пачаў часцей заходзіць у мой кабінет. І кожны раз, калі ён прыходзіў, я шукала хоць нейкую нагоду, каб адлучыцца ненадоўга. А вось мая асістэнтка Асань, наадварот, заўсёды заставалася. Асань адказвала за прыгатаванне чаю і падрыхтоўку дакументаў, адным словам, за ўсе справы, якія мне былі не па сілах.

У гэты дзень, калі я папрасіла Біла даць мне адпачынак, ён ні аб чым асабліва не стаў дапытвацца. Ён нават, насуперак сваім прынцыпам, праводзіў мяне ўніз. І памахаў рукой.

Я павярнулася і пайшла. Біл пачаў штосьці казаць мне ўслед, але ў гэты самы момант пачуўся гудок машыны, і я толькі ўбачыла, як ён памахаў мне рукой. Пры святле вячэрняга сонца пярсцёнак Біла адсвечваў белым. Дзіўна, але Біл зноўку зрабіў гэты жэст: склаўшы пяць пальцаў, імітаваў лязо нажа.

Я магла толькі здагадвацца, што хацеў сказаць мне Біл. Магчыма, ён сказаў: «Дзякуй». А можа: «Прыемнага апетыту».

Але мне чамусьці пачулася толькі адно слова : «Гавана».

Мне спатрэбілася больш чым паўгадзіны, каб дабрацца да рэстарана. Для Шанхая гэта нармальна. Прайшоўшы праз вялікую залу, я села ў ліфт. У ліфце былі яшчэ двое. Дзяўчына з серабрыстымі вейкамі і жуйкай у роце. І маўклівы мужчына сярэдніх гадоў з занадта выцягнутым тварам у цёмным касцюме.

У ліфце мы ўсе глядзелі ў розныя бакі, выказваючы гэтым поўную абыякавасць кожнага да сваіх часовых суседзяў. У нейкі момант я ўбачыла ў шкле адлюстраванне дзяўчыны з жуйкай: як жа яна была падобнай да Асань!

А магло адбыцца і вось што.

Я павіталася з Білам у офісе. Узяла таксі і накіравалася ў рэстаран. Усё, здавалася б, так проста. Біл не праводзіў мяне ўніз і нічога мне не сказаў, дакладней, адзіным, што мне падалося, было слова «Гавана». Ён прыйшоў да мяне ў кабінет і, як звычайна, паведаміў аб чарговым пасяджэнні заўтра раніцай. На шчасце, Асань, апранутая ў жоўтую сукенку, таксама прысутнічала.

— Заўтра ў дзевяць, у канферэнц-зале на другім паверсе, — сказаў Біл.

— Добра. У дзевяць, у канферэнц-зале на другім паверсе, — гэтыя словы павінна была сказаць я, але своечасова падаспела Асань.

Сеўшы ў таксі, я загадала шаферу, каб ён ехаў па высокахуткаснай трасе. Ён выглядаў вельмі задаволеным у сваіх белых пальчатках. Але потым дадаў:

— Можа, скароцім шлях?

— Ну, давайце! — адказала я.

Мне падабаецца такая манера. Ёсць справа — гавары. І гавары як мага больш зразумела. Гэта вельмі выразная пазіцыя. Калі пачаў ужо, дык працягвай у тым жа духу.

Не выключаны і такі варыянт развіцця падзей.

На самай справе, у гэты дзень я не бачыла Біла. Я ўсюды яго шукала. У кабінеце, на калідоры, у малым канферэнц-зале, у шкляным павільёне. Усюды шукала, але так і не знайшла.

Біл раптоўна знік. Нібыта загадкавы міраж Паўднёвай Амерыкі.

Але ў гэты час раптам пайшоў дождж. Пачуліся раскаты грому. Я пайшла зачыніць акно, праз якое ў кабінет траплялі дажджавыя пырскі. І тут да мяне данесліся гукі песні. Вельмі знаёмай мне песні:

*З узыходам сонца на мяне напала меланхолія,*
*Слёзы на маіх вачах,*
*Не люблю я такіх пачуццяў,*
*Яны прымушаюць людзей сумаваць.*

У галаве маёй была каша. Я выклікала таксі. Таксіст быў апрануты ў чорную кашулю, на руках — белыя пальчаткі. Выраз твару ў яго быў даволі змрочны, нібыта надвор’е на вуліцы.

Я не магла падумаць, што Ван Ляньшэн будзе чакаць мяне ўнізе. Ды яшчэ і парасон раскрые. Убачыўшы, як я выходжу з машыны, ён нічога не стаў казаць, а проста раскрыў парасон у мяне над галавой.

Позірк у яго быў вільготны.

Але сам Ван Ляньшэн выглядаў вельмі спакойна і упэўнена. Мы прайшлі вялікую залу і селі ў ліфт. Дажджавыя кроплі з металічным гукам стукаліся ў шкло. Усё неба засцілі хмары, свінцова-чорныя, некалькі хмар узнімалася разам з намі наверх.

Мне стала крышачку не па сабе. Я баялася, што хмары гэтыя могуць раскалоцца аб наш ліфт.

У рэстаране гучаў джаз. І ў інтэр’еры прысутнічалі толькі два колеры: цёмна-сіні і цёмна-жоўты. З чатырох бакоў стаялі столікі, а ў цэнтры была невялікая танцпляцоўка. Мы танцавалі з Ван Ляньшэнам. Ён зрабіў жэст, нібыта здымае капялюш, запрашаючы мяне на танец, і адбіў мне лёгкі паклон.

Затым, на танцпляцоўцы, ён спыніўся. Усміхнуўся мне. Выраз яго твару быў незвычайна ласкавым.

— Падыдзі да мяне!

У позірку маім чыталася ледзь прыкметная разгубленасць. Я стаяла на танцпляцоўцы, трымаючы Ван Ляньшэна за руку. І на твары маім быў гэткі ж выраз.

— Падыдзі! — паўтарыў Ван Ляньшэн.

Я заплюшчыла вочы і павольна наблізілася да яго. Танцпляцоўка была прасторнай. Раптам я ўзгадала кнігу, якую чытала вельмі даўно. Адна дзяўчына хацела прасушыць прасціну. Парыў ветру вырваў прасціну ў яе з рук. Цалкам развярнуў. І хоць вочы дзяўчыны амаль нічога не бачылі, яна змагла спакойна вызначыць, што гэта быў за вецер. Затым прасціна падхапіла прыгажуню і панесла яе ўвысь. У неба, поўнае залатых жукоў і цудоўных кветак. Так высока, што і птушкам не даляцець.

Не ведаю, чаму, але калі я выйшла з рэстарана разам з Ван Ляньшэнам, мне падалося, што я таксама аб'елася гэтым «атрутным грыбам». Мая верхняя палова аддзялілася ад ніжняй: верхняя ператварылася ў тую дзяўчыну, а ніжняя — у прасціну.

Ну і няхай! Пэўна, тут мы і спынімся. А зараз дазвольце расказаць, што ж адбылося на самай справе.

У той дзень я ў вызначаны час прыйшла на сустрэчу з Ван Ляньшэнам. Села ў ліфт і ўзнялася наверх. Два афіцыянты сустрэлі мяне ветлівымі ўсмешкамі. Я абышла іх і накіравалася да Ван Ляньшэна, які сядзеў у кутку зала, спінай да мяне.

Ён не спяшаючыся павярнуў галаву.

Іграў джаз. І я ўбачыла, як заварушыліся ягоныя вусны.

— Ты паедзеш са мной у Гавану на наступны год? — запытаўся Ван Ляньшэн.

*Пераклад Анастасіі Чэкулаевай.*

《哈瓦那》

朱文颖

小说写于2002年。描写一个白领的生活与心理特点。女主角是一家化妆品公司大众化妆品部的市场总监。她很有雄心 （“现在是上海滩上的一个白领，并且继承了这个城市的主要特点：小资，虚荣，精明，物质感。以及细微精密的情欲。。。首先是商人，然后才是女人。这是我的原则。”）。四年以前她认识了王莲生。王莲生这个人很独特，特别喜欢旅游，已经去过很多地方。在一封信里女主角问了王莲生，他去过哈瓦那没有。哈瓦那对她好像一种梦想似的存在。王莲生没有回答。还有她的老板比尔，女主角把这类的人叫做“南美洲”。过了一段时间 ，王莲生问她要不要跟他一起去哈瓦那。小说展示内心期望和实际生活的巨大区别。

**А І** 阿乙

# Прарок

Прайшло ўжо два гады, як я не быў на рынку старых кніг у Паньцзяюань[1], а ў гэтую суботу пайшоў туды толькі таму, што сустракаўся з сябрам якраз непадалёку. Я ўжо забыўся, у колькі яны зачыняюцца, а да таго часу, як там апынуўся, убачыў вялізную армію гаспадароў павільёнаў, што пакідалі амаль апусцелы рынак на веларыкшах.

Засмуціўшыся, я адышоў пакурыць да бетонных прыступак каля ўвахода. Калі я ўжо збіраўся зусім пакінуць рынак, побач спыніў свой веласіпед адзін з уладальнікаў павільёнаў. Ён выцягнуў з сумкі звязку паштовых лістоў і панёс іх да кантэйнера са смеццем.

— Ці ёсць што-небудзь цікавае? — нечакана нават для сябе самога запытаўся я.

— Тут толькі чарнавікі, рэзюмэ, рэкамендацыі… — адказаў гаспадар павільёна. — Патрэбна такое Вам?

— Ды не, непатрэбна, — прагаварыў я, але рука сама пацягнулася да звязкі і наўгад выцягнула з яе тоўсты канверт. Я дакладна не ведаў, што менавіта шукаў, але ў глыбіні душы на штосьці патаемна спадзяваўся.

Аказалася, што я выцягнуў заказны ліст, які нават не быў ускрыты. На канверце было напісана:

*г. Пекін, Акадэмія грамадскіх навук КНР*
*Прафесару Юань* Сяофэю (асабіста ў рукі).

Сеўшы ў метро, я ўскрыў ліст і пачаў чытаць.

Спачатку я чытаў дзеля таго толькі, каб прабавіць час, але потым аповед памерам у некалькі дзясяткаў старонак захапіў мяне, а калі я дачытаў, то ўжо сумна ўздыхаў і нават усхліпваў сярод людскога патоку. Я падумаў, за якія заслугі мне даручана такая адказная місія. Але, раз яна мне ўсё ж даручана, я ад першага да апошняга слова перадрукаваў гэты ліст на камп'ютары і зараз выношу на ваша абмеркаванне.

Прафесар Юань, а таксама ўсе, хто будзе чытаць гэта пісьмо!

Прымаючы да ўвагі важнасць таго, аб чым я хачу напісаць, а таксама той факт, што часу ў мяне засталося няшмат, я дазволю сабе апусціць выразы накшталт «даруйце мне маю смеласць», «прабачце, што патрывожыў» і таму падобнае. Пасля доўгіх разважанняў я ўсё ж вырашыў ускласці сваю апошнюю надзею менавіта на Вас, не толькі таму, што Вы чалавек выключнай сціпласці і не палічыце для сябе абразай звяртацца за парадай да людзей, якія знаходзяцца значна ніжэй за Вас па свайму сацыяльнаму альбо маёмаснаму становішчу, але і таму, што я канчаткова расчараваўся ва ўсіх астатніх прадстаўніках навуковай супольнасці. Калісьці, бясконцымі начамі, я думаў, чым жа мы з Вамі падобныя?

Тым, можа, што толькі мы ўдвух нясём у сабе гарачую любоў да людзей, дзе б мы ні знаходзіліся. Мы ўвесь час у пакутлівым пошуку, мы не шкадуем сябе, забываем пра сон і харчаванне, укладваем усю душу, і так да самай смерці, у той час як для другіх усё гэта служыць толькі прыкрыццём, карыстаючыся якім, яны дабіваюцца новых чыноў і пасад, бессаромна пралазячы на арэну славы.

Адзінае, што нас адрознівае, — гэта тое, што Вы вучыліся ва ўніверсітэце, атрымалі ступень кандыдата, а затым і доктара навук, а я кінуў школу і не атрымаў больш аніякай адукацыі. Менавіта таму я ўвесь час жыў у крайняй галечы, а Вы карысталіся вялікай павагай, менавіта таму адукаванасць у Вашым асяроддзі расцэньваецца, як штосьці святое, а ў маім — служыць для іншых людзей толькі прадметам кпінаў і абражальных насмешак.

[1] Рынак Паньцзяюань — раней таксама называўся «Рынкам прывідаў» — вялікі антыкварны рынак у Пекіне, у выхадныя дні колькасць гандляроў там дасягае 10 тысяч, а наведвальнікаў — 70—80 тыс. чалавек (тут і далей заўвагі перакладчыка).

Ніколі не забуду такі выпадак: адзін прафесар, які стажыраваўся ў Амерыцы і лічыў сябе карыфеем антрапалогіі, узяў маё сачыненне і, пачытаўшы яго не больш за палову хвіліны, сказаў: «І што ты жадаеш ад мяне пачуць наконт гэтага?»

У той момант з маіх вачэй гатовы былі пырснуць слёзы, я выразна адчуў, як ён па-мяшчанску аглядае мяне з ног да галавы, ацэньваючы мяне, і позірк знакамітага прафесара нічым не адрозніваўся ад звычайнага жаночага позірку. Ён глядзеў на мае ўскудлачаныя валасы, несамавітае адзенне і нязграбнасць рухаў, і менавіта на аснове ўсяго гэтага і складвалася ягонае ўражанне аб маёй персоне. І гэта было для прафесара куды больш важкім, чым маё сачыненне, якое для мяне было важнейшым за само жыццё.

Я ўзняўся і, паказваючы на сачыненне, спытаўся дрыжачым голасам: «Вы не думаеце, што тое, што я тут напісаў, праўда?». А прафесар з выглядам ільва, якога раптоўна разбудзілі ў час пасляабедзеннага сну, груба адказаў:

— Жадаеш, каб я сказаў усё як ёсць? Калі так, то я скажу: ніколі я не чытаў нічога больш пустога, паскуднага і бессэнсоўнага, чым гэта твая так званая «праўда»!

Я ажно задыхнуўся ад абурэння і адразу ж хацеў пайсці прэч з ягонай кватэры, але памылкова пераблытаў дзверы і апынуўся раптам у ягонай прыбіральні. І тады прафесар, падышоўшы да мяне, паблажліва паляпаў па плячы і сказаў:

— Дзверы там! Ты памыліўся дзвярыма як тут, так і ў жыцці!

Я і сапраўды памыліўся дзвярыма, выбраўшы навучанне ў сярэдняй школе, хоць павінен быў спакойна працаваць у полі, і тады мне не трэба было б уступаць у слоўныя перапалкі з гэтым прафесарам.

Але я ўсё роўна хачу запытацца ў дзевятнаццаці вядучых перыядычных выданняў, у дваццаці шасці бібліятэк, пяцідзесяці чатырох рэктараў і прафесараў, ці скончыў сярэднюю школу і якую, наогул, адукацыю атрымаў праслаўлены матэматык Хуа Логэн[2], аўтар такіх напісаных у складанейшых жыццёвых умовах работ, як «Аддытыўная тэорыя лічбаў», «Уводзіны ў тэорыю лічбаў» і іншых, не менш вядомых? Уільям Шэкспір, які патрапіў у няміласць, і тым не менш выстаяў і стварыў п'есы «Рамэо і Джульета», «Генры IV» і яшчэ 38 выдатных п'ес, Томас Эдысан, які, дзякуючы ўласнаму энтузіязму, вынайшаў тэлеграф, грамафон, перасоўны кінаапарат і яшчэ 1500 іншых, так неабходных людзям рэчаў, Фрыдрых Энгельс, які прайшоў доўгі шлях і зрабіўся, у рэшце рэшт, пралетарскім філосафам, эканамістам, стратэгам, лінгвістам, літаратарам, гісторыкам і натуралістам — хто з іх скончыў сярэднюю школу? Эдысан нават пачатковую не скончыў. Якія адносіны мае ісціна да адукацыі? Ці мае адносіны да адукацыі невычэрпная глыбіня інтэлектуальнага пошуку?

Можа, для таго, каб з'есці талерку лапшы, таксама патрэбна пасведчанне аб заканчэнні школы?

У далейшым, з-за таго, што ў мяне не было адукацыі, некаторыя нават сцвярджалі, што я вар'ят. Сёння я паведамляю гэта Вам у пісьмовай форме, таму толькі, што ахоўнікі Вашага ўніверсітэта заўжды перагароджвалі мне шлях каля ўвахода і, убачыўшы мяне яшчэ здаля, казалі: «Зноўку ён!» І, нават не разбіраючыся, у чым справа, проста выпіхвалі мяне з дзвярэй.

Я неаднаразова пытаўся, чаму яны так са мной абыходзяцца, але іх адказ заўсёды быў аднолькавым.

— Ты не скончыў нават сярэднюю школу, — са смехам паведамлялі мне ахоўнікі, — а лезеш вырашаць філасофскія праблемы! Вядома ж, з галавой у цябе не ўсё ў парадку!

Але яшчэ больш мяне абурыла тое, што якраз у той адказны момант, калі я выводзіў формулу чалавецтва, хліпкія дзверы майго дома расхінуліся, і ўвайшлі тры настаўнікі сярэдняй школы. Яны

[2] Хуа Логэн (1910—1985) — вядомы кітайскі матэматык, які ўнёс вялікі ўклад у распрацоўку тэорыі лічбаў і ў справу развіцця матэматыкі ў КНР. Узначальваў Інстытут матэматыкі пры Акадэміі навук КНР, нягледзячы на тое, што ягоная адукацыя абмяжоўвалася шасці гадамі пачатковай і трыма гадамі сярэдняй школы.

паглядзелі на мяне нейкімі амаль вар'яцкімі позіркамі і з істэрычным смехам заявілі: «Мы спецыяльна праехалі дваццаць кіламетраў, каб паглядзець на гэтага ненармальнага». Настаўнік Юань, Вы бачылі калі-небудзь такое зневажанне і такі здзек? Думаю, што Галілей, Бруно і Капернік, разам узятыя, не зведалі такой ганьбы.

Ад гэтага шэрагу прыніжэнняў здароўе маё рабілася ўсё горшым і горшым. Стан пастаяннай прыгнечанасці, трывогі, самоты, страху і адчаю прывёў да таго, што ў нырках узрасла колькасць кетонаў, якія пачалі трапляць у кроў і прыгнятаць імунную сістэму. Сёння, калі я пішу Вам гэты ліст, у мяне апошняя стадыя рака лёгкіх, я пастаянна задыхаюся, што прымушае мяне пайсці з жыцця дабраахвотна, — з такім дыягназам гэта даволі распаўсюджаная з'ява. Толькі што я зноўку кашляў крывёю і запэцкаў папяровы аркуш, на якім звяртаўся да Вас. Паважаючы Вас, я хацеў наноўку ўсё перапісаць, але, калі шчыра, на гэта няма ўжо ніякіх сіл. Доктар папярэджваў мяне, што мне нельга хвалявацца, але стрымліваць сябе я не магу, ды і неабходнасці ў гэтым больш няма. Як казалі продкі: раніцай пазнаўшы дао[3], вечарам можна і памерці[4]!

Настаўнік Юань, калі я захварэў, я вельмі ўзненавідзеў людзей, але часам адчуваў і пачуццё падзякі. Калі б усё гэта не мучыла мяне ўвесь час, хіба б змог я з такой выразнасцю адчуваць кожнае імгненне? Аргенцінскі пісьменнік Хорхэ Луіс Борхэс[5] казаў: «Таму, хто жыве вечна, невядомыя такія велічныя рэчы, як памінальныя песнапенні».

Менавіта так, і зараз, знаходзячыся зусім побач са смерцю, хіба не апошнім здаецца мне той світанак, які я зараз магу назіраць? Хіба не апошняя тая дарога, па якой я іду? Хіба не апошні той ліст, які я пішу? Але зараз, калі я амаль фізічна адчуваю нябачную прысутнасць смерці побач з сабой, ад суму і жалобы, што перапаўняюць мяне, вочы напаўняюцца слязьмі.

Настаўнік, раней я яшчэ сумняваўся. Калі другія казалі, што я вар'ят, што я займаюся эксгібіцыянізмам, я і сам часам сумняваўся, ці не страціў і на самай справе розум. Я зачыняўся ў доме, здымаў адзенне і хадзіў так перад люстэркам, мне рабілася сорамна, і тады я разумеў, што я не вар'ят, што я проста хачу прысвяціць сябе разважанням. Хіба ж камандарм Чэнь І[6] напярэдадні ўтварэння КНР не быў так заняты вучобай, што абмакваў у туш рысавы праснак і еў яго, не заўважаючы гэтага? Хіба ж матэматык Чэнь Цзінжунь[7], засяродзіўшыся на рашэнні задачы 1+1[8], не наляцеў на дрэва? Архімед, калі над ім занеслі меч, каб забіць яго, усклікнуў: «Дайце мне дарашаць гэтую задачу!». Думаю, і я такі ж самы. Але той зацяжны працэс пошуку прымусіў мяне вагацца. Той высотны будынак, ледзяныя ахоўнікі, перадавыя камп'ютары, рэктары з прафесарамі, якія так упэўнена ўваходзілі ў аўдыторыі і свае кабінеты, — усё гэта стварала вельмі строгі парадак, прыгнятала мяне, прымушала думаць, што я не больш, чым «жаба на дне студні»[9], што колькасць кніг, якія я прачытаў, мізэрная, што колькасць заняткаў, якія я ў свой час наведаў, смеху вартая, што тую тэорыю, якую я стварыў неймавернымі намаганнямі, магчыма, ужо даўно стварыў хтосьці яшчэ.

Я раптам пачаў баяцца сябе, сваіх думак, я нават вырашыў спаліць гэтыя некалькі старонак, хоць больш за ўсё мне хацелася спаліць самога сябе. Некалі ў нас на заводзе працаваў малады рабочы, які самастойна даказаў нейкую тэарэму. Калі ж ён прыйшоў у інстытут і расказаў аб гэтым, прафесары паказалі яму падручнік для сярэдняй школы і паведамілі, што Эўклід ужо даказаў гэтую тэарэму дзве тысячы гадоў таму. Гэта быў для маладога рабочага як удар грому, і ад сораму ён скончыў жыццё самагубствам. Думаю, што мы з ім браты па няшчасцю.

[3] Дао — «шлях», фундаментальнае паняцце даоскай і канфуцыянскай філасофіі.
[4] Цытата з «Луньюй», кнігі афарызмаў Канфуцыя.
[5] Хорхэ Луіс Борхэс (1899—1986) — аргенцінскі пісьменнік, празаік і паэт. У ягоных творах сустракаюцца матывы лабірынта, люстэрка і свету, што трактуецца аўтарам як бясконцая кніга.
[6] Чэнь І (1901—1972) — кітайскі ваенны і палітычны дзеяч, камандзір 2-й Палявой арміі Народна-вызваленчай арміі Кітая (1948—1949), першы мэр Шанхая, міністр замежных спраў КНР (1058—1972).
[7] Чэнь Цзінжунь (1933—1996) — вядомы кітайскі матэматык.
[8] Праблема Гольбаха — адна са старэйшых, але да гэтага часу так і не вырашаных праблем матэматыкі.
[9] Так кажуць аб абмежаваным чалавеку.

Быў час, калі я навучыўся насміхацца з сябе. Калі знаёмыя ішлі з матыкамі з палёў, яны, смеючыся, называлі мяне «філосафам», «Марксам», і я смяяўся разам з імі. «Які я Маркс, я, хутчэй, Хрукс»[10]. Я выявіў, што насмешка з сябе служыць трывалым шчытом: так мяне нельга параніць, што ратавала мяне ад многіх трывог. Я ўвайшоў у смак, пачаў атрымліваць ад гэтага задавальненне, але, у рэшце рэшт, аднойчы ноччу сказаў сабе: «Ты ўсяго толькі селянін!» — і тут мяне ахапіла вялікая самота. Я падумаў: насмешка з сябе — гэта ў большасці выпадкаў толькі сродак абароны ў адносінах паміж людзьмі, яна з самага пачатку ненатуральная, а я, паводзячы сябе такім чынам, нібыта сам сабе адсякаю галаву, разам з іншымі людзьмі знарок разбураю сваё пачуццё годнасці. Таму я напісаў на сцяне:

«Я магу дзеля гэтага памерці!»

Я папярэджваў сябе: узровень адукацыі не звязаны з ісцінай — тут неабходна набрацца смеласці і займець свой погляд на такія звычайныя, здавалася б, рэчы. Вар'яцтва таксама ніяк не звязана з ісцінай: тэорыя немца Фрыдрыха Вільгельма Ніцшэ гэтак жа, як і мая, з'яўляецца вяршалінай думкі ў вобласці філасофіі смерці Бога.

Мне пашчасціла нарадзіцца філосафам, прыняць усе цяжкасці і горыч, прызначаныя для філосафаў. Калі я — сын Духа, то павінен несці свой крыж, калі я не наведаю пекла, то хто гэта зробіць?

Настаўнік Юань, напэўна, у той год, калі Вас, як і ўсю адукаваную моладзь, адправілі працаваць на ферму[11], напэўна, Вы таксама давалі сусвету такую клятву. Я добра памятаю верш, які Вы напісалі: «Людзі! Не кажыце, што я бедны і нязнатны! Цяжкі рукапіс, што ляжыць перада мной, — самае вялікае багацце ў маім жыцці!» Гэтыя словы мне варта прыняць як наказ, хіба ж такая клятва не дапаможа нам адарвацца ад будзённасці, увайсці ў раку філасофіі Сакрата, Платона, Дэкарта, Ніцшэ, Гегеля? Зараз я хачу стаць пахавальным каменем гэтай філасофіі, хачу смерцю сваёй узламаць цяжкія заслоны на вачах людзей, расказаць аб паходжанні іх продкаў і аб шляху у будучыню. Тыя рэдактары і прафесары сваёй пагардлівасцю загарадзілі шлях ісціне, і зараз гэтая задача ўскладаецца на Вас, настаўнік Юань. Я заўсёды Вас паважаў, але баяўся перадаць Вам рукапіс, а зараз вырашыў поўнасцю перадаць яго Вам, гэтак жа, як маладзенькая дзяўчына дорыць сваю чысціню і цнатлівасць. Вы поўнасцю для гэтага падыходзіце дзякуючы Вашаму прафесійнаму і маральнаму ўзроўню. Вы — адзіны разважлівы чалавек, якому можна даверыцца. Вы вельмі здзівіцеся і ўзрадуецеся, калі я перавярну ўсю сістэму філасофіі, гэта выкліча ў Вас адабрэнне і захапленне. Вы адразу ж патэлефануеце мне, а потым сядзеце на цягнік і прыедзеце да мяне.

Вы так і зробіце. Калі я зараз спыніўся і перачытаў гэты ліст, я адчуў, нібыта я — гэта Вы! Я адчуў Вашу радасць, і таму мне таксама стала радасна. Ахуты цеплынёй гэтай радасці, я падумаў: няхай нават людзі так і не даведаюцца, хто быў аўтарам ідэі, галоўнае, каб яны ведалі ісціну, гэтага дастаткова. Калі сфармуліраваць коратка, ісціна, якая зробіць кардынальны ўплыў на жыццё людзей, гучыць так: **сутнасць чалавека — гэта вайна**.

Перад тым, як працягнуць свой аповед, я хачу крыху расказаць пра сябе. Мяне завуць Джу Цсюшы, сапраўднае імя — Джу Айго. Я нарадзіўся 28 снежня 1967 года ў глухой вёсачцы. Усе мае продкі займаліся земляробствам, і я не быў выключэннем. Калі я скончыў другі клас, бацька забраў мяне са школы, і ў мяне гэта не выклікала тады ніякіх адмоўных эмоцый. Як і ўсе, я ўзяў у рукі матыку і пачаў працаваць у полі, што было для мяне гэтак жа звычна і арганічна, як для птушкі лятаць. У полі і ў садзе я вырошчваў салодкую кукурузу, кітайскія гарбузы, кавуны, валадушку. Мне дапамагала жонка, яна была з забяспечанай сям'і, і ў вачах аднавяскоўцаў наш шлюб быў вельмі ўдалым і заўсёды служыў прадметам іх зайздрасці. Але не ў гэтым была розніца паміж мной і маімі аднавяскоўцамі. Розніца была ў тым, што я любіў чытаць. Я ставіўся да кніг, як людзі звычайна ставяцца да грошай, — з вялікай любоўю.

---

[10] Гульня слоў: першым іерогліфам у кітайскай транскрыпцыі прозвішча Маркс з'яўляецца іерогліф «конь», які ў прымяненні да сябе аўтар замяняе іерогліфам «свіння».

[11] У ходзе «Культурнай рэвалюцыі» ад 10 да 20 млн маладых людзей з вышэйшай адукацыяй былі прымусова адпраўлены ў аддалёныя раёны на «перавыхаванне».

Тое, што я Вам зараз хачу адаслаць, Вы абавязкова зразумееце. Вы зразумееце доўгую гісторыю, новы сэнс і радасць пазнання, якія маюцца ў кожным іерогліфе. Вы зразумееце іх прыгажосць, але мае аднавяскоўцы ўсяго гэтага асэнсаваць былі проста не ў сілах. Усе, нават мой бацька і мая жонка, упэўненыя, што мяне зачаравалі, бо інакш чаму я ўвесь час чытаю: чытаю на хаду, чытаю ў час ежы, чытаю ў прыбіральні. Я прачытаў «Выбраныя творы Мао Дзэдуна», прачытаў «Вытрымкі з часопіса «Чытач», прачытаў «Скарочаны курс латыні», які быў падкладзены пад ножку стала ў сельсавеце. Я прачытаў хрэстаматыю басаногага ўрача[12] і падручнікі для малодшай школы, я быў, нібыта галодны кіт, які прагна заглытвае ўсё, што патрапіць. У рэшце рэшт, я гучна чытаў услых нават інструкцыі да лекаў і рэкламу на слупах электраперадач. І ў той жа час я не губляў галавы. Я разумна і даступна тлумачыў родным і сябрам, што чытанне кніг для мяне — тое ж самае, што для іх гульня ў шахматы альбо карты, што гэта не больш, чым захапленне, праўда, крышачку дарагаватае, але я не збіраюся з-за яго дайсці да галечы і выдаткоўваю на кнігі толькі тыя грошы, якія атрымліваю ад продажу ўраджаю.

Я вельмі добра наладзіў сістэму чытання і працы ў полі, і ніколі не бывала, каб я дзеля кнігі прапусціў працу. Але потым надышоў дзень, калі гэты баланс быў цалкам парушаны.

Гэта быў самы звычайны летні дзень, было амаль спякотна, хоць сыпаў з неба дробны дожджык. Але калі сёння я ўзгадваю гэты дзень, я адчуваю ягонае незвычайнае значэнне, якое пераўзыходзіць па важнасці дзень заснавання дзяржавы, дзень узброенага паўстання. Магчыма, па сваёй значнасці дзень гэты можна параўнаць хіба што з днём утварэння зямлі і неба.

У той момант рыс ужо амаль выспеў, і я пачаў яго збіраць, але зразумеў, што для збору яшчэ залішне рана. Таму я вярнуўся дадому, паеў, прылёг на ложак адпачыць… і неяк само сабой атрымалася, што мы з жонкай уступілі ў інтымную сувязь. А потым, яшчэ не скончыўшы нават тое, чым у падобным выпадку павінен завяршацца гэты працэс, мы амаль адначасова адсунуліся і ляглі кожны на сваю палову ложка. Вось у якіх банальных і будзённых абставінах адбыўся выключна важны гістарычны момант, і нечаканая думка, нібыта гарачы скакун, праімчалася праз маю прыгнечаную абставінамі свядомасць.

— Ты гэтага жадала? — запытаўся я ў жонкі.

— Не, — адказала жонка.

— І я не жадаў.

І тут мяне ахапіла нейкая незразумелая ліхаманка, бо **калі абодва чалавекі не жадалі фізічнай блізкасці, чаму яны ўсё ж у яе ўступілі?**

Ведаеце, аснова філасофіі якраз у тым і заключаецца, што мы задаём пытанні. Першапачатковыя пытанні вызначаюць усё, уключаючы вырашальныя напрамкі філасофскіх сістэм, — такія, да прыкладу, як: «хто я?», «што такое Сусвет?», «чаму паміж плюсам і мінусам ёсць нуль?» Хоць маё пытанне, адрасаванае жонцы, было вельмі вульгарным, але ў выніку менавіта яно прывяло мяне да таго катастрафічнага стану, у якім я па сённяшні дзень і знаходжуся. І сапраўды, калі абодва чалавекі не жадалі фізічнай блізкасці, чаму яны ўсё ж у яе ўступілі?

Я ўзняўся з ложка, сутаргава спрабуючы знайсці адказ, але марнымі былі ўсе мае намаганні, знайсці адказ я так і не змог. Гэта тое ж самае, быццам няўцямна прыпамінаеш чалавека, але не можаш узгадаць ягонае імя, і ты, нібыта асёл, які ходзіць па крузе, спрабуеш выцягнуць успаміны з рэчаіснасці, якая цябе акружае, але, у рэшце рэшт, выбіваешся з сіл і здаешся. Бог адвярнуўся ад цябе, адвярнуўся, пакінуўшы цябе з ранай, якая працягвае крываточыць.

Я нават жонку сваю пачаў умольваць, прасіць, каб яна дала мне адказ:

— Ну, чаму?! Скажы мне, чаму?

Мая неадукаваная абмежаваная жонка, якая нават самую сябе не ведала, са страхам матлянула галавой і сказала: «Не ведаю!»

[12] Урач, якога спешна падрыхтавалі з сялян у час «культурнай рэвалюцыі».

Тады я пачаў на яе крычаць і зноўку пытацца, яна ж, заплакаўшы, выбегла з дома, спрабуючы схавацца ад гэтых няпростых пытанняў у сваім абмежаваным маленькім свеце. Я пабег за ёй, усё яшчэ спрабуючы атрымаць адказ на сваё пытанне, я пытаўся аб гэтым ва ўсіх, каго сустракаў: і ў маленькіх дзетак, і ў старых. У выніку ўсе яны збеглі ад мяне з такой хуткасцю, нібыта ўбачылі перад сабой прывід. Менавіта з таго дня ўсе пачалі лічыць мяне вар'ятам. Адкуль ім было ведаць, што менавіта з гэтага дня я ад пазнання свету перайшоў у свет пазнання сябе самога. Звар'яцеў не я, гэта яны ўсе з'ехалі з глузду. Сляпыя, нібыта жывёлы, падпарадкоўваючыся не розуму, а інстынктам, яны зганьбілі імя чалавека, поўнае высакароднасці. Адкуль ім было ведаць, што я, падобна Канфуцыю, Шак'ямуні, Сакрату, з дзіцячай чысцінёй выконваў вялікую місію пошуку сэнсу жыцця ўсяго чалавецтва!

Я крычаў ім: «Якія ж вы дурныя!» Рашуча адмовіўшыся ад сну і ежы, працы ў полі, ад сяброў і родных, ад усяго паўсядзённага жыцця, я пачаў ператварацца ў адзінокага шукальніка ісціны. Як і ўсе мудрацы старажытнасці, я ў хуткім часе пачаў адчуваць яшчэ большыя пакуты. Тое першапачатковае пытанне разрасталася, нібыта грыбок, і, у рэшце рэшт, запоўніла сабой усю маю свядомасць:

— Калі я дакладна ведаў, што рыс яшчэ недаспеў, чаму я пайшоў яго збіраць?

— Калі дзіцяці не даецца вучоба, чаму яго ўсё роўна адпраўляюць у школу?

— Калі дарослыя не жадаюць гуляць у мацзян, чаму яны ўсё роўна сядаюць гуляць?

— Калі высвятляецца, што тая ці іншая справа не мае сэнсу, чаму людзі ўсё роўна яе робяць?

Сёння я магу з лёгкасцю адказаць на гэтыя пытанні, але тады мне было так цяжка, што хацелася біцца аб сценку, у маёй галаве нібыта штосьці заклініла, нібыта штосці пастаянна стукала — тук-тук… і гук гэты нібыта смяяўся з мяне. І хоць ты дакладна ведаеш, што адказу не будзе, чаму ўсё роўна думаеш аб гэтым? Я нібыта патрапіў у нейкі страшэнны лабірынт.

Нарэшце я, проста каб выканаць задачу, з вялікай цяжкасцю прыйшоў да такой высновы: **дзеля таго толькі, каб прамарнаваць час**, — але амаль адразу ж я адмовіўся ад гэтай высновы. Я добра ведаў, што паняцце часу непарыўна звязана з паняццам «цаніць», што гэта паняцце часта апісваюць, як зайца, які прамільгнуў перад намі. Час хуткаплынны, час ляціць, нібыта страла, час — грошы, час не чакае, трэба цаніць кожную секунду, дзесяць гадоў праляцелі, як адно імгненне, — у такім выпадку, якое права маюць людзі марнаваць час!

У 1988 годзе ў выдавецтве «Шанхай вэньхуа» выйшла кніга Лоранса Дж. Пітэра «Рух наверх». У ёй была адна фраза, якая стала для мяне глытком паветра, натхніла мяне, я не мог стрымацца, каб не выкрыкнуць небу словы ўдзячнасці. Гэтая фраза гучыць так: «Калі вы вагаецеся ў чым-небудзь, не можаце прыняць рашэнне, не перашкодзіць задаць сабе вечнае пытанне: а колькі яшчэ засталося жыць?»

І сапраўды, колькі яшчэ мне засталося жыць? Я не вытрымаў і сеў за падлікі. Калі ўзяць сярэднюю па свеце працягласць жыцця, атрымліваецца 66 гадоў. Калі выкрэсліць адсюль 6 гадоў ранняга дзяцінства, застаецца 60 гадоў; калі не ўлічваць яшчэ 6 гадоў пенсіённага ўзросту, застаецца 54 гады; трэба яшчэ адняць 12 гадоў на атрыманне адукацыі, застаецца 42 гады; без уліку той трэцяй часткі, якая прыходзіцца на сон, маем 28 гадоў; з 28 гадоў адкідваем адну пятую на прыняцце ежы, засталося 24,5 гадоў. Калі ж яшчэ адкінуць той час, які мы праводзім у транспарце, прыбіральні, бальніцы, то застаецца ўсяго толькі 20 гадоў, і гэта без выключэння тых ці іншых нечаканасцей, якія так часта падпільноўваюць нас у жыцці.

А што можна зрабіць за 20 гадоў? Гэтага часу недастаткова нават для таго, каб вырасла дрэва гінкго[13], каб прапаўзла 20 кіламетраў чорная чарапаха, каб аўтары напісалі «Энцыклапедыю Вялікабрытаніі». Цяжарнасць маёй няшчаснай жонкі забрала 9 месяцаў яе жыцця. І наогул, у нашым жыцці, калі пасля заканчэння цяжкай вучобы нікуды не ўладкуешся, то можна апускаць за-

[13] Голанасенная рэліктавая расліна, якую часта называюць жывым выкапнем, уключае ў сябе адзіны сучасны від: гінкго двухлопасцевы. Адварное альбо прасмажанае насенне гінкго з даўніх часоў ужываюць у ежу ў двух невялікіх раёнах Кітая (адзінае месца, дзе расце дзікая форма гінкго) і выкарыстоўваюць у кітайскай медыцыне.

слону. Дык хіба ж у нас няма падстаў надзяляць сэнсам кожны наш учынак? Хіба мы займаемся любоўю не дзеля працягу рода? Асвойваем рысавыя палі хіба ж не дзеля атрымання ўраджаю? Чытаем хіба не дзеля атрымання ведаў? Гуляем у мацзян хіба ж не дзеля таго, каб адпачыць пасля працы? Ленін казаў: той, хто не ўмее адпачываць, не ўмее і працаваць.

Так я пярэчыў сабе, але вельмі хутка адчуў уласную няшчырасць, бо ў той дзень займаўся любоўю не дзеля нараджэння дзяцей, у той дзень я хадзіў на поле не дзеля атрымання ўраджаю. Ды і людзі гуляюць у мацзян не дзеля узнаўлення сіл, у сялян фізічная праца інтэнсіўная, але займае не вельмі доўгі перыяд, так што часу для адпачынку ў іх дастаткова.

Нібыта звер, які патрапіў у пастку, я ўступіў у новы круг болю, які быў яшчэ больш моцным, чым той, ранейшы, калі я атрымаў усё ж свой шматпакутны адказ. Я не мог заснуць, я папярэджваў сябе, што, калі не адпачну дастаткова, то ўвесь наступны дзень будзе для мяне згублены, таму, дзеля таго, каб заснуць, я выкарыстаў метад падліку арабскіх лічбаў. Калі я пачаў лічыць, думкі ў мяне перамяшаліся, я вырашыў пачаць спачатку пасля таго, як праб’е насценны гадзіннік, гадзіннік прабіў адзін раз, я пачаў лічыць «адзін, два…» і так па парадку. Калі я далічыў да 2000, раптоўна ў маім мазгу бліснуў барвова-чырвоны экран, на якім былі напісаныя — не ведаю кім, Богам альбо мною самім, — два словы: **вялікі час**.

Я не рашыўся паверыць, паглядзеў яшчэ раз. Гэтыя два словы ўсё яшчэ былі там, памыліцца я не мог. Я быў гэтак жа ўзрушаны, як, калі б мужчына, які заўсёды думаў, што ён мужчына, выявіў раптам, што ён — жанчына. Слёзы павольна сцякалі па майму твару, я нібыта скамянеў, я адчуваў, як кроплі дажджу ў маім сэрцы ператвараюцца ў крыніцу, потым у ручай, у рачулку, у вялізную раку, і, у рэшце рэшт, ператварыліся ў бязмежнае мора. Калі ўзняліся велічэзныя хвалі і я пачаў у іх тануць, я хуценька ўскочыў, схапіў ручку і пачаў з шалёнай хуткасцю пісаць. Напэўна, я ціснуў на ручку занадта моцна, ручка зламалася, я адразу ж схапіў другую. Яна — то пісала, то не пісала, увесь час прыходзілася яе трэсці, туш пры гэтым пырскала і пэцкала ўсё вакол. З цяжкасцю напісаў некалькі радкоў, а потым ручка зноўку перастала пісаць. Я пачаў мачаць яе проста ў шклянку, дзе была туш, я мачаў і мачаў, але нібыта штосьці перашкаджала мне перадаць тое, што адкрыла боская звышсвядомасць, тады я выліў туш на стол і мачаў у туш проста са стала. Настаўнік Юань, я нават зараз памятаю тое пачуццё вялізнай радасці, якое адчуў тады, тая радасць прымусіла мяне забыцца пра ўсе плоцкія асалоды, пра смачную ежу, прымусіла мяне выйсці з усіх рамак, думаю, з ёй нельга параўнаць нават самы моцны наркотык, думаю, што пасля яе сапраўды варта было б і памерці. Калі я напісаў апошні іерогліф, то адчуванне было, нібыта ў жанчыны, якая толькі што нарадзіла. Я расплакаўся і плакаў да самай раніцы.

Зараз я раскажу Вам, што ж такое я тады выявіў. Якім жа я быў дурным, пакуль не ўбачыў поглядам Бога, што такое час! І тады ўсю даўжыню свайго жыцця я ўявіў у выглядзе торта, тут ад яго адразаюць вялікі кавалак, там адразаюць маленькі, пры гэтым адзін кавалак торта роўны году, некалькім гадам альбо дзесяцігоддзям. Які ж я абжора, як я ўсё растранжырыў! Я чуў той ноччу свой голас: жыццё сапраўды падобнае да торта, а цела чалавека ўсё роўна што мураш. Калі адзінкай даўжыні жыцця лічыць адну секунду, і за секунду мы адкусваем кавалачак торта, а ў адной хвіліне — 60 секунд, у адным дні — 24 гадзіны, у адным годзе — 365 дзён, а жыццё доўжыцца 66 гадоў, колькі ж гэта атрымліваецца секунд?

2 081 376 000 секунд, на калькулятары гэтая лічба нават выйшла за рамкі тых значэнняў, якія там можна падлічыць. Калі ж мы можам усё гэта з’есці? Хто за нас пражыве гэтыя доўгія 2 081 376 000 секунд? А калі разлічваць у хвілінах, гадзінах, днях, то колькі табе трэба пражыць хвілін, колькі гадзін і колькі дзён?

Спаць? Не будзеш жа цэлымі днямі спаць.

Працаваць? Не будзеш жа цэлымі днямі працаваць.

Але калі ты не будзеш нічым заняты, секунды пачнуць, нібыта мікробы, множыцца з катастрафічнай хуткасцю, будуць станавіцца ў чаргу, каб упівацца ў цябе вострымі джаламі. Калі ты поўнасцю паралізаваны і за адну гадзіну табе прыдзецца бездапаможна глядзець у столь 3600

разоў, за дзве гадзіны — 7200 разоў, за дзень — 86 400 разоў, тады ты зможаш вытрымаць гэтае бясконцае катаванне? Тады ты будзеш патрабаваць бессмяротнасці? Але калі рукі-ногі ў цябе працуюць і са здароўем усё ў парадку, тады твае бедныя ногі будуць насіць цябе па свеце, каб ты змог збегчы ад той вялізнай пустэчы, таму, нават калі табе не хочацца інтымнай блізкасці, усё роўна будзеш у яе ўступаць; нават калі не хочацца вучыцца, усё роўна будзеш вучыцца; нават калі не хочацца гуляць у мацзян, усё роўна будзеш удзельнічаць у партыі. І тваёй адзінай мэтай будзе *забіць час*.

Менавіта так, забіць час, першапачаткова я таксама прыйшоў якраз да гэтага адказу. Але ў першы раз, калі я гэта зразумеў, гэта было «тое, што я бачу, як гару, і ёсць гара», а на гэты раз было так: «тое, што я бачу, як гару, не ёсць гара»[14] — спіраль філасофіі зрабіла віток. Настаўнік Юань, не хвалюйцеся, справа на гэтым не скончылася, у наступныя дні ў маіх думках быў яшчэ большы прарыў, і гэты прарыў, як я казаў, здзейсніць пераварот у свядомасці ўсяго чалавецтва. Я маю на ўвазе наступнае: **чалавек забівае час не толькі тады, калі няма чаго рабіць, чалавек забівае час у любой сітуацыі. Гэты працэс пранізвае ўсё жыццё і ўсю гісторыю, гэта сутнасць чалавека, ягоны першапачатак.**

Гэта разуменне ўзнікла ў выніку трох падзей.

Першая падзея адбылася ў начным кінатэатры, калі там паказвалі фільм Марціна Скарсезе «Таксіст», які быў зняты ў 1976 годзе. Вярнуўшыся з вайны, таксіст Трэвіс купляе зброю, здзяйсняе няўдалую спробу замаху на кандыдата ў прэзідэнты, забівае некалькіх членаў мафіі і, акрамя гэтага, выратоўвае дзяўчынку-прастытутку. Пасля таго, як СМІ падхопліваюць гэтую гісторыю, Трэвіс робіцца героем, але вось я думаю, калі б ён забіў кандыдата ў прэзідэнты, ён зноўку б зрабіўся нікчэмнасцю? Мне раптам прыйшла ў галаву думка, што так званыя высакародныя матывы Трэвіса на самай справе зваліся ўсяго толькі да жадання знайсці хоць нейкі занятак, прычым для яго ўжо не мела значэння, у каго канкрэтна выпускаць кулю.

Можна сказаць, што гэта проста фільм, кавалачак прыдуманага свету, але колькі адбываецца здарэнняў, аб якіх мы даведваемся з газет, і рэпартажы гэтыя сведчаць нам, што такія выпадкі адбываюцца ў рэальным жыцці.

25 мая 2005 года у нейкай правінцыі вучань Z забіў аднакласніцу, і гэта здарэнне прыцягнула да сябе шмат увагі, таму што ніхто не мог высветліць матыў забойства. Гэтае злачынства не змаглі аднесці ні да забойства з-за рэўнасці, ні з-за варожасці, ні з-за грошай альбо яшчэ нейкіх агульнапрынятых прычын.

Няхай нават у гэтай справе былі прыкметы забойства з-за гвалтавання, але пры больш глыбокім даследаванні высветлілася, што гвалтаванне не з'яўлялася галоўнай прычынай забойства. У той час, напэўна, добрая палова кітайскіх сацыёлагаў, псіхолагаў і педагогаў займалася пошукамі адказу на пытанне: што прымусіла падлетка, які вучыўся ў вялікім горадзе і ні ў чым не меў нястачы, зарэзаць аднакласніцу, якая нічога кепскага яму не зрабіла? Вучоныя доўга ламалі галаву і, у рэшце рэшт, вырашылі, што Z знаходзіўся пад моцным уціскам з-за будучых экзаменаў ва ўніверсітэт, але хіба такі вывад пераканаўчы? У справаздачы ясна сказана, што бацькі Z, дзякуючы сувязям, загадзя станоўча вырашылі для яго пытанне з паступленнем ва ўніверсітэт. У свой час я чытаў кожны выпуск штодзённай газеты, якая прыходзіла з цэнтра правінцыі, пастаянна даследаваў усе паказанні і знойдзены дзённік падлетка, якога абвінавачвалі, і, у рэшце рэшт, дакапаўся да палохаючай ісціны: паколькі Z не меў аніякіх праблем у матэрыяльнай сферы, сферы любові, нянавісці, перспектыў на будучыню, ён апынуўся ў суцэльнай пустэчы. І пасля неаднаразовых няўдалых спроб справіцца з сабой Z не знайшоў лепшага сродку для таго, каб зноўку ажыць, адчуць хоць нейкі ціск, чым забіць прыгожую, добрую, маладую дзяўчыну з бліскучымі перспектывамі на будучыню, забіць і стаць злачынцам, за якім гоняцца паліцыя і грамадства.

---

[14] Алюзія на выказванне, што належыць вядомаму майстру чань-будызма Цсіньюаню (VIII ст). «Калі я яшчэ не пачаў вывучаць чань, горы былі гарамі, а рэкі — рэкамі; калі я пачаў вывучаць чань, горы перасталі быць гарамі, а рэкі — рэкамі, калі я спасціг чань, горы зноўку сталі гарамі, а рэкі— рэкамі».

Перад здзяйсненнем злачынства кожная секунда для яго была роўнай гадзіне, усё трэба было распланаваць; пасля бегства гадзіна для яго сціснулася да секунды, нават спаць ён не асмельваўся, ён вымушаны быў, нібыта разбойнік з «Запісак аб разгроме банды Улуншань», спаць з запаленай цыгаркай у руцэ, каб цыгарка, дагарэўшы, апякала пальцы, і, прачнуўшыся, ён мог выпаўзці і працягнуць сваё вар'яцкае бегства. У сваіх марах ён уяўляў, як зможа наталіцца паўнатой жыцця, адчуць самую яго сутнасць, але пасля шматдзённых блуканняў ён, наадварот, адчуў поўнае расчараванне, паколькі наогул не адчуваў гукаў пагоні ў сябе за спінай. Ніхто яго не падазраваў, ніхто не турбаваў, ён казаў незнаёмым людзям «я забіў чалавека» — але твары іх заставаліся нерухомымі. У рэшце рэшт, ён быў да таго змучаны гэтай вялікай пустэчай, што патэлефанаваў аднакласніку і дакладна назваў сваё месцазнаходжанне. Праз некалькі дзён паліцэйскія прыбылі ў парк забаў, які ён назваў, доўга яго шукалі, але так і не знайшлі. І тады ён сам стомлена выйшаў ім насустрач і сказаў: якія ж вы ўсё ж непрафесіянальныя.

Думаю, што ў той момант, калі ён з сумам на іх глядзеў, у глыбіні душы ён хацеў сказаць іншае: сімфонія майго жыцця яшчэ не дасягнула кульмінацыі, а ўжо завершаная, час, які я сканцэнтрыраваў з такой цяжкасцю, зноўку распадаецца, нібыта гнілое мяса, і надзея страчаная назаўсёды. Але ён сказаў толькі: якія ж вы ўсё ж непрафесіянальныя. Ён так жадаў патрапіць пад кулі, жадаў скончыць разам сваё доўгае і зморанае жыццё. Тое ж было і з таксістам Трэвісам: забіўшы вялікую колькасць мафіёзі, ён сядзеў у лужыне крыві, сціснуўшы рукамі скроні, і перарывіста дыхаў. У той момант ён павінен быў вярнуцца ў густыя лясы В'етнама, бо на полі бітвы ў Трэвіса проста не было часу задумвацца над самотай жыцця, а ў Нью-Ёрку ён толькі і рабіў, што развозіў пасажыраў на таксі, і гэта таксі вазіла яго самога па крузе ў кругавароце часу.

Спачатку я думаў, што два гэтыя забойствы — крайнія выпадкі, але аднойчы, калі на мяне ў трэці раз сышло азарэнне, я зразумеў, што гэта даволі распаўсюджаныя і амаль што паўсядзённыя, банальныя нават з'явы. Азарэнне гэта адбылося ў такі ж банальны дзень: было сонечна і амаль спякотна, хоць час ад часу пачынаў пырскаць дробны дождж. Стараючыся не парушаць наказ урача, які забараніў мне займацца разумовай дзейнасцю, я спакойна сядзеў у бальнічным дворыку і адпачываў пад промнямі сонца. Сядзеў я даволі доўга, потым мне захацелася піць, і я пачаў шукаць ваду, але так і не знайшоў. Каб абстрагавацца ад сваёй смагі, я вырашыў паразмаўляць з іншымі хворымі і нечакана нават для сябе самога прамовіў: вось бы пачалася Сусветная вайна. Выказаўшы гэта, я змоўк, ашаломлены: як мог я вымавіць такую бессаромную фразу? Але маю думку астатнія хворыя адразу ж падхапілі:

— Так, вось бы пачалася Сусветная вайна!

— Так, тады б мы змаглі пайсці на вайну!

— Так, тады б нам не прыйшлося сядзець тут!

— Так, тады б нам не прыйшлося сядзець тут і думаць аб гэтым жудасным сонечным святле!

Я слухаў іх бясхітрасныя шчырыя пажаданні, і ў мяне пацяклі слёзы. Я думаў, калі б Трэвіс не быў звычайным чалавекам, то звычайным чалавекам быў Z, калі Z не быў звычайным чалавекам, то я звычайны; калі я незвычайны чалавек, то сярод пятнаццаці хворых абавязкова знайшоўся б хоць адзін звычайны чалавек! Я спытаўся ў сябе: калі б ты паправіўся і табе не прыйшлося б знаходзіцца ў бальніцы, ты б усё роўна пажадаў бы пайсці на вайну? Унутраны голас мне падказваў: усё роўна пажадаў бы! Я пачаў апытваць іншых хворых, і ніхто з іх не адказаў адмоўна! У той момант я нібыта наяве ўбачыў, як Трэвіс і Джао Давэй ідуць да мяне, і на іх аголеных целах шкнары ад бязлітаснага бізуна часу, а на тварах застыў выраз пакутлівага болю чалавецтва. Яны павярнулі галовы і сказалі мне: гэта проста невыносна — і, верныя свайму абавязку, пабрылі далей на плаху часу.

Але ўсё чалавецтва па-ранейшаму жыве у так званым сэнсе жыцця, падманваючы сябе і другіх, думае, што фізічная блізкасць патрэбна для плоцкай асалоды, мастацтва — для раскрыцця духу, вайна — для дасягнення міра, праца — для далейшага развіцця. Але ж хіба людзі не ведаюць, што

фізічная блізкасць бывае і для разбурэння плоці, мастацтва — для разбурэння духу, вайна — для разбурэння міру, а праца — для перашкоды далейшага развіцця! Тыя пазаштатныя работнікі сярэдняга і яшчэ больш сталага ўзросту, якія за мізэрны заробак займаюць пасады асістэнтаў дзяржаўных служачых, хіба ж яны працуюць для далейшага развіцця? Не, яны усяго толькі жадаюць знайсці месца, дзе яны змогуць па графіку забіваць час. Кіраўніцтву і ўсім навокал яны кажуць, што ўладкаваліся сюды дзеля ідэалу. Але па сакрэту яны могуць шчыра прызнаць, што прыйшлі проста таму, што жадалі хоць чымсьці заняцца. Гэта агульная мова, закладзеная ў падсвядомасць усіх людзей, але ўзор паводзін, што выплывае ў кожнага з падсвядомасці, заўсёды адзін і той жа — гэта забойства часу. Ананізм — гэта забойства часу адным чалавекам, спатканне — гэта забойства часу двума людзьмі, любоўны трохкутнік — трыма людзьмі, танец янгэ[15] — тут ужо дзесяць чалавек, уступленне ў Сусветную вайну — удзельнічаюць людзі ўсяго свету, першапачатковая прырода чалавека — забойства[16]. Усе гэтыя прыгожыя, бліскучыя, добрыя, прагрэсіўныя, міласэрныя словы, усе гэтыя словы поўныя сэнсу не больш, чым фігавы лісток, не больш, чым самападман, маскіроўка. Паглядзіце, як гэтыя вайскоўцы лічаць сябе вялікімі, а прымушаюць людзей есці кару дрэў; як усе гэтыя вучоныя лічаць сябе гуманістамі, а прывялі свет да пагрозы ядзернай вайны; як усе гэтыя слабыя людзі з натоўпу лічаць сябе добрымі, але, нібыта наркаманы, збягаюцца паглядзець на што? На любое крывавае відовішча! Гэта відовішча, нібыта кавалак хлеба, на які галодныя накідваюцца ўсе разам. Паеш, і так захочацца, каб уся вуліца, увесь горад, увесь свет быў такім кавалкам хлеба.

Людзі, якія ж вы нізкія; чалавецтва, як жа ты пакутавала, ты, нібыта саламяны сабачка[17], толькі-толькі з'явіўся на свет! А Бог ужо наклаў на цябе закляцце, якое не зняць да канца жыцця! Гэта закляцце — час у 2 081 376 000 секунд, вялікі час. Гэта тая ўзнагарода, якую ўручыў Бог, так званае шчасце, якое ў сапраўднасці скрэблам трэцца па тваёй галаве, па вачах, горлу, мышцах, скуры!

Тут я не магу не схіліць галавы перад шведскім гадзіннікавым майстрам Аўраамам Луі Брэге. Менавіта ён у 1783 годзе вынайшаў гадзіннік, які ператварыў час у ідала відавочнага ўспрымання часу, які стаў інструментам «тысячы надрэзаў», блукаючым скрэблам. І калі ты думаеш, што надышоў твой смяротны час, гэта скрываўленае скрэбла вяртае цябе да пачатку, ты хочаш плакаць, але не можаш, варушыш рукамі і нагамі, але не можаш нават памерці, цябе пакінулі ў вялізнай пустыні, у якой цябе амаль пастаянна пранізвае салёны вецер.

Калі б ты быў звычайнай жывёлінай, ты мог бы адчуць, як у працэсе змены дня і ночы цеплыня змяняецца холадам, ты мог бы быць ракой, абсалютна незалежнай ад ракі часу, але Бог нечакана даў табе свядомасць, дазволіў табе асэнсаваць, што ёсць гэта жыццё, будучае жыццё, гэты год, наступны год, сённяшні дзень, заўтрашні дзень, гэтая секунда, наступная секунда, бясконца вялікая колькасць секунд. Цябе прымушаюць ператварыцца ў вязня секунд, прыняць іх невычарпальнае пакаранне, ты, як Сізіф, коціш угару вялізны камень, а потым глядзіш абыякавым поглядам, як ён зноўку скочваецца ўніз, і вымушаны зноўку спускацца ўслед за ім, спускацца без усялякай надзеі на поспех. Таму ты, як Альберт Камю, разважаеш, ці маецца сэнс пражываць такое жыццё, ставіш у шэраг важнейшых філасофскіх пытанняў пытанне самагубства.

Настаўнік Юань, Вы, напэўна, ведаеце, што па ўзроўню дабрабыту ў сучасным свеце на першым месцы знаходзіцца Еўропа, у Еўропе па ўзроўню дабрабыту першае месца займае Швецыя, можна сказаць, грамадзяне Швецыі ад нараджэння да смерці, ад люлькі да магілы — усё сваё жыццё — знаходзяцца пад апекай дзяржавы. Тады чаму менавіта гэтая краіна адна з першых па колькасці самазабойстваў? Няўжо людзі там робяць гэта з-за галечы і няшчасцяў? Не! Пустэча — вось тое, что падштурхоўвае людзей да бездані!

---

[15] Традыцыйны кітайскі танец.
[16] Алюзія на выказванне Мэндзы: «Першапачатковая прырода чалавека — дабрыня».
[17] У старажытным Кітаі — чучала сабакі для ахвярапрынашэнняў, па заканчэнні якіх чучала выкідвалі.

Калі падвесці вынікі, то два асноўныя дзеянні чалавека: першае — самазабойства, другое — рашэнне ўступіць у паядынак з часам (забойства часу). У працэсе забойства часу можна прыйсці да аднаго з двух вынікаў: альбо 1/∞, альбо ∞/1. Альбо чалавек (1) на нейкі час адольвае (/) час (∞), альбо час (∞) цалкам разбурае чалавека (1). Вынікам першай формулы з'яўляецца напоўненасць, вынікам другой формулы — пустэча. Я думаю, укараненне гэтых простых формул дапаможа людзям прыйсці да разумення таго, у чым заключаецца крыніца чалавечага жыцця, яе асноўная мэта, у чым прычына ходу гісторыі, як ісці па будучаму шляху. Тэорыя Карла Маркса вырашыла праблемы, якія не магло вырашыць капіталістычнае грамадства, але яна не змагла вызваліць усё чалавецтва ў палітычнай і эканамічнай сістэме, пабудаванай па прынцыпе «ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбам», людзі па-ранейшаму знаходзяцца пад ціскам часу (прытым пад яшчэ больш моцным ціскам). І хоць я на сённяшні дзень яшчэ пакуль не знайшоў ідэальны спосаб вырашэння праблемы, але, тым не менш, я ясна паказаў людзям, хто іх сапраўдны вораг.

Я думаю, калі пракалоць Хуньдунь[18], гэта будзе не менш значнай падзеяй, чым тое, як Паньгу[19] стварыў свет, чым тое, як Бог сказаў: хай будзе святло, і ўзнікла святло. Я веру, што гэтая велічэзная іголка, дзякуючы Вашым няспынным намаганням, у рэшце рэшт, зможа пракалоць непаваротлівы мозг людзей, у рэшце рэшт, прымусіць іх, знямогшых у пакутах, пайсці далей разам. Я прадказваю, што тады не будзе мець аніякага значэння, высокі чалавек альбо нізкі, чорны альбо белы, чырвоны альбо жоўты, мужчына альбо жанчына, стары альбо юнак, усе, агульным гуртам, пойдуць яны разам да квітнеючага саду.

У тым садзе, калі яны адчуюць, што пахаладала, яны будуць трымацца разам, каб сагрэцца; калі ім стане самотна, яны будуць разам спяваць песні і танчыць; там кожны дзень будуць вечарынкі, будуць сустрэчы сяброў, кожны дзень праца там будзе ў радасць, кожны дзень можна будзе бесперапынна лузгаць семкі, бесперапынна гуляць у карты, жартаваць і смяяцца. Там нож часу, які накіраваны на асобнага чалавека, зламаецца пад агульным напорам усіх людзей, і тады людзі змогуць па-сапраўднаму стаць гаспадарамі Космасу. Там людзі будуць жыць у шчасці. Настаўнік Юань, я веру, што гэты час надыдзе, і няхай нават мы яго не дачакаемся, але нашыя дзеці і ўнукі ў бліжэйшым будучым абавязкова яго дачакаюцца.

Вось і ўсё, аб чым я хацеў Вам расказаць.
Ваш вучань, Джу Цсюшы.
28 снежня 2007 года.

Дадатак 1.
Чарнавы варыянт распарадку дня чалавецтва.

У будучым, калі чалавецтва вырашыць паставіць сваю працу і адпачынак пад кіраванне адміністрацыйнага камітэта, падпадаць пад прававое рэгуляванне, пры парушэнні якога неабходна прымаць гуманныя прымусовыя меры, для таго, каб абараняцца ад атакі часу.

06:00-06:15 — пад'ём, ранішні туалет
06:15-07:00 — прыгатаванне сняданку
07:00-07:30 — сняданак
07:30-08:00 — паездка ў транспарце
08:00-10:00 — праца
10:00-10:15 — туалет

[18] Першапачатковы хаос — у даасізме першасны стан Сусвету, які не мае ніякай формы, прычына і супрацьлегласць Космасу (юйджоў), як сукупнасць прасторы і часу. Згодна старажытнакітайскай касмагоніі з першапачатковага хаосу нараджаецца ўвесь «свет дзесяці тысяч рэчаў».
[19] У кітайскай міфалогіі першапродак усіх людзей, што з'явіўся з жыватворных сіл Сусвету: інь і ян.

10:15-12:00 — праца
12:00-12:30 — паездка ў транспарце
12:30-13:15 — прыгатаванне абеду
13:15-13:45 — абед
13:45-15:00 — пасляабедзенны сон
15:00-15:30 — паездка ў транспарце
15:30-15:45 — туалет
15:45-18:00 — праца
18:00-19:00 — сумеснае прыгатаванне вячэры
19:00-20:00 — сумесная вячэра
20:00-22:00 — сумесныя мерапрыемствы, гульні, секс
22:00-22:15 — сумесны туалет
22:15-22:45 — паездка ў транспарце
22:45-23:00 — падрыхтоўка да сну
23:00-06:00 — сон
Без выхадных, кожная субота з 15:40 да 18:00 — час сумеснага лячэння.

Дадатак 2.
Паштовы ліст Джу Цзіньянь, дачкі Джу Цсюшы.
Добры дзень, прафесар Юань!
Раніцай 29 снежня 2007 года мой бацька павесіўся, мы знайшлі гэтае пасланне і, па просьбе настаўніка Е, адпраўляем яго Вам па адрасе, які пакінуў мой бацька.
З павагай,
вучаніца пятага класа пачатковай школы Гоюнь Джу Цзіньянь.
1 студзеня 2008 года.

*Пераклад Алены Раманоўскай.*

《先知》

阿乙

这篇小说写于2008年。

作者在潘家园旧书市场偶然碰到一个陌生人的一封信。那是封没拆开的挂号。收信人是中国社科院的一位博士。写信的人把那位博士看做唯一的希望，向他介绍自己，描述内心的痛苦与煎熬。写信的人是农民，从小在田野耕作，没有受过教育，但是很想学习，痴爱看书。他一直在痛苦地寻找生活的真谛：人生最重要的是什么？时间是什么？为什么人做他们不想做的事情？他痛苦地思考，试图回答社会最深刻的问题。他不再做农活了，吓坏了家人，同乡也嘲弄他。在内心煎熬和缺乏周围人了解的双重压力下，他得了肺癌。“人类并不 只是在没事可干的情况下才杀时间，人类在所有情况下都杀时间”。信里附有他拟定的未来社会的日程表，还有他女儿的附笔，写的是她父亲自杀了。

**Фэн Тан** 冯唐

# Дваццаць адно няшчасце Цсі Байшы[1]

## 1

*«У дзяцінстве я часта хварэў. Калі я быў на мяжы жыцця і смерці, бабуля заўсёды малілася. Стоячы на каленях, прыпаўшы галавой да зямлі, яна прасіла багоў, каб хваробы прайшлі».*

*«Аднойчы бабуля дала мне і майму брацiку Чуньсуну званочак на поясе са словамі:*

*— Калі вас вечарамі няма дома, я ўвесь час з трывогай пазіраю на дзверы ў чаканні вашага вяртання, а пачуўшы гук гэтага званочка, я буду ведаць, што вы ўжо блізка, і пачну спакойна займацца вячэрай».*

Бабуля вырасціла майго старэйшага брата, маю старэйшую сястру і мяне. Бабуля куды прыгажэйшая за маю маму, а мама больш прыгожая, чым мая сястра. Памятаю, як бабуля казала, што жанчыны, нібыта кавун, у якога адзін ураджай не падобны на другі: тры першыя пакаленні — мякаць салодкая, а праз тры пакаленні — ужо з горыччу гарбуза. Памятаю, якая спякота стаяла тым летам, калі мне было чатыры гады. Многія старыя тады памерлі, сярод іх была і мая бабуля.

Бабуля мая з манголаў. У яе не было імя, толькі прозвішча, родавае імя Лян. Яна нарадзілася ў горадзе Чыфэн у Манголіі, там, дзе выявілі старажытную культуру Хуншань[2]. Пры раскопках тады знайшлі шмат блакітнага, нібыта неба, і жоўтага, як зямля, посуду з яшмы.

У манголаў шмат багоў. Народ бачыць духаў у магутных сілах прыроды — ветры, аблоках, громе, маланцы, конях, гарах, рэках. Калі ў племені на чыёйсьці галаве паляжыць конь, манголы вераць, што гэты чалавек надзелены нейкай асаблівай місіяй. І сярод яшмавых вырабаў культуры Хуншань маюцца фігуркі ўсіх гэтых духаў.

У бабуліным доме ў Пекіне быў алтар, на якім ляжалі некалькі камянёў, некалькі шматкоў розных тканін і адзін партрэт. Сярод рытуальных рэчаў былі рысавая каша, бутэлька эрготоў[3] і тоненькая духмяная палачка. У дзяцінстве чым я толькі не перахварэў. Не паспее яшчэ ў горадзе пачацца якая-небудзь эпідэмія, як я падхопліваў яе адразу ж і практычна кожны дзень вымушаны быў наведваць дзіцячую бальніцу раёна Фусінмэн у Пекіне. Калі я амаль страчваў прытомнасць з-за ліхарадкі, усё роўна чуў, як бабуля, стоячы перад алтаром, шэпча штосьці па-мангольску. Я неяк спытаўся ў яе, аб чым яна шэпча, і атрымаў такі адказ:

— Вецер, аблокі, гром, маланка, коні, гара, рака. Я кажу тваёй маме, кажу твайму дзядулю, кажу ўсёй вашай сям'і, каб усе яны не здаваліся і змагаліся за цябе, а затым я з'ядаю ўвесь рыс і выпіваю ўсю гарэлку.

Бабуля дала і мне званочак. Яна сказала, што гэта амулет, замок доўгажыхарства. Званочак быў срэбны, з выявамі васьмі нябесных жыхароў[4]. Памятаю, што я адчуў сябе тады падманутым: як можа быць срэбным званочак, калі ён увесь счарнеў?

Бабуля піла мацнейшы эрготоў, а калі была ўжо зусім нямоглай, прасіла сястру схадзіць у краму за гэтай гарэлкай, захапіўшы з сабой бутэльку і мяне. Сястра казала: дарослыя распараджаюцца грашыма, а дзеці — бутэлькамі. Таму менавіта я нёс з крамы гарэлку, а аднойчы я ўпусціў бутэльку ля парога дома, і бабуля моцна пабіла мяне за гэта і нават пакінула без вячэры. Яна сказала, што я павінен засвоіць урок, зразумець праўду жыцця.

---

[1] Цсі Байшы (1 студзеня 1864, Сянтань, Хунань, дынастыя Цын — 16 верасня 1957, Пекін, КНР) — вядомы кітайскі мастак, каліграф і майстра разьбы па каменю. Знакаміты сваімі творамі ў жанрах «кветкі-птушкі» і «травы-насякомыя». Лаўрэат Міжнароднай прэміі Свету (1956). (Тут і далей заўвагі перакладчыка.)

[2] Культура Хуншань — археалагічнай культура неаліту ў паўночна-усходнім Кітаі. Знаходкі адносяцца да V—III тысячагоддзя да н. э.

[3] Гарэлка другога гатунку моцнасцю 60-70 градусаў.

[4] Ба-сянь — восем бессмяротных святых у кітайскай даоскай міфалогіі.

## 2

«Мне 20 гадоў… Я паўгода поўнасцю аддаваў сябе маляванню, узяў у рукі «Слова аб жывапісу з саду з гарчычнае зернейка»[5] і перамаляваў усё, за выключэннем аднаго пашкоджанага тома. Калі пераплёў усе работы, атрымалася шаснаццаць кніг».

*«Бабуля, смеючыся, казала мне:*

*— Ах! Ты сапраўды варты свайго пэндзля, раней я глядзела на гэта настаўленне па жывапісу і думала, што яно занадта складанае, а зараз гляджу на твае малюнкі, і яны мне здаюцца такімі ж складанымі!»*

Калі я быў маленькім, у мяне таксама быў зборнік «Слова аб жывапісу з саду з гарчычнае зернейка», якое мне купілі ў кітайскай кнігарні. І таксама няпоўны: з чатырох раздзелаў не хапала аднаго, у якім гаварылася аб асаблівасцях малявання кветак, птушак, рыб і насякомых. Як толькі я разгарнуў кнігу на самым першым раздзеле, інтарэс адразу ж прапаў, і я са злосцю падумаў: «Як гэтыя старыя ў доўгіх халатах могуць проста стаяць ля ракі і нічога не рабіць? Яны не ловяць рыбу, не плаваюць, нават не тонуць. Не разумею!»

У аднаго суседскага хулігана, на два гады старэйшага за мяне, мелася поўнае выданне рамана «Трохцарства», і я адлюстраваў у малюнках усё, пачынаючы з главы першай «Клятва ў Персікавым садзе» і заканчваючы главой сорак восьмай «Цзінь падпарадкавала тры царствы». Гэты навык спатрэбіўся мне праз дзесяць гадоў, калі я вучыўся на біялагічным факультэце Пекінскага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе трэба было маляваць інфузорыю-туфельку, гідру і ім падобных. Я заўсёды атрымліваў вышэйшы бал за гэтыя работы.

Пасля «Трохцарства» я пачаў маляваць прыроду. У мяне быў свой падыход да творчасці: адна карціна ў дзень, і пакуль самая апошняя кветка на карціне не была закончанай, я нават вячэраць не садзіўся.

Але неяк перад вячэрай брат на поўным сур'ёзе запытаўся ў мяне:

— Ты ведаеш, колькі людзей у Пекіне займаюцца маляваннем? Ты ведаеш, колькі з іх не могуць нават пракарміць сябе? На маю думку, у цябе няма гэтага таленту, так што не малюй. Кветкі застануцца прыгожымі і без твайго ўдзелу.

Брат быў старэйшым за мяне на дзесяць гадоў, і калі ў мяне ў штанах яшчэ нічога не вырасла, ён ужо сустракаўся з адной прыгожай дзяўчынай. У той час у модзе былі Гао Цаньцсянь і Ду Цсю[6]. У майго брата таксама былі бакенбарды і імпартная японская вятроўка чорнага колеру. Ён быў нешматслоўным, таму я, у асноўным, прыслухоўваўся да таго, што казаў мой старэйшы брат.

У суседняга хулігана яшчэ было два чамаданы рыцарскіх раманаў, поўны збор твораў такіх вядомых аўтараў, як Гу Лун, Цзінь Юн, Лян Юйшэн, Чэнь Цсін'юнь, Джутэ Цсін'юнь, Во Луншэн. Ён не даў мне пачытаць аніводнай сваёй кнігі. Але праз нейкі час узяў з дому кухонны нож і навастрыў яго ў форме месячнага сярпа. Потым, захапіўшы з сабой гэтую зброю, хуліган адправіўся на мацярык, а там адразу ж трапіў у крымінальнае асяроддзе. У хуткім часе яго схапілі, і чацвёра паліцэйскіх збілі яго на горкі яблык. А пасля гэты хуліган быў сасланы ў правінцыю Шансі на прымусовыя работы ў вугальных шахтах.

Ягоная маці ўвесь час паўтарала, што я вельмі падобны да яе сына, і таму дазваляла мне прыходзіць да іх і чытаць любыя кнігі з тых двух чамаданаў. Тады, калі мне зручна. За тры месяцы я прачытаў больш за сотню самых жорсткіх і доўгіх раманаў.

Я і сам пачаў пісаць у жанры «уся»[7]. Пісаў дзень і ноч, ствараючы свой свет на паперы, напісаў ажно 30 старонак. На наступны дзень перад сняданкам брат спытаўся:

[5] Класічны твор мастацкай думкі эпохі імператара Кансі. З'яўляецца асноўнай крыніцай ведаў па традыцыйным кітайскім жывапісу. Служыў падручнікам для многіх кітайскіх жывапісцаў.

[6] Гао Цаньцсянь — японскі акцёр, які выконваў у фільме ролю персанажа Ду Цсю.

[7] Рыцарскі раман «уся» — адзін з жанраў кітайскай прозы, сюжэт якога будуецца вакол прыгод майстра ўсходніх адзінаборстваў.


Ілюстрацыя Даны Цюперак.

— Ты ведаеш, колькі людзей у Пекіне пішуць кнігі? Ты ведаеш, колькі з іх не могуць сябе пракарміць? Калі дапусціць нават, што ў цябе ёсць гэты талент, дзе гарантыя, што ты не апынешся ў такой жа сітуацыі? Так што лепш не пішы.

Пасля гэтага я ўсё ж патаемна напісаў адно апавяданне пад назвай «Шчасце» — літаратурны твор памерам у трыццаць тысяч іерогліфаў. Адправіў яго ў часопіс «Літаратура для навучэнцаў сярэдняй школы», але гэты часопіс менавіта ў той жа час і спыніў сваё існаванне. І калі б я не пакінуў у сябе чарнавік, гэты твор мог знікнуць для мяне назаўсёды.

Пазней, у старэйшай школе, я выбраў дакладныя і натуральныя навукі, ва ўніверсітэце вывучаў медыцыну. Толькі пачаў вучыцца, і вось ужо восем гадоў праляцелі за вучобай.

А потым, калі мне споўнілася трыццаць шэсць, я выпусціў пяцітомнік сваіх твораў: чатыры тамы раманаў і адзін том публіцыстычных артыкулаў.

Адзін геній выдавецкай справы кажа, што выдаць кнігу вельмі складана, і многія старыя масцітыя пісьменнікі, дзеля таго, каб іх творы апублікавалі, кожны тыдзень, захапіўшы з сабой махровы ручнік, ідуць і ўчыняюць скандал у Саюзе пісьменнікаў. Навошта ім пры гэтым махровы ручнік? Проста яны спачатку прымаюць ванну, а пасля ўжо вешаюцца.

**3**

*«Мне 60 гадоў... Настаўнік Чэнь толькі што вярнуўся з Японіі. Усе карціны, якія павёз з сабой, ён прадаў, прычым па вельмі добрай цане. Па такой добрай, што ў нашай краіне нават цяжка сабе ўявіць... З таго часу я стаў гандляром карцін, і справы мае ідуць з кожным днём усё лепш і лепш».*

Калі б Цсі Байшы праславіўся ў трыццаць, цяжка сказаць, ці стаў бы ён такім асаблівым. Калі б я ў сямнаццаць напісаў «Шчасце» і праславіўся, змог бы стаць Го Цзінмінам[8].

Я прыкладна ведаў тыраж майго рамана. Стоячы на эскалатары ў кніжнай краме «Сідань», я глядзеў на людзей і думаў, што не жадаю, каб усе яны сталі маімі чытачамі. Яны няшчасныя, ім патрэбны больш лёгкі спосаб забавы і суцяшэння. Калі Бо Цзюйі[9] марыў пісаць так, каб ягоная думка была зразумелая ўсім, я ж хутчэй мару, каб думкі маіх твораў зразумелі лічаныя адзінкі. Мы жывем у грамадстве постмадэрна, дзе нікога нічым не здзівіш, таму маім марам яшчэ цяжэй ператварыцца ў рэальнасць.

[8] Го Цзінмін (нар. 1983) — сучасны кітайскі пісьменнік, лічыцца поп-ідалам новага пакалення кітайцаў.
[9] Бо Цзюйі (772—846) — паэт дынастыі Тан. Жадаў, каб яго творы разумеў просты люд, таму спачатку чытаў іх сваёй няні.

З раніцы, прыводзячы сябе ў парадак, я думаю аб тым, што калі адзін такі Фэн Тан, які працуе з апошніх сіл, цікаўны да ўсяго, тым больш да жанчын, будзе і найдалей, не шкадуючы сябе, штосьці ствараць і толькі ў шэсцьдзесят гадоў праславіцца, будзе пісаць, аж пакуль яму не стукне дзевяноста, і толькі тады памрэ, то гэта адназначная дабрачыннасць у адносінах да кітайскай мовы.

Думаю, калі мне будзе дзевяноста і я застануся без грошай, я ад рукі перапішу ўласны зборнік вершаў, які складаецца з васямнаццаці тамоў, і прадам кожны за дзесяць тысяч юаняў.

**4**

*«Вырэзванне пячатак падобнае на занятак каліграфіяй. Тое, што напісана пэндзлікам, ужо не выправіць. Тое, што выразана нажом, ужо не вернеш. І калі ж людзі зразумеюць, якая гэта тонкая работа? Хіба ж можна выканаць гэтую работу добра, не запэцкаўшы рук?»*

Я прызвычаіўся пісаць так, што кожны раз перад тым, як пачаць новую главу, абавязкова павінен прабегчы вачыма ўсё, што напісаў раней, пачынаючы з самага першага слова. І калі я адчуваю, што нейкія месцы бракуюць, адразу ж іх выкрэсліваю. Калі перапісваю нейкую частку твора, падпарадкоўваюся выключна ўласным жаданням. Як думаю, так і пішу. Менавіта такім чынам і з'явіўся ў мяне ўласны стыль.

Калі напісана самае апошняе слова, зноўку ўсё перачытваю ў апошні раз. Потым выключаю камп'ютар, уздымаюся з месца, азіраюся па баках і адчуваю поўнае задавальненне. А пасля, за выключэннем друкарскіх памылак, не выпраўляю ні адзінага слова, нават калі кніга не будзе карыстацца поспехам, нават калі не змагу паспаборнічаць у гэтым з іншымі пісьменнікамі, нават калі не апярэджу Юй Цсюя[10].

Прыдумаць сюжэт нескладана, і ўсе творцы ў гэтым аднолькавыя. Усім вялікім пісьменнікам дастаткова толькі прыдумаць сюжэт, толькі выкарыстаць свой непаўторны стыль і потым напісаць аб гэтым прыгожа, маляўніча, з пачуццём неабыякавага чалавека. Але тое, што напісана ў юнацкім узросце, выпраўляць нельга. І чаму гэта многія людзі лічаць, што той досвед, які яны назапасілі за некалькі дзясяткаў гадоў, пераўзыходзіць іх тагачасную юнацкую смеласць? Гэта не самаўпэўненасць нават, гэта недасведчанасць. А маюцца і такія, што вераць у вышэйшыя сілы, вераць, што самыя знакамітыя з пісьменнікаў знаходзяцца на самым лепшым месцы, аднак пісьменнік — такі ж інструмент неба, як птушка ў паветры альбо рыбіна ў вадзе.

Хто можа прыгатаваць ялавічыну так, каб яна стала асляцінай? Хто дазволіць півоні расквітнець ружай?

**5**

*«На схіле творчасці прыйшла стомленасць, асабліва слабымі сталі вочы, пісаць карціны і вырэзваць пячаткі засталося толькі для сябе... Не пішу партрэты, не пішу тонкім пэндзлікам, не наношу фарбы, не пішу для іншых людзей, не пішу прымусова... Не гравірую горны крышталь і яшму, не вырэзваю імёнаў на камні, не вырэзваю слоў на пячатках, не вырэзваю імянных пячатак».*

Неяк сустрэў я свайго старэйшага брата. Ён пяць тыдняў не стрыгся і два тыдні не галіўся, у валасах стала бачнай сівізна. Насунуўшы на нос акуляры, якія звычайна носяць старыя, ён сядзеў на канапе і чытаў кнігу, нават выпіць адмовіўся. Мама спыталася:

— Няўжо ты кінуў гэтую чортаву партыю і падаўся ў манахі?

Мой брат адказаў наступнае. Па-першае, брат даў зразумець маме, што ён ужо дастаткова дарослы і не трэба прымушаць яго рабіць якую-небудзь дабрачыннасць, хай гэта будзе паездка у Гуансі[11] для таго, каб рабіць цэмент, ці ў Афганістан, каб распрацоўваць руднікі, альбо нават

[10] Юй Цсюй — вядомы гісторык культуры Кітая, літаратуразнавец, эсэіст, пісьменнік, тэарэтык сучаснага кітайскага мастацтва.
[11] Гуансі-Джуанскі аўтаномны раён, альбо проста Гуансі — аўтаномны раён на поўдні Кітая.

у Егіпет для адраджэння там кітайскамоўнага турызму, размахваючы маленькім сцяжком. А падругое, ён раскрыў мне, Фэн Тану, вочы на маю бліжэйшую будучыню, сказаўшы, што не трэба прымушаць самога сябе. Калі не да канца прачытаў кнігу, не скончыў нейкую справу, ходзіш з цяжарам на сэрцы — гэта роўназначна недапісанаму твору.

У апошні час я пачаў разумець, што з узростам маіх фізічных сіл становіцца менш, а душэўных сіл, наадварот, прыбаўляецца. Калі ўсю ноч гуляеш у мацзян[12] у кампаніі з сямі-васьмі чалавек, то стамляешся так, нібыта гэтыя сем-восем чалавек з табой не размаўлялі, а гвалтавалі цябе. Калі ляціш з Кітая ў Амерыку, з-за розніцы ў часе не можаш падняцца з месца і ўвесь час хочаш на каго-небудзь абаперціся, пачынаеш ненавідзець увесь свет толькі таму, што ён не плоскі.

На вуліцах усё меней прыгожых дзяўчат. Успамінаю тых прыгажунь, ад якіх у мяне слінкі цяклі, але не бачу такіх. Гэта нагадвае мне яшчэ адну сітуацыю. Калі некалькі блізкіх сяброў разам бавяць час, яны робяць гэта без усялякай прычыны, проста могуць балабоніць за ежай і выпіўкай, другімі словамі, «сустрэліся як звычайна, а развітаўшыся, часта адзін аднаго ўспамінаюць».

Акрамя пагоні за бязбедным жыццём і недахопу вольнага часу ў людзях павінна яшчэ заставацца хоць штосьці чалавечае. Калі не хочаш пісаць, то не пішы, усяму можна знайсці тысячы апраўданняў: не пішу, бо ніколі не змагу напісаць так выразна і праўдзіва, як Ба Цзінь, Лао Шэ, Мао Дунь, Юй Цсююй[13], не пішу аб адносінах паміж мужчынам і жанчынай, не пішу аб жаночых захворваннях, не пішу напоўненыя пачуццямі дыялогі, не пішу на вызначаную тэму, не пішу тысячу слоў меней чым за дзве тысячы юаняў, не пішу без папярэдняй дамоўленасці аб ганарары, не пішу, калі ўчора не выспаўся, не пішу, калі ўсхадзіўся гемарой, не пішу, калі рысавы адвар недастаткова густы, не пішу, калі камп'ютар дрэнна працуе, не пішу, калі рэдактар-мужчына не носіць завушніцу ў вуху, а рэдактар-жанчына не носіць бараду, не пішу, калі няма мазгоў і я ў кепскім настроі.

**6**

*«У справе гандлю карцінамі няма месца сяброўству і пачуццю сораму, патрабаваць плату за работу трэба ў адпаведнасці з ганарарам, які загадзя агавораны».*

Вызначыць першынство ў пісьменніцкім майстэрстве куды цяжэй, чым у баявым. Але ж пісьменнік таксама чалавек, часам у яго з'яўляюцца амбіцыі. І калі ён бачыць, як тыраж кнігі ўплывае на ягоны ганарар, ён задумваецца аб тым, чаму ж ягоны раман яшчэ не перакладзены на англійскую мову, на нямецкую, в'етнамскую, нават на «марсіянскую»[14]?

Але гэта толькі хвілінная думка.

*«Есць людзі, якія ведаюць, колькі ў сярэднім каштуе камень, які вырэзваў Цсі Байшы, альбо карціна, якую напісала мая рука. Аднак хто ведае, колькі грошай зарабіў Цсі Байшы за ўсё сваё жыццё? Колькі грошай пакіну я пасля сваёй смерці, і хто гэтыя грошы будзе расходаваць?»*

Яшчэ адна думка, якая проста прамільгнула.

**7**

*«Свет не змяніўся да горшага. Веды, якія ты атрымаў, чытаючы дзесяць гадоў кнігі, падобны шляху ў дзесяць тысяч лі. Ісціна вершаў, якія ты штодзённа і старанна пісаў, знойдзе сваіх паслядоўнікаў».*

Апроч таго, што я пішу, у мяне яшчэ ёсць работа з поўнай занятасцю ў восемдзесят гадзін у тыдзень. Амаль палова ўсіх маіх сняданкаў, абедаў і вячэр адбываецца на борце самалёта. І калі да мяне ў чарговы раз даносіцца пах ежы, якую сцюардэса разаграівае ў мікрахвалёўцы, мне хочацца ванітаваць.

---

[12] Мацзян — гульня ў косці.
[13] Славутыя кітайскія пісьменнікі.
[14] «Марсіянская мова» — знарок скажоная кітайская мова ў інтэрнэце.

Калі да гэтага прызвычаішся, пачынаеш знаходзіць перавагі ў такім стылі жыцця. Часта можна ўбачыць, як людзям, што вядуць жыццё, перанасычанае падзеямі і нібыта нават не зусім натуральнае, цяжка вярнуцца ў звычайнае жыццё нармальнага чалавека, у іх няма ні сіл, ні часу на такія нязначныя рэчы, як сум і самота. Чалавек паспявае заснуць да таго, як у яго забаліць сэрца альбо пацякуць слёзы. Усяму заўсёды знойдзецца прычына. Жаданне пісаць заўсёды куды мацнейшае, чым магчымасць знайсці для гэтага час. Магчыма, пісаць — гэта свайго роду гаротная сузіральнасць[15], і толькі ўдасканальваючы сябе, адчуўшы і зразумеўшы штосьці на ўласным вопыце, можна зразумець свет.

Больш за ўсё мяне турбуе тое, што няма часу на чытанне кніг. Каб напісаць літаратурны твор эпохі сярэдняй альбо позняй Тан[16], эпохі, калі дзяржава квітнела, трэба прыняць і зразумець дзэн-будызм, пераждыць росквіт і заняпад.

Гледзячы на рэліквіі Храма Фамэнь[17] у Сіане[18], чытаючы паэзію Тан сярэдняга і больш позняга часу, я магу ўявіць сабе, што Дуньхуан[19] — гэта сённяшні Шанхай, а Сіань — гэта цяперашні Пекін. Культура эпохі Тан увасобіла ў сабе многія элементы, характэрныя для некітайскіх народаў: дастатак, канкрэтыку, раскошу, дэталёвасць, пажадлівасць, духоўнасць. Але для мяне больш важкая кожная дробязь, мне патрэбны час, каб не проста прачытаць, а літаральна — учытацца ў «Старую гісторыю Тан»[20] і «Гісторыю дзэн-будызма ў Кітаі»[21].

І якое ж у мяне выйсце? Бо час, нібыта вада ў губцы, нібыта мача ў старым мачавым пузыры, нібыта лагчынка на маленькіх грудзях, — як толькі ты на яго націскаеш, ён адразу ж знікае.

**8**

*«У гэтым месцы шмат жанчын лёгкіх паводзін, якія зусім не заслугоўваюць увагі. Я паўсюдна назіраю, з якім глыбокім пачуццём яны ўвіваюцца за прыезджымі. Не размаўляюць з імі, а проста для іх танцуюць і спяваюць. Таму, хто заахвочвае гэткія заганы, словы не патрэбныя. І няхай у гэтых жанчынах няма чароўнасці, яны, без усялякага сумнення, могуць задаволіць кожнага жадаючага».*

Месца, аб якім ідзе гаворка, — Ганконг, а падзеі адбываюцца ў 1909 годзе. У гэтым годзе Цсі Байшы споўнілася сорак пяць гадоў.

Ганконг у той час быў яшчэ маленькім гарадком, пабудаваным на гарах Тайпіншань[22]. На захадзе знаходзіліся англійскія вайсковыя падраздзяленні, а на ўсходзе — маленькі рыбацкі порт. Цсі Байшы, адведаўшы марскіх далікатэсаў і выпіўшы маладога віна, развітаўся з сябрам і пасунуўся па вузкай брусчатай дарозе. Некалькі разоў ён, набраўшы поўны рот сліны, харкнуў на зямлю, горла аж перахоплівала, затое ў сэрцы панаваў поўны спакой. Узняўшы галаву, Цсі Байшы паглядзеў на месяц, які зусім не змяніў сваё аблічча.

**9**

*«1917 год. З-за таго, што на радзіме хаос, я вымушаны хавацца ў сталіцы і прадаваць карціны, каб зарабіць на жыццё. Мая жонка не адмовілася ад цяжкасцей гэтага шляху, і ўсю нямалую адлегласць мы прайшлі разам. Мы зноўку вярнуліся да мінулага, я прашу Баоджу выконваць для мяне самую непрэстыжную і чорную работу… А яна ж яшчэ нарадзіла мне трох сыноў і трох дачок! Мне так пашанцавала з жонкай!»*

---

[15] Тут аналогія з медытацыяй.

[16] Танская дынастыя (618—906) — традыцыйна лічыцца ў Кітаі перыядам найвышэйшай магутнасці краіны, калі яна апярэджвала астатнія, сучасныя ёй краіны, у сваім развіцці. Паэзія гэтай эпохі традыцыйна дзеліцца на чатыры перыяды: пачатковы (618—712 гг.); росквіт (713—765 гг.); сярэдні (766—834 гг.) і позні (835—906 гг.)

[17] Храм Фамэнь — старажытны будыйскі храм. Храм знакаміты тым, што ў ім знаходзяцца чатыры важныя будыйскія рэліквіі, якія маюць адносіны да самога Буды Шак'ямуні (Сідхарта Гаўтама).

[18] Сіань — горад у правінцыі Шэньсі.

[19] Дуньхуан — горад у правінцыі Ганьсу.

[20] Цзю Тан шу «Старая гісторыя Тан» — гісторыя ранняй дынастыі Тан (618—907), адна з 24 дынастычных гісторый, складзеная Лю Сюй у 945 годзе, налічвае ў цэлым 200 тамоў.

[21] «Гісторыя дзэн-будызма ў Кітаі» — літаратурная і гістарычная крыніца, датуецца 1252 годам, складаецца з 20 світкаў.

[22] Тайпіншань — самая высокая кропка вострава Ганконг, уяўляе сабой узвышша з некалькімі вяршынямі. Еўрапейцам вядома як «Пік Вікторыя», мясцовыя жыхары называюць гару проста «Пік».

*«У юнацтве я жыў у галечы, у дзяцінстве быў спачатку пастухом, затым цесляром. Я часта выпраўляўся на працу, не маючы з сабой нават самай сціплай ежы. Я быў надзвычай аддады літаратуры і мастацтву. Я правёў больш за восемдзесят гадоў свайго жыцця, якое падыходзіць ужо да стагоддзя, у занятках імі, у выніку чаго з'явіліся тысячы маіх карцін і вершаў, а таксама больш за тысячу пячатак».*

Не мае значэння, ідзе гаворка аб старым альбо новым грамадстве, такіх жанчын заўсёды было мала, як і дзэн-будыстаў. Іх у Кітаі становіцца ўсё менш і менш. Магчыма, у Японіі альбо Карэі яшчэ засталіся.

Жыццёвая энергія — даволі дзіўная рэч. Калі ў цябе яе шмат і ты, напрыклад, паляўнічы, ты будзеш здабываць больш дзічыны, чым астатнія; калі ты цясляр, будзеш рабіць больш крэслаў, чым астатнія; калі ты фізік, будзеш рашаць ураўненні хутчэй за астатніх; не мае значэння, хто ты па прафесіі, у параўнанні з астатнімі ў цябе заўжды будзе больш жанчын і больш дзяцей.

Цсі Байшы было пяцьдзясят сем, калі ягоная левая рука ўпершыню дакранулася да скуры васямнаццацігадовай Баоджу, а потым правая рука напісала яе партрэт. Ці вялікая гэта розніца ва ўзросце?

Цсі Байшы было восемдзесят восем, калі ён, гледзячы на Сінь Фэнся[23], казаў:

— Няхай я стары, але чаму не магу глядзець на яе? Яна прыгожая ад прыроды.

На гэта Сінь Фэнся яму адказала:

— Па прафесіі я актрыса, а гэта значыць, што я даю людзям на сябе глядзець. Так што глядзі. Глядзі.

Цсі Байшы было дзевяноста тры, калі ён убачыў дваццацідвухгадовую актрысу, ягонае сэрца радавалася, і ён раздумваў аб тым, каб ажаніцца з ёй.

Жыццё жорсткае, і да самай смерці цябе будуць праследаваць жанчыны.

**10**

*«Калі б я толькі мог атрымаць чароўны бізун імператара Цсінь Шыхуандзі[24], я б жадаў прайсціся па мастку ў родным садзе!»*

Мне яшчэ далёка да таго ўзросту, у якім Цсі Байшы напісаў гэтыя радкі, але я пачаў ужо любіць тыя мясціны, у якіх вырас.

Наведванне родных мясцін прыносіць самую вялікую карысць, калі ты знаходзішся ў дэпрэсіі. Тут здаецца, што вуліцы, рынак, дамы, дрэвы, людзі і нават я сам ніколі не змяняліся, заўсёды былі тут. Як быццам не прайшлі гады і яны не старэлі, не хварэлі, не нараджаліся, не паміралі. Як быццам кожны дзень было **сёння**, заўсёды было **зараз**. У пачатковай школе па-ранейшаму чуваць, як вучні чытаюць услых кнігі, на вярбе каля школьнай брамы па-ранейшаму няма аніводнай галінкі, бо ўсе іх абарвалі хлапчукі, на вуліцы старыя па-ранейшаму носяць камізэлькі і гуляюць у шахматы, у цяньку будынкаў па-ранейшаму ўкрываюцца маленькія цырульні — усё гэта ні кропелькі не змянілася. Месца, у якім ты вырас, — гэта самае лепшае месца ў свеце. На мой погляд, Пекін — самы лепшы горад, а бальніца Чуйянлю — лепшае месца ў Пекіне. Калі я выходзіў з бальніцы, месца, якое я больш за ўсё жадаў наведаць, знаходзілася ад яе ў палове гадзіны язды на веласіпедзе. Там я мог гуляць па гарадскому рву, там расце дрэва, з якога бачны Храм Неба, там пачынаецца і заканчваецца транспартнае кальцо. Там жа знаходзіцца Люлічан[25], дзе старажытныя кнігі занялі палову вуліцы. Баюся, што чароўны бізун імператара Цсінь Шыхуандзі — у руках мясцовых

[23] Сінь Фэнся (1927—1988) — актрыса тэатральнай школы Пінцзюй.
[24] Цсінь Шыхуандзі — правіцель царства Цсінь (з 246 г. да н. э.), які паклаў канец доўгай эпохе Ваюючых Царстваў. Да 221 г. да н. э. ён устанавіў сваю ўладу на ўсёй тэрыторыі Унутранага Кітая і ўвайшоў у гісторыю як правіцель першай цэнтралізаванай кітайскай дзяржавы. Паводле кітайскай міфалогіі Цсінь Шыхуандзі валодаў чароўным бізуном, якім мог рассякаць горы і ўтаймоўваць моры.
[25] Люлічан — раён кніжнага гандлю ў Пекіне.

органаў улады. У іх заўсёды было кепска з галавой, сядзяць і прыдумляюць хітрамудрыя планы, і, як толькі ў якога-небудзь месца з'яўляецца гісторыя, яны адразу ж узмахваюць бізуном, каб яго знішчыць. На поўначы ад бальніцы Чуйянлю ўжо наштампавалі бізнес-цэнтраў, а старыя домікі к усходу ад бальніцы ўжо адзін за адным зраўнялі з зямлёй. Кажуць, што старыя стайні, загоны для аленяў і іншыя месцы пасля таго, як яны былі перададзеныя пад упраўленне цэнтральным органам улады, адразу ж зніклі. Напэўна, яны не будуць чакаць, пакуль я дасягну тых гадоў, калі Цсі Байшы сумаваў па родных мясцінах, і ўсё, што звязана з Чуйянлю, канчаткова знікне, а на іх месцы з'явіцца які-небудзь жылы комплекс Міндуньдао[26] альбо парк Йосеміці[27], альбо тут проста пасадзяць еўрапейскія ружы.

**11**

*«Раней на вуліцы Шэкоў[28] зусім нічога не было. Вечарам, калі клаліся спаць, хтосьці стукаў у акно — гэта часцей за ўсё былі імігранты з Ганконга, якія займаліся нелегальным гандлем. Яны тайком перапраўляліся праз раку Джуцзян[29]. Мы часцей за ўсё не адчынялі дзверы, а крычалі ім, што калі яны яшчэ не дабраліся да Ганконга, няхай працягваюць ісці на поўдзень».*

«Спярша я шкадаваў, што калісьці не дамовіўся з Лі Цзячэнам[30] аб будаўніцтве порта ў раёне Шэкоў ў Шэньджэне, не рашыўся даць згоду на работу ў ЦК партыі. А можна ж было ўзяць і аддзяліць Шэкоў ад усёй паўднёвай часткі паўвострава».

*«Раней я нечакана сутыкаўся з многімі рэчамі, якіх не было пры ранейшым рэжыме, не ведаў, што рабіць і ў які адміністратыўны орган звяртацца. У афіцыйных дакументах часта пісаў так: «Цэнтральны камітэт партыі, коска, Дзяржаўны савет, двукроп'е, і толькі пасля гэтага пісаў пра справу».*

Калі выйшаў мой збор твораў, я падараваў адзін камплект сябру. Праз некалькі дзён атрымаў ад яго тэлефонны званок, але з-за перашкод на лініі так нічога толкам і не пачуў.

*«Я даўно не чытаў кітайскай літаратуры, калі не лічыць парнаграфіі. Па праўдзе кажучы, да дваццаці гадоў я прачытаў усё, ад пачатку і да канца, за выключэннем «Сна ў чырвоным цераме»[31] і яшчэ некалькіх кніг. Штосьці было добра, штосьці — вельмі добра, штосьці — проста выдатна. Я і чытаў, і ганьбіў адначасова, такі вось маленькі мярзотнік».*

*«Табе не трэба ўвесь час звяртацца за дапамогай. Я і сам магу поўнасцю ўладзіць гэтую справу. Ты часта характарызуеш сваю маці як чалавека адметнага, таму што яна нарадзіла цябе такім, хто абавязкова павінен пісаць. А калі будзеш пісаць мала, прасі бацькоў, каб даравалі табе за тое, што нарадзіўся такім».*

*«Поспех у грамадстве, грошы і становішча — гэта ўсё несапраўднае. Птушка, якая прылятае на магілкі, пакідае там свой памёт. У памёце ёсць зярняты, і на магілках адразу ж вырастае трава. Забяспечанае жыццё — гэта добра. Табе не патрэбна ўдача, але ад розуму дабрабыту звычайна не бывае. Тут табе патрэбна няўдача».*

*«Паэзія патрабуе вар'яцтва, ты не павінен сябе кантраляваць. Ты можаш напісаць добры раман, але калі ты залішне спакойны, калі ты пры гэтым не пакутуеш, не гатовы ісці на любыя ахвяры — раман не стане «Сном у чырвоным цераме». Каб напісаць добрае і нават больш, чым добрае, выдатнае апавяданне, пакутаваць не трэба».*

---

[26] Міндуньдао — жылы комплекс у Пекіне.
[27] Йосеміці — нацыянальны парк у Каліфорніі.
[28] Шэкоў — вуліца ў горадзе Шэньджэнь, правінцыя Гуандун.
[29] Джуцзян — рака на поўдні Кітая, таксама вядомая як Жамчужная рака.
[30] Лі Цзячэн — кітайскі мультымільярдэр.
[31] «Сон у чырвоным цераме» — адзін з чатырох класічных раманаў кітайскай літаратуры.

Грошы псуюць людзей. Усіх грошай свету не заробіш, але тым не менш урач-гінеколаг, нават сышоўшы на пенсію, зноўку вяртаецца да работы. А пісьменнік у кепскае надвор’е проста піша, а ў добрае надвор’е забівае сваіх герояў.

Магчыма, «Сон у чырвоным цераме» — няўдалы прыклад. Лепш параўноўваць кнігі з «Кветкамі слівы ў залатой вазе» і «Гістарычнымі нататкамі». У абедзьвух гаворыцца і аб пакутах, і аб кастрацыі, а колькі часу прайшло?

**12**

*«У час малявання часта хочацца мець тую патаемнасць, якая была ў душах нашых продкаў, а не поўсць на канцы пэндзліка. Людзі, якія жадаюць маляваць, як малявалі старажытныя, не могуць валодаць гэтай патаемнасцю, і ім застаецца толькі імітаваць рухі іх пэндзлікаў. Вывучаючы продкаў, можна шкадаваць аб тым, што продкі цябе не ўбачаць, але не трэба шкадаваць аб тым, што сучаснікі цябе не чуюць».*

Напісанне твораў і маляванне, абпаленае да чырвані мяса, і маладая дзяўчына аднолькавыя ў тым, што няма для іх адзінага эталону, яны не на дыстанцыі ў сто метраў, але ў сапраўднасці іх эталон залежыць ад часу.

У «залатой нітцы»[32], якая вось-вось парвецца, ва ўсе часы не было вялікай розніцы. Яе аблічча змянялася не з-за таго, што яна стваралася ў жанры оды фу[33], шы[34], суньскіх цы[35] альбо юаньскай драмы[36]. Для чалавека з шырокім кругаглядам усе рэчы, якія датычацца гэтай «ніткі», будуць адрозніваццa адна ад адной, як воблака ад зямнога бруду. Над «залатой ніткай» могуць навісаць хмары, дзьмуць моцны вецер. Кожная кветка не толькі квітнее сваім колерам, але і па-рознаму выглядае для таго ці іншага позірку.

Для пераважнай большасці людзей рэчы занадта аддаленыя ад гэтай «ніткі», таму пераважная колькасць людзей, наогул, усяляк адмаўляе само яе існаванне.

Калі глядзець далёка наперад, звяртаць увагу на тое, што знаходзіцца пад «залатой ніткай», то можна ўбачыць: гэта святло надае ёй такое аблічча, і атрымліваецца, што яна асаблівая сама па сабе, без усялякай на тое прычыны. Праз тысячы і сотні гадоў мы па-ранейшаму ацэньваем сучасныя творы па нормах Сыма Цсяня, Ду Фу, Джан Дая, але не па нормах сучасных Юй Цсюя, Го Цзінміна, Вэй Хуэя.

**13**

*«Аднойчы я ўбачыў, як дзеці кормяць насякомых. Ва ўсіх малых светлячкоў маюцца свае прыродныя задаткі. Ёсць тыя, хто майстэрскі змагаецца, ёсць тыя, хто праяўляе дыпламатыю. Перад пачаткам бітвы насякомыя пагрозліва размахваюць крыламі, але ў той жа час не адважваюцца выйсці наперад; сярод іх ёсць тыя, што толькі і здольныя цвыркаць; ёсць тыя, самкі якіх з лютасцю накідваюцца адна на адну; маюцца і такія, што пасля бітвы застаюцца без вусоў і ўцякаюць».*

Пісаць шкодна для вачэй. А ў галаве павінна быць больш негатыва, чым у астатніх, а твае творы павінны быць больш глыбокімі, чым у астатніх. Можна паглядзець на сябе і ўбачыць, што ран у душы застаецца больш, чым у звычайных людзей. Яшчэ праз гады раны гэтыя працягваюць балець, яны адразу ж з’яўляюцца зноўку, як толькі ты пра іх успомніш. Можна не пісаць кожны дзень, але нельга спыніцца ў любы момант. Калі расчулішся альбо зацікавішся чымсьці іншым, цяжар у цябе ў душы не дазволіць гэтага зрабіць. Таго, што табе хочацца выразіць у час напісання, заўсёды будзе больш, чым таго, што ты ўсё ж зможаш выказаць.

---

[32] У адным са сваіх інтэрв’ю Фэн Тан назваў «залатой ніткай» сакрэт пісьменніцкага поспеху. У паэзіі «залатая нітка» таксама часта выкарыстоўваецца пры апісанні лістоты вярбы.
[33] Ода фу — жанр паэзіі часоў дынастыі Хань.
[34] Шы — жанр паэзіі часоў дынастыі Тан.
[35] Цы — жанр рытмічнай паэзіі сунскай эпохі.
[36] Драма мангольскага перыяду.

У медыцынскім універсітэце мы вучылі спярша агульную анатомію, а потым неўралогію. Прайшло ўсяго паўгода, і на першым занятку дэкан факультэта, які выкладаў уводзіны ў тэрапію, спытаўся:

— Вы яшчэ памятаеце, што ў аснаванні чэрапа маецца патылічная адтуліна? Якія буйныя нервы і сасуды праз яе праходзяць?

Ніхто з нас так і не ўспомніў. Дэкан патлумачыў яшчэ раз, але я зноўку забыўся.

Зараз мне падумалася: што ж яшчэ я памятаю з васьмі гадоў навучання медыцыне? За выключэннем архідэй і фіялак, што квітнеюць у лютым, таго, што не трэба прымаць збіваючыя тэмпературу сродкі пры тэмпературы ніжэй за трыццаць восем градусаў, таго, што вагінальны крываток выключае такі дыягназ, як рак, і некаторых другіх элементарных паняццяў, якія і так ведае кожны невук, я нічога не памятаю.

Калі так разважаць, то восем гадоў навучання медыцыне нагадваюць восем гадоў практыкі ў маляванні эскізаў.

**14**

*«Самае цяжкае ў занятку жывапісам — адмовіцца ад сваіх звычак, нават калі гэтая звычка і ёсць тваё майстэрства. Пры маньчжурах[37] быў папулярным жанр «горы і рэкі», я не карыстаўся павагай, я любіў Джу Сюэгэ, Шытао, Цзінь Дунсіня, Лі Футана, Мэн Літана і толькі».*

Пісьменніку лёгка быць сабой. Няхай пісьменнікі і дэманструюць публічнае захапленне творамі калег, у душы гэта цяжка, нават калі ты сам пішаш не вельмі. Таму ніколі не пытайцеся ў пісьменніка, хто ягоны літаратурны кумір. Максімум можна спытаць: хто яму падабаецца. Максімум можна ўдакладніць, які кітайскі пісьменнік яму падабаецца, каб не пачуць у адказ прозвішчаў англійскіх, французскіх, нямецкіх, іспанскіх пісьменнікаў, перакладзеных на кітайскую мову. Максімум, можна ўдакладніць, хто з кітайскіх пісьменнікаў, акрамя яго самога, яму падабаецца, каб пісьменнік гэты зусім не разгубіўся.

Таму, калі спытаць у мяне, я адкажу, што мне падабаецца Сыма Цсянь. Сыма Цсянь піша проста цудоўна. Ягоны літаратурны талент, кругагляд, адукацыя і выхаванне, ягоная мова ўражваюць.

Мне падабаецца Лю Іцсін[38] і ягоныя настаўнікі, тое, як лёгка і свабодна яны параўноўваюць людзей, як дэталёва выпісваюць іх характары. Кітайская мова дасягнула дзякуючы ім найвышэйшага развіцця.

Мне падабаюцца Вэй Шань і Ян Шань за іх уменне казаць аб тым, аб чым нельга казаць, за выкарыстанне разнастайных іншамоўных запазычванняў, за іх даследаванне магчымасцей кітайскай мовы, за тое, што яны паспрыялі старажытнакітайскай трансфармацыі ў сучасную кітайскую.

**15**

*«Цалкам аддавацца жывапісу, пры гэтым жадаць не быць падобным да тых, хто быў да цябе, — цяжка. Я пішу ў жанры «горы і рэкі» і баюся быць падобным на Сюэгэ, пішу ў жанры «кветкі і птушкі» і баюся быць падобным на Лі Тана, баюся, што мае ўзоры на камені будуць падобныя на работы Шао Бая. А калі паходзіць на Шао Бая, абавязкова будзеш горшым, чым Уільям Чанг[39]».*

Базавы слоўнікавы запас кітайскай мовы складаецца з трох тысяч слоў, і сярод іх няма ніводнага, якое б паўтарылася. Намацаць «залатую нітку» лёгка, але цяжка быць пры гэтым не такім, як усе.

Ёсць ідыёцкія пытанні, якія лёгка задаць, але цяжка знайсці на іх адказ.

Напрыклад: «Аб чым твой новы раман?»

---

[37] 1644—1911 гг.

[38] Лю Іцсін — кітайскі пісьменнік і гісторык часоў дынастыі Лю Сун (403—444 гг.)

[39] Уільям Чанг — кінамантажор і мастак па касцюмах, нар. 12.11.1953 г. у Ганконгу.

Альбо: «Як у тваім уяўленні выглядае самая прыгожая жанчына?»
Альбо: «У чым розніца паміж табой і Ван Шо[40], табой і Ван Сяобо[41], табой і А Чэнам[42]?
Пры вывучэнні валявога стылю «дзэн» ты крычыш.
Літаратура поўная распуцтва.
У параўнанні з Ван Шо я прыгажун.
У параўнанні з А Чэнам я бунтар.
У параўнанні з Ван Сяобо мая мова лепшая.

**16**

*«Я пачаў вырэзваць пячаткі да таго, як мне споўнілася дваццаць. Спачатку вырэзваў імянныя пячаткі. Сябра Лі Сунань пазычыў мне адзін папулярны каталог пячатак, менавіта з яго я і пераняў тэхніку».*

Уздыхаю.

Неба распараджаецца чалавекам.

Аднойчы ў Ганконгу я кругамі хадзіў па вуліцы. Дзьмуў даволі халодны вецер, я паеў крыху смачных ласункаў, алкаголя нават кроплі не выпіў. І раптам падумаў, што смерць — гэта прыемная рэч. Гэта нібыта ўдосталь наесціся, але не пайсці спаць, каб затым прачнуцца.

Трэба больш настойліва змагацца за жыццё. А ты чакаеш, калі чырвонае віно ў гэтай бутэльцы стане іншага гатунку. Чакаеш, калі «Жалезная Батхісатва Гуаньінь»[43] у гэтым чайніку згубіць смак. У чаканні глядзіш на бязглуздае неба, з улікам чатырох сезонаў і ападкаў. Дзесяцігоддзямі можаш уносіць у зямлю гной, каб праз нейкі час з яе выраслі хоць якія кветкі.

**17**

*«Жанр «горы і рэкі» не застаў продкаў. Няхай Шытао[44] і падобны да мяне, у гэтым няма нічога дзіўнага. Калі б толькі ў будучым не смяяліся над маімі надзеямі і нават памяталі старога Байшы».*

«Я малюю вось ужо дзесяць гадоў, але яшчэ не займеў свайго бачання, таму рашыўся на вялікія перамены. Нават калі я буду паміраць ад голаду ў сталіцы, не хачу, каб людзі ведалі аб гэтым. Людзі не спачуваюць, таму, магчыма, гэта лепшы час, каб разабрацца ў сабе».

У мінулым трэба было памыць рукі перад тым, як чытаць паэзію часоў дынастыі Тан. Зараз жа поўная анталогія паэзіі можа ляжаць у прыбіральні разам з парнаграфіяй. У мінулым, чытаючы кнігі Тан Тао, Джу Дзыцсіна, Сі Дзі[45], ты адчуў увесь размах культурнай рэвалюцыі.

Зараз, прачытаўшы ўсё, што можна было прачытаць, за выключэннем «Незалежнасці думкі і свабоды слова» Чэнь Інькэ, які сцвярджае адно і тое ж, за выключэннем Лінь Хуэйіня, чыёй знешнасці можна пазайздросціць, за выключэннем Джоў Дзожэня[46], чыя кітайская мова такая прыгожая, магу сказаць, што ўсе яны ўнеслі вялізны ўклад ў кітайскую літаратуру і нічым не саступаюць Гэ Фэю, Ман Цзяню, Су Туну[47], Ма Юаню[48] ў маладосці, Юй Хуа[49] ў дзяцінстве, Джу Вэню і Бі Фэйюю[50].

---

[40] Ван Шо — кітайскі пісьменнік, рэжысёр і акцёр, нар. 1958.
[41] Ван Сяобо — пісьменнік і эсэіст (1952—1997).
[42] А Чэн — кітайскі пісьменнік, нар. 1949.
[43] Разнавіднасць кітайскага чаю Улун.
[44] Шытао — сапраўднае імя Джу Жоцзі — кітайскі мастак часоў дынастыі Цсін, садовы майстра, тэарэтык жывапісу. Ягоны псеўданім літаральна азначае «Скамянелая хваля».
[45] Кітайскія паэты і эсэісты.
[46] Джоў Дзожэнь (1885—1967) — акадэмік, спецыяліст па культуры Японіі і Грэцыі, брат пісьменніка Лу Сіня.
[47] Су Тун — кітайскі пісьменнік, празаік другой паловы XX ст.
[48] Май Юань — кітайскі празаік, нар. 1953 г.
[49] Юй Хуа — кітайскі пісьменнік, нар. 1960 г.
[50] Бі Фэйюй — пісьменнік, лаўрэат прэміі імя Мао Дзэдуна за раман «Масаж», нар. 1964 г.

У маёй «Пекінскай трылогіі»[51] ёсць незвычайныя рэчы са старажытнакітайскай мовы, і калі вы не зразумееце іх у час чытання, гэта не мая праблема, а ваша.

18

*«Пячатка У Мао. Водзыў: пячатка, якая выразана па ўзорах Ханьскай эпохі. Людзі абавязкова скажуць, што сучасны чалавек не мог такога зрабіць. Я скажу, што сапраўднаму кітайцу не абавязкова гэта рабіць… Пячатка: калекцыя сям'і Не з Луаньчэн[52]. Водзыў: як жа гэтая рэч змагла праіснаваць трыста гадоў? Шчыры чалавек нізка кланяецца другому чалавеку, зайздроснік сварыцца з тым, хто сядзіць з ім за адным сталом… Пячатка Ю Джоў[53]. Водзыў: Дзіўная рэч! Нават валодаючы ведамі, я не змагу зрабіць такую пячатку, руку майстра і на самай справе накіроўвалі звышнатуральныя сілы».*

Рэчы такой высокай якасці не маюць аніякіх адносін да майго настаўніка: у яго не было такога літаратурнага таленту. Так ці інакш, неіснуючы крок — гэта таксама крок. Усё роўна не варта перавышаць плату, нават калі я імітую тавар самай высокай якасці, накшталт таго, які апісаны вышэй.

*«Уважліва паглядзі на гэтыя сто тысяч слоў. Яны не толькі жывыя і датычацца кожнага, хто не ўмее пісаць. У мінулым тысячагоддзі старажытныя людзі наўрад што-небудзь запісвалі».*

*«Уважліва паглядзі на гэтыя сто тысяч слоў, тры сотні гадоў таму альбо тры сотні гадоў наперадзе — якімі былі і зробяцца жывыя істоты?»*

*«Уважліва паглядзі на гэтыя сто тысяч слоў, за выключэннем мяне і Лю Бэя[54] ў кнігах, усе людзі ў сусвеце могуць бачыць сны. Я надаваў ёй сотню аплявух па левай шчацэ, я надаваў яму сотню аплявух па правай шчацэ. Ён маніў, яна маніла».*

*«Уважліва паглядзі на гэтыя сто тысяч слоў. Ты перачытаў усё кнігі ў нацыянальнай бібліятэцы, але пасля прачытання нічога не запісаў».*

**19**

*«Кветкі слівы»[55] нагадваюць аб тым, як іх галінка квітнее і высыхае. Ты павінен усё адчуць на сабе. «Цзіньдунсінь»[56] не зробіць з цябе мастака. Цсі Біньшэнь[57] толькі пасля таго, як убачыў сваё імя на вокладцы выдадзенай кнігі, сказаў сабе, што недарэмна спадзяваўся».*

Глядзець уверх.

**20**

*«У вырэзванні пячатак у стылі джуаньшу[58] ёсць і прыроднае зачараванне, і чалавечы характар. Людзі эпохі дынастый Цсінь-Хань[59] пераўзыходзілі другіх галоўным чынам у тым, што не былі абмежаванымі. Яны не баяліся думаць уласным розумам, таму і змаглі выйсці за рамкі тысячы гадоў, якія прайшлі. Калі я вырэзваю пячаткі, то не абавязкова прытрымліваюся правілаў ранейшых пакаленняў майстроў, а людзі глядзяць на гэта так, нібыта ў мяне няма кніг. Я часта спачуваю людзям маёй эпохі з-за іх дурасці: яны не прызнаюць сябе нашчадкамі людзей эпохі дынастый Цсінь-Хань, хоць мы і ёсць іх нашчадкі. Але ж мы не памятаем аб тым, што ў любой сітуацыі можна спадзявацца на свой розум. Калі мы глядзім на нашых папярэднікаў, мы павінны захапляцца імі».*

---

[51] «Пекінская трылогія» — раман Фэн Тана.
[52] Луаньчэн — вёска ў Шыцзяджуан, правінцыя Хэбэй.
[53] Ю Джоў — кітайскі мастак, славіцца творамі ў жанры «горы і рэкі».
[54] Лю Бэй — адзін з найбольш уплывовых палкаводцаў эпохі Трох царстваў. Стваральнік заходнекітайскага царства Шу.
[55] Карціна Цсі Байшы.
[56] «Цзіньдунсінь» — трактат па каліграфіі.
[57] Цсі Біньшэнь («народжаны ля вады») — прозвішча Цсі Байшы, якое яму даў ягоны першы настаўнік. Непадалёку ад дому сям'і Цсі знаходзілася паштовая станцыя, якая называлася Байшыбу. Пазней настаўнік пачаў называць юнака яшчэ адным прозвішчам — «Белы камень» («Бай-шы»). Часцей за ўсё мастак падпісваў работы менавіта гэтым прозвішчам, якому наканавана было атрымаць сусветную вядомасць.
[58] Джуаньшу — старажытны стыль каліграфічнага пісьма.
[59] Цсінь (221—207 да н. э.) — Хань (206 да н. э.—220 н. э.).

Няхай нават Сыма Цсянь быў зняволены ў двух з паловай мятровай распорцы[60], я б на ягоным месцы біўся і скакаў у ёй да таго часу, пакуль не разбіўся б да смерці. У рэшце рэшт, мужчына ты ці не?

**21**

Работа скончаная, віно выпітае. І я, абхапіўшы рукамі ногі, засынаю.

*Пераклад Ксеніі Рудэнкі.*

《读齐白石的二十一次唏嘘》

冯唐

该小说里面有两个情节线索，一个是关于齐白石的创作和生活，另一个是关于作者的生活方式和对艺术的偏好。作者从小喜欢看书，也对写作很感兴趣。小说里描写的齐白石这位伟大画家、刻印家的原则："我刻印，同写字一样。写字，下笔不重描。刻印，一刀下去，决不回刀。。。老实说，真正懂得是刻的，能有多少人？。。。世间事，贵痛快，何况篆刻是风雅事，岂是拖泥带水，做得好的呢？。。。作画最难无画家习气，即工匠气也。" 还有作者在写作过程中的一些原则："我写长篇的习惯是，每次写新章节之前，都从第一个字开始，重新飞快看一遍，觉得不舒服的地方，随手改掉。。。源头总有活水，要写的总比能挤出时间写的多，或许是种辛苦禅，修为不够之前，通过亲尝，理解世界。"。小说儿还包括齐白石的一些记忆："民国六年乙卯，因乡乱，吾避难窜于京华，卖画为活。吾妻不辞跋涉，万里团圆。三往三返，为吾求宝珠以执箕帚。。。"。这篇小说是后现代派的作品，风格十分难解，有许多文学、哲学等方面的思考，也有关于古典和现代文学的评价："千百年后，评价今天文字的标准是司马迁、杜甫、张岱，不是今天的余秋雨、郭敬明、卫慧"。

[60] Сыма Цсянь — старажытнакітайскі гісторык, аўтар трактату «Шыцзі» («Гістарычныя запіскі»). Быў абвінавачаны ў намеры ўвесці імператара ў зман і прыгавораны да ганебнага пакарання — кастрацыі.

**Цзінь Жэньшунь** 金仁顺

# Гарадок Суншуджэнь

Мы павінны былі прыехаць у гарадок Суншуджэнь[1] каля трох-чатырох гадзін дня. Ехаць заставалася яшчэ гадзіну, а мы ўжо адчувалі свежае бадзёрае паветра, напоенае цудоўным водарам сасновай смалы. Праўда, маленькі чыгуначны вакзал, пабудаваны яшчэ японцамі ў 30—40-х гадах, быў наскрозь прапітаны пылам і брудам. Некалькі прыгожых соснаў, пасаджаных прыкладна ў той жа час, ужо даўно выраслі і зараз імкнуліся, здавалася, проста ў неба.

На вакзале нас сустракалі Джао Хунцсі, Джан Цзінцсянь і Сяо Мо — сябры майго стрыечнага брата. Яны і яшчэ чацвёра іншых хлопцаў былі прыкладна аднаго ўзросту, з дзяцінства жылі па суседстве, разам раслі і вучыліся, былі да таго неразлучнымі, што яшчэ ў сярэдняй школе замацавалі сваё сяброўства клятвай. Яны не раставаліся ні на хвіліну, пастаянна заводзілі адзін з адным гучныя гутаркі, і нават знаходзячыся ў людных месцах, ніяк не маглі ўтаймавацца.

Джао Хунцсі — тыповы бамбіза з паўночнага ўсходу, высачэзны, атлетычнага складу, у яго была ўласная вугальная шахта; Джан Цзінцсянь — намеснік старшыні народнага камітэта, «чалавек са статусам», у ягонай прастаце і нязмушанасці заўсёды адчувалася сур'ёзнасць філосафа; да Сяо Мо людзі цягнуліся больш ахвотна, чым да астатніх з іх троіцы, бо Сяо Мо заўсёды паводзіў сябе ветліва і пастаянна ўсміхаўся. Гатэль, у якім мы павінны былі спыніцца, належаў ягонай сям'і, а аўтамабіль павышанай праходнасці фірмы «Таёта», на якім яны прыехалі нас сустракаць, — Джао Хунцсі.

У гарадку Суншуджэнь, размешчаным сярод гор, было чатыры вуліцы, якія перасякаліся ў выглядзе рашоткі. Хоць на вуліцах можна было сустрэць дробных гандляроў, што гучна расхвальвалі свой тавар, жанчын, якія ажыўлена гаманілі паміж сабой, дзяцей, што бегалі паўсюдна, але ўсё ж гарадок гэты даваў людзям адчуванне спакою. Вечарамі сонца, якое павольна хілілася да небакраю, асвятляла воблакі, што заўсёды ахіналі вяршаліны гор і былі падобнымі на вясельныя сукенкі з залацістымі аборкамі.

У гонар нашага прыезду быў арганізаваны банкет у самым вялікім рэстаране горада. «Самы вялікі» азначала рэстаранчык плошчай ў 40—50 м$^2$, на якой з цяжкасцю размяшчалася каля шасці сталоў. Гаспадыня рэстаранчыка — поўная высокая жанчына з намаляванымі брывамі, падобнымі да вусеняў, і вуснамі, пафарбаванымі ў ярка-ружовы колер, — была добра знаёмая з Джао Хунцсі, Джан Цзінцсянем і Сяо Мо, і таму адразу ж запрасіла нас прысесці выпіць чаю і пакаштаваць семак.

Джао Хунцсі, не гледзячы ў меню, вярнуў яго гаспадыні і сказаў: «Нясі нам усё самае лепшае!»

— Вы прыехалі сюды здымаць фільм? — звярнуўся Джао Хунцсі ўжо да нас. — А што тут можна здымаць?

— Гэты фільм расказвае гісторыю некалькіх вучняў сярэдняй школы з гарадка вугальных шахтаў, — адказала я.

— Што за гісторыя?

Я ў агульных рысах расказала сюжэт, расказала аб галоўных героях, якіх шантажыравала гаспадыня відэасалона, аб тым, як грошай, пазычаных імі ў аднакласніцы, не хапіла, і яны ледзь не забілі яе, але Джао Хунцсі і астатнія ніколькі не здзівіліся, здаецца, палічыўшы гэтую гісторыю абсалютна рэальнай. Даслухаўшы мой аповед да канца, яны выказалі не больш зацікаўленасці, чым калі б пачулі пра іншыя жахлівыя падзеі, што і на самай справе адбываліся ў школах. Да прыкладу, некалькі вучняў адной сярэдняй школы згвалтавалі настаўніцу англійскай мовы, і ў той момант

[1] «Суншуджэнь» даслоўна перкладаецца як «Гарадок сасновых дрэў» (тут і далей — заўвагі перакладчыка).



Ілюстрацыя Даны Цюперак.

у класе знаходзілася яшчэ некалькі вучняў, якія за ўсім гэтым назіралі; адна з вучаніц была такой прыгожай, што выклікала зайздрасць у дзяўчат, за гэта тыя жорстка яе збілі, практычна, знявечылі, але калі іх забралі ў паліцэйскі ўчастак, яны заявілі: «Мы яшчэ непаўналетнія, нікога не забівалі, нічога не падпальвалі, прачытайце нам мараль і адпусціце!». Тэма размовы паступова развівалася далей: загаварылі аб мясцовых здарэннях, аб нядаўнім забойстве вядомага ў горадзе ўладальніка вугальнай шахты. Ён разам са сваім знаёмым сумесна адкрыў вугальную шахту. Спачатку бізнес не ішоў, але потым уладальнік паступова ўстаў на ногі, зарабіў як мінімум некалькі мільёнаў і захацеў выйсці са справы — у выніку яшчэ да падпісання кантракта чалавека забілі.

— Няма сумненняў, што гэта зрабіў хтосьці са сваіх, — сказаў Сяо Мо. Ён сябраваў з гэтым дырэктарам шахты, і пасля таго, як даведаўся аб здарэнні, прыехаў на месца разам з паліцыяй і ўбачыў: у памяшканні не было слядоў бойкі, а, мяркуючы па ране, стралялі з пісталета проста ў скронь.

— Прафесійна спрацавалі.

— Не трэба занадта распаўсюджвацца пра такія рэчы, — перасцярог Джан Цзінцсянь Сяо Мо.

— Не трэба, дык і не будзем тут аб гэтым гаварыць, — сказаў Сяо Мо.

Пакуль мы размаўлялі, гаспадыня рэстаранчыка пачала падаваць на стол.

— Добранька нас абслугоўвай! — пажартаваў Джао Хунцсі, звяртаючыся да жанчыны. — Яны прыехалі сюды здымаць фільм, магчыма, і табе прапануюць ролю афіцыянткі альбо яшчэ каго-небудзь са сферы паслуг.

— У цябе ж ёсць жонка, сябры ды акрамя таго ажно некалькі палюбоўніц, — з усмешкай адказала гаспадыня. — Як жа ты яшчэ і са мной справішся?

Сяо Мо грыз крышку ад бутэлькі, але, пачуўшы словы гаспадыні, засмяяўся.

Мы пілі гарэлку. Перад прыездам сюды я расказвала Джоў Вэю і Фан Лэю пра прастадушнасць і нават наіўнасць рабочых вугальных шахтаў, пра тое, што, калі ты п'еш з імі, то не мае значэння, можаш ты піць альбо не можаш, усё роўна ты павінен піць. Калі ў цябе яшчэ засталася гарэлка, а ты не п'еш, то яны прымуць гэта за крывадушнасць і фанабэрыстасць. А ўжо калі ты створыш кепскае ўражанне — поспеху ў справе не чакай.

Таму Джоў Вэй і Фан Лэй бадзёра выпівалі кілішак за кілішкам, але не прайшло і паўгадзіны, як яны дружна кінуліся ў бок прыбіральні.

— Чаму ж вы адразу не папярэдзілі, што не ўмееце піць? — сказаў Джао Хунцсі. — Мяркуючы па тым, як вы выпівалі ўсё да дна, я вырашыў: маю справу з прафесіяналамі.

Джан Цзінцсянь папрасіў гаспадыню заварыць гарачы чай.

Яна заварыла нам язмінавы чай і намыла глогу.

— Пакаштуйце глогу, адразу стане лягчэй, — жанчына паставіла талерку перад Джоў Вэем і Фан Лэем, а затым сказала Джао Хунсці: — Не замуч людзей да смерці, бандыт!

— Ты так са мной размаўляеш, — сказаў Джао Хунцсі гаспадыні, — быццам ты жонка бандыта.

— Хутчэй, маці бандыта, — са смехам парыравала яна, потым узяла прыгаршчу семак і выйшла пабалбатаць з кухаркай.

Калі мы паелі, на вуліцы ўжо зусім сцямнела, зоркі выглядалі, нібыта срэбныя наканечнікі бліскучых дзід, здалёку пранізваючых завесу цёмнай ночы. У горадзе было ціха, але пасля ўсіх гісторый, што прагучалі за сталом, цішыня гэтая здавалася падманлівай і смяротна небяспечнай.

Гатэль сям'і Сяо Мо ўяўляў сабой двухпавярховы будынак на восем нумароў без ванных пакояў і з адной агульнай прыбіральняй. Адзіным нумарам з ваннай быў асабісты нумар Сяо Мо, ён прывёў нас да сябе паглядзець на ванную і паказаў двух залатых яшчараў з такім выглядам, як быццам гэта былі ягоныя сыны.

На наступны дзень мы ўсталі як мага раней і, хоць быў яшчэ канец лета і восень не паспела ўступіць у свае правы, вада для ўмывання была проста ледзяной. Памыўшыся, бадзёрыя і ў добрым настроі, мы пайшлі прагуляцца па вуліцах, што вялі да рэстаранчыка, у якім мы ўчора вячэралі. На вуліцы было шмат людзей, яны ехалі на працу на веласіпедах і папярэджвалі аб сабе мінакоў гулкімі званочкамі. Туман яшчэ не рассеяўся і ляжаў на дрэвах белым покрывам, паветра было халодным і вільготным.

Джао Хунцсі і Джан Цзінцсянь прыйшлі першымі. На стале стаялі вялікія талеркі з крутымі яйкамі, пампушкамі, смажанымі праснакамі і цыбуляй-парэем, прасяной кашай, яшчэ некалькі халодных страў. Гаспадыня рэстаранчыка павіталася з намі і пайшла на кухню, адкуль да нас данесліся яе распараджэнні, і хутка прынесла нам чатыры гарачыя стравы.

— Як урачыста! — сказала я. — Звычайна мы не снедаем.

— Што вы, тут няма нічога асабліва смачнага, — сказаў Джао Хунцсі. — Я спытаюся, ці можна будзе засмажыць на агні казулю на вячэру.

— Ні ў якім разе! — замахалі мы рукамі і загаварылі ўсе разам, каб пераканаць Джао Хунцсі, што адмаўляемся не з-за ветлівасці, а з поўнай шчырасцю.

— Тады, можа, пакаштуеце жаб, яны зараз асабліва тлустыя, — прапанаваў Джао Хунцсі і раптам спытаўся ў Сяо Мо: — А што, калі папрасіць злавіць для нашых гасцей некалькі змей? Стары У ловіць іх проста адмыслова.

— Не трэба! — зноўку замахалі мы рукамі.

— Я вельмі баюся змей, — сказала я.

— Калі парэзаць змяю на кавалачкі і стушыць, вы і не разберацеся, што гэта такое, — сказаў Сяо Мо. — Мая дачка не толькі любіць есці змей, але і выкарыстоўвае іх у якасці касметыкі. Затое твар у яе без адзінай заганы.

— Няхай лепш у мяне будзе твар з заганамі, — сказала я.

Джоў Вэй і Фан Лэй таксама былі настроеныя супраць паядання змей: «Пачынаючы з сённяшняга дня, акрамя зеляніны і таму падобнага, мы больш нічога есці не збіраемся».

Джан Цзінцсянь пасмяяўся з нас і сказаў Джао Хунцсі: «Скажы, каб для іх прыгатавалі свежыя апенькі і стушылі курыцу».

Пасля сняданку Джан Цзінцсянь пайшоў на працу, а Джао Хунцсі павёз нас разам з Сяо Мо ў горы. Дарога нагадвала вяроўку, што апаясвала гару. Мы па спіралі рабілі круг за кругам, а калі пазіралі ўніз, бачылі, што гарадок Суншуджэнь застаўся дзесьці далёка ўнізе. Калі мы праехалі яшчэ крыху, спераду пачалі з'яўляцца невялікія вугальныя шахты, у асноўным гэта былі нахільныя шахты. Маленькія — не большыя за труну — ваганеткі, што вывозілі вугаль, у час руху пастаянна лязгалі. Рабочыя кожны дзень садзіліся ў гэтыя ваганеткі і спускаліся ў шахту, пасля змены яны гэткім жа чынам падымаліся наверх.

Джао Хунцсі і Сяо Мо ўсіх тут ведалі, і пакуль Фан Лэй і Джоў Вэй здымалі на камеру ваколіцу, яны размаўлялі з галоўным менеджэрам і вядучымі спецыялістамі шахты.

Усе да аднаго выпытвалі ў нас, што мы тут робім. Джао Хунцсі адказваў, што мы тут здымаем фільм, і ва ўсіх на гэта была аднолькавая рэакцыя: «Што тут можна здымаць?»

— Гэта будзе гісторыя пра некалькіх вучняў сярэдняй школы, і адбывацца яна будзе ў гарадку вугальных шахтаў, — тлумачыў Джао Хунцсі.

Але вельмі хутка ўсе загаварылі аб рэчах, якія іх сапраўды цікавілі: «Што будзе са сховішчамі? Якая якасць вугалю? Ці знойдуцца пакупнікі? Зімой кошт вугалю вырасце альбо знізіцца?» Яны ўсе непакоіліся з-за грошай, заробак рабочым даўно ўжо затрымлівалі. Калі тэрмінова не прададуць вугаль, то невядома, ці не апусцяцца аднойчы заступы для адколвання вугалю ім на галовы.

— Прачынаючыся раніцай, вы адразу бачыце ўзыход сонца, — сказаў Джао Хунцсі мне і Сяо Мо. — Я ж кожны дзень, расплюшчваючы вочы, толькі і думаю аб магчымых выдатках. Калі б не гэтыя тры-чатыры тысячы рабочых, я б ужо закрыў шахту.

— А чаму не гаворыш аб тых часінах, калі ў нас былі прыбыткі? — спытаўся Сяо Мо і, звяртаючыся да мяне, дадаў: — Калі былі прыбыткі, ён спяваў караоке, а для нас запрашаў па тры дамачкі на кожнага...

Наш смех пракаціўся па схілах гор, Фан Лэй навёў на нас свой аб'ектыў, а Джао Хунцсі жартаўліва ўдарыў па назе Сяо Мо.

Вугальная шахта Джао Хунцсі лічылася даволі вялікай, у ёй мелася, акрамя адной нахільнай шахты, яшчэ і вертыкальная. Па ягоных словах, вертыкальная шахта раней была дзяржаўнай, ды і зараз яшчэ прыгодная для выкарыстання, вось толькі глыбіня яе вельмі вялікая — цэлых 200 метраў.

Кінуўшы канец страхавальнай вяроўкі, я зірнула ўніз, а там — чорная пустэча, у мяне нават галава закружылася.

Фан Лэй не асмеліўся падняцца да краю шахты. Выхадзец з поўдня Кітая, ад прыроды светласкуры, ён зараз стаў яшчэ больш бледным, убачыўшы, як я спускаюся зверху, і сказаў мне: «Ты і сапраўды смелая жанчына!»

— Ты ведаеш Заля[2]? Французскага пісьменніка?

Фан Лэй сказаў: імя яму знаёмае, але ягоных твораў ён не чытаў.

Я расказала, што Заля аднойчы быў на вугальнай шахце і праводзіў там даследаванні. І вось на глыбіні ста пяцідзесяці футаў пад зямлёй ён заўважыў, як па тунэлю конь цягне калёсы з вугалем, і спытаўся ў свайго праважатага: «Як вы штодзённа прымушаеце жывёлу ўваходзіць у шахту і выходзіць з яе?». Шахцёры падумалі, што пісьменнік пажартаваў, і засмяяліся. Потым яны зразумелі:

[2] Эміль Заля (1840—1902) — французскі пісьменнік, публіцыст і палітычны дзеяч.

Заля і сапраўды хоча ведаць адказ, і растлумачылі, што такіх коней спускаюць у шахту яшчэ маленькімі жарэбчыкамі, яны вырастаюць пад зямлёй без святла і праз год-другі становяцца зусім сляпымі. У тунэлях шахты гэтыя коні возяць вугаль да самай смерці, а потым іх і закопваюць тут, у шахце.

— Заля ўставіў гэтую гісторыю ў адзін са сваіх раманаў, — сказала я.

Вочы Фан Лэя напоўніліся слязьмі і ён, павярнуўшыся, адышоў.

Джоў Вэй і Джао Хунцсі таксама чулі мой аповед, але ніхто з іх нічога мне не сказаў.

У гарах мы звярнулі ўвагу на мноства закінутых шахтаў, па краях іх адтулін узвышаліся кучы камянёў, сцяжынкі, пратаптаныя калісьці рабочымі, зараз зараслі быльнікам. Нахільная шахта нагадвала цёмны пакой з напалову адчыненымі дзвярыма, здавалася, яна створаная спецыяльна для здзяйснення злачынства альбо падрыхтоўкі якой-небудзь аферы; некаторыя вертыкальныя шахты не мелі ніякіх мер бяспекі, нягледзячы на тое, што іх глыбіня вагалася ад дзесяці да некалькіх дзясяткаў метраў. Уваход у некаторыя шахты зарос травой, і Джоў Вэй сказаў: такая трава, нібыта «песні сірэн»[3].

Джао Хунцсі і Сяо Мо не ведалі, што такое «песні сірэн», і я растлумачыла ім гэта ў двух словах.

— Вы, адукаваныя людзі, — сказаў Джао Хунцсі, — заўсёды так мудрагеліста выражаецеся.

— Цзінцсянь, магчыма, ведае аб гэтым, — сказаў Сяо Мо.

— Ты лічыш, што тут самае прыдатнае месца? — спыталася я Джоў Вэя.

— Тут ёсць амаль усё, што мне патрэбна.

Джоў Вэй хацеў адшукаць адзінокае дрэва, якое расло б на схіле гары, прычым дрэва як мага больш старое, высокае і разгалістае, лепш за ўсё, калі гэта будзе груша. Ён апісаў сцэну з майго апавядання і спытаўся ў Джао Хунцсі і Сяо Мо, ці магчыма такое адшукаць.

— Было такое дрэва, — сказаў Джао Хунцсі, — але яго даўно ссеклі.

Перад тым, як спусціцца з гары, Сяо Мо назбіраў стакротак і паклаў іх у багажнік машыны.

Калі мы вярнуліся ў рэстаранчык паабедаць (мы былі там ужо ў трэці раз), толькі зараз заўважылі шыльду, на якой было напісана: «Рэстаран «Саладзейшы за мёд».

Акрамя нас у рэстаране з'явіліся і іншыя наведвальнікі: яны сядзелі за двума столікамі, твары і шыі іх расчырванеліся ад выпіўкі. Калі Джан Цзінцсянь сеў паміж імі, твары выпівох паспелі набыць ужо амаль карычневае адценне. Як толькі мы ўвайшлі ў рэстаран, Джао Хунцсі і Сяо Мо адразу ж паклікалі, і вярнуліся яны толькі тады, калі нам ужо прынеслі стравы.

— Я бачу, вы мала ясце, — заўважыў Джан Цзінцсянь, — давайце скажам, каб для вас гатавалі крыху менш.

«Крыху менш» азначала цэлых восем страў, не лічачы тушанай курыцы з грыбамі, што стаяла на сярэдзіне стала. Джао Хунцсі спытаўся, ці будзем мы піць гарэлку, на што Джоў Вэй адказаў: напэўна, піць не варта, калі мы пасля абеду збіраемся ехаць глядзець школу.

— Ну, не дык не! — сказаў Джао Хунцсі і папрасіў гаспадыню пакласці рысу, потым наліў кожнаму па стакану піва. — Гэта піва такое лёгкае, што вы можаце піць яго ў любой колькасці.

Ежы было столькі, што ўсё з'есці было проста немагчыма. За суседні столік прынеслі тры бутэлькі піва, і адзін з гасцей падышоў са стаканамі да нашага століка і сказаў, што ён сябар Хунцсі, Сяо Мо і старшыні наркама — так ён сказаў аб Джан Цзінцсяне і захіхікаў, маўляў, «маюцца ў мяне сябры зверху», — а мы, сябры ягоных сяброў, лічы, што і ягоныя сябры таксама.

— Сябры, вядома ж, сябры! — не чакаючы нашай рэакцыі, Джао Хунцсі ўстаў, па-сяброўску паляпаў па плячы мужчыну са стаканам і са змоўніцкім выглядам прашаптаў яму на вуха: — Учора яны выпілі па два стаканы піва, і ім стала дрэнна. Куды такое варта? Няхай кожны з іх зробіць па глыточку, а астатняе дап'ю я.

---

[3] Сірэны — у міфалогіі гэта дзевы дзіўнай прыгажосці з чароўнымі галасамі, якія жывуць у марах і акіянах. Гукамі сваіх песень яны ўсыпляюць пільнасць мараходаў, і тыя накіроўваюць свае караблі ў бок спеваў і разбіваюцца там аб рыфы і скалы.

— Бачыце? — указаў мужчына на Джао Хунцсі. — А мой сябар разбіраецца ў людзях!

— Ну так, вядома ж… — адказалі мы.

— Можаце не піць шмат, па глыточку і хопіць, — падказаў нам Сяо Мо.

Мы і сапраўды зрабілі толькі па глытку, а Джао Хунцсі дапіў піва ва ўсіх нашых стаканах.

— Я таксама вып'ю тры стаканы! — чалавек наліў сабе, каб выпіць за нас, тры разы пена ад піва ўздымалася ў ягоным стакане, распускаючыся, нібыта кветка, і, не паспеўшы звянуць, знікала ў роце. — Як я люблю гэты занядбаны куточак, ээх!.

Як толькі ён адышоў, да нас падышоў другі чалавек з трыма бутэлькамі піва і парожнім стаканам у руках. Гаварыў ён гэтак жа мала, як і папярэдні наведвальнік. Джао Хунцсі зноўку нас выручыў, мы выпілі па глыточку, астатняе аддалі Джао Хунцсі. Аднаго госця змяняў другі, другога — трэці, трэцяга — чацвёрты, кожны падыходзіў і выпіваў за нас, а Джао Хунцсі, Джан Цзінцсянь і Сяо Мо па чарзе за нас заступаліся. Часам чалавек, які прамаўляў чарговы тост, сам выпіваў замест нас, было ўжо немагчыма падлічыць, колькі людзей піла з нашых трох стаканаў. Але кожны раз, калі надыходзіла наша чарга, ніхто з нас не грэбаваў выпіць, каб толькі не падумалі, што мы спалохаліся.

Калі мы скончылі абедаць, было ўжо больш за тры гадзіны. Каб працверазець, гаспадыню рэстаранчыка папрасілі заварыць гарачы чай, а кухарка схадзіла на рынак купіць для нас дзікія фінікі без костачак. Дарэчы, яны толькі называліся фінікамі, але на самай справе гэта былі ківі, з тонкай кіслай скуркай, пад якой меўся салодкі плод, — гэтай мясцовай садавінай якраз і славіўся горны раён Чанбайшань.

Сяо Мо раптам пачаў расказваць нам, што Джан Цзінцсянь у маладосці захапляўся літаратурай і нават пісаў вершы, адзін з якіх ён да гэтага часу памятае. Верш называўся «Гара»: «Гэтая гара глядзіць на тую / Тая гара глядзіць на гэтую / Гэтая гара лічыць тую высокай / Тая гара лічыць гэтую добрай / Гэтая гара схіляецца перад той гарой / Тая гара зайздросціць гэтай гары / Гэтая гара глядзіць на тую / Тая гара глядзіць на гэтую / Старое месца / Глуш».

Мы запляскалі ў далоні: «Малайчына!»

Твар Джан Цзінцсяня неяк адразу ж пачырванеў, бачна было, што ён адчувае сябе не ў сваёй талерцы.

— Калі я сустракаўся з дзяўчынай, то з любой нагоды складаў для яе вершы, з-за гэтага яна была ад мяне проста ў захапленні, — сказаў Сяо Мо. — І толькі пасля нашага вяселля яна даведалася, нарэшце, што аўтар усіх гэтых вершаў — Цзінцсянь.

У палове пятага мы, нарэшце, пакінулі «Саладзейшы за мёд», але ў школу ўжо, на жаль, не паспявалі. Тады Джао Хунцсі прапанаваў нам наведаць вялікія дзяржаўныя шахты.

Дзяржаўныя вугальныя шахты адрозніваліся адна ад адной па магутнасці, шчыліны былі больш за дзесяць метраў у шырыню і амаль дзесяць метраў у вышыню. З-за такой вялізнай дзіркі гара нагадвала нейкую вялізную жабу з разяўленым ротам, уздоўж сцен шчыліны свяціліся лямпы, і выглядала гэта так, нібыта жаба-велікан выпускала з рота пену.

Мы якраз паспелі да таго часу, калі дзённая змена рабочых скончыла працаваць. У некалькіх сотняў рабочых на галовах былі каскі з ліхтарыкамі, на нагах — высокія боты, іх камбінезоны былі пакрытыя вугальным пылам. Так яны і выбіраліся з глыбіні шчыліны, ідучы з цемры на святло, у руках многія трымалі авоські з ежай.

Убачыўшы нашу групу, шахцёры адразу ж падышлі бліжэй. Усе яны былі літаральна перапоўненыя сілай і здароўем, амаль ніхто нічога не казаў, іх чорныя твары падаліся мне празмерна спакойнымі і нават суровымі.

— Гэта цудоўна! Гэта нават лепш, чым я сабе ўяўляў! — узбуджана прагаварыў Джоў Вэй, пазіраючы на рабочых, нібыта спецыяльна сышоўшых сюды з будучага ягонага кінафільма.

Фан Лэй здымаў усё на камеру, адзін з шахцёраў, праходзячы міма яго, спытаўся: «Вы прыехалі ўзяць інтэрв'ю на гарачую тэму?»

— Не, — сказаў Фан Лэй.

Джао Хунцсі, Сяо Мо і Джан Цзінцсянь, якія стаялі ў некалькіх метрах ад нас і ціхенька аб чымсьці размаўлялі, разам павярнулі галовы ў наш бок.

— Дык адкуль вы тады?

— З інстытута кінематаграфіі, — адказаў Джоў Вэй.

Шахцёр, які задаваў пытанні, павярнуўся і сказаў свайму суседу: «Яны з інстытута кінематаграфіі».

Шахцёры пачалі перадаваць гэтыя словы далей, і адразу ж напружаная атмасфера вакол нас неяк хутка і непрыкметна разрадзілася, быццам абарваліся разам нейкія трывалыя, хоць і нябачныя сілкі.

На вячэру мы зноўку вярнуліся ў рэстаранчык «Саладзейшы за мёд», наш абед перад гэтым ператварыўся ў суцэльную піўную баталію, таму ніхто толкам і не паеў. Зараз жа мы, як толькі ўвайшлі, убачылі, што гаспадыня разам з кухаркай лепяць пельмені. Іх начынка была з сельдэрэю з рознай гароднінай, а мяса толькі невялікі кавалачак, і выглядала гэта ўсё вельмі свежым і апетытным.

— Ты як ніхто ведаеш, што трэба для майго страравання, — прамовіў Джао Хунцсі, звяртаючыся да гаспадыні.

— Стравaванне — важны працэс! — з сур'ёзным выглядам дадаў Сяо Мо.

— У добрага чалавека ўсе працэсы важныя, — смеючыся, сказала жанчына. Потым яна павярнулася да нас і дадала: — Я купіла дзікіх груш, паешце, гэта здыме пахмелле і выкліча апетыт. А я пакуль згатую пельмені.

Грушы былі маленькія, з цвёрдай загрубелай скуркай, але калі здымеш гэтую малаапетытную абалонку і дабярэшся да сакавітай мякаці, смак становіцца проста цудоўным.

— А я раней і не ведаў, што ты так умееш прадбачыць жаданні, — угрызаючыся ў грушу, са смехам сказаў гаспадыні Джао Хунцсі. — Ты падобная на гэтую грушу, чым больш знутры прыхавана, тым больш прыемна на смак.

Сяо Мо пад сталом ударыў нагой Джао Хунцсі, але патрапіў па назе Фан Лэя, і той, ускрыкнуўшы ад болю, нават ускочыў з месца.

— Вой, прашу прабачэння! — сказаў Сяо Мо.

Гаспадыня разам з кухаркай накрылі на стол і пайшлі ў кухню.

— Паслухай, сябра мой даражэнькі… — сказаў Сяо Мо, звяртаючыся да Джао Хунцсі.

— Можаш не працягваць, адразу бачна, што ты зараз зробіш, — і Джао Хунцсі паказаў жэстам, як Сяо Мо будзе «затыкаць» яму рот.

— Усё жартуеш, усё весялішся, — фыркнуў Сяо Мо. — Вось калі абгадзішся нязмысна, не чакай, што я стану табе дапамагаць!

— Вы ўсё ж за сталом! — павысіў голас Джан Цзінцсянь. — Праявіце ж хоць кроплю павагі да нашых гасцей!

Сяо Мо адразу ж ускочыў і выйшаў, але хутка вярнуўся з вялікім букетам стакротак. Потым ён схадзіў на кухню, абрэзаў там смарагдавага колеру пластыкавую бутэльку, ператварыўшы яе ў вазу, паставіў у гэтую «вазу» кветкі і працягнуў яе мне са словамі: «Гэта табе!»

— Вось жа дурань! — фыркнуў Джао Хунцсі. — Выліты баран!

Вярнуўшыся ў гатэль пасля вячэры, Джао Хунцсі сабраў кампанію для партыі ў мацзян[4], Джоў Вэй і я крыху паразмаўлялі: «Вось было б добра, калі б гаспадыня рэстаранчыка змагла

[4] Мацзян — кітайская азартная гульня ў косці для чатырох чалавек, прычым кожны гуляе сам за сябе.

паўдзельнічаць у нашым фільме ў ролі гаспадыні відэасалона», — сказаў Джоў Вэй. — «Яна б магла арганічна ўвайсці ў ролю, у яе ёсць характар, яна можа выглядаць дастаткова крывадушнай, так што, калі вучань сярэдняй школы кіне ёй выклік, гэта будзе тое ж самае, калі б кураня кінула выклік каршаку, так будзе куды больш эфектна. Тое, што ты пісала раней, таксама няблага, але думаю, гэта занадта спрошчана».

— Яна не зможа ўтрымацца ў рамках сваёй ролі, — запярэчыў Фан Лэй, сумна разглядваючы вялізны гузак на назе (Сяо Мо ўдарыў, не разлічыўшы сілы). — Бо ў сцэнах зносін з наведвальнікамі яна іх да смерці забалбоча.

— Не абавязкова забараняць ёй казаць нешта сваё, можна проста падправіць пад яе сцэнарый, — сказаў Джоў Вэй і, паглядзеўшы на мяне, спытаўся: — А ты што скажаш?

— Добра, паглядзім, — сказала я.

Джао Хунцсі гуляў у мацзян ажно да раніцы, таму ў час сняданку ён быў маўклівым і ўвесь час пазяхаў. Джан Цзінцсянь пасля сняданку адразу ж накіраваўся на працу, і нам давялося дабірацца да школы самім, бо і Джао Хунцсі, і Сяо Мо не згадзіліся нас суправаджаць.

Шлях да гарадской сярэдняй школы заняў у нас не больш пятнаццаці хвілін. Школа, пабудаваная на схіле гары, была абнесеная высокай сцяной з цэглы, да брамы вялі некалькі дзясяткаў цэментных прыступак. Насупраць брамы знаходзілася вялікая спартыўная пляцоўка, справа ад галоўнага ўвахода, нібыта косці для гульні ў мацзян, былі размешчаны чатыры будынкі, у кожным з якіх змяшчалася па восем аўдыторый. Паміж будынкамі праходзіла сцежка, а па абодва бакі ад спортпляцоўкі стаялі дзве доўгія бетонныя прыбіральні.

Звярнуўшы ад галоўнай брамы налева, мы накіраваліся да маленькага двухпавярховага будынка, у якім знаходзілася настаўніцкая.

Дырэктарам школы аказалася пяцідзесяцігадовая жанчына, невысокая, поўная, стрыманая і ветлівая. Перад тым, як мы адправіліся ў школу, Сяо Мо нам паведаміў, чаму гэтая дырэктрыса можа не хвалявацца за сваю пасаду. Прычына ў тым, што яе малодшы брат — начальнік мясцовай паліцыі.

Дырэктар праглядзела пасведчанні настаўнікаў Джоў Вэя і Фан Лэя, зазірнула ў маё пасведчанне журналіста, потым нейкі час моўчкі на нас пазірала. Яна, здаецца, не вельмі нам паверыла, але нічога падазронага так і не змагла выявіць.

— І што гэта будзе за фільм? — спыталася яна.

— Штосьці накшталт фільма «Пад спякотным сонцам»[5], — адказаў Джоу Вэй.

Дырэктар, па ўсяму бачна, фільм «Пад спякотным сонцам» не глядзела, але, безумоўна, чула пра яго, так што назва фільма яе крыху супакоіла. Джоў Вэй дадаў: гэты фільм лічыцца сусветна вядомым і атрымаў шмат узнагарод. Ягоны аповед быў настолькі яркім і маляўнічым, што не толькі дырэктар, нават я, аўтар гісторыі, на аснове якой мы вырашылі здымаць фільм, не паспявала за ходам ягоных думак. І нават міжволі падумала, а на самай справе, што калі замест фільма «Пад зямлёй» зняць працяг фільма «Пад спякотным сонцам».

Мы атрымалі дазвол дырэктара і пайшлі ў другія і трэція класы падбіраць акцёраў. Вучні, пачуўшы, што прыйшлі здымаць кіно, узбуджана загаманілі. У першых некалькіх класах мы нікога не знайшлі, стараста трэцяй групы трэцяга класа, пачуўшы, хто мы і навошта прыехалі, уся расчырванелася і, не адводзячы ад нас вачэй, круцілася то так, то гэтак, толькі б мы яе заўважылі.

— Вядома ж, я не мог яе не адзначыць, — сказаў мне потым Джоў Вэй. — Гэтая дзяўчынка марыць пра славу, ды і знешнасць з манерамі ў яе адпаведныя.

[5] «Пад спякотным сонцам» — фільм 1994 года. Рэжысёр Цзян Вэнь. У цэнтры сюжэтнай лініі — гісторыя некалькіх школьных сяброў. У фільме падлеткі перажываюць няпросты перыяд сацыялізацыі.

Але ён спецыяльна не звяртаў на старасту аніякай увагі, ягоны погляд раптоўна спыніўся на адной сціплай дзяўчынцы.

— Ты б не хацела пагутарыць з намі? — спытаўся ў яе Джоў Вэй.

Дзяўчынка кіўнула галавой і густа пачырванела.

Мы накіраваліся да дзвярэй, і, ужо выходзячы з памяшкання, Джоў Вэй, нібыта раптам успомніўшы аб нечым, азірнуўся і паглядзеў на старасту. Яе вочы, поўныя слёз, уважліва сачылі за намі.

— Ты таксама ідзі з намі, — сказаў ён.

Стараста ціхенька ўскрыкнула, ускочыла са стула, пры гэтым і стул, і стол гучна зарыпелі. Потым яна падбегла да нас, моцна ўхапіла за руку аднакласніцу, і абедзьве дзяўчынкі радасна пераглянуліся.

Калі мы выйшлі са школы і ўжо амаль дайшлі да цэментных прыступак, дырэктара паклікалі адказаць на званок з гарадскога аддзела народнай адукацыі, а Фэн Лэй накіраваў відэакамеру на гэтых дзвюх дзяўчынак: на крыху замкнутую і нясмелую Сунь Цсянь, і на старасту групы Джан Цзіньфан.

— Пра што вы хочаце зняць фільм? — спыталася Джан Цзіньфан.

— Каб здымаць, трэба мець сцэнарый, — сказаў Джоў Вэй. — Зараз мы яшчэ толькі падбіраем месца здымак і акцёраў. Магчыма, мы выберам кагосьці з вас, а, магчыма, і не з вас…

Абедзьве дзяўчынкі нічога на гэта не адказалі.

— Акрамя вучобы чым яшчэ вы захапляецеся? — спытаўся ў іх Джоў Вэй.

— Я люблю спяваць і танцаваць, — адказала Джан Цзіньфан.

Сунь Цсянь нічога не адказала. Яна, дарэчы, была вельмі прыгожай дзяўчынкай і міжволі прыцягвала да сябе ўвагу.

— Яна таксама цудоўна спявае і танцуе, калі мы наладжваем сяброўскія сустрэчы, мы заўсёды разам рэпетыруем і разам выступаем, — замест Сунь Цсянь казала Джан Цзіньфан, потым памаўчала крыху і нецярпліва ў нас запыталася: — Калі мы будзем здымацца ў кіно, мы станем такімі ж актрысамі, як Вэй Міньджы?

— Ты хочаш быць, як яна? — пацікавіўся Джоў Вэй.

— Вядома ж, хачу! — сказала Джан Цзіньфан. — Я вельмі хачу стаць кіназоркай.

— А ты хочаш стаць зоркай? — спытаўся мужчына ў Сунь Цсянь.

Сунь Цсянь моўчкі кіўнула.

— Але ж я не вялікі рэжысёр Джан Імоў, вы не расчаруецеся?

— Не, — сказала Джан Цзіньфан. — У любым выпадку гэта фільм.

— Нам яшчэ трэба знайсці хлопчыка, галоўнага героя нашага фільма. Ды вось толькі з усіх васьмі груп я не заўважыў нікога, хто б падышоў на гэтую ролю.

Джан Цзіньфан, пачуўшы, пра што мы размаўляем, параіла ўзяць свайго хлопца. «Вы толькі што здымалі, як ён ішоў, ён сядзіць у апошнім радзе, высокі такі хлопчык», — сказала яна Фан Лэю.

Фан Лэй пераматаў плёнку ў відэакамеры, Джоў Вэй з-за яго пляча моўчкі праглядзеў знятыя кадры.

— Мы падумаем, — адказаў ён і, звяртаючыся да Сунь Цсянь, спытаўся: — А ў цябе ёсць хлопец?

Сунь Цсянь адмоўна паматляла галавой.

— Зато ў яе шмат паклоннікаў, — сказала Джан Цзіньфан, — нават больш, чым у мяне.

Сунь Цсянь непрыкметна штурханула сяброўку локцем у бок. У гэты час да нас падышлі Сяо Мо і Джао Хунцсі.

— Ну што, яны падыходзяць? — спытаўся Сяо Мо.

— Амаль, — адказаў Джоў Вэй. — Праўда, іх прыйдзецца яшчэ шмат чаму навучыць. Мы жадаем, каб у той час, калі іх будуць здымаць, дзяўчаты паводзілі сябе натуральна, каб не спалохаліся камеры ў самы адказны момант, і тады ўсё будзе ў парадку.

— Толькі і ўсяго? — усклікнуў Джао Хунцсі. — Тады, можа, і я змагу паўдзельнічаць у здымках?

— Можаш, — сказаў Джоў Вэй. — Як толькі з'явіцца роля, якая табе падыходзіць, адразу ж да цябе звернемся. Але тады ўжо, глядзі, не адмаўляйся!

— Усё зразумела, — уздыхнуў Джао Хунцсі. — Я не падыходжу.

Мы спусціліся з гары і, павярнуўшы ў бок гатэля, пайшлі напрасткі, праз рынак.

У самым цэнтры рынку знаходзілася вялікая крама, якая гандлявала кавунамі. Гаспадар крамы паведаміў нам, што кавуны прывезлі толькі ўчора, потым прынёс маленькі круглы столік, некалькі табурэтаў і, разрэзаўшы кавун на часткі, прапанаваў нам яго пакаштаваць.

А непадалёк гуляў падлетак з вялікім рудым сабакам. «Ляжаць! Сядзець!» — дрэсіраваў ён сабаку, і калі той усё выконваў спраўна, выцягваў з торбачкі некалькі ядраў арахісу і частаваў жывёлу, калі ж сабака не слухаўся, то падлетак біў яго прутком па лапах і крычаў : «Кепскі пёс! Кепскі пёс!»

Ван Лэй адразу ж накіраваў на хлопчыка камеру, засняў яго, потым перавярнуў камеру, каб даць магчымасць Джоў Вэю паглядзець яшчэ раз.

— Вы ведаеце гэтага хлопца? — спытаўся Джоў Вэй у Сяо Мо.

Сяо Мо у сваю чаргу спытаў гандляра кавунамі: «Чый гэта хлопец?»

— Ён з сям'і Бай, — сказаў гандляр і гучна крыкнуў: «Бай Юньфэй, падыдзі!»

Бай Юньфэй павярнуў галаву, паглядзеў на нас і, падхапіўшы сабаку на рукі, падышоў. І падлетак, і сабака былі ўсе перапэцканыя, але ў той жа час мелі вельмі задаволены выгляд.

— Ты чаму не вучышся? — спытаўся Джоў Вэй.

— А вы што, настаўнік? — пытаннем на пытанне адказаў Бай Юньфэй.

— Самы сапраўдны настаўнік, — адказаў мужчына.

Бай Юньфэй з нейкім спалохам уважліва аглядзеў Джоў Вэя з галавы да ног. «Не можа такога быць!» — нібыта казаў гэты ягоны погляд. Потым хлопчык зірнуў на Фан Лэя.

— Вы з тэлебачання? — спытаўся ён.

— А ты б хацеў зняцца ў кіно? — не адказваючы на пытанне Бай Юньфэя, Джоў Вэй сам запытаўся ў яго. — Хацеў бы?

— У якім яшчэ кіно? — насцярожыўся Бай Юньфэй. — Я пакуль што нічога добрага не зрабіў!

Потым ён падумаў крыху і дадаў:

— І нічога кепскага таксама.

Хлопец гэты міжволі нас усіх рассмяшыў. Джоў Вэй зірнуў на мяне, а я таксама падумала, што гэты Бай Юньфэй нам павінен падысці.

— Мы здымаем фільм, — сказаў Джоў Вэй. — Ты б хацеў зняцца ў фільме?

На гэты раз Бай Юньфэй паглядзеў на нас ужо на поўным сур'ёзе: «А якой будзе мая роля?»

— Пакуль гэта не мае значэння, скажы толькі, ты хочаш здымацца? — спытаўся ён.

— Хачу!

— Падыдзі бліжэй, — сказаў Джоў Вэй. — А зараз паглядзі ў аб'ектыў і зрабі злосны выраз твару.

Бай Юньфэй крышачку павагаўся, затым уставіўся ў аб'ектыў, і імгненна праставатая і нават крыху разгубленая ўсмешка знікла з ягонага твару, змяніўшыся злоснай і жорсткай грымасай.

— А зараз зноўку ўсміхніся, чым больш радасці ва ўсмешцы, тым лепш.

Бай Юньфэй пачакаў крыху, нібыта спраўляючыся са сваімі эмоцыямі, а потым шырока і радасна ўсміхнуся, прадэманстраваўшы нам свае роўныя белыя зубы.

— Вы не супраць, калі мы возьмем гэтага хлопца з сабой паабедаць? — спытаўся Джоў Вэй у Джао Хунцсі. — Мне трэба бліжэй з ім пазнаёміцца.

— Ды нават калі ты возьмеш яго з сабой спаць, нас гэта не датычыцца! — засмяяўся Джао Хунцсі.

Мы ўзялі з сабой Бай Юньфэя ў рэстаранчык «Саладзейшы за мёд». Гаспадыня, пачуўшы, што мы выбралі акцёра, з цікавасцю на яго паглядзела. Кухарка таксама выйшла, аказалася, што яна ведае бацьку хлопца: «Гэта той Лао Бай, што жыве за гарой, так?»

Бай Юньфэй сцвярджальна кіўнуў.

— Пасля таго, як паабедаем, пойдзем да цябе дамоў, ты не супраць? — спытаўся Джоў Вэй.

— Не супраць! — ажывіўся хлопец.

Джао Хунцсі і Сяо Мо ўсё ж саставілі нам кампанію. На машыне яны падвезлі нас да падножжа гары, дамовіліся, што яны нас тут пачакаюць, і мы пайшлі далей разам з Бай Юньфэем. Дамы на схіле гары былі пабудаваныя хаатычна, наперадзе кожнага дома меўся дворык, такія ж дворыкі былі і за дамамі. Фан Лэй з Бай Юньфэем ішлі апошнімі і аб чымсці ціха размаўлялі.

— Сакрэтнічаюць, — сказаў, звяртаючыся да мяне, Джоў Вэй, потым памаўчаў крыху і дадаў: — Гэты хлапчук даволі цікавы.

За абедам Бай Юньфэй прызнаўся, што ў яго ёсць дзяўчына. Але не тут, а ў другім горадзе, звычайна ён дзве гадзіны вымушаны ісці ўздоўж чыгуначных шляхоў, каб з ёй сустрэцца.

— Сёння вечарам таксама пайду да яе! — сказаў ён.

Ён не мог дачакацца таго моманту, каб паведаміць сваёй дзяўчыне аб тым, што будзе здымацца ў кіно.

Сям'я Бай Юньфэя жыла ў хутуне[6], у двары расла яблыня, на якой ужо завязаліся і паступова спелі маленькія яблычкі. У цагляным будынку меліся тры пакоі, якія знаходзіліся ў вельмі занядбаным стане. На заднім двары раслі сланечнікі, некаторыя з іх былі такімі высокімі, што дасягалі даху, імкнучыся сваімі асляпляльна жоўтымі тварыкамі да сонечнага святла.

Джоў Вэй і Фан Лэй вельмі ажывіліся і пачалі з розных ракурсаў здымаць сланечнікі.

У гэты час з дома выйшла жанчына сярэдніх гадоў. Убачыўшы, што з сынам прыйшло так шмат незнаёмцаў і адзін з іх нясе відэакамеру, яна вельмі здзівілася.

Вочы жанчыны былі падобнымі на вочы Бай Юньфэя, у маладосці ў яе, напэўна, было шмат паклоннікаў. Але адбітак доўгага гора змяніў выраз твару жанчыны, а моцна сціснутыя вусны яе былі падобныя на два кінжалы.

Мы папрасілі прабачэння за няпрошаны візіт, жанчына ў адказ кіўнула галавой і з нянавісцю паглядзела на Бай Юньфэя. Калі мы пачалі размову аб тым, што запрасілі яе сына здымацца ў кіно, жанчына здзіўлена змерыла сына поглядам, так, быццам бачыла перад сабой чужога чалавека.

Усё ў доме Бай Юньфэя было перапэцкана вугалем. Калі мы ўвайшлі ў пакой, узнікла адчуванне, нібыта раптоўна надышла ноч. Сцены былі чорныя, кухонная печ таксама была чарнейшай за смалу, на ёй ляжалі тоўстым слоем вугальны пыл уперамешку з сажай, чыгунок і чайнік, што стаялі на печцы, закапцеліся так, што амаль не вылучаліся на агульным чорным фоне. Талеркі, кубачкі, палачкі, якія ляжалі ў буфеце, былі калі не разбітымі, то старымі, а калі не старымі, то разбітымі…

Усяго ў доме было тры пакоі, але толькі ў двух з іх меліся вокны. Мэблі амаль не было: толькі маленькі столік на ножках, драўляны табурэт і скрыні, у якіх захоўваліся коўдры і прасціны. Побач з кухняй былі расчыненыя дзверы ў маленькі пакойчык без акон, дзе на ка́не[7] сядзела распранутая смуглявая дзяўчынка. З дурнаватым выглядам яна ўважліва пазірала на нас такімі ж вялікімі, як у маці і старэйшага брата, вачыма, і ўвесь час усміхалася.

[6] Хутун — тып сярэдневяковай кітайскай гарадской забудовы, вузенькая вулачка.
[7] Кан — печка-ляжанка з цэглы і гліны, традыцыйная сістэма ацяплення ў сялянскіх дамах паўночнага Кітая і Карэі.

Маё сэрца сціснулася ад гэтай усмешкі.

Маці Бай Юньфэя падышла і апусціла фіранку на дзвярах.

— Яна ад нараджэння разумова адсталая, — сказала мне жанчына, не зводзячы пры гэтым вачэй з Фан Лэя. Відэакамера прывяла яе ў такі непакой, нібыта гэта было ружжо.

— Калі мы возьмем Бай Юньфэя, — ціха спыталася я ў Джоў Вэя, — колькі мы яму заплацім?

— Нічога, — сказаў Джоў Вэй. — Падзякуем і ўсё.

Калі мы сталі развітвацца, Бай Юньфэй таксама пажадаў паехаць з намі.

— Заставайся лепш дома, — сказаў яму Джоў Вэй. — Праз месяц мы прыедзем за табой.

— Вы абяцаеце, што вернецеся? — спытаўся Бай Юньфэй.

— Абавязкова! — засмяяўся Джоў Вэй. — А ты павінен добра вучыцца і слухацца сваіх бацькоў.

Бай Юньфэй у знак згоды заківаў галавой.

Чакаючы нас, Джао Хунцсі і Сяо Мо заснулі ў машыне і храплі так, што мы ўжо здалёк гэта пачулі. Мы пабудзілі іх і паведамілі аб тым, што акцёраў падабралі, з месцам здымак таксама амаль вызначыліся, так што ўжо сёння ўвечары можна ад'язджаць.

Яны вельмі не хацелі нас адпускаць: «Як гэта вось так, адразу, можна ўзяць ды з'ехаць?» — сказаў Джао Хунцсі.

— Усё роўна праз месяц мы сюды вернемся, засталося яшчэ шмат працы, — сказаў Джоў Вэй і, павярнуўшыся да Сяо Мо, спытаўся: — А можна пакінуць за намі нашыя месцы ў гатэлі? Я за тыдзень да нашага прыезду звяжуся з вамі.

Сяо Мо сказаў, што нумары, вядома ж, забраніруе, а на днях займецца ваннымі пакоямі.

Наша апошняя вячэра ў гарадку Суншуджэнь чымсьці нагадвала навагоднюю. Джао Хунцсі, Джан Цзінсянь і Сяо Мо выпілі нямала гарэлкі, мы таксама выпілі, колькі змаглі, гаспадыня рэстаранчыка далучылася да нас, з кожным прапусціўшы па кілішку.

— Вячэра за мой кошт! — крыкнула яна.

— Калі мы вернемся, — сказаў Джоў Вэй, — трэба будзе зрабіць гэтае месца сталоўкай для здымачнай групы.

— Для мяне гэта такі гонар! — весела сказала гаспадыня. — І не хвалюйцеся, на вашых грошах нажывацца не буду, вазьму з вас па сабекошту.

Калі мы прыехалі на вакзал, Джан Цзіньфан і Сунь Цсянь, якія немаведама адкуль даведаліся, што мы ад'язджаем, прыбеглі нас праводзіць.

— Вы ж абавязкова вернецеся? — пыталіся яны зноў і зноў, нават тады, калі цягнік ужо скрануўся з месца, і Джан Цзіньфан пыталася аб гэтым на бягу, паступова адстаючы ад вагона.

— Абавязкова! — мы памахалі рукамі Джан Цзіньфан, памахалі Сунь Цсянь, памахалі Джао Хунцсі, Джан Цзінцсяню і Сяо Мо, памахалі гарадку Суншуджэнь. Мы сапраўды думалі, што вернемся праз месяц. Але мы не вярнуліся ні праз тры месяцы, ні праз тры гады, ні праз дзесяць гадоў. Мы больш ніколі не трапілі ў гарадок Суншуджэнь.

Зімой гэтага года, калі ў другі раз пайшоў снег, мне патэлефанаваў незнаёмец. Спачатку ён спытаўся, хто я па прафесіі, потым назваў сябе, сказаў, што ён з паліцыі, прыгадаў штосьці аб Сунь Цсянь, аб гарадку Суншуджэнь, і толькі тады я зразумела, што гэта не чарговы недарэчны жарт кагосьці з маіх знаёмых. «Мы просім вас прыехаць», — сказаў напрыканцы паліцэйскі. Калі я выходзіла з дому, ужо выпаў снег, няшмат, дзесьці на палову чы[8], маленькія сняжынкі сыпаліся зверху, апускаліся на твар, на адзенне, і паступова таялі. Я доўга стаяла на вуліцы, пакуль злавіла

[8] Чы — кітайская мера даўжыні, роўная прыкладна 30 см.

таксі, і вельмі шкадавала аб тым, што адмовілася, каб яны даслалі за мной машыну. У рэшце рэшт прыйшлося дадаць грошай, і толькі тады знайшоўся таксіст, які давёз мяне да турмы «Тэбэй». У паліцэйскага, які мяне сустрэў, было прозвішча Лю, менавіта ён і тэлефанаваў мне перад гэтым. Ён адказваў за выхаваўчую работу і вёў справу Сунь Цсянь, той самай дзяўчынкі, якую мы хацелі ўзяць для здымак у фільме. Сунь Цсянь адмаўлялася супрацоўнічаць са следствам, пакуль не запросяць мяне сустрэцца з ёй.

— Што яна зрабіла?

— Забіла свайго хлопца.

Паліцэйскі Лю прапанаваў мне прайсці ў прыёмную — маленькі пакойчык, у якім стаяў вялікі стол, замест стулляў былі складныя крэслы, але чамусьці на сценах не было плакатаў з надпісамі, накшталт «Праяві вялікадушнасць да тых, хто прызнае сваю віну, строга карай тых, хто не прызнае сваёй віны!».

Перад тым, як заварыць мне чай, паліцэйскі спытаўся: «Сёння холадна, вып'еце кубачак улуна?»

Я спыталася ў яго: «Чаму яна забіла свайго хлопца?»

— Яна была ў блізкіх адносінах з дырэктарам тэлебачання, аб чым даведаўся яе хлопец. Малады чалавек пажадаў, каб аб гэтым даведаліся ўсе, за гэта яна яго і забіла.

Паліцэйскі Лю патэлефанаваў і папрасіў кагосьці прывесці Сунь Цсянь. Добра завараны чай ён паставіў перада мной, папяровы стаканчык апякаў рукі, але чай здаўся мне проста цудоўным, і пах ад яго ішоў прыемны.

— Перад арыштам Сунь Цсянь працавала тэлевядучай, — патлумачыў Лю. — Спадзявалася, што з дапамогай сувязі з дырэктарам тэлебачання зможа зрабіць кар'еру. Яна, дарэчы, такая прыгожая і, галоўнае, фотагенічная, і зняцца ў фільме было б для яе вялікай удачай.

У гэты час у дзверы пастукалі, і двое паліцэйскіх увялі Сунь Цсянь, адзін з іх сказаў пару слоў і пакінуў нас, другі ж сеў побач з Сунь Цсянь за сталом насупраць мяне. Паліцэйскі Лю падаў ім стаканчыкі з чаем, затым адышоў убок і ўключыў відэамагнітафон. Я з недаўменнем зірнула на яго, але Лю нічога не стаў тлумачыць, нібыта ўсё так і павінна было быць.

На Сунь Цсянь было турэмнае адзенне, валасы і твар яе выглядалі вельмі дагледжанымі, а вочы аказаліся яшчэ большымі і ярчэйшымі, чым захаваліся ў маіх успамінах. Яна села насупраць, акінула мяне хуткім уважлівым поглядам і, пераканаўшыся, што я менавіта той чалавек, які прыязджаў калісьці ў гарадок Суншуджэнь, спыталася:

— Як вы маглі не прыехаць здымаць фільм? Вы ж абяцалі, што абавязкова вернецеся!

— Інвестар перадумаў, мы нічога не маглі зрабіць.

Я не сказала ёй, што фільм, які мы хацелі здымаць, быў падпольны, пустая забаўка інвестара, які спачатку вельмі загарэўся гэтай ідэяй, але затым раптам апамятаўся.

— Мы вельмі чакалі вас, — сказала Сунь Цсянь.

— Даруйце!

— Усе ведалі, што мы будзем здымацца ў фільме, усе пыталіся ў нас, аб чым будзе фільм… — Сунь Цсянь паглядзела на мяне. — А мы і самі не ведалі, аб чым будзе ваш фільм. Хоць зараз скажыце мне, які ў яго быў сюжэт?

Той сцэнарый быў ужо дзесяцігадовай даўнасці, і некаторыя дэталі я і сама дакладна ўжо не памятала. Але не магла не адказаць на пытанне Сунь Цсянь.

— Гэты фільм аб некалькіх вучнях сярэдняй школы з невялікага шахцёрскага гарадка, — пачала я. — Школьнік, ролю якога павінен быў выконваць Бай Юньфэй, і вучаніцы, у ролях якіх мы планавалі задзейнічаць цябе і Джан Цзіньфан, вучыліся ў адным класе. Бай Юньфэй быў закаханы ў цябе, але табе падабаўся настаўнік фізкультуры, ты ад яго зацяжарыла. Каб дапамагчы табе, Бай

Юньфэй звярнуўся да Джан Цзіньфан з просьбай пазычыць грошай, па сцэнарыю бацька Джан Цзінфан быў багатым уладальнікам адной з вугальных шахтаў. Але Джан Цзіньфан не згадзілася пазычыць грошай і так пагардліва размаўляла з Бай Юньфэем, што той ускіпеў і скраў дзяўчыну, каб запатрабаваць у яе бацькі грошы ў якасці выкупу. Калі Джан Цзіньфан паспрабавала збегчы, то звалілася ў закінутую шахту. Бай Юньфэй шантажыраваў бацьку Джан Цзіньфан, але быў схоплены паліцыяй і так і не змог дапамагчы табе — дакладней, тваёй гераіне.

— Які збіты сцэнарый! — пасля нядоўгага маўчання прамовіла Сунь Цсянь. — Нядзіўна, што вам не далі зняць гэты фільм.

— Як яна гэта зрабіла? — спыталася я ў паліцэйскага Лю, калі за Сунь Цсянь зачыніліся дзверы.

— Задушыла яго ў машыне. Але знайшліся сведкі, якія запомнілі нумар машыны.

— Ёй пагражае смяротнае пакаранне?

— Усім нам пагражае смерць, — усміхнуўся паліцэйскі. — Раней ці пазней…

Праз дзве гадзіны паліцэйская машына даставіла мяне дамоў. На вуліцы было цёмна, у шкле светлай плямай адбіваўся мой змучаны твар.

Калі я выйшла з машыны, снег ужо не йшоў, ён ляжаў на зямлі, падобны на новую беласнежную коўдру, і ад яго сыходзіў ледзь чутны халодны водар.

*Пераклад Яніны Іўліевай.*

《松树镇》

金仁顺

这篇小说写于2008年。

一个摄制组来到松树镇准备拍一部电影。松树镇是一个以煤炭为主的小山城。摄制组在松树镇受到热烈欢迎。因为要拍的电影与中学生有关，他们去学校选秀，挑选了两个女孩儿和一个男孩儿。离开松树镇的时候，他们答应大家一个月后回来就开始拍电影，但是一直没有回来。几年后，作者收到警察的电话，说一个姑娘（当年那两个女中学生之一）要求她来警察局。作者去看望她，发现她原来一直都在期待他们回来，一直想成为演员或者找到另一个方法出名。结果她犯了罪，杀了人，可能会被判死刑。小说讲述了煤矿里住着的一匹马的故事，发人深省："这马还是小马驹时，还能塞得进我们下来时乘的罐笼时，就被运下来了，这马是在井下长大的，因为没有光亮，一两年后它的眼睛就全瞎了。它在这煤道里面拉车拉到死为止，然后被埋在这里。"



# Жаўрук

Трэці столік ля акна кожны дзень з 6 да 8 гадзін вечара быў зарэзерваваны спецыяльна для Цзян Цзюньхэ. Часам ён прыводзіў з сабой сябра альбо калегу, але часцей прыходзіў адзін. З сабой ён прыносіў часопіс, у якім паспяваў праглядзець пару старонак, пакуль гатавалі і падавалі ежу. Кожны дзень ён размаўляў з Чунь Фэн, але гутарка гэтая не выходзіла за рамкі той схемы, якая ўсталявалася ў іх адносінах: яна прапаноўвала яму зрабіць заказ, а ён называў стравы. Размова дапаўнялася ветлівымі рэплікамі накшталт «дзякуй» і «калі ласка».

Аднойчы Чунь Фэн запамятавала паставіць таблічку «Заказана» на патрэбны столік, і калі яна выявіла сваю памылку, столік ужо занялі дзве жанчыны сярэдніх гадоў. Яны ажыўлена балбаталі з таго моманту, як увайшлі ў памяшканне, і не звярталі ніякай увагі на просьбы і выбачэнні афіцыянткі.

— Мы будзем сядзець тут і нікуды не пяройдзем, — катэгарычна заявілі яны.

Абслугоўваць жанчын накіраваўся іншы афіцыянт, а Чунь Фэн выйшла чакаць Цзян Цзюньхэ. Калі ён прыйшоў, яна пакланілася і са слязьмі на вачах прамовіла:

— Прабачце, калі ласка! Ваш столік занялі, і гэта ўсё мая віна.

— Бедная! — усклікнуў ён. — З-за гэткай дробязі ты так доўга прастаяла на ветры! Гэта я павінен прасіць у цябе прабачэння.

Потым, ужо ўвайшоўшы ў рэстаран, Цзян Цзюньхэ сказаў гаспадыні:

— Ваша абслугоўванне абсалютна бездакорнае. Я вельмі ўражаны.

— Кліент для нас — як бог, — усміхаючыся, адказала гаспадыня. Яна сама адвяла Цзян Цзюньхэ да свабоднага століка ў ціхім месцы і, пазіраючы, як Чунь Фэн нясе меню, сказала: «Яна яшчэ студэнтка і падрабляе тут ў вольны ад вучобы час».

Пакуль Чунь Фэн падавала ежу, Цзян Цзюньхэ стаў распытваць яе, дзе яна вучыцца, якая спецыяльнасць, ці задаволена сваім выбарам.

Задаючы пытанні, ён крыху прыўзнімаў галаву, а дзяўчына, адказваючы, наадварот, галаву нізка схіляла. Цзян Цзюньхэ гэта падалося даволі пацешным, і ён усміхнуўся Чунь Фэн, а затым таксама апусціў галаву і прыняўся за ежу.

Праз некалькі дзён пачаліся моцныя снегапады. Калі Чунь Фэн чакала на прыпынку апошні аўтобус, перад ёй прытармазіў серабрысты «Аўдзі», і з адкрытай дзверцы высунуўся Цзян Цзюньхэ.

— Давай я падвязу цябе!

— Дзякую, не трэба! — замахала рукамі Чунь Фэн.

— У такі снегапад аўтобус, хутчэй за ўсё, спозніцца, — сказаў мужчына. — Сядай хутчэй!

У салоне было нібыта ў цёплым утульным пакоі, і Чунь Фэн, як толькі апынулася там, адразу ж адчула, наколькі задубелі ад холаду яе рукі і ногі. З-за ледзянога пранізлівага ветру яна паспела прамерзнуць, што называецца, да касцей, ды й так моцна, што па целу пабеглі дрыжыкі. Павярнуўшыся да Цзян Цзюньхэ, Чунь Фэн сказала:

— Прабачце, што раблю столькі клопату.

— Зусім не робіш, гэта такая дробязь. Напэўна, нялёгка падзарабляць афіцыянткай? — пацікавіўся мужчына.

— Нармальна, — адказала афіцыянтка.

— У мяне ёсць родзіч, які мае ў Сеуле падобны рэстаран, — сказаў Цзян Цзюньхэ. — У яго там таксама працуюць студэнты, нават ёсць двое з Кітая. Дык яны ўсё ўздыхаюць, гавораць, як гэта цяжка.

Чунь Фэн пачала расказваць, што ўладкавалася ў рэстаран у мінулым годзе, у час летніх канікул. Насупраць рэстарана знаходзіцца плошча, на якой кожны вечар у шэсць гадзін пачыналі працаваць фантаны з асвятленнем і музыкай. Работнікі ўстановы выносілі на вуліцу прыгожа распісаныя столікі і крэслы, утвараючы своеасаблівае летняе кафе пад адкрытым небам. На кожны столік ставілі свежыя кветкі і маленькі збаночак, які формай нагадваў залатую рыбку. Гэта маляўнічае мініяцюрнае кафэ часта прыцягвала ўвагу фотарэпарцёраў, дзякуючы чаму ягоныя фотаздымкі некалькі разоў мільгалі на старонках мясцовай газеты. І калі Чунь Фэн убачыла ўпершыню свой фотаздымак у газеце, яна ажно падскочыла ад здзіўлення.

— Ты так захапляльна ўсё гэта апавядаеш, — сказаў Цзян Цзюньхэ, спыняючыся каля ўвахода ва ўніверсітэт. — Вой, ледзь не забыўся… пачакай хвіліначку…

Ён выняў скрыначку, дастаў з яе невялікі пакецік.

— Гэта маленькі падарунак ад аднаго майго сябра, тыпова жаночая штучка… І я… — не дагаварыўшы, Цзян Цзюньхэ працягнуў руку і перадаў пакецік дзяўчыне.

— Я не магу яго ўзяць! — усклікнула Чунь Фэн, працягваючы яго назад.

— Лічы, што акажаш гэтым мне вялікую паслугу, добра? — Цзян Цзюньхэ амаль сілком усунуў пакет зноўку ў рукі дзяўчыне.

Вярнуўшыся ў інтэрнат, Чунь Фэн прачытала на пакеціку надпіс «Дзіор»[1], а унутры знайшла скрыначку з флаконам духоў пад назвай «Пяшчотнае спакушэнне» з паметкай «абмежаваная серыя». Усе надпісы на скрыначцы былі на французскай мове, а зверху была прымацаваная срэбная этыкетка з тлумачэннем па-кітайску. Іерогліфы там размяшчаліся акуратнымі слупкамі, нібыта ў вершы.

Узяўшы флакон з духамі, Чунь Фэн паднесла яго да лямпы і пачала ўважліва ўглядвацца ў ружовую вадкасць унутры. Звонку флакон быў упрыгожаны срэбранымі блёсткамі, якія мільгацелі на святле. Міжволі стваралася адчуванне, што ў маленькім сусвеце ўнутры флакона няспынна ідзе дробны снег.

Чунь Фэн асцярожна пырснула духамі, і ў адно імгненне незлічонае мноства духмяных малюпасенькіх кропелек узвілася ў паветры вакол яе. Гэтыя кропелькі не толькі цалкам напоўнілі цела дзяўчыны, але, здавалася, праніклі ў самыя яе лёгкія. Прыемны водар падарунка поўнасцю ахінуў Чунь Фэн.

На наступны дзень Чунь Фэн, дачакаўшыся, калі Цзян Цзюньхэ прыйдзе ў рэстаран вячэраць, у знак падзякі за духі паднесла яму яблык. Спыніўшыся перад мужчынам, яна, нібыта кнігу, разгарнула фрукт: замест стрыжня ўнутры былі дробна парэзаныя і перамешаныя з мёдам кавалачкі грушы, ківі, глогу, яблыка і долькі мандарына.

Цзян Цзюньхэ, гледзячы на яблык, доўга не мог вымавіць ні слова.

Праз тыдзень Цзян Цзюньхэ запрасіў Чунь Фэн у рэстаран. Афіцыянт, які іх абслугоўваў, — мужчына сярэдніх гадоў з вельмі строгім выразам твару — быў гладка выгалены, апрануты ў чорныя штаны і белую кашулю, а спіна ў яго была прамой, нібыта страла. Грандыёзна і лёгка, быццам танцор, ён працягнуў руку Чунь Фэн, якая пасля ціхага напаміну Цзян Цзюньхэ аддала афіцыянту сваю верхнюю вопратку.

Ухапіўшы яе куртку на манер матадора і адступіўшы на два крокі назад, афіцыянт крута развярнуўся і рушыў да выхада, а Чунь Фэн разгублена праводзіла яго поглядам. Якой жа непрыгожай і несучаснай падалася ёй раптам уласная куртка! Яе чырвоны колер паспеў значна

[1] Вядомая марка парфума, што выпускаецца парфумерным домам Дзіор (тут і далей — заўвагі перакладчыка).

паблякнуць пасля неаднаразовага мыцця, і зараз здавалася, што ён проста выгараў на сонцы, а цёмна-шэры шалік ручной вязкі, што звісаў з рукі афіцыянта паверх курткі, нагадваў чалавека, які так сціснуўся ад сораму, што знадворку засталася тырчэць толькі пасма ягоных валасоў.

— Я ніколі раней не наведвала такія важныя рэстараны, — шчыра прызналася Чунь Фэн Цзян Цзюньхэ.

Афіцыянт ніяк не выходзіў з галавы дзяўчыны. Каму як ні ёй ведаць, з якой асалодай перамываюць яны ўпотай костачкі наведвальнікам.

А ў гэты час афіцыянт зноўку вярнуўся і роўным ветлівым голасам прапанаваў зрабіць заказ, паклаўшы пры гэтым на стол меню з такім выглядам, нібыта гэта быў дакумент найвышэйшай сакрэтнасці.

Увесь той час, пакуль яны выбіралі стравы, Чунь Фэн спадцішка пазірала на афіцыянта, спрабуючы зразумець, ці не разглядвае ён зараз яе танныя джынсы і красоўкі з фальшывай этыкеткай «Nike».

«А можа ён звярнуў увагу на мае духі?» — з надзеяй падумалася дзяўчыне. Чунь Фэн вельмі хацелася, каб афіцыянт абавязкова адчуў іх пах, бо менавіта гэтыя духі адносіліся да разраду тых прэзентабельных рэчаў, з якімі не сорамна з'яўляцца ў прыстойных месцах.

Цзян Цзюньхэ між тым заказаў некалькі страў, пасля чаго ветліва пацікавіўся меркаваннем сваёй суседкі.

— Як табе мой выбар?

— Проста цудоўны! — усміхнулася ў адказ Чунь Фэн.

Біфштэкс, які яны заказалі, аказаўся неверагодна смачным. Сакавіты пах крыху недасмажанага мяса прымусіў бы любога глытаць сліну.

— Не дзіўна, што ў час урачыстых мерапрыемстваў у будыйскім храме заўсёды паляць розныя пахучыя рэчывы, — сказала Чунь Фэн. — Аказваецца, задавальненне ад адчування прыемнага паху нават пераўзыходзіць задавальненне ад адчування смаку, прымушаючы душу трымцець ад асалоды.

— Ты такая мілая, — рассмяяўся Цзян Цзюньхэ і, крыху павагаўшыся, дадаў: — Твой хлопец, напэўна, ад цябе без памяці.

— У мяне няма хлопца.

— Быць такога не можа. Я б не здзівіўся, калі б даведаўся, што за табой проста натоўпамі бегаюць маладыя людзі, — сказаў Цзян Цзюньхэ.

— Яшчэ што скажаце, — нават пачырванела Чунь Фэн, — я самая звычайная дзяўчына і толькі…

— Ты сапраўдны скарб, — сказаў мужчына, гледзячы ёй у вочы і нібыта падкрэсліваючы гэтым праўдзівасць сваіх слоў. — Я не веру, што хлопцы вакол цябе не заўважылі гэтага.

Чунь Фэн усміхнулася. Калісьці да яе заляцаўся адзін хлопец, і яны разам хадзілі ў KFC[2], дзе елі гамбургеры, пілі кока-колу, абмяркоўвалі ганконгскія фільмы і японскае анімэ[3]. На зваротным шляху гэты хлопец упэўнена і нават па-гаспадарску узяў яе за руку сваёй вільготнай і ліпкай ад поту далонню. Чунь Фэн крыху пацярпела, а потым рашуча вызваліла сваю.

— Але ж ёсць хтосьці, хто табе падабаецца? — спытаў Цзян Цзюньхэ.

У думках Чунь Фэн адразу ж усплыў Пай Дзычэнь, ад аднаго погляду на якога ў яе ў душы квітнела вясна, а ў галаве звінеў цэлы рой пчол. Але што з гэтага? Палова студэнтак іх універсітэта адчувалі, пэўна, тое ж самае, таму ніякіх ілюзій наконт таго, што прыгажун вылучыць менавіта яе сярод некалькіх тысяч іншых дзяўчат, у Чунь Фэн ніколі не было.

---

[2] Амерыканская сетка кафэ грамадскага харчавання, якая спецыялізуецца на стравах з курацiны.
[3] Японскія мультфільмы, якія адрозніваюцца характэрнай манерай малюнка персанажаў і фонаў.

— Неяк на ўрок фізкультуры да нас запрасілі інструктара па ёге, — прынялася апавядаць дзяўчына. — Ягоная цёмная скура, вялікія вочы з густымі вейкамі, гнуткае, нібыта пруток вярбы, цела нікога не пакінулі абыякавым!

— Па тваім апісанні ён больш падобны на ляльку, — рассмяяўся Цзян Цзюньхэ. — Нават не ведаю, узрадаваўся б ён альбо засмуціўся, калі б пачуў твае словы.

Калі яны выходзілі з рэстарана, Цзян Цзюньхэ сказаў Чунь Фэн:

— Давай у наступны раз ты завядзеш мяне туды, дзе звычайна еш сама?

— Не думаю, што сталоўка для бедных студэнтаў — добрая ідэя, там няма нічога цікавага для цябе.

— Не будзь такой ганарлівай! — усміхнуўся ён. — Я таксама быў маладым.

Непадалёку ад увахода ва ўніверсітэцкі гарадок знаходзілася невялікая шашлычная пад назвай «Белы дом». Менавіта сюды Чунь Фэн і прывяла Цзян Цзюньхэ, якога вельмі пазабавіла падобная назва. Смеючыся, ён прамовіў:

— Па ўсяму бачна, гэта вельмі прыбытковае месца!

Унутры, аднак, аказаліся абшарпаныя драўляныя сталы і крэслы, на якіх ляжалі брудныя пакамячаныя пасцілкі, вельмі падобныя на простыя анучы. Большасць наведвальнікаў былі студэнтамі, хоць сярод іх вылучаліся некалькі чалавек рабочай знешнасці. Усе пілі піва прама з бутэлек, ігнаруючы шклянкі.

— Калі чокаюцца рыльцамі бутэлек — гэта называецца сяброўства «вэн цзін»[4], — паведала Чунь Фэн і яшчэ доўга расказвала Цзян Цзюньхэ гісторыю гэтай дзіўнай традыцыі.

— Вельмі цікава, — задумліва прагаварыў Цзян Цзюньхэ. — Дык можа і нам выпіць па бутэлечцы?

Чунь Фэн крыкнула афіцыянту, каб ён адкаркаваў для іх дзве бутэлькі піва, і калі іх прынеслі, спачатку старанна выцерла рыльца сурвэткай і толькі пасля гэтага працягнула бутэльку Цзян Цзюньхэ.

Спачатку Цзян Цзюньхэ еў не вельмі ахвотна, але пасля таго, як ён паступова звыкся з мясцовымі абставінамі, то з'еў некалькі запечаных у мундзіры бульбін. Потым ён пацікавіўся ў Чунь Фэн, кім працуюць яе бацькі, ці ёсць у яе браты і сёстры, і напрыканцы спытаўся:

— Пра што ты марыш?

— Я б жадала стаць алімпійскай чэмпіёнкай. Я ўмею плаваць, гуляць у настольны тэніс і шахматы. Калі б я нарадзілася не ў гэтым маленькім горадзе і мне выпаў шанц патрапіць да знакамітага трэнера, то, магчыма, я б стала алімпійскай чэмпіёнкай.

Цзян Цзюньхэ не ўспрыняў яе іронію як жарт, наадварот, вельмі ўважліва выслухаў дзяўчыну і сказаў:

— Што ж, такое і сапраўды было б магчыма.

Чунь Фэн адчула сябе ніякавата.

— Мая сапраўдная мара… — неяк няўпэўнена пачала яна і задумалася, а потым працягнула далей, — гэта надзея на тое, што якія-небудзь загадкавыя людзі з чароўнага свету нейкім неверагодным чынам звернуць на мяне сваю ўвагу і выберуць з усіх жывых істот, і ў адзін цудоўны дзень яны раптам з'явяцца перада мной і скажуць: «Ідзем з намі!». І калі я пайду, у мяне пачнецца зусім іншае дзіўнае жыццё, напоўненае казачнымі цудамі!

— Якімі цудамі?

— Аб гэтым я даведаюся толькі тады, калі надыдзе гэты момант.

---

[4] «Самаадданае сяброўства да самай смерці». За выразам схаваная гісторыя пра двух сяброў, адзін з якіх, даведаўшыся пра смерць другога, таксама пазбавіў сябе жыцця.

Яны вярнуліся да машыны, але перш чым завезці Чунь Фэн дахаты, Цзян Цзюньхэ пацалаваў яе. Дзяўчына замерла, спінай прыціснуўшыся да крэсла. Ягоны пацалунак быў пяшчотным і пажадлівым, у роце ўсё яшчэ адчуваўся смак алкаголя, а пасля жуйкі ад дыхання веяла мятнай прахалодай.

Цзян Цзюньхэ запрасіў Чунь Фэн да сябе дадому на чай. З вокнаў ягонай двухпавярховай кватэры ўдалечыні была відаць рака, пакрытая лёдам і снегам, што вельмі нагадвала карціну нейкага сярэдневяковага мастака, які выкарыстоўваў для малявання выключна туш.

Цзян Цзюньхэ паказаў дзяўчыне свой дом, прасторны і чысты. Ён сказаў, што кожны дзень прыбіральшчыца прыходзіць да яго не менш, як на тры гадзіны.

— Але тут так пуста і самотна, нібыта ў якой пячоры, — сказаў Цзян Цзюньхэ, праводзячы Чунь Фэн на другі паверх. — Калі я тут пасяліўся, то першы час мог заснуць толькі не выключаючы святло.

У спальні на тумбачцы, прысунутай да самага ложка, стаяў сямейны фотаздымак. Жонка Цзян Цзюньхэ была залішне паўнаватай жанчынай з невыразным тварам і маленькімі вочкамі. Іх сын быў прыкладна таго ж узросту, што і Чунь Фэн, але ростам на паўгалавы вышэй за бацьку. Знешні выгляд выдаваў у ім вельмі нецярплівага чалавека. Дачка ж была як дзве кроплі падобнай да маці. На здымку яна ўсміхалася, прыжмурыўшыся і сарамліва агаляючы брэкеты.

— Яе завуць Лянь Сі, — паведаміў Цзян Цзюньхэ. — Неяк я сказаў ёй, што ніхто не закахаецца ў такое страшненькае дзяўчо, як яна. А дачка, як ні ў чым не бывала, адказала: «Я магу зрабіць пластычную аперацыю».

Потым яны спусціліся ўніз піць чай. У доме было наладжана геатэрмальнае ацяпленне, а разам з патокамі святла, што свабодна пранікала праз французскія вокны, тэмпература ў пакоі ўзнялася аж да 28—29 градусаў. У кофтачцы было вельмі некамфортна, не кажучы ўжо пра куртку.

— Дома ёсць толькі мае кашулі, можа, пераапранешся? — спытаўся Цзян Цзюньхэ.

— Не, дзякую, — сказала Чунь Фэн, здымаючы куртку і кофту.

На ёй засталася тоненькая сарочка, якую некалькі дзён таму падараваў Цзян Цзюньхэ. Цэннік з яе, як і з духоў, ён папярэдне зняў. Гэтая сарочка ўсхвалявала ўвесь інтэрнат, усе дзяўчаты па чарзе яе прымерылі.

Цзян Цзюньхэ расставіў на нізенькім століку чайны набор з светла-сіняга фарфору, затым прынёс чайнік з кіпнем. Перш чым заварыць чай, ён звычным рухам апаласнуў кіпнем усе чайныя прыборы.

— Калі заварваеш улун[5] з жэньшэнем, вельмі важная тэмпература вады. Толькі ў гарачай вадзе зможа ў поўнай меры праявіцца ўсё самае лепшае, што маецца ў чайных лістах, выляціць з іх, нібыта душа з цела.

Такое параўнанне міжволі рассмяшыла Чунь Фэн.

Цзян Цзюньхэ разліў чай па кубачках, але перад тым, як зрабіць першы глыток, ён прапанаваў Чунь Фэн палюбавацца залацістым адценнем вадкасці, асабліва прыкметным у сонечных промнях.

— Прыгожа, хіба не так?

— Прыгожа, — згадзілася Чунь Фэн.

Цзян Цзюньхэ дапіў свой чай і паставіў кубачак на стол. Пры сонечным святле ягоны сапраўдны ўзрост быў асабліва прыкметным: ужо пачала прабівацца сівізна, а скура на твары і руках зрабілася крыху друзлай. Затое пазногці былі чыстымі і дагледжанымі.

[5] Сорт чаю.

— Ты з-за працы вымушаны тут жыць? — спыталася Чунь Фэн.

Цзян Цзюньхэ усміхнуўся.

— Жонцы я менавіта так і сказаў. Пры гэтым зрабіў выгляд чалавека, які вельмі пакутуе ад адзіноты і безвыходнасці. Але на самай справе я вельмі рады, што жыву тут. Мне не прыходзіцца кожны другі дзень праз сілу глытаць здаровую вегетарыянскую ежу, ніхто не скардзіцца на шум, калі я гляджу футбольны матч, і не называе мяне занудлівым, калі я гляджу фільм жахаў. Мне не патрэбна кожную нядзелю апранацца, нібыта маладзён, і ісці ў царкву спяваць псалмы. Не трэба раз у паўмесяца ўдзельнічаць у сямейных сустрэчах і кожны месяц наведваць школу, абмяркоўваючы з настаўнікам справы дзяцей. Калі я п'яны прыходжу дадому, то магу не ўмывацца і не класціся спаць на канапу. Проста, не распранаючыся, адразу ж рухнуць у ложак.

Чунь Фэн чакала, калі ж ён спытаецца што-небудзь пра яе, і не дачакаўшыся, пачала расказваць сама.

— На наступным тыдні ў мяне пачнуцца зімовыя канікулы, і я паеду дадому. Там я змагу кожны дзень спаць да абеду, пакуль не прыйдзе раззлаваная мама і не адвесіць мне таўхеля. А яшчэ змагу прагульвацца ў садзе маёй старэйшай сястры і цэлыя ночы праводзіць з сябрамі ў інтэрнэт-кафе. Звычайна мы разыходзімся па дамах толькі тады, калі пачынаем валіцца з ног ад стомы. Дома на мяне, як заўсёды, будзе сварыцца мама, а потым я лягу спаць. А яшчэ мы часта дамаўляемся аб сустрэчах з былымі аднакласнікамі і разам ідзём выпіць, а потым — у караоке-бар, дзе спяваем ажно да знямогі. Ці вось яшчэ — часта ходзім на бераг ракі і запускаем феерверкі.

— Тут таксама запускаюць феерверкі, — сказаў Цзян Цзюньхэ, паказваючы на акно. — Аднойчы сярод ночы пачуўся аглушальны шум, я падумаў, што штосьці здарылася, і кінуўся да акна, а за ім, на заснежанай зямлі, нібыта яркі фантан, іскрамі рассыпаўся салют.

Слухаючы Цзян Цзюньхэ, Чунь Фэн міжволі зірнула ў акно і заўважыла, што пакуль яны гутарылі і пілі чай, сонечнае святло паступова афарбавалася ў чырванавата-залацістыя колеры. Раней яно прасторным і мяккім кілімам засцілала падлогу, але цяпер узнікла адчуванне, быццам нейкая нябачная рука выцягнула з-пад іх ног значны кавалак гэтага цудоўнага кіліма.

Чунь Фэн павярнула галаву і сустрэлася поглядам з Цзян Цзюньхэ.

— Я буду сумаваць па табе, калі ты пойдзеш, — сказаў ён.

Сэрца дзяўчыны закалацілася, але яна як мага больш натуральна ўсміхнулася свайму субяседніку і сказала:

— Мне таксама будзе сумна без цябе.

— Але не так, як мне, — павольна прагаварыў Цзян Цзюньхэ. Здавалася, што словы ягоныя самі па сабе адмоўна качаюць галавой. — Твая самота і мая самота непараўнальныя.

На наступны дзень Цзян Цзюньхэ зноўку запрасіў Чунь Фэн да сябе дамоў. Пакуль яны вячэралі ў рэстаране, выпілі дзве бутэлькі віна, а па вяртанні дадому адкаркавалі яшчэ адну.

Дома ў Цзян Цзюньхэ і сапраўды было нават занадта цёпла: не паспееш зайсці з вуліцы, а на твары, які яшчэ не адаптаваўся пасля холаду, адразу ж пачынаюць выступаць кропелькі поту. Цзян Цзюньхэ пайшоў наверх у спальню пераапрануцца. Але перад гэтым указаў на папяровы пакет на канапе і сказаў Чунь Фэн, што ён і для яе купіў хатняе адзенне.

— У маёй кватэры і сапраўды залішне цёпла, — прагаварыў ён, крыху памаўчаўшы. А праз некалькі секунд дадаў: — У мяне не было ніякіх іншых намераў.

Чунь Фэн хіхікнула, а Цзян Цзюньхэ, зірнуўшы на яе, таксама ўсміхнуўся і выйшаў.

Узяўшы пакет з адзеннем, Чунь Фэн зайшла ў ванны пакой. Стоячы ў адной ніжняй бялізне перад люстэркам і ўважліва сябе разглядваючы, яна ўбачыла ў адлюстраванні тое, што там і было: маладзенькую дзяўчыну ў сваім лепшым узросце.

Сумна ўздыхнуўшы, зусім як Цзян Цзюньхэ, яна раптам падумала: «Мне ўсяго толькі 22 гады, увесь свет каля маіх ног!».

Спартыўны касцюм, які купіў для яе Цзян Цзюньхэ, быў у індыйскім стылі: прасторныя шаравары і топ, які пакідаў жывот да пупка адкрытым. Была яшчэ накідка, але Чунь Фэн яе не адзела.

Калі яны выйшла, Цзян Цзюньхэ ўжо спусціўся. Ён акінуў хуткім поглядам Чунь Фэн, і выраз твару мужчыны неяк адразу змяніўся, нібыта ён толькі што ўдыхнуў нейкі вельмі прыемны водар.

— Дзякуй, — сказала Чунь Фэн. Потым яна памаўчала крыху, развяла рукі і пакруцілася на месцы, даючы тым самым Цзян Цзюньхэ магчымасць як мага лепш разглядзець сябе.

Цзян Цзюньхэ ўсміхнуўся і пайшоў да халадзільніка за лёдам, а Чунь Фэн у кутку пакоя нечакана выявіла яшчэ адзін сямейны фотаздымак, зроблены ў час загараднай прагулкі. На здымку была ўся сям'я з чатырох чалавек, і ва ўсіх на тварах ззялі асляпляльныя ўсмешкі, нават у сына Цзян Цзюньхэ. А ў жонкі на галаве меўся саламяны капялюш, упрыгожаны невялікім букетам палявых кветак.

А яшчэ ўсмешка яе зусім не паходзіла на ўсмешку са здымка ў спальні. Там Чунь Фэн гэтая жанчына падалася ласкавай і шчырай, але зараз ва ўсмешцы жонкі Цзян Цзюньхэ выразна праглядвала стрыманасць і абыякавасць чалавека, які дасягнуў ужо ўсіх пастаўленых перад сабой мэт. І адначасова ва ўсмешцы гэтай таілася штосьці злавеснае.

— Калі я п'ю чырвонае віно позняй ноччу, у мяне заўсёды ўзнікае адно і тое ж адчуванне… — прагаварыў Цзян Цзюньхэ, наліваючы віно ў фужэры, — адчуванне, быццам я п'ю кроў.

Ён пацягнуў Чунь Фэн да сябе, каб яна села побач, і, уважліва гледзячы ёй проста ў вочы, сказаў:

— Я зараз абсалютна цвярозы. Усё, што я скажу, я папярэдне абдумаў. Спадзяюся, ты мяне ўважліва слухаеш…

Цела Чунь Фэн абмякла, ёй падалося раптам, што пад нагамі не цвёрдая падлога, а зыбкія і ненадзейныя воблакі. Але розум дзяўчыны быў ясным і, нібыта камера, фіксіраваў усё перад вачыма: кожную сцэну, кожны рух, кожнае слова. Яна ведала, што гэты момант назаўсёды захаваецца ў яе памяці.

Да заканчэння зімовых канікул і пачатку вучобы з Чунь Фэн адбылася настолькі ашаламляльная перамена, што здавалася, нібыта гэта нейкая новая студэнтка, што перавялася да іх з іншага ўніверсітэта. Змены ў знешнасці дзяўчыны нават спарадзілі чуткі, што дом і зямельны ўчастак яе маці былі канфіскаваныя для будаўніцтва аэрапорта, а іх сям'і ў якасці кампенсацыі выплацілі некалькі мільёнаў юаняў — такі вось нечаканы падарунак лёсу!

Яшчэ ў мінулым семестры Чунь Фэн даводзілася сумяшчаць вучобу з працай, але зараз усё змянілася: яна пераехала з інтэрната ў сваё жытло і нават набыла аўтамабіль — чырвоны «пола», фары якога аформіла ў выглядзе нафарбаваных дзявочых вочак.

Але, нягледзячы на тое, што зараз Чунь Фэн прыязджала на заняткі на ўласным аўтамабілі, яна па-ранейшаму паводзіла сябе ціха і сціпла, а з выкладчыкамі заставалася нязменна ветлівай. Магчыма, яна здагадвалася, што стала новай універсітэцкай знакамітасцю, і таму ветліва ўсміхалася ўсім навокал. У час святкавання 50-гадовага юбілею ўніверсітэта Чунь Фэн добраахвотна прыняла ўдзел у некалькіх мерапрыемствах.

Пай Дзычэнь таксама ўдзельнічаў у іх. Аднойчы, калі яны сядзелі побач і раскладвалі розныя сувеніры па папяровых пакетах з датай юбілею, патэлефанаваў Цзян Цзюньхэ.

— Я зараз не па справе, проста неяк сумна без цябе стала, — сказаў ён. — А табе без мяне бывае сумна?

— Заўсёды! — усклікнула Чунь Фэн. — Я нават пачала забываць, як ты выглядаеш!

— Ах ты, маленькая спакусніца! — засмяяўся Цзян Цзюньхэ. — Што ж, хутка праверым, як моцна ты замаркоцілася без мяне!

Калі Чунь Фэн паклала тэлефон на стол, то адчула раптам на сябе ўважлівы погляд Пай Дзычэня. Ён усміхнуўся дзяўчыне і сказаў, паклаўшы побач з яе тэлефонам свой :

— Аказваецца, у нас з табой аднолькавыя тэлефоны.

Абодва тэлефоны і сапраўды былі маркі «Anycall», і нават адной серыі. Вось толькі тэлефон Чунь Фэн быў белага, а Пай Дзычэня — чорнага колеру.

Чунь Фэн пацягнулася за блакнотам, выпадкова дакранулася да рукі Пай Дзычэня, і сэрца дзяўчыны адразу ж застукала на некалькі тактаў хутчэй. Яе душэўны непакой пачаўся яшчэ з таго моманту, калі Пай Дзычэнь сеў побач з ёй. Хоць не, нават раней, як толькі ён з'явіўся ў дзвярах і акінуў пакой абыякавым позіркам.

На абед у іх была ежа на вынас. Пакуль яны елі, вакол Пай Дзычэня сабраўся цэлы натоўп дзяўчат, а Чунь Фэн самотна сядзела ля акна і грызла яблык. У гэты час зноўку патэлефанаваў Цзян Цзюньхэ і прыняўся абмяркоўваць, што ў іх будзе на вячэру. Чым далей яны былі разам, тым мацней ён дакучаў ёй званкамі. А раней жа Цзян Цзюньхэ больш за ўсё ненавідзеў, калі ягоная жонка па справе і без справы названьвала яму.

Цзян Цзюньхэ неяк расказаў Чунь Фэн, якое моцнае і палымянае каханне было паміж ім і жонкай. Тая з-за вяселля з ім нават пасварылася на некалькі гадоў з уласнымі бацькамі. Аднак усепаглынальнае полымя іх кахання аказалася непрацяглым і хутка згасла ў сэрцы Цзян Цзюньхэ. Яго жонка, звыклая з-за любой нагоды праліваць слёзы, астывала больш павольна, але яшчэ праз некалькі гадоў і ад агню яе кахання да мужа засталося адно толькі папялішча.

Наступныя гады іх сумеснага жыцця паступова ператварыліся ў самыя сапраўдныя пакуты. Часам Цзян Цзюньхэ мог прачнуцца сярод ночы і ўбачыць, што жонка сядзіць побач і не зводзіць з яго вачэй. А потым, зразумеўшы, што муж ужо не спіць, яна магла гучна ўсклікнуць: «Ды хто ж ты такі, у рэшце рэшт? Чаму прычыняеш мне столькі пакут?!»

Цзян Цзюньхэ нават уявіць сабе не мог, што ўсё будзе так. Калі яны з жонкай давалі вясельныя клятвы, ён шчыра абяцаў усё жыцце берагчы яе як сваё вока. Але вельмі хутка ў іх з'явіліся дзеці, і ўсё тое, што раней зачароўвала і захплівала Цзян Цзюньхэ ў жонцы, некуды знікла: яна ператварылася ў самую звычайную жанчыну, што прыслугоўвае мужу, клапоціцца аб дзецях і займаецца хатнімі справамі.

Калі Чунь Фэн пачала жыць у Цзян Цзюньхэ, першыя месяцы яе сэрца літаральна замірала ад страху пасля кожнага званка ў дзверы. З жахам думала дзяўчына аб тым, што будзе, калі нечакана з'явіцца яго жонка і застане іх разам. Якой будуць яе далейшыя дзеянні: пачне скандаліць, кінецца да Чунь Фэн з бруднай лаянкай, а магчыма, нават і з кулакамі? І на чыім, цікава, баку будзе тады сам Цзян Цзюньхэ?

Але час ішоў, жонка не з'яўлялася, толькі тэлефанавала, ды і тое зрэдку.

У час вясновых канікул Цзян Цзюньхэ паехаў дамоў і вярнуўся з вельмі кепскім настроем. Чунь Фэн спачатку падумала, што іх таямніцу раскрылі, але потым высветлілася сапраўдная прычына: жонка Цзян Цзюньхэ разам з кампаньёнам адкрыла студыю ёгі і саўну. Гэты кампаньён — нежанаты мужчына, які раней працаваў інструктарам у трэнажорнай зале. Ён маладзейшы за жонку Цзян

Цзюньхэ на 10 гадоў, але адносіны паміж імі зараз далёка не кампаньёнскія, і гэта яшчэ мякка сказана. Цзян Цзюньхэ не мог без раздражнення назіраць, як гэты мускулісты хлопец аказвае тыя ці іншыя знакі ўвагі ягонай жонцы, як яна, ззяючы нейкай пераможнай усмешкай, літаральна растае, атрымліваючы несумненную асалоду ад гэтых прымітыўных заляцанняў. Калі ж Цзян Цзюньхэ ўсё ж сабраўся з духам і вырашыў абмеркаваць з жонкай гэта далікатнае пытанне, яна кінула на мужа злосны погляд і сказала:

— Калі б паміж намі хоць штосьці было — хіба я стала б вас знаёміць?

Але, апрача гэтага маладога нахабніка, раздражненне ў Цзян Цзюньхэ выклікала і сама студыя ёгі. Усе неабходныя ўкладанні яго жонка зрабіла самастойна, прычым даволі красамоўна дала зразумець мужу, што грошы, якія яна на гэта патраціла, — гэта спадчына яе бацькоў, і гэтымі грашыма яна можа распараджацца па сваім жаданні. Больш таго, палову з іх яна адклала дзецям на навучанне.

— Што ж, магчыма, гэта і да лепшага, — сказаў напрыканцы Цзян Цзюньхэ. — У яе свая будучыня, у нас — наша.

За дзень да святкавання дня юбілею ўніверсітэта валанцёры працавалі аж да дзевяці гадзін вечара і толькі пасля гэтага пачалі разыходзіцца. У сталоўцы спецыяльна для іх прыгатавалі на вячэру сяо дзао[6], але Чунь Фэн, з той прычыны, што ёй трэба дадому, адмовілася ад яды. Вырашыў пайсці, саслаўшыся на справы, і Пай Дзычэнь.

— Падкінеш мяне, калі нам па дарозе? — спытаўся ён у Чунь Фэн.

Погляды многіх дзяўчат адразу ж затрымаліся на ёй.

— Добра,— сказала Чунь Фэн.— Паехалі.

— Сяо дзао, — ужо ў машыне, уздыхнуўшы, прагаварыў Пай Дзычэнь. — Ды яны ў адну талерку могуць паўбутэлькі алею выліць!

— Няўжо студэнт можа быць такім пераборлівым у ежы? — спыталася дзяўчына.

— Мужчынам трэба добра харчавацца. Павярні налева на наступным скрыжаванні.

Пай Дзычэнь узняў рукі ўверх і пацягнуўся так, што, здавалася, ягоныя рукі зараз вылезуць з машыны вонкі.

— Дарэчы, я ведаю непадалёк адно выдатнае месцейка, дзе можна паспрабаваць такія смажаныя языкі з ялавічыны — пальчыкі абліжаш!

Гэтае месцейка знаходзілася ў завулку паблізу ад кампаніі, у якой працаваў Цзян Цзюньхэ. Калі яны адсунулі фіранку на ўваходзе, над якім віселі два белыя круглыя ліхтары з чырвона-сінім сімвалам інь-ян[7], іх павітаў прыемны голас: «Праходзьце, калі ласка!»

Гэта была невялікая, але вельмі чыстая і ўтульная закусачная. Тонка нарэзаныя языкі з ялавічыны, як толькі траплялі на распаленую паверхню патэльні, адразу ж пачыналі тонка сіпець, адначасова з гэтым скукожваючыся, нібыта ад холаду.

— Аднойчы я прывёў сюды маму, — сказаў Пай Дзычэнь. — Яна, убачыўшы, як падсмажваюць гэтыя языкі, сказала, што пры жыцці яны, пэўна ж, набалбаталі шмат лішняга.

Потым ён спытаўся ў Чунь Фэн:

— Ты заўсёды такая маўклівая?

— Я баюся сказаць што-небудзь не тое, — прагаварыла Чунь Фэн, і, паказваючы на падсмажаныя языкі, дадала: — Каб са мной не адбылося чагосьці падобнага.

---

[6] Агульная назва для страў, якія гатуюцца ў чыгунках на агні.

[7] Інь і ян — жаночы (адмоўны) і мужчынскі (дадатны) пачатак у кітайскай філасофіі.

— А мне здаецца, што няма на свеце нічога больш рамантычнага, чым зманіць сумесна з табой і стаць чымсьці накшталт гэтых языкоў, — усміхаючыся, сказаў Пай Дзычэнь. — Але, перш чым знікнуць у чыімсьці страўніку, мы яшчэ паспеем пабалбатаць на распаленай патэльні, развітацца і ўбачыцца зноўку, але ўжо ў новым жыцці.

Чунь Фэн паглядзела на Пай Дзычэня. Пад ягонымі густымі і чорнымі бровамі былі вялікія і надзвычай выразныя светлыя вочы, якія, нібыта магніт, прыцягвалі яе, пранікаючы ў самую душу.

— А каго ты яшчэ сюды прыводзіў акрамя мамы? — спыталася Чунь Фэн, адначасова з гэтым адпраўляючы ў рот чарговы скрылік падсмажанага языка.

— Цябе.

— А акрамя мяне?

— Чаму ты пытаешся пра гэта? — уважліва гледзячы на дзяўчыну і нават нахіляючыся крыху ўперад, спытаўся Пай Дзычэнь.

— Ды проста так, — крыху сумелася Чунь Фэн і адвярнулася. — Вакол цябе заўсёды так шмат дзяўчат…

— Я нічога не магу з гэтым зрабіць, — уздыхнуў Пай Дзычэнь. — Дзяўчаты гэтыя — нібыта пустазелле: «Пажар у стэпу іх спаліць не змог, вясновы вецер[8] зноў жыццё навее»[9].

Яны разам усміхнуліся.

Чунь Фэн вярнулася дадому апоўначы. Яна ціхенька адамкнула ключом дзверы, увайшла — і раптам нават уздрыгнула ад нечаканасці: на кухні ярка гарэла святло, і Цзян Цзюньхэ, у фартусе, ставіў на стол стравы, якія, мяркуючы па ўсім, толькі што прыгатаваў. Жар, што напаўняў кухонны пакой, перамешваўся з прыемным пахам, які зыходзіў ад ежы.

— Вярнулася? — з ласкавай усмешкай спытаўся ён.

— Вой, а я думала… — разгублена прагаварыла Чунь Фэн, — хіба я табе не казала, што сёння буду вельмі занятая, прыйду позна і табе лепей класціся спаць?

— Я хацеў зрабіць табе сюрпрыз, — сказаў Цзян Цзюньхэ, абдымаючы яе.

— Я такая брудная! — адскочыўшы ад яго і замахаўшы рукамі, усклікнула Чунь Фэн. — Я спачатку памыюся.

Яна пайшла ў ванны пакой, старанна вымыла твар і рукі, потым нейкі час старанна глядзелася ў люстэрка, і толькі ўпэўніўшыся, што ўсё ў парадку, выйшла.

Увесь той час, пакуль яны елі, Цзян Цзюньхэ так уважліва глядзеў на Чунь Фэн, што ёй здалося раптам, нібыта ён поглядам спрабуе выцягнуць з яе хоць якія намёкі на тое, што з ёй перад гэтым адбылося.

— Чаму ты так на мяне глядзіш? — не вытрымаўшы, спыталася, нарэшце, Чунь Фэн.

— Ніколі не размаўляй з палачкамі ў роце! — сказаў Цзян Цзюньхэ, працягваючы да дзяўчыны руку, але чамусьці зноўку яе апускаючы. — Так можна няўмысна і горла сабе пашкодзіць.

Ягоная напружанасць чамусьці вельмі рассмяшыла Чунь Фэн.

І толькі зноўку ўвайшоўшы ў ванны пакой, Чунь Фэн змагла крыху расслабіцца. Яна напоўніла ванну вадой і, заплюшчыўшы вочы, павольна ў яе апусцілася. Ад гарачай вады па целу дзяўчыны прабеглі дрыжыкі, а думкі зноў вярнуліся да таго, што здарылася з ёй дзве гадзіны таму. Пай Дзычэнь амаль адарваў шлейкі яе бюстгальтара, а потым уключыў святло, каб удосталь палюбавацца

[8] Імя Чунь Фэн літаральна перакладаецца «вясновы вецер». Гульня слоў.
[9] Цытата з верша Бо Цзюйі «Напісаў пры растанні аб траве на старажытнай раўніне».

яе ніжняй білізнай. Адгінаючы карункі на аборцы, ён з усмешкай прашаптаў: «Я з самага пачатку ведаў, што ты з тых, хто звонку халодны, а знутры поўны агню і жадання!» Сорам і абурэнне ахапілі Чунь Фэн, і яна балюча ўкусіла хлопца за бронзавае плячо.

Калі Чунь Фэн скончыла мыцца і вярнулася ў пакой, Цзян Цзюньхэ адклаў убок кнігу і ўважліва зірнуў на яе.

— Ты толькі паглядзі на сябе…

— Штосьці не так? — усхвалявана запыталася Чунь Фэн, уважліва сябе аглядаючы.

— Ты такая маладая, такая прыгожая, — уздыхнуўшы, прагаварыў Цзян Цзюньхэ. — Я б, здаецца, усё аддаў, усё, што ў мяне ёсць, у абмен на тое, чым валодаеш ты.

Ён паспрабаваў абняць дзяўчыну, але Чунь Фэн спрытна ўхілілася ад ягоных абдымкаў.

— Я сёння так змарылася…

— Я ведаю, як дапамагчы табе расслабіцца, — сказаў мужчына і, скінуўшы з Чунь Фэн халат, пачаў асцярожна масіраваць яе плечы. — Можа, не трэба табе так сябе даводзіць дзеля нейкай там валанцёрскай работы?.. Хм, ты ўся такая вільготная!

Пасля масажу ягоныя рукі пяшчотна саслізнулі ніжэй, на талію Чунь Фэн. Ледзь дакранаючыся вуснамі да шыі дзяўчыны, Цзян Цзюньхэ прашаптаў:

— Я так сумаваў па табе цэлы дзень!

Нічога на гэта не адказваючы, Чунь Фэн толькі нізка апусціла галаву.

— Што такое? — устрывожана запытаўся Цзян Цзюньхэ, амаль сілком паварочваючы дзяўчыну да сябе. — Ты плачаш?

— Навошта ты закахаўся ў мяне? — усхліпнула Чунь Фэн. — Чаму ты такі дурань?

— Ды ты зусім распусцілася! — з усмешкай прагаварыў Цзян Цзюньхэ. — Асмельваешся казаць мне такое!

— Таму што ты і на самай справе дурань! — нечакана нават для сябе самой выкрыкнула Чунь Фэн. — Хіба не ведаеш, што закахацца хоць у каго-небудзь — гэта вельмі рызыкоўная справа!

— Ведаю, — крыху памаўчаўшы, сказаў Цзян Цзюньхэ. — Але сэрцу не загадаеш, а я і сапраўды закахаўся ў цябе, нібыта сямнаццацігадовы юнак…

Нейкі час яны абодва маўчалі, потым Чунь Фэн падыйшла да Цзян Цзюньхэ бліжэй і пяшчотна да яго прытулілася.

— Не слухай таго, што я толькі што сказала! — прашаптала яна.

Цзян Цзюньхэ з'ехаў у Сеул на нараду ў галоўны офіс сваёй кампаніі. У час яго адсутнасці Чунь Фэн і Пай Дзычэнь выбраліся на прагулку за горад. Яшчэ па дарозе дзяўчыне патэлефанаваў Цзян Цзюньхэ.

— Ты не дома?

— Я вырашыла прагуляцца ў кнігарню, — адказала Чунь Фэн, — а калі куплю кнігі, спынюся яшчэ дзе-небудзь перакусіць.

— Ты адна?

— Ну вядома ж, не! — засмяялася дзяўчына. — Удваіх з самым прыгожым студэнтам нашага ўніверсітэта.

Цзян Цзюньхэ нічога на гэта не адказаў, а праз імгненне яна пачула, як хтосьці павітаўся з ім там, у Сеуле.

— Я табе потым яшчэ патэлефаную, — таропка прагаварыў Цзян Цзюньхэ, адключаючы сувязь.

— Гэта мая мама, — патлумачыла Чунь Фэн Пай Дзычэню, хоць ён ні аб чым і не пытаўся. — Проста ёй неспакойна, што я здымаю кватэру, вось і тэлефануе па некалькі разоў у дзень.

— Мне таксама неспакойна, — сказаў Пай Дзычэнь. — Можа, мне пераехаць да цябе?

— Мая мама заб'е цябе!

Яны прыехалі ў месца пад незвычайнай назвай «Звісаючы гарлач». Тут быў размешчаны горны ланцуг Чайбайшань, які, калі паглядзець на карту, нагадваў выцягнутую чалавечую руку.

Мінулай ноччу прайшоў невялікі дождж, і зараз дрэвы былі пяшчотна-зялёнага колеру, а паміж ствbooламі тонкімі ніцямі звісаў туман. Чунь Фэн і Пай Дзычэнь ішлі па напрамку плыні горнага ручая. Сярод некалькіх дзясяткаў вісячых мастоў, якія віднеліся то з аднаго боку ручая, то з другога, ні разу не сустрэлася нават двух аднолькавых. Там, дзе горны ручай на сваім шляху сустракаў абрывістыя скалы, утвараліся невялікія вадаспады, ад якіх ва ўсе бакі разляталіся белыя пырскі. Аранжавая луска вясёлкавай стронгі, што ў вялікім мностве плавала ў вадзе, іскрылася і пералівалася на сонцы, і гэта цудоўнае відовішча не проста прыцягвала да сябе ўвагу, але і пасапраўднаму зачароўвала.

— Не жадаеш сфатаграфаваць? — спытаўся Пай Дзычэнь.

— Як толькі сфатаграфую, яны застынуць навечна, — адказала Чунь Фэн. — А так нішто не ў стане спыніць іх цудоўныя рухі.

— Вось такія ж пачуцці і ты ў мяне выклікаеш, — сказаў Пай Дзычэнь, схапіўшы дзяўчыну за руку.

Нічога на гэта не адказваючы, Чунь Фэн толькі моўчкі паглядзела на хлопца.

— Увесь час у нейкім няўлоўным руху, увесь час гатовая збегчы ад мяне назаўсёды.

Разгубіўшыся ад ягоных слоў, Чунь Фэн доўга маўчала і, апусціўшы галаву, разглядвала рукі Пай Дзычэня, якія моцна, па-гаспадарску трымалі яе ўласныя вузкія далонькі.

Потым яны спыніліся ў альтанцы каля дарогі. Чунь Фэн дастала з партфеля паходны тэрмас і два стаканы, а таксама пасцілку ў пакеце. А пасля таго, як яны ўселіся, — яшчэ чай і розныя прысмакі.

— Ого! — усклікнуў Пай Дзычэнь здзіўлена.

Калі Чунь Фэн раней наведвала гэтыя мясціны з Цзян Цзюньхэ, той вельмі шкадаваў, што не змог выпіць кубачак чаю, любуючыся вясёлкавай стронгай і ўдыхаючы ні з чым непараўнальны водар, што ішоў ад мясцовых дрэў.

— Кубачак добрага чаю зрабіў бы гэты момант проста ідэальным, — з уздыхам канстатаваў ён.

Чай, які захапіла з сабой Чунь Фэн, прывёз Цзян Цзюньхэ, бо вырошчваецца ён менавіта ў Карэі, у ягоных родных мясцінах.

— Гэты гатунак называецца цсюэшэ[10], — патлумачыла Чунь Фэн Пай Дзычэню. — Мой сябар, які выдатна разбіраецца ў чаі, неяк сказаў, што калі п'еш цсюэшэ і адчуваеш водар свежай лістоты, то здаецца, што можна пачуць спевы жаўрукоў, якія даносяцца сюды з лесу.

Пай Дзычэнь зрабіў нетаропкі глыток і, узняўшы галаву, перавёў погляд з Чунь Фэн на верхавіны бліжэйшых дрэў. Яны ўсе былі літаральна ўсыпаныя ніткамі з вадзяных кропелек, і гэтыя кропелькі вельмі нагадвалі нейкія дзіўныя крышталёвыя пацеркі, гатовыя ў любы момант сарвацца і рассыпацца па зямлі.

— Прыгожа, праўда? — перахапіўшы яго погляд, запыталася Чунь Фэн.

— Калі мы з табой вось так п'ём чай, — зарагатаў раптам Пай Дзычэнь, — то мы вельмі падобныя на старэнькую сямейную пару.

— Табе гэта здаецца вельмі смешным? — з нейкім нават раздражненнем спыталася дзяўчына.

[10] Цсюэшэ — чай вышэйшага гатунку з самага маладога чайнага ліста.

— Так, бо гэта неяк па-старэчы, і ва ўсім гэтым няма аніякай энергіі маладосці, — самаўпэўнена сказаў Пай Дзычэнь. — Ці ты з гэтым нязгодная?

Чунь Фэн усміхнулася, але ўсмешка дзяўчыны была нейкай халоднай.

— Энергія маладосці — гэта з раніцы прабегчы тры кіламетры па стадыёне?

— Не толькі! Я пакажу табе зараз, чым павінна займацца моладзь!

Пай Дзычэнь, нягледзячы на тое, што побач маглі знаходзіцца людзі, а таксама не звяртаючы ўвагу на ўпартае супраціўленне Чунь Фэн, якая звівалася і выкручвалася ў ягоных руках, быццам тая стронга, зацягнуў дзяўчыну сабе на калені і сціснуў так моцна, што ёй нават варухнуцца было немагчыма. Потым хлопец наблізіў свой твар да твару Чунь Фэн так, што кончыкі іх насоў датыкнуліся. Некалькі разоў дзяўчына спрабавала загаварыць, але Пай Дзычэнь сваімі вуснамі не даваў ёй зрабіць гэта.

Чунь Фэн усё ж паспрабавала вызваліцца, але, зразумеўшы, што ёй гэта не пад сілу, заплюшчыла вочы і саступіла Пай Дзычэню, дазволіўшы яму наталіцца ёю да апошняй кроплі.

Калі Цзянь Цзюньхэ вярнуўся з Сеула, ён стаў вельмі маўклівым.

Падоўгу сядзеў на канапе, не чытаючы кніжак, не гледзячы тэлевізар і не пазіраючы ў акно. Ён нават на Чунь Фэн не звяртаў ніякай увагі і нібыта зноўку вярнуўся да свайго ранейшага самотнага жыцця. Чунь Фэн было ад гэтага вельмі не па сабе. Вакол стаяла такая цішыня, што любы яе рух альбо слова, здавалася, самым грубым чынам парушаў гэтую строгую цішыню.

— Штосьці здарылася? — дапытвалася Чунь Фэн.

— Нічога не здарылася, — быў адказ.

— Ці, можа, нейкія непрыемнасці?

— Жыццё заўсёды поўнае непрыемнасцей.

Ноччу яна сама, першай, абняла Цзян Цзюньхэ, у адказ ён таксама моцна абняў яе, прыцягнуў да сябе, але апрач гэтага не зрабіў аніводнага руху.

Страх і трывога ахапілі дзяўчыну, калі яна ляжала нерухома, прыціснуўшыся да абмяклага цела Цзян Цзюньхэ. У яе не было ні малейшага ўяўлення, чаму ён так змяніўся і куды падзеўся той, ранейшы Цзян Цзюньхэ.

Упэўненасць у тым, што ён ведае пра іх раман, мацнела ў Чунь Фэн з кожным днём. Аднойчы яны з Пай Дзычэнем зайшлі ў сталоўку паесці хого[11], а праз некалькі сталоў ад іх сядзеў мужчына сярэдніх гадоў і ўвесь той час, пакуль Чунь Фэн і Пай Дзычэнь там знаходзіліся, не зводзіў з дзяўчыны ўважлівага позірку. У той дзень Чунь Фэн забылася кантактныя лінзы і таму вырашыла, што віной усяму яе занадта кароткая майка на шлейках. Яна не пазнала ў мужчыне блізкага сябра Цзян Цзюньхэ.

«Ён ведае, але не кажа ні слова, — усё часцей і часцей гэтая думка прыходзіла ў галаву Чунь Фэн. — Можа, ён чакае, калі я сама, першая, скажу яму аб гэтым, альбо пакуль я з'еду ад яго?»

Але яна не ведала, куды ёй у такім выпадку падацца. Няўжо зноўку вяртацца ў інтэрнат? Бо засталося ўсяго толькі паўтары месяца да пачатку летніх канікул. Да таго ж, як усё гэта растлумачыць Пай Дзычэню?

А Пай Дзычэнь пры кожнай сустрэчы глядзеў на яе вачыма гаспадара і ласкава называў жоначкай.

А потым здарылася наступнае...

[11] Ежа, прыгатаваная ў спецыяльным кітайскім самавары.

Пай Дзычэнь патэлефанаваў ёй сярод ночы (Цзян Цзюньхэ быў у гэты час на званым вечары) і папрасіў тэрмінова пад'ехаць да «Белага дома» па неадкладнай справе. І толькі прымчаўшыся туды, Чунь Фэн высветліла, што «неадкладная справа», аб якой казаў хлопец, заключаецца ў тым, каб развезці яго і трох ягоных сяброў па дамах.

Чацвёра рослых хлопцаў з цяжкасцю ўладкаваліся ў яе аўтамабіле, практычна не пакінуўшы там свабоднага месца. З сабой яны захапілі напалову недапітую бутэльку «Джынро»[12] і перадавалі яе адзін аднаму на манер эстафетнай палачкі. Потым яны пачалі гучна абмяркоўваць адну студэнтку з універсітэта, якая таксама раз'язджае на ўласным аўтамабілі, прычым раз за разам кідалі ў яе адрас фразы, накшталт «днём яна на машыне раз'язджае, а ноччу «раз'язджаюць» на ёй самой».

Аглушальная хваля рогату, здавалася, захапіла Чунь Фэн. Яна націснула на газ, але і пасля гэтага не змагла пазбавіцца ад гэтага здзеклівага смеху.

Апошнім яна падвезла Пай Дзычэня да ягонага дома.

— Пачакай тут, — сказаў ён дзяўчыне. — Калі мае бацькі ўжо заснулі, я адпраўлю табе паведамленне, і ты ціхенька падымешся.

— Добра, — прагучала ў адказ.

Але, як толькі Пай Дзычэнь зачыніў за сабой дзверы, Чунь Фэн завяла машыну і паехала прэч. Уся ў слязах, яна, нібыта куля, імчалася па вуліцах, акутых начной цёмрай.

Прыехаўшы ў свой раён, Чунь Фэн выцерла слёзы і агледзела месца паркоўкі. Упэўніўшыся, што машыны Цзян Цзюньхэ там няма, яна з палёгкай уздыхнула.

Калі дзяўчына ўвайшла ў кватэру, там усюды было цёмна. Уздыхнуўшы, яна скінула абутак і села проста на падлогу побач з дзвярыма.

У гэты час цішыню парушыў званок Пай Дзычэня.

— Усё ў парадку, можаш падымацца! — Ягоны шэпт прагучаў тут, у цемры, крышачку нават пацешна. — Нумар 902. Я ўжо адчыніў дзверы.

— Я вярнулася дадому, — сказала Чунь Фэн.

— Як вярнулася? Мы ж дамаўляліся! — усклікнуў хлопец. — Тады яшчэ раз прыязджай. Гэта ж некалькі хвілін, калі на машыне...

— Ты за каго мяне прымаеш? За твайго ўласнага кіроўцу, альбо, можа, нават за прастытутку? — Гучныя словы Чунь Фэн, ад якіх так і веяла холадам, рэхам адгукаліся ў пакоі. — Я не паеду ні да цябе дамоў, ні ў якое іншае месца! Усё, чаго я зараз жадаю, — проста застацца дома!

— Хто прымае цябе за прастытутку? — самаўпэўнены тон Пай Цзычэня неяк няўлоўна змяніўся. — Ды калі б гэта было так, хіба б я паклікаў цябе да сябе дамоў?!

Нічога на гэта не адказваючы, Чунь Фэн проста паклала тэлефон на падлогу, і голас Пай Дзычэня пачаў ад яго адбівацца рэхам.

— Ты што, з глузду з'ехала? Цярпець не магу, калі дзяўчаты пачынаюць паказваць свае капрызы!

— Я не хачу з табой размаўляць, — прашаптала Чунь Фэн, слёзы градам каціліся па яе твары. — Проста не жадаю з табой размаўляць!

Потым, нахіліўшыся, яна выгукнула прама ў мабільнік:

— Я зараз адключу тэлефон!

— Адключыш — канец нашым адносінам, — холадна і выразна прамовіў Пай Дзычэнь. — І ведай, зваротнага шляху не будзе!

— Не будзе дык не будзе, — сказала Чунь Фэн, — канец дык канец!

---

[12] Марка карэйскай гарэлкі «Соджу».

Яна не толькі выключыла тэлефон, але яшчэ і выцягнула з яго акумулятар, адкінуўшы яго як мага далей. Потым выцерла слёзы і, зірнуўшы ў бок акна, заўважыла там яркі поўны месяц. Ягонае срэбнае святло, нібыта ад люстэрка, адбівалася ад шырокіх лістоў алаказіі, што размяшчалася перад акном. І тут Цзян Цзюньхэ, які нібыта ўзнік ніадкуль, павольна ўзняўся з канапы. Убачыўшы ягоны твар, што паказаўся з цемры, Чунь Фэн нібыта акамянела.

Так яны і стаялі нейкі час у цемры і амаль побач. Дзяўчына чакала, што Цзян Цзюньхэ зараз пачне задаваць ёй пытанні, сварыцца на яе, можа, нават ударыць, але ён, не прамовіўшы ні слова, моўчкі пайшоў наверх.

Чунь Фэн вытрасла ўсё з заплечніка, з якім калісьці і пераехала сюды, некалькі разоў паднімалася наверх і зноўку спускалася, але так і не ўспомніла, якія канкрэтна рэчы належалі менавіта ёй. Ад старога адзення яна ўжо даўно пазбавілася, а касметыка ўся была новая. І дзяўчыне раптам прыйшло ў галаву, што ўвесь гэты час яна жыла ў Цзян Цзюньхэ гэтак жа бесклапотна, як маленькае дзіцяня.

Потым Чунь Фэн знайшла флакон з духамі, які Цзян Цзюньхэ падараваў ёй у самым пачатку іх адносін, і пачала пырскаць кожныя некалькі хвілін. Хутка пах стаў, літаральна, біць у нос, і зрабіўся такім канцэнтраваным, што, здавалася, вось-вось духі праявяцца паўсюдна ў пакоі кроплямі, нібыта раса.

— Зараз глыбокая ноч, а ты ўсё не спіш, — пачуўся раптам з лесвіцы голас Цзян Цзюньхэ. — Ты што, разбіла флакон з духамі?

Цзян Цзюньхэ прагаварыў гэта вельмі мякка, і на нейкае імгненне Чунь Фэн нават разгубілася, не ведаючы, як быць. Яна зноўку схапіла духі і пырснула ў бок лесвіцы.

— Падабаецца пах?

Цзян Цзюньхэ глыбока ўдыхнуў, а затым адразу чхнуў ажно два разы.

— Кладзіся спаць, — сказаў ён і, павярнуўшыся, накіраваўся ў спальню.

Дзяўчына нават не зварухнулася, а Цзян Цзюньхэ, зрабіўшы ўсяго некалькі крокаў, спыніўся каля дзвярэй і паглядзеў на яе.

— Чаму ты не ідзеш?

Чунь Фэн нічога не адказала. Тады Цзян Цзюньхэ сам падыйшоў да яе і, узяўшы за руку, адвёў у спальню.

Нейкі час яны моўчкі ляжалі, судакранаючыся спінамі і кожны пад сваёй коўдрай. Потым Цзян Цзюньхэ павярнуўся да Чунь Фэн і спытаўся:

— Што гэта ты ўвесь час шэпчаш?

— Я ўзгадваю тэкст з біркі ад флакона з духамі, — адказала Чунь Фэн, таксама паварочваючыся ў ягоны бок. — Лёгкія ноткі свежых сакавітых цытрусавых і сонечных грэйпфрутаў, адборная лістота вербены ў спалучэнні з нічым не параўнальным водарам лімона і апельсіна, які надае бадзёрасць. Салодкасць грушавага сіропу, што дадае дадатковую яркасць вытанчаным фрэзіі і лотасу. І на завяршэнне — цёплы шлейф з водару пяшчотнага каштоўнага сандала.

— Уражвае, — усміхнуўся Цзян Цзюньхэ.

— Праўда, што тыя духі табе падаравалі, — спыталася Чунь Фэн, — а не ты сам іх купіў спецыяльна для мяне?

— Гэта мае значэнне?

— Скажы!

— Спі, — сказаў мужчына і зноўку адвярнуўся.

— Ніхто і ніколі не адносіўся да мяне так добра, як ты, — прашаптала Чунь Фэн. — Нашым адносінам прыйшоў канец толькі таму, што я кепская. Ты павінен накрычаць на мяне, нават ударыць...

Цзян Цзюньхэ нічога не адказаў, і тады яна штурханула яго ў спіну, потым схапіла за руку.

— Давай, пасварыся на мяне альбо пабі! Тады маё сэрца не будзе так разрывацца ад болю, калі я пакіну цябе заўтра!

— Не кажы глупстваў, — сказаў Цзян Цзюньхэ і, зноўку павярнуўшыся да Чунь Фэн, пяшчотна прытуліў яе да сябе.

З вачэй Чунь Фэн пырснулі слёзы. Спачатку яна плакала бязгучна, стараючыся стрымлівацца, а потым, не звяртаючы ўжо ні на што ўвагі, загаласіла ўголас. І хутка піжама Цзян Цзюньхэ наскрозь прамокла ад яе слёз.

— Ну, хопіць, супакойся, — прашаптаў Цзян Цзюньхэ, абдымаючы Чунь Фэн. — Давай памірымся! Ты яшчэ такая маладая, і таму я не падманваю цябе. Але і ты не павінна падманваць мяне, бо я ўжо далёка не малады...

*Пераклад Анастасіі Вераб'ёвай.*

《云雀》

金仁顺

春风在大学读书，同时做餐馆服务员打工。有一天她与姜俊赫相识。姜俊赫比她年纪大很多，但是很喜欢春风。他把名牌香水送给春风。慢慢地他们同居了，春风搬到了他家。春风变得很漂亮，她的同学裴自诚爱上了她，而她很早就喜欢这个帅小伙子。春风心里很难过，怕姜俊赫会发现。有一天她与裴自诚吵架的时候，姜俊赫听见了他们的对话。因爱春风，姜俊赫选择了原谅她。小说描写了一个年轻姑娘的生活方式、性格与心理特点。



# Чарадзейная пуга

## *Кітайская народная казка*

Сяо Вану было пятнадцать гадоў, калі ён разам са сваім дзедам пакінуў з-за голаду родную вёску. Дзядулю не было яшчэ і шасцідзесяці, але ён выглядаў ужо лядачым старым. Гэта таму, што ўсё жыццё працаваў, не разгінаючы спіны, і ніколі не еў уволю.

У дарозе ў дзядулі закружылася галава, ён паваліўся і пакалечыўся. Праз некалькі дзён дзядуля памёр. У Сяо Вана не было грошай, каб пахаваць яго, мясцовыя сяляне таксама не маглі нічым дапамагчы. Тады падлетак пайшоў да багацея Чэн Даху і доўга прасіў яго пазычыць грошай на пахаванне. Багацей згадзіўся, нарэшце, даць тры вязкі дробных манет, але з умовай, што за гэта Сяо Ван будзе працаваць у яго тры гады.

Пачаў Сяо Ван пасвіць у багацея авечак.

Аднойчы, калі ён ішоў за статкам, з лесу выбег воўк і схапіў адну. Сяо доўга гнаўся за ім, але дарэмна. Набліжалася ноч, і нічога не заставалася рабіць, як вяртацца са статкам дамоў.

Чэн Даху праверыў статак і, не далічыўшыся адной авечкі, накінуўся з кулакамі на Сяо Вана, моцна збіў яго і, нягледзячы на ноч, прымусіў ісці шукаць жывёліну. Сяо добра ведаў, што авечку воўк даўно ўжо з’еў, ды ўсё ж такі пацягнуўся ў горы.

Свяціў месяц, вакол было ціха, і ён не заўважыў, як апынуўся ў гарах.

Пры месячным святле Сяо Ван убачыў старога, які з кульбай ішоў па вузкім мосціку цераз раку. Раптам стары паслізнуўся і зваліўся ў ваду. Сяо Ван кінуўся на дапамогу і выратаваў яго.

Адпачыў крыху стары і запытаўся ў падлетка:

— Як ты апынуўся ў гарах у такі позні час?

Засмучаны Сяо Ван расказаў старому ўсё, што з ім здарылася.

— Калі ты храбры, — сказаў стары, — то ідзі на ўсход, за тысячу лі адсюль. На Звярынай гары ты знойдзеш шмат каштоўных рэчаў. Вазьмі адну з іх, яна прынясе вялікую карысць не толькі табе, але і іншым беднякам. Толькі ведай — там шмат дзікіх звяроў, і чалавеку прайсці туды вельмі цяжка.

Сяо Ван падумаў: «Калі гэта можа быць карысным і мне, і іншым людзям, чаму ж не пайсці?»

І ён адказаў:

— Чаго мне баяцца? Я адразу ж і пайду.

Сяо Ван накіраваўся да Звярынай гары. Дайшоў ён да яе праз многа-многа дзён. Ваколраслі высокія дрэвы, а ў гарах чулася звярынае выццё. «Як жа ўзабрацца на гару? — падумаў Сяо Ван. — Залезу спачатку на дрэва і агледжуся».

Толькі ён паспеў залезці на дрэва, як пачуў унізе гучны роў тыгра.

Хутка з’явіліся звяры: наперадзе вялікі тыгр, за ім доўгім ланцугом набліжаліся мядзведзь, воўк, малпа, лісіца. Звяры паселі на палянцы, непадалёку ад дрэва, на якое залез Сяо Ван, і яму было ўсё чуваць і відаць. Тыгр, гучна рыкаючы, сказаў:

— Малпа, ідзі ў пячору і прынясі чарадзейную пугу.

Малпа падскочыла, пабегла ў каменную пячору і прынесла пугу. Тыгр ўзяў яе ў лапы, пляснуў па зямлі і сказаў:

— Віна сюды! Закускі сюды!

І ў тое ж імгненне на паляне з’явіліся віно і розныя закускі. Звяры пачалі есці і піць. Ад віна ўсе павесялелі: лісіца спявала, а малпа скакала і крыўлялася.

Калі звяры ўволю наеліся і напіліся, малпа аднесла пугу ў пячору. Сяо Ван падумаў: «Калі б я змог дастаць чарадзейную пугу, мне б не давялося больш здабываць харчаванне. Я ніколі ў жыцці не наядаўся ўволю».

Пачакаўшы, калі звяры пойдуць, Сяо Ван злез з дрэва і крадком накіраваўся ў пячору. На сценах пячоры былі развешаны нажы, мячы, стрэльбы і шмат іншых рэчаў. Адны з іх ярка зіхацелі і пераліваліся серабром, другія — золатам. Не было толькі чарадзейнай пугі.

Юнак пайшоў далей і ўбачыў куфар, у ім якраз і ляжала пуга. Схапіў Сяо Ван яе — і наўцёкі. Але не паспеў хлопец зрабіць і некалькі крокаў, як пачуў ззаду тупат. Ён падумаў, што за ім гоніцца нейкі звер, але, калі азірнуўся, убачыў прыгожага стройнага каня.

«Чаму б не вярнуцца дамоў на гэтым кані», — падумаў Сяо Ван. Але конь быў дзікі. Калі юнак наблізіўся, конь кінуўся ад яго. Сяо Ван спалохаўся і хутка ўзабраўся на дрэва. Конь пачаў бегаць вакол дрэва і гучна іржаць. Сяо Ван скокнуў яму на спіну, учапіўся ў грыву, і той раптам зрабіўся паслухмяным.

Гэта быў незвычайны конь! Ён імчаўся, як аблокі ў моцную буру. Не паспела падняцца сонца, а Сяо Ван быў ужо ў сваёй вёсцы.

Каля варотаў стаяў багаты Чэн Даху. Убачыўшы вершніка, ён вырашыў, што гэта важны чыноўнік, і кінуўся з усіх ног сустракаць яго. Але калі Сяо Ван пад’ехаў, багацей пазнаў падлетка.

— Гэта ты, Сяо Ван? — спытаў Чэн Даху. — Як мы ўсе непакоіліся, нарэшце ж ты прыехаў!

Суседзі выбеглі са сваіх хацін і акружылі Сяо Вана.

— Сябры, — сказаў юнак, — з гэтага дня мы больш не будзем галадаць.

Сяо Ван пайшоў на плошчу, узмахнуў пугай і сказаў:

— Ежу сюды!

І адразу ж з’явіліся шэсць сталоў з рознымі стравамі. За абедам Сяо Ван расказаў вяскоўцам, як яму ўдалося дастаць чарадзейную пугу.

— Ёсць у нас цяпер гэты цуд — чарадзейная пуга, — сказаў Сяо Ван, — але мы павінны паранейшаму старанна працаваць.

Сяляне ўхвалялі словы юнака і радаваліся нечаканаму шчасцю.

Зайздрослівы і прагны Чэн Даху, даведаўшыся пра цуд, хадзіў за Сяо Ванам і ўсё распытваў, дзе дастаць такую пугу. Юнак расказаў яму пра пячору, у якой шмат чарадзейных рэчаў.

І падумаў тады Чэн Даху: «Калі я дабуду ўсе гэтыя рэчы, то стану самым багатым на зямлі».

Чэн Даху накіраваўся да Звярынай гары і дайшоў да яе праз многа-многа дзён. Спачатку ён залез на дрэва, каб агледзецца. Але раптам багацей пачуў гучны тыгрыны роў. Затым з’явіліся звяры і паселі на палянцы ў кружок. Тыгр паглядзеў на звяроў і вымавіў строга:

— Мы ўжо даўно не елі нічога смачнага і не пілі віна. Малпа, ідзі, прынясі пугу.

Малпа пабегла ў пячору, але амаль адразу ж вярнулася.

— Нехта ўкраў нашу чарадзейную пугу! — залямантавала яна.

Звяры кінуліся ў пячору. Шукалі, шукалі пугу, але нідзе не знайшлі…

— Магчыма, злодзей не паспеў яшчэ далёка адысці, — зазначыла лісіца. — Давайце дагонім яго і разарвём на часткі.

У малпы былі самыя зоркія вочы, паглядзела яна вакол і ўбачыла на дрэве чалавека.

Звяры сцягнулі багацея з дрэва і з’елі яго.

*Пераклад Міхася Пазнякова.*



## Дзмітрый Шулюк

# Рукі ў далонях

Егіпет, Кітай, Індыя, Ісландыя, Японія… Як вядома, усе хочуць пабываць у гэтых краінах. Пабачыць казачныя казкі, якіх ніколі не знойдзеш у сваёй Беларусі. Незвычайныя краявіды, будынкі, людзей, неба. Я не хачу. Бо думаю, што цуд тут толькі ў нечаканасці, незнаёмасці, навізне. Думаю, гэта вельмі кепска, што людзі такой масай адмаўляюцца бачыць цуд тут і цяпер.

Тут і цяпер слухаю «Сімфаніету» Леоша Яначэка. Чытаю «Суму біятэхналогіі» Аляксандра Панчына. І які ўжо раз са здзіўленнем назіраю за тым, як рухаюцца мае пальцы. Міжвольна. Нават непатрэбна ніякіх фармулёвак ці слоў. Момант — калі гэта можна назваць момантам — і штосьці накшталт загаду імпульсам бяжыць ад мозга і прымушае падняцца мізінец. Пасля апусціцца. Падняцца і зноў апусціцца. Вось гэта цуд. Як і ўсё наша жыццё. Проста бярэш і захапляешся. Захапляешся тым, што з табой пастаянна. Тым, што і ёсць ты. Твае вушы чуюць, вочы бачаць, пальцы націскаюць клавішы на клавіятуры. Дзесьці ў табе адбываюцца рухі паветра і ўтвараюць маўленне. Слухаю «Сімфаніету» Леоша Яначэка. Гукавыя хвалі набываюць візуальнае афармленне. Там, за вокнамі вачніц. Быццам слухаеш карціну. Гэта цуд. Цуд, які тут і цяпер.

Давайце паразмаўляем пра сімвалы. Пра тыя з’явы, што дзень за днём губляюць сваё значэнне, набываючы абавязковасць. Ён просіць у яе «руку і сэрца». Яна адказвае «так». Праз год яны разыходзяцца. Бо «рука і сэрца» — гэта не рука і сэрца, а словы-сімвалы, словы-абавязковасці, словы без значэння. Ніхто нікому не збіраецца аддаваць руку. Ніхто і прасіць насамрэч яе не збіраецца. Рука — гэта проста штука, якая ў колькасці двух штук матляецца каля тулава і служыць даволі някепскай прыладай працы. Рукой можна трымацца за поручні, наліваць гарбату, пачасаць за вухам. На руцэ можна нафарбаць пазногці, зрабіць тату, насіць рукавічкі ці пальчаткі. Руку можна пацiснуць. Вось таксама цікавая з’ява. У ёй таксама жыве цуд. Цуд рукапацiскання.

«Усе мужчыны робяць гэта» і «Ты ж мужык» — асноўныя фразы, якімі можна растлумачыць, асэнсаваць рукапацiсканне. То бок прычынай таго, што ты дазваляеш чужой руцэ мацаць тваю, з’яўляецца твая палавая прыналежнасць. Не спяшайце кідаць у мяне камяні. Я кажу не пра «сапраўднае» сімвалічнае значэнне з’явы. Я кажу пра ўспрыманне. Успрыманне, якое маленькія хлопчыкі штодня наследуюць ад сваіх татаў. Звычайна гэта адбываецца ў дужа далёкім ад усялякіх аналізаў і разуменняў узросце. Нейкі дзядзька Віця прыносіць пару цукерак. Ты кажаш «дзякуй». Ён працягвае руку. А ты працягваеш сваю ў адказ. Поціск. І словы. «Малайчына. Му-у-у-жык». Рукапацiсканне як другасная палавая прыкмета.

Думаю, знаёмая сітуацыя. Калі вы не з якой-небудзь далёкай краіны. Дзе свае сімвалы. Дзе да нашых ставяцца падазрона, калі ўвогуле ставяцца. Напрыклад, у Японіі рукапацiсканне — з’ява рэдкая. І для саміх японцаў з большага непрыемная. Я іх разумею. Каму ж прыемна мацаць чужую потную далонь, якая яшчэ і невядома дзе дагэтуль была. Увогуле, далёкая краіна самураяў і сакуры часам такая блізкая. Напрыклад, калі чытаю Харукі Муракамі. Здаецца, што гэты чалавек з яго думкамі жыве дзесьці па суседстве, толькі ў іншай прасторы, калі вы

разумееце. Менавіта ў кнігах Муракамі я знайшоў «Сімфаніету» Яначэка. Дзіўна даведацца пра чэшскага кампазітара ад японскага пісьменніка.

Рукапацісканне — гэта быццам алкаголь. Спачатку ты робіш гэта, каб падацца дарослым. А пасля ўжо не можаш адмовіцца. Бачыш руку ці бутэльку і ў адказ цягнеш сваю руку. Бо «усе мужчыны так робяць», а ты — мужчына. І паспрабуй расказаць каму-небудзь, што гэта бессэнсоўна і негігіенічна. Пакрыўдзіш. Між іншым, калі думаць пра якуюніякую гігіену, то рукапацісканне — гэта разносчык вірусаў. Калі ўтрыраваць, то пры рукапацісканні можна атрымаць часотку. А калі і не яе, то ўсё роўна па-даросламу абмяняцца някепскай колькасцю бактэрый і вірусаў. Мноства з якіх толькі і чакаюць, калі змогуць прыемна ўразіць новага носьбіта.

Колькі рук прайшло праз мае рукі! Вялікіх, моцных, старых, брудных — розных. Пры навучанні ў каледжы я пэўны час цікавіўся хірамантыяй. Думаю, многія людзі сутыкаліся з гэтай з’явай і падзяліліся на дзве катэгорыі. Адны ўпэўненыя, што гэта ўсё лухта. Другія — што гэта навука. Я не хачу прымаць які-небудзь бок. Проста скажу, што ёсць у мяне такая звычка: складваць свет, як пазл. Кавалачак сплятаць з другім кавалачкам. І я не мог не сплесці ў адно рукапацісканне і лінейныя малюнкі на далонях. Доўгі час я быў упэўнены, што калі ты ціснеш чужую руку, вашы лёсы таксама сціскаюцца. Пачынаюць адлюстроўвацца адзін у адным. Я быў упэўнены, што новыя рукі ў тваіх руках змяняюць узорчатую схему твайго жыцця.

Ці думаю я так зараз? Не ведаю. Я паранейшаму думаю, што нашы рукі — гэта цуд. Пальцы адной водзяць смык, другой — заціскаюць струны. Скрыпка плача. Плача ад пяшчоты гэтых пальцаў. Гэты плач хвалямі ўгрызаецца ў хвалі мелодыі з піяніна. Мелодыі, якая таксама ўтвараецца пальцамі. Іх даведзенай да аўтаматызма дакладнасцю.

Гэтым летам я ўпершыню пачуў меркаванне, што абдымкі больш бяспечныя за рукапацісканне. Ну, не зусім пачуў — прачытаў. Амаль адразу ў двух розных кнігах. Двух розных жанраў. Двух розных аўтараў. Я не перастаў ціснуць рукі, але гэта стала яшчэ больш аўтаматычна і адначасова прымусова. Пакуль не ўспомніў, што рукі — гэта цуд. Пакуль не ўспомніў — колькі жыцця, агню, крыві трымаецца ў маіх руках. Я ўспомніў гэта на адным мерапрыемстве, прысвечаным пытанню месца жанчыны ў беларускай паэзіі. Я ўспомніў гэта, калі паціснуў руку самай прыгожай беларускай паэтцы. Такую маленькую, цёплую, сапраўдную. Літаральна за дзве секунды я адчуў сапраўднасць яе, сапраўднасць сябе і сапраўднасць гэтага сакральнага дзеяння. Яе далонь засталася на маёй далоні: не ведаю, лініямі ці ўзорамі, але ведаю, што засталася.

Больш люблю слухаць музыку ў слухаўках, чым бачыць музыкантаў у жывую. Бо так я магу заплюшчыць вочы і бачыць ноты. Бачыць іх пейзажы, партрэты, баталіі. Бачыць жыццё мелодыі. Калі я магу бачыць музыкантаў, мне складана адвесці вочы ад іх рук. Наогул, складана заўважаць музыку. Толькі гэты рух. Гэты танец.

Як і ў большасці асоб мужчынскага полу, у мяне бралі адбіткі пальцаў. На медаглядзе ў ваенкамаце. Я адчуваў гнеў, нянавісць, боль. Тое, што для іх было проста працай. Проста статыстыка. Проста база даных. Для мяне гэта было непрымальным. Я адчуваў, што скура з маіх рук застаецца на валіку, якім намазваюць слой чарнілаў. Я адчуваў, што скура з маіх рук застаецца на паперы, разам з чарнільнымі плямамі. Я адчуваў, як скура з маіх рук уцякае ў ракавіну разам з вадой, чарніламі і крывёй.

Зараз я слухаю «Сімфаніету» Леоша Яначэка, чытаю «Суму біятэхналогіі» Аляксандра Панчына і са здзіўленнем назіраю, як рухаюцца мае пальцы.

Егіпет, Кітай, Ісландыя, Індыя… Зараз усе мае рукапацісканні дзеляцца на аўтаматычныя і сапраўдныя, жывыя. Я прыкладаю руку альбо да бессэнсоўнасці, альбо да сакральнасці. У галаве — вобраз сабакі Тошы з дзяцінства. «Тоша, дай лапу. Ты ж му…»

*Леош Яначэк — чэшскі кампазітар, музыказнавец-этнограф і педагог. Побач з Б. Смятанай і А. Дворжакам з’яўляецца стваральнікам чэшскай класікі. Музыка Яначэка гучыць у «Невыноснай лёгкасці быцця» — фільме па раману яго суайчынніка М. Кундэры. Чэшскі музыказнавец Я. Шэда пісаў пра музыку Яначэка так: «Яго музыка паўнакроўная, лаканічная, зменлівая, як само жыццё, здаровая, пачуццёвая, гарачая, цягне за сабой».*



**Кацярына Захарэвіч**

# Мядзведзік

Кацярынка не можа заснуць, бо ў акно да яе заглядае поўня. Кася жыве на дзясятым паверсе, і да яе вельмі рэдка хтосьці заглядае ў акно. На шчасце, толькі поўня. Поўні Кася рада. Ад яе святла пакой стаў больш зразумелым і прадказальным. Толькі вось той цень ад стала крыху напружвае. Яшчэ поўня асвятліла гармідар на стале і крэсле. Захацелася ўстаць і прыбрацца, але лянота перамагла.

Маленькая Касечка вельмі баялася цемры і не засынала без святла. Бо цемра хавае ўсё, што ёсць, і паказвае тое, чаго няма. Маме даводзілася запальваць лямпачку, пакуль дачка не засне. Мама скардзілася, што бабуля прывучыла дзіця спаць пры святле замест таго, каб прывучыць — без. Кацярынка ведае, што бабуля была вельмі добрая і не магла супрацьстаяць яе жаданням і капрызам.

Потым хтосьці — ці Касечка, ці мама, а можа і разам — прыдумалі, як падмануць Касечкін страх. Завешваючы акно маленькай спальні шторамі, мама пакідала месца для невялікай палоскі святла.

> Маленькая Касечка вельмі баялася цемры і не засынала без святла. Бо цемра хавае ўсё, што ёсць, і паказвае тое, чаго няма

Святла ноччу, канешне, не было, але была бачная вуліца, крыху больш выразнымі рабіліся абрысы мэблі ў пакоі. Пакуль зусім не засыналася, Касечка ўпівалася зрокам у гэтую палоску начнога святла, а потым заплюшчвала вочкі і спала да раніцы.

Час ад часу ёй дапамагала засынаць кацянятка Барсік. Ён быў чорны, з белым мятлікам і ў белых майточках. Яго мама — бабуліна котка Нюся, якая забылася сваё імя і адгукалася на Котку, таксама насіла белы мятлік. Калі Касечка была зусім маленькая, Котка прыходзіла да яе ў калыску. Яе, праўда, праганялі, бо Котка была напаўдваровая, і як казаў потым Касечкін сябар Арцёмка, «нервовая».

Калі Барсік падрос настолькі, што Котка стала выпускаць яго са сваёй скрыні без нагляду, Касечка стала браць яго да сябе. Барсік падпаўзаў пад самы твар і засынаў, гучна мурлыкаючы. Барсіка таксама хацелі праганяць, бо ён, хоць і быў вельмі ласкавы, але, як і мама, напаўдваровы. Але Касечка ўсё адно брала яго да сябе. І штораз ён выдаваў яе ўчынак бацькам, гучна мурлыкаючы.

Калі Барсік стаў дарослы настолькі, што нашмат больш цікавымі яму падаваліся ночы на вуліцы, Касечцы зноў зрабілася сумна. Барсіка яна вельмі любіла, але вырашыла завесці сабе мядзведзя. Плюшавага. Яна шмат разоў бачыла ў фільмах, мульціках і кніжках, як прыгожа засынаюць прынцэсы, прыціскаючы да сябе бурага плюшавага мішку. Барсіка так не прыціснеш. Нават з цацкамі так не атрымлівалася, бо праз гадзіну цацка была на падлозе, разам з коўдрай і часткай Касечкі. Але мішка патрэбны.

Як на зло, Касі дарылі малпачак, сабачак, лісічак… Найбольш сабачак чамусьці. Мішку аднойчы таксама падарылі. Белага, касматага. І ён не сядзеў, як ва ўсіх мульціках і кніжках, а стаяў на чатырох лапах. Браць яго спаць было нязручна, бо на падлозе ён апынаўся ўжо праз паўгадзіны. Касечка назвала яго Умкам і паставіла на палічку. І стала чакаць таго самага мішку. Той самы з'явіўся ў яе ў дванаццаць гадоў. Яго звалі Мімі, ён быў прыгожы. Але калі Касечка ноччу выпадкова націскала яму на жывоцік, ён не вельмі прыгожа, але вельмі доўга спяваў. Таму чаканне працягваецца.

Кацярынка ўстала з ложку, падміргнула поўні і ўзяла са стала плюшавага пінгвіна з вялікімі вачыма. Дзіўнаваты цень ад стала яе больш не пужае.




**Канстанцін Касяк**

# Вялікае мастацтва: ад Лісабона да Уладзівастока

Насамрэч, я далёкі ад мастацтва чалавек, але з'явілася тэма, пра якую вельмі хацелася б распавесці. Пачаць варта з таго, што ў канцы лістапада добрыя знаёмыя з аднаго са сталічных камунікацыйных агенцтваў запрасілі мяне на прэс-канферэнцыю з нагоды адкрыцця ў Мінску ўнікальнай выставы сучаснага мастацтва.

Адна назва гэтага арт-праекта чаго вартая — «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока». На мапе лёгка знайсці Лісабон, тым больш лёгка знайсці Уладзівасток. Лёгка нават пракласці лінію ад аднаго горада да другога. Але вельмі складана асэнсаваць тое, што паміж гэтымі двума гарадамі больш за дзесяць тысяч кіламетраў. А колькі народаў, народнасцей і этнасаў пражываюць на гэтай прасторы — нават і не злічыць! І ў цэнтры — Мінск. І зусім невыпадкова!

Беларусь чарговы раз спрабуе прадставіць сябе на міжнароднай арэне самастойным гульцом. У час палітычнай турбулентнасці, якую ўсе мы перажываем апошнія гады, гэта надзвычай важна. Бо заўсёды лепей спрабаваць нешта зрабіць самому, чым быць проста маўклівым аб'ектам гульняў моцных гэтага свету. І я не толькі пра геапалітыку, але і проста пра жыццё. Па сутнасці, ёсць два варыянты развіцця: або ты гуляеш сам, або гуляюць цябе. Трэцяга не дадзена…

Выстава мае на мэце паказаць нашу краіну як зямлю, якая заўжды аб'ядноўвала самыя розныя погляды і ідэі. Сапраўды, ва ўсе часы тут мірна суіснавалі самыя розныя палітычныя погляды, рэлігійныя канфесіі і філасофскія думкі. Не буду ідэалізаваць нашу мінуўшчыну, робячы з яе ружовую казку з кісельнымі берагамі, але калі разабрацца, то насамрэч яна была не такая цмяная і змрочная, як у іншых народаў. Усё ж, як ні круці, тут жылі адукаваныя, разумныя і прагматычныя людзі.

Ідэя праекта належыць Паўлу Латушку, надзвычайнаму і паўнамоцнаму паслу нашай краіны ў Францыі, і вядомаму беларускаму мастаку Віктару Альшэўскаму. Назва арт-праекта абрана вельмі трапна — яшчэ ў 1959 годзе прэзідэнт Францыі генерал Шарль дэ Голь у сваёй знакамітай прамове ў Страсбургу абвясціў «Вялікую Еўропу» ад Атлантыкі да Урала. Менавіта з яе бярэ пачатак ідэя агульнай еўрапейскай прасторы. Канкрэтыка з Лісабонам і Уладзівастокам узнікла ўжо пазней.

На выставе «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока» прадстаўлены больш за 80 работ 27 мастакоў з 27 краін свету. У тым ліку з Нідэрландаў, Францыі, Іспаніі, Партугаліі, Польшчы, Чэхіі, Аўстрыі, Бельгіі, Сербіі, Венгрыі, Эстоніі, Украіны і Расіі. Многія з іх спецыяльна прыехалі ў Мінск на ўрачыстае адкрыццё выставы ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага, якое адбылося 22 снежня 2016 года.

Розныя па стылі і тэматыцы, яны аб'яднаныя адной тэмай — процівагі палітычнай напружанасці, якая склалася цяпер у свеце. Людзям мастацтва заўжды прасцей знайсці агульную мову. Тым больш, што ў іх ёсць тэма, якая іх аб'ядноўвае, — мастацтва. Вялікае мастацтва вялікай Еўропы, якое стагоддзямі прыцягвала і матывавала.

Выстава «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока» працуе да 5 лютага. Не палянуйцеся — наведайце яе. Не пашкадуеце!



**Анхела Эспіноса Руіз**

## Абмежаванні

Польскі памежнік задаў мне дужа многа пытанняў. Пасля чарговых візітаў у Беларусь мне стала ясна, што чыноўнікам вельмі сумна сядзець на межах, як і сумна сядзець, мусіць, у ледзь не ўсіх чыноўніцкіх крэслах. Бяры пашпарт, глядзі, праязджае пан з Кракава ці спадар з Магілёва, стаў пячатку, і, вядома, трэба, каб не было пратэрміновак. Альбо каб былі, а то — штраф. Таму польскі памежнік, калі ўбачыў мой іспанскі (!) пашпарт на польска-беларускай (!) мяжы, натхніўся, нібы Багдановіч пры з'яўленні на небасхіле самой зоркі Венеры, і задаў мне дужа многа пытанняў. *А адкуль вы? А ў Польшчы жывяце? А дзе жывяце? А што ў Варшаве робіце? А на каго вучыцеся?* Маёй аднагрупніцы гэта хутка надакучыла, невядома, ці ад шчырай любові да мяне, ці ад пахмелля (нагадваю, мы добра выпілі ў Беластоку перад ад'ездам), і рэзка сказала міламу чыноўніку, маўляў, яна з намі, вучыцца ў нашай групе, усё! І чалавек пайшоў далей правяраць нудотныя, звычайныя польска-беларускія пашпарты, як і належала.

Праўду кажучы, мяжы ўласціва своеасаблівае паветра. Што я маю на ўвазе, калі так выказваюся пра мяжу? Ну, ёсць пэўныя месцы, дзе час і прастора размываюцца. Марнеюць, як мокрая фарба. Вось некалькі прыкладаў таго, што прыйшло ў галаву: школа падчас летніх канікул; міжнародны аэрапорт, калі вандруеш адзін; нетыпова ціхая вулачка ў цэнтры студэнцкага гарадка, калі вяртаешся з дыскатэкі а трэцяй гадзіне ночы; кватэра бацькоў без бацькоў; антыкварыят, дзе цікае адначасова некалькі старамодных гадзіннікаў, і іншыя. Цяжка перадаць гэта пачуццё словамі, праўда? Але, мяркую, вы зразумелі, што гэта за з'ява. Такім чынам, у маім успрыманні мяжа адназначна належыць да катэгорыі разрываў рэчаіснасці. Стаіш без пашпарта, ні там ні сям, бывае, гадзінамі... Без паперы, агульнавядома, ты не чалавек, таму можна адчуць у гэтай сітуацыі не толькі страх, а і свабоду. Глядзіш, а фоткаць катэгарычна забаронена, хоць бачыш і прыгожую прыроду, і нейкія незразумелыя будынкі за плотам. Мне надзвычай цікава, што гэта за такія будынкі, і чаму там такі высокі плот, але, шчыра кажучы, я ніколі не адважылася спытаць. У любым выпадку, аўтобус, як паказала практыка, можа стаяць на мяжы гадзінамі, калі вялікая чарга (ёсць такія дні, калі ўсе беларусы хочуць адначасова паехаць у Польшчу або Літву). Давялося такое перажыць апошнім летам, падчас начнога вяртання з краіны цудаў Беларусі ў звычайную еўрасаюзную краіну Польшчу. Але, як любіў пісаць Міхаэль Эндэ, «гэта ўжо зусім іншая гісторыя, і мы раскажам яе як-небудзь у іншы раз».

Гэтым разам мы стаялі нядоўга на мяжы, і таму даволі хутка прыехалі ў Гародню. Мытнік стаў аўтарам першага цуду: падышла я, такая нервовая, да кантрольна-прапускнога пункта. Чыноўнік сказаў мне *здраствуйте,* а я павіталася сарамлівым *добры дзень* і аддала яму свой пашпарт. Пагартаўшы пару разоў, чалавек паглядзеў на мяне. Потым — зноўку на пашпарт. І яшчэ на мяне. Такімі паўзамі, як у гэтым тэксце. І нарэшце загаварыў здзіўленым тонам: *З Іспаніі? А па-беларуску размаўляеце?* Ага! Вось пра што ён думаў! А я ўжо хвалявалася, што ў пашпарце «ачапятка» і мяне не прапусцяць. *Ну, так склалася гістарычна,* вырашыла пажартаваць я, бо 1. Чалавек здаваўся мне прыемным і 2. Я не магу размаўляць ні з кім больш за дзве хвіліны без жартаў, хоць маленечкіх. Чыноўнік усміхнуўся (клянуся!) і адразу прымусіў мяне вельмі моцна здзівіцца, калі сказаў: *О, а я ведаю вас! Вы Анхела Эспіноса, якая паэтка! Я чытаў вашыя вершы ў Інтэрнэце, а яшчэ некалькі інтэрв'ю!* Вось і прапусціў без пытанняў, людзі! Ведаеце, што? У нас у Іспаніі ёсць такі нацыянальны жарцік, што кароль у якасці асабістага даку-

мента можа падаць манетку вартасцю 1 еўра са сваім партрэтам, а людзі павінны ўзяць яе, бо гэта кароль. У мяне тады было крыху падобнае адчуванне. *Сёння я — у Беларусі. Сёння я — каралева.*

## Студэнтам, магістрантам, дактарантам

Сёння у мяне была панічная атака.

Хто ведае мяне толькі з мёртвых, ужо напісаных літар на старонках «Маладосці» і на экране камп’ютара, магчыма, з цяжкасцю ўяўляе за тэкстамі жывога чалавека. Раней, чым я пачала знаёміцца з літаратарамі (больш і менш таленавітымі, старэйшымі і маладзейшымі, няважна), я таксама не вельмі ўяўляла сабе вобразы сапраўдных людзей з чырвонай крывёй у жылах на аснове іх твораў і артыкулаў. Гэта заканамерна. Асабліва, калі мы мала ведаем біяграфіі гэтых літаратараў. Яны — іх вершы, іх апавяданні, нарысы і раманы. А раман ёсць цэльнасць. Чалавечая душа, затое, незаўжды. Можа, зрэдку. А калі і бывае так, то душа сістэматычна губляе сваю цэльнасць, бо чалавек — дынамічная істота. Значыць, не(заўсёды) ідэальная. Не тое, што кніга. У кніг няма панічных атак. Ніколі.

Хто ведае мяне ў жыцці, той ведае, што я пішу не толькі вершыкі і артыкулы, але і акадэмічныя тэксты, паколькі я з’яўляюся магістранткай кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Той ведае, што я люблю горкі шакалад і зялёную гарбату без цукру, моцную чорную каву і піва з мёдам. Ведае, што граю Шуберта на піяніна, хаджу ў оперу і з энтузіязмам спяваю ў караоке. Што я інтраверт, але часам адчуваю сябе самотна. Што я бібліяфіл, тое кожны ведае, бо ў папярэднім абзацы я толькі што сказала: кнігі ідэальныя. А як наконт таго, што я аматарка класічных галівудскіх фільмаў і камп’ютарных гульняў жанра RPG, у якія гуляю з малодшым братам?

Хто ведае мяне вельмі добра, той ведае, што я чалавек «без скуры». Гэта значыць, што не разумею розніцы паміж уласнымі праблемамі і чужымі: я жыву без паняцця «чужой» бяды. Лёгка дадумацца, што я чалавек надзвычай чулай натуры і слабых нерваў. А сёння ў мяне была панічная атака.

Пісала я, значыць, магістарскую працу. Давялося крыху змяніць яе тэму, з розных прычын, пра якія можна напісаць чарговы тэкст. Сабрала патрэбныя матэрыялы і занялася каталогам вершаў Міхася Стральцова. Пасля сямі ці васьмі гадзін працы я зразумела, што не схадзіла ні ў краму, ні ў трэнажорку, што справа павольная, гэты каталог, што мне не хапае некаторых вершаў, і пачала думаць, ці змагу я абараніцца своечасова ў чэрвені, і навошта я пішу такія працы, якія ніхто не будзе чытаць перад сном, і што лепш бы паступіла на права, як казаў мой дзядзька, калі мне было васямнаццаць, а не пісала вершыкі і артыкулы. Блін, артыкулы! Я не паспяваю з тэкстамі для «Маладосці», што цяпер рабіць? Канец месяца! А каталог Стральцова? А каму патрэбна гэтая навука? Столькі крывадушнасці ў навуковым свеце, людзі пішуць свае тэксцікі (блін, не паспяваю ні з тэкстамі для «Маладосці», ні з каталогам Стральцова!), і называюць адзін аднаго *пан-доктар-пані-доктар* (ну, у Польшчы так) і нікому асабліва ў жыцці не дапамагаюць, праўда? Вось вам і панічная атака, паважанае спадарства.

Хай будзе усё як будзе, якая мэта гэтага артыкула? ~~Вядома, паспець з тэкстамі для «Маладосці».~~ Я хачу звярнуцца сёння да ўсіх студэнтаў, магістрантаў і дактарантаў, якія хвалююцца і пакутуюць у працэсе напісання прац, ад курсавых да дысертацый. Літаратурны вопыт дае магчымасць адносна добра разбірацца ў людзях, і я амаль упэўненая, што некаторыя з вас пазналі сябе ў гэтых маіх нервовых развагах. Магчыма, нехта з чытачоў зусім нядаўна задумаўся, ці патрэбны ён, малады аспірант, грамадству і свету, асабліва калі спецыяльнасць яго гуманітарная альбо вельмі вузкая тэхнічная. Можа, нейкі студэнт пятага курса задумаўся, ці атрымае ён калі-небудзь дыплом, бо трэці раз паўтарае год. Я хачу сказаць гэтым маім завочным сябрам: так, ты патрэбны, бо ты фарміруеш інтэлігенцыю краіны, якую не заўсёды ацэньваюць, як трэба, але без якой культурнае жыццё краіны знікае абсалютна! Так, ты атрымаеш свой дыплом, калі будзеш імкнуцца наперад! Двойкі атрымліваюць толькі тыя, хто вучыцца, а ты перамог усіх тых, хто ляжыць на канапе і не ходзіць на пары. Так, усё будзе добра! І ў мяне бываюць панічныя атакі і моцныя перажыванні. І ў самага разумнага аднагрупніка, пэўна, таксама. І твой улюбёны прафесар, якім ты так захапляешся, калісьці зведаў студэнцкія стрэсы. Не здавайся!

## Вышэй за цябе



Ты ўзяў часопіс дагары нагамі. Малайчынка. Вяршыня эвалюцыі. Ты ж называеш сябе вяршыняй. Але ты памыляешся. Запытайся ў сваіх вучоных, і яны растлумачаць табе, што я таксама вяршыня. Як і галка, чарвяк, амёба. Кожны жывы від на Зямлі мае за ўмоўнай спінай доўгі шлях. У кожнага ён свой, але аднолькава доўгі. Кожны выбраў і развіў штосьці сваё. Ты не ўмееш лётаць. Ты не ўмееш бачыць рэха. Ты не ўмееш зліваццa з цемрай, з часам, з прасторай. Ты ўсяго толькі цвёрды кавалак белага дня.

Я бачу ноч. Ведаеш, якая яна? Шчырая. Чыстая. Жывая. Зоркі, месяц — гэта толькі дробязі ад прыгажосці самой сутнасці. Ты ніколі не зразумееш днём. Нічога ніколі не зразумееш днём. Для разумення патрэбна матэрыя цемры. Патрэбна наматваць яе, бы шалік вакол шыі. Патрэбна ператварыць яе ў сваё дыханне. Гэта не зробіш, калі свеціць грузным камком агіды вычварэнскі кавалак плазмы. Ноч. Гэта падарожжы праз сутнасць у існасць. Хочаш у падарожжа?

Касцёл Яна Хрысціцеля. Будуецца. Даўно ўжо. Ты ведаеш, хто такі Ян Хрысціцель? Павінен ведаць. Ён жа папярэднік Хрыста. Напэўна, таму яго імя стала такім папулярным. Бах, Кенэдзі, Купала, Гётэ. Сотні Янкаў, Іванаў, Джонаў, Іаанаў, Жанаў у сусветнай гісторыі. У кожнай краіне, у кожнай культуры, на кожнай мове.

Бацька Яна, Захарыя, падобны да беларускага народа. Ён таксама страціў мову на доўгі час. Да яго з’явіўся анёл. Ведаеш, такія крылатыя, як кажаны, толькі прыгажосці і адметнасці нашай у іх няма. З’явіўся і паведаміў пра тое, што хутка Захарыя стане бацькам. Стары чалавек крыху разумеў у фізіялогіі, таму не паверыў анёлу. Той пакрыўдзіўся і забраў у скептыка мову. І не меў Захарыя яе аж да нараджэння сына.

Думаю, гэтая гісторыя табе вядомая. Яна знаходзіцца ў адкрытым доступе, як і ўсё. Як увесь гэты начны горад. Я люблю гэты начны горад. Ты не верыш. Ты верыш інфармацыі, якой няма ні ў якім доступе, але нехта некалі некаму так сказаў. Я не анёл і не забяру ў цябе мову. У цябе яе няма. Як няма логікі і глузду. Толькі штучны гонар. Я зараз яго абражаю. Крыўджу цябе. Крыўджу банальнымі начнымі развагамі.

Праз дарогу ад касцёла — таксама цікавы будынак. Там жывуць, існуюць, працуюць, размаўляюць, моляцца, шэпчуць адвентысты сёмага дня. Яны такія ж людзі, як і іншыя. Наогул, усе людзі такія ж. Сотні муравейчыкаў майго горада. Але і сярод муравейчыкаў ёсць рыжыя і чорныя, з парасонам і ў кароценькіх штоніках, з крыжом на плячах ці са сцягам на майтках. Гэтыя дробязі не заўважныя мне. Я не хачу іх заўважаць. Як ты не хочаш заўважаць над сваёй галавою мой цень. Але ж для цябе гэтыя дробязі і ёсць ты. Дзіркі ў штанах — гэта твая індывідуальнасць. Усе павінны бачыць тваю індывідуальнасць. Усе павінны бачыць твае дзіркі ў штанах, бо табе няма чаго больш паказаць.

Я толькі частка бяззорнага неба. Я толькі адсутнасць месяцовага святла. Я толькі адбітак неіснуючых мар. Я марны анёл пейзажа, які нацюрморт. Я рэха і бязрэшша. Я пашча хвалёвага зроку.

Я хачу расказаць табе пра мой горад. Так цікавей. У мяне ж няма той індывідуальнасці, якую можна дэманстраваць праз дзіркі. У мяне ёсць толькі мой палёт. Між верхавінамі дрэў, дахамі дамоў, шпілямі і купаламі цэркваў і касцёлаў. Вышэй за трамваі, дарогі, рэкі, масты, прыпынкі, лаўкі, алеі, фантаны, цябе.

Вышэй за цябе. ■



**Яна Мусвідас**

## Адказу не трэба

Мяркую, вы не раз чулі, як пытаюцца: «Колькі ты зарабляеш?». Пацікаўся ў любога, і табе не задумваючыся адкажуць. Не таму, што ў нас «адкрытая» душа, а таму, што калі не адкажаш, рызыкуеш пакрыўдзіць або праславіцца «скрытным» і «подлым» чалавекам. Цікава, што на Захадзе пытанне аб заробку лічыцца нетактоўным.

З-за пастаянных умяшанняў у чужую прастору ў людзей не застаецца часу на пабудову ўласнага лёсу. Адсюль — непрыемнасці, дрэнны настрой і новы прыліў жадання залезці ў чужое жыццё. Замкнёнае кола

Адзін з лідараў сярод надакучлівых пытанняў — «А калі вы возьмеце шлюб?». У маладых пар дазнаюцца пра гэта ўсе, каму не лянота. Шчыра скажу, я не веру, што пытаюцца дзеля таго, каб пажадаць людзям шчасця і «памаліцца» за закаханых перад сном. Бо пытаюцца звычайна дзеля цікавасці. Мы з маім маладым чалавекам сустракаемся ўжо больш за два гады, і ўвесь гэты час нас спасцігае: «А калі вы возьмеце шлюб?» Часам здаецца, што маё становішча непакоіць усіх. Але навошта ім гэта?

Пытанне, якое я не цярплю з дзяцінства, — «Як назавяце дзіця?». У ім быццам нічога страшнага. Звычайна непрыемнае пачынаецца пасля адказу. Паўтары гады таму ў мяне нарадзіўся брацік. З яго імем вызначыліся яшчэ падчас цяжарнасці матулі — Лука. Чамусьці кожны лічыў сваім абавязкам прапанаваць нам альтэрнатыву. Малазнаёмая суседка, калі даведалася імя майго брата, доўга галасіла, чаму ж мы не назвалі яго Лук’ян. Я ўвогуле не разумею, якое права маюць людзі выбіраць імёны не сваім дзецям? У дзіцячым садку была непрыемная гісторыя: выхавацельніца пераконвала, што маё поўнае імя Яніна, бо імя Яна не існуе, толькі што па дакументах.

Ну, і асабліва актуальнае апошнім часам для мяне пытанне: «І дзе ты будзеш працаваць пасля ўніверсітэта, у «МакДональдсе»? Шчыра скажу, жарты пра гуманітарыяў я ніколі не лічыла смешнымі, але як мірыцца з такімі пытаннямі, зададзенымі ўсур’ёз? Калі я вырашыла паступаць на журфак, кожны знаёмы лічыў сваім абавязкам выказаць усё, што думае, пра мой выбар. Выкладчыца з Нядзельнай школы казала, што гэты факультэт не для «праваслаўных дзяўчынак», знаёмая спартсменка адразу павесіла ярлык на ўвесь журналісцкі род — «жаўтушнікі», а далёкая сваячка наогул заявіла, што ў гэтай сферы «усё куплена». Атрымліваецца, любы чалавек, нават добра не ведаючы мяне, у курсе, што лепш менавіта для мяне?

З-за пастаянных умяшанняў у чужую прастору ў людзей не застаецца часу на пабудову ўласнага лёсу. Адсюль — непрыемнасці, дрэнны настрой і новы прыліў жадання залезці ў чужое жыццё. Замкнёнае кола.

*P. S. Праваслаўным дзяўчынкам Янам выдатна жывецца на журфаку.*



Ігар Палынскі,
журналіст,
лідар рок-гурту «Sumarok»

## галоўны ўрок выяўленчага мастацтва. як я ляпіў з сябе журналіста

**школа сказала мне «да пабачэння» ў 2010-м. настолькі нечакана, што думка вярнуцца ў альма-матэр праз пяць гадоў (праўда, ужо з іншымі функцыямі) падалася адзінай слушнай. паспрабаваў стаць настаўнікам англійскай і беларускай моў (ёсць у полацкім дзяржуніверсітэце такая цікавая спецыяльнасць) — але прага да выкладання знікла за пару месяцаў. забраў дакументы, швэндаўся па краіне...**

набліжалася лета, а разам з тэмпературай паветра расла ўпэўненасць: супраць лёсу не пойдзеш. мае бацькі — журналісты; сам пішу, колькі сябе помню… усё склалася неяк само сабой: у мясцовай раёнцы (аб'ектыўна — адной з лепшых у Беларусі), дзе мае тэксты добра ведалі, з'явілася вакансія, а слова «журфак» аддавалася ў галаве чымсьці прыемным і мяккім, бы свежы бабруйскі зефір, непазбежным і неабходным, як ранішняя кава.

Слова «журфак» аддавалася ў галаве чымсьці прыемным і мяккім, бы свежы бабруйскі зефір, непазбежным і неабходным, як ранішняя кава

восенню, на «усталёўцы» у сталічным будынку на кальварыйскай, 9 я ўжо таропка запісваў заданні да зімовай сесіі. а першы запіс у працоўнай кніжцы з'явіўся яшчэ раней, за пару месяцаў да таго — 20 чэрвеня 2011-га, роўна ў той дзень, калі мне споўнілася 18. зараз усведамляю, наколькі рызыкавала рэдакцыя, пусціўшы ў свае нетры «зялёнага» падлетка-ідэаліста без адукацыі і досведу. але аванс такога даверу, здаецца, я адпрацаваў.

…калектыў рэдакцыі, вядома, пераважна жаночы, таму «пасялілі» мяне ў кабінет да адзінага на той момант мужчыны ў рэдакцыі — вярстальшчыка, каб не сумна было. паказалі на камп'ютар, далі ў рукі паласу і сказалі: «бачыш праўкі?.. іх трэба ўнесці». першы месяц працы я адно бегаў па калідоры ад свайго працоўнага месца да карэктарскай са стосамі паперы А3, на якіх была найвышэйшая рэдакцыйная каштоўнасць — будучы свежы нумар.

праз колькі тыдняў, як набіў руку, з'явіўся час пісаць. і тут напаткала неспадзяванка: пісаць-та трэба не што хочаш, а што скажуць. рэдакцыйнае заданне, як яно ёсць. унутры ўсё супраціўлялася: як можна, гэта ж творчасць!.. а здаровы сэнс казаў: гэта — праца, і тут нічога не паробіш.

яшчэ некалькі месяцаў — і я ўжо прызнаваўся ў любові да рэпартажаў. да таго ж мяне навучылі фатаграфаваць «як трэба» і выдалі шаноўнага ўзросту, але ўсё яшчэ бадзёрую «мінольту», якую я адно што ў ложак не браў, — так палюбілася мне гэтая камера. мне неверагодна падабалася лавіць сутнасць слоў і дзей на тых ці іншых мерапрыемствах, браць у кайданы фотакамеры яскравыя моманты і ствараць тандэм слоў і графікі, які пасля з'яўляўся на паласе. някепска, па словах калег, выходзілі і інтэрв'ю. часам выдзялялі крыху плошчы на апошняй паласе на своеасаблівыя «фотапогляды»: крыху вельмі важных, як самому адчувалася, слоў поруч са здымкам, ад якога ў самога замірала дыханне.

самымі ж страшнымі былі «інфармацыі ў калонкі». бярэш тэлефон, прыгадваеш усе арганізацыі/прадпрыемствы/etc рэгіёна і распытваеш: ці не адбылося ў іх чагосьці такое, што

Ігар Палынскі

на вялікі матэрыял не цягне, але пару слоў сказаць можна. знаходзіш пяць такіх інфармацый — твая калонка на другой паласе, якая заўсёды пры разліку ганарараў высока ацэньвалася.

сайт газеты быў цалкам маёй епархіяй. яго малявалі да мяне — у пэўны момант мне падалося, што ён выглядае занадта… стандартна, ці што. пакуль працаваў, тройчы перамалёўваў сайт з нуля — і неверагодна прыемна было, калі яго адзначалі на розных нарадах.

калі ўносіш праўкі ў палосы, пакрысе знаёмішся з функцыяналам вярстальніцкага софта. нават не помню той момант, калі зразумеў, што сам магу вярстаць. проста неяк спатрэбілася памяняць месцамі матэрыялы, нешта дадаць… у выніку атрымалася цалкам звярстаная мной паласа. як раздрукаваў для вычыткі, трымаў яе ў руках, бы дзіцёнка… з часам маё прозвішча з’явілася на апошняй паласе ў графе «дызайн і вёрстка» побач з прозвішчам галоўнага вярстальшчыка — і гэта было маленькае, але неверагодна важнае свята адчування ўласнай значнасці.

не меней здорава — калі на вуліцы цябе раптам пазнае нехта з чытачоў газеты і дзякуе за той ці іншы матэрыял. наогул, у пэўны момант з’явілася адчуванне, што газету ў рэгіёне чытаюць проста ўсе. ідзеш па цэху завода — вітаюцца рабочыя: «а я быў у газеце на першай паласе!». сустракаешся з аператаркай малочнатаварнай фермы — і яна прызнаецца, што вельмі хвалюецца, бо не паспела падвесці вочы, а суседзі ж усе газету чытаюць. пішаш пра творчы калектыў — персанальны канцэрт гарантаваны, бо «вы пакажыце нас добра, усе ж пабачаць!». а людзі на вуліцах, калі выходзіш з мэтай зрабіць апытанне, апроч як «наша газета» выданне не называлі.

наша. газета.

і нехта яшчэ сумняваецца ў тым, што рэгіянальны друк ёсць і будзе?..

не, ёсць, канешне, і нюансы. агульныя для ўсіх раёнак, я б сказаў. галоўная з іх — пэўны канфармізм, які не дазваляе газеце прыцягнуць маладую аўдыторыю. да прыкладу: хіпстары і рок-н-рол ёсць і ў рэгіёнах — чаму б не папрацаваць на гэтую аўдыторыю? чаму б не пісаць пра паспяховыя бізнэс-старт-апы, папулярныя ў рэгіёне гаджэты, фрыкаў, арт-вар’ятаў, уладальнікаў нетрывіяльных калекцый? закранаць варта і праблемныя тэмы: раённая газета можа быць шыкоўнай дыскусійнай пляцоўкай. надоі малака — гэта сапраўды важна і не павінна знікнуць са старонак перыядычнага друку, але некаторыя выданні выглядаюць, як інфармацыйныя лісткі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. але перакананы, што журналісты нашай газеты (за два гады звычка так казаць нікуды не падзелася), ды і любых іншых маглі б распрацоўваць нетрывіяльныя тэмы. дык у чым тады прычына?.. «працуе — не чапай», — тлумачылі мне калегі з іншых раёнак.

варта адзначыць: на старонках газеты ў мяне была магчымасць выяўляць уласнае бачанне сучаснай газеты, і я гэтай магчымасцю карыстаўся.

…без малога чатыры гады я працаваў у раёнцы, за гэты час паспеў цалкам перавесці сваё жыццё на беларускую мову, ажаніцца, набыць і прадаць першую машыну, запісаць і выдаць першы альбом… напісаць некалькі соцень рэдакцыйных тэкстаў. зрабіць некалькі тысяч фотаздымкаў. звярстаць незлічоную колькасць палос.

а пасля стала занадта звычайна. і мой арганізм, якому ўвесь час патрэбны драйв, запатрабаваў змен. ён іх атрымаў: у адзін дзень, не маючы звальнення нават у планах, я прыняў прапанову працаваць на мясцовым тэлебачанні.

за той час, што мы правялі разам з мясцовай газетай, я навучыўся ўсяму: уласны досвед — тая рэч, якую не замяніць сотнямі лекцый самых таленавітых прафесараў. летам я (спадзяюся) атрымаю дыплом выпускніка Інстытута журналістыкі БДУ, але па-сапраўднаму журналістам я стаў менавіта тут, у невялікай утульнай рэдакцыі. амаль два гады маё прозвішча не з’яўляецца на старонках роднай газеты, але я заўсёды буду помніць самае важнае — падтрымку калег.

у рэдакцыі мяне прынялі.

зараз разумею, як выглядалі для іх мае дзіцячыя пытанні, — але ані разу мне не адмовілі ў дапамозе. я мог звярнуцца да кожнага журналіста рэдакцыі з просьбай пачытаць і выказаць сваё меркаванне пра любы тэкст, перш чым аддаваць яго рэдактару. спакойна ставіліся яны і да маіх юнацкіх выбрыкаў — лагодна, акуратна, ветліва ўкладалі ў маю дзіцячую яшчэ галаву асновы не адно журналістыкі, але — жыцця.

за гэта кожнаму з іх — невымерная падзяка.

# Сакральнае і рацыянальнае

**З Галінай Флікоп-Світай, навуковым супрацоўнікам аддзела старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі сустрэлася Кацярына Захарэвіч. Пагутарылі пра вядомыя і малавядомыя рысы беларускай іканапіснай традыцыі, размежавалі ўспрыманні веры і іканапісу, вызначылі, што такое навуковая інтуіцыя і як яна спалучаецца з досведам.**



**— Што падштурхнула вас да вывучэння сакральнага мастацтва?**

— Ёсць такі выраз: «Мы любім тое, што мы ведаем». Не ведаю, выпадковасць гэта ці вынік збегу абставін: я вучылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў па спецыяльнасці «мастак народных рамёстваў», і для дыпломнай работы мой кіраўнік прапанаваў тэму, прысвечаную ўплыву гравюры на беларускі іканапіс. Справа ў тым, што сакральны жывапіс — кананічны, колькасць сюжэтаў у ім абмежаваная, таму мастакі кіраваліся рознымі крыніцамі, каб правільна перадаць той ці іншы сюжэт. Даволі часта для гэтага выкарыстоўвалі гравюры — ілюстрацыі тагачасных царкоўных кніг.

Гэтымі пытаннямі амаль ніхто не займаўся, толькі сям-там у беларускіх даследчыкаў сустракаліся згадкі. Тэма мяне зацікавіла, і чым больш я ў яе паглыблялася, тым больш яе палюбіла. Але пры гэтым я думаю, што калі б у той час узялася за іншую, яна мяне захапіла б не менш. Калі пачынаеш у штосьці паглыбляцца, бачыш, наколькі шмат розных нюансаў, аспектаў, якія можна вывучаць. У той маёй працы асноўная ўвага надавалася менавіта гравюрам як пратографам — першакрыніцам для іншых твораў, а далей я зацікавілася іншымі тэмамі, звязанымі з сакральным мастацтвам.

Творы сакральнага мастацтва звычайна не падпісаныя, але, ведаючы, з якой царквы абраз паходзіць, можна высветліць штосьці і пра мастака. Бывае і так, што на адзінкавых абразах стаіць імя майстра, але пра яго нічога невядома

**— Што ўваходзіць у вашыя абавязкі?**

— Мая асноўная задача — займацца даследаваннем беларускага іканапісу. Спецыфіка нашага аддзела ў тым, што ў нас ёсць музей (Музей старажытнабеларускай культуры). За супрацоўнікамі аддзела замацаваныя пэўныя калекцыі. За мной — калекцыя іканапісу, творы з якой я павінна вывучаць. Але мае даследаванні могуць ахопліваць не толькі экспанаты калекцыі, але і абразы, што знаходзяцца ў храмах, іншых музеях —беларускую спадчыну, якая захавалася ці не захавалася.

Акрамя гэтага, іншыя ўстановы бяруць у нас экспанаты на выставы. Асноўная частка калекцыі захоўваецца ў фондах, дзе трэба праглядзець творы, падабраць, што мы можам выдаць; скласці спіс, правесці перамовы, запакаваць іконы. Калі прадметаў шмат і трэба ўлічваць, што яны вялікія і кожны трэба запакаваць надзейна, гэта займае некалькі гадзін працы.

Калі даследуеш іканапіс, можна займацца выключна мастацтвазнаўчымі пытаннямі: рабіць візуальны аналіз твора, гэта значыць, вывучаць тое, што бачыш, апісваць, параўноўваць і г. д. Але асабіста мяне цікавяць іншыя пытанні. Напрыклад, асобы аўтараў. Творы сакральнага мастацтва звычайна не падпісаныя, але, ведаючы, з якой царквы абраз паходзіць, як перамяшчаўся, можна высветліць штосьці і пра мастака. У архіўных крыніцах сустракаюцца звесткі пра тое, што такі майстар ў пэўны час для такой вось царквы напісаў пэўныя абразы. А калі абразы з гэтай царквы захаваліся, падчас візуальнага аналізу можна зразумець, што яны сапраўды адпавядаюць перыяду, згаданаму ў дакументах, адлюстроўваюць тыя ж самыя сюжэты. А адсюль робім вынік: іх і напісаў той майстар, імя якога сустрэлася ў архіўных крыніцах. Бывае і так, што на адзінкавых абразах стаіць імя майстра, але пра яго нічога невядома. Высветліць штосьці з яго біяграфіі магчыма таксама з дапамогай архіўных матэрыялаў. Увогуле, гэтая праца нагадвае разгортванне дэтэктыўнай гісторыі.

**— Асноўная ваша праца — з архівамі ці палявая?**

— Мае калегі старэйшага пакалення з 1970-х гадоў ездзяць у экспедыцыі па Беларусі, праводзяць палявыя даследаванні, фіксуюць сакральную спадчыну, што захавалася. Гэта вельмі цікавы накірунак, якім можна займацца дзесяцігоддзямі. Мне было б цікава і гэта, але сёння я больш працую ў архіве. Бывае, атрымліваецца правесці там цэлы дзень, і гэта знаходжанне не абмяжоўваецца працоўным часам. Ідэальны варыянт — калі не трэба адхіляцца на іншыя справы. А калі ўжо сабраны ўвесь матэрыял, я сяджу ў кабінеце на сваім працоўным месцы і пішу артыкул.

**— Што сабой уяўляе беларуская іканапісная традыцыя?**

— Прынята лічыць, і ў цэлым гэта правільна, што для беларускай іканапіснай традыцыі характэрныя адыход ад канонаў, зварот да рэчаіснасці, этнаграфічнасць вобразаў.

У абразах, напісаных да XVII стагоддзя (іх захавалася вельмі мала), прасочваецца даволі моцная сувязь з візантыйскай традыцыяй. Але

Прынята лічыць, і ў цэлым гэта правільна, што для беларускай іканапіснай традыцыі характэрныя адыход ад канонаў, зварот да рэчаіснасці, этнаграфічнасць вобразаў. У абразах, напісаных да XVII стагоддзя прасочваецца даволі моцная сувязь з візантыйскай традыцыяй

ўжо з канца XVI стагоддзя пачынаюць назірацца змены, якія найбольш выразна праявіліся ў XVII стагоддзі: прысутнасць мясцовых тыпажоў, імкненне мастакоў перадаваць выяву не плоскасна, а аб'ёмна, у прамой перспектыве, а не ў адваротнай. Мастакі малявалі так, як бачылі і разумелі. Заўважаюцца таксама этнаграфічныя дэталі: напрыклад, ў сюжэтах «Нараджэнне Божай Маці» ці «Нараджэнне Хрыста» дзіця спавіта адпаведна мясцовай традыцыі; дзесьці зафіксаваныя архітэктура і інтэр'ер, характэрныя для таго часу; вопратка таксама можа быць наблажаная да рэчаіснасці.

Яшчэ адна рыса, характэрная не толькі беларускай, але і, напрыклад, украінскай традыцыі: упрыгожванне фонаў абразоў на дошках разьбяным арнаментам. Дошка пакрывалася тоўстым слоем грунту (ляўкаса), арнамент на фоне вырэзваўся ці ляпіўся, пакрываўся залатой ці сярэбранай фарбай. Рускім іканапісным школам гэта не ўласціва — прынамсі, я не бачыла ні аднаго абраза, дзе б фон упрыгожваўся разьбяным арнаментам. Там на фон абразоў наносілася шата — тонка накладзены метал, які аздабляўся арнаментам.

Пералічаныя рысы прынята лічыць характэрнымі для беларускай іканапіснай школы XVII—XVIII стагоддзяў. Разам з тым існаваў і іншы напрамак — абразы на палатне. Палатно пачало выкарыстоўвацца для іканапісу пад уплывам еўрапейскага свецкага мастацтва. Здавалася б, якая розніца, на якім матэрыяле пісаць, але розніца ёсць. На палатне немагчыма зрабіць разьбяны фон, гэта значыць, што абраз ужо ўспрымаецца па-іншаму. Такія іконы маюць

Палатно пачало выкарыстоўвацца для іканапісу пад уплывам еўрапейскага свецкага мастацтва. Здавалася б, якая розніца, на якім матэрыяле пісаць, але розніца ёсць. На палатне немагчыма зрабіць разьбяны фон, гэта значыць, што абраз ужо ўспрымаецца па-іншаму

іншы каларыт, і ў гэтым, як правіла, праяўляецца ўплыў еўрапейскага рэнесанснага мастацтва. Ім уласцівы цёмны фон: сіні, шэры, зялёны, карычневы. Здавалася б, фон — не самае важнае, але ён трымае каларыстычную гаму абраза. Каб цалкам твор успрымаўся выразна, адпаведна падбіраліся іншыя колеры. Атрымліваецца, калі гаворка ідзе пра беларускі традыцыйны жывапіс, то звычайна звяртаюцца да абразоў на дошках. Хаця з сярэдзіны XVII стагоддзя пачынаецца паралельнае выкарыстанне палатна.

Калі праводзіць паралелі з тагачаснымі тэндэнцыямі ў суседніх краінах, на тэрыторыі Расіі палатно для іканапісу не выкарыстоўвалася, наколькі мне вядома. Ва Украіне яго маглі скарыстоўваць, але менш, чым у Беларусі.

**— Якія імёны ў беларускім іканапісе вядомыя навукоўцам?**

— Яшчэ ў 1980-я гады беларуская даследчыца Надзея Фёдараўна Высоцкая выдала каталог твораў Нацыянальнага мастацкага музея «Тэмперны жывапіс Беларусі». У дадатку да каталога прыводзіцца пералік імёнаў мастакоў, якія працавалі на нашых землях. Хтосьці вядомы з подпісаў на творах, хтосьці — з архіўных крыніц. Збольшага звесткі — проста імя. У лепшым выпадку — пералік прац (у асноўным мастакоў, якія працавалі ў Нясвіжы). Гэта тлумачыцца адсутнасцю крыніц, адкуль можна было б атрымаць больш падрабязныя даныя. Імёнаў быццам бы вядома шмат, але прывязаць асобу да пэўнага твора складана. Да нядаўняга часу толькі адзінкавым мастакам былі прысвечаны паўнавартасныя артыкулы. Гэта зрабілі мае старэйшыя калегі: у пачатку XX стагоддзя пачынальнік беларускага мастацтвазнаўства Мікола Шчакаціхін выявіў імя Рыгора Мядзвецкага. Юрый Аляксандравіч Піскун узнавіў біяграфію Васіля Маркіяновіча, слуцкага іканапісца XVIII стагоддзя. Яго імя ёсць на абразах, што зараз захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі. У нашым музеі знаходзяцца працы Томаша Міхальскага, які працаваў на Палессі і Валыні, таму пра яго біяграфію штосьці вядома ўкраінскім даследчыкам.

Зараз я займаюся XIX стагоддзем. З гэтым часам крыху лягчэй працаваць, бо захавалася больш крыніц. Маё дасягненне — удалося выявіць каля трох дзясяткаў імёнаў мастакоў, але пакуль гэта толькі імёны і амаль ніякіх іншых звестак. Выключэнне — Стэфан Сулкоўскі, які працаваў у сярэдзіне XIX стагоддзя. Гэта імя ўпершыню выявілася менавіта з архіўных дакументаў. Я знайшла больш за дваццаць яго кантрактаў з храмамі. Ведаючы, для якіх цэркваў ён пісаў, ёсць спадзяванне знайсці абразы яго пэндзля. Але большасць гэтых храмаў альбо разбураныя, альбо іх іканастасы знішчаныя. Іншая справа, што абразы маглі захавацца не ў іканастасах, а паасобку, знайсці іх — асобны этап працы. Мне таксама ўдалося ўзнавіць некаторыя біяграфічныя звесткі пра гэтага іканапісца. Праўда, я так і не высветліла, дзе ён вучыўся. Дарэчы, ён быў знаёмы з Валенціем Ваньковічам і жыў з ім некаторы час у Мінску.

**— А якія яшчэ напрамкі працы вы вылучылі для сябе на будучае?**

Для даследчыкаў сапраўды важная наяўнасць навуковай інтуіцыі, а яшчэ — досвед. А можа, досвед спрацоўвае на ўзроўні інтуіцыі… Вельмі часта гэта дапамагае менавіта падчас працы ў архіве

— Зараз мяне цікавіць пытанне абсталявання ўніяцкіх цэркваў: першапачаткова іх інтэр'еры выглядалі, як і праваслаўныя, а значыць, мелі іканастасы. Потым царква лацінізавалася, іканастасы зніклі, з'явіліся прысценныя алтары па прыкладу каталіцкай традыцыі. У некаторых храмах іканастасы праіснавалі фактычна да скасавання уніі 1839 года, у некаторых — зніклі ўжо праз 100 гадоў пасля яе ўтварэння, а недзе суіснавалі з алтарамі — унікальны сінтэз, характэрны для ўніяцтва. Над гэтым я працую і ў бліжэйшы час буду працаваць.

Яшчэ цікавіць іканапіс XIX стагоддзя, бо тады з'явіліся цікавыя напрамкі, і гэтым перыядам амаль ніхто не займаўся. Даследаванні скончыліся ў XVIII стагоддзі, бо ў XIX размываецца беларуская традыцыя, з'яўляецца прафесійная мастацкая адукацыя, і часта над абразамі працуюць прафесійныя мастакі. І гэта толькі адзін напрамак.

**— Калі вы бачыце стары абраз, што пераважае: імпэт навукоўцы ці пачуцці верніка?**

— Калі шчыра, то імпэт навукоўцы. Я веруючы чалавек, але падзяляю веру і даследаванне іканапісу. Таксама падзяляю паняцці веры і рэлігіі. У царкве, можа, сказалі б, што я няправільны вернік, але лічу, што не колькасць наведванняў храма адлюстроўвае веру чалавека. Камусьці важна хадзіць на службы, адчуваць сваю прыналежнасць, бачыць аднадумцаў. У мяне ўсё крыху па-іншаму, таму абразы я ацэньваю як культурную спадчыну, творы мастацтва. Калі бачу цікавы твор, думаю: «О, які сюжэт, якая манера пісьма!» ці «Я ведаю, з якой гравюры гэта было змалявана!»

**— У якой меры спрацоўвае падчас працы навуковая інтуіцыя?**

— Для даследчыкаў сапраўды важная наяўнасць навуковай інтуіцыі, а яшчэ — досвед. А можа, досвед спрацоўвае на ўзроўні інтуіцыі… Вельмі часта гэта дапамагае менавіта падчас працы ў архіве. Тым, хто ніколі не сутыкаўся з архівам, здаецца, што дастаткова прыйсці, сказаць, якая тэма цікавіць, і адразу ж табе выдадуць дакументы. Звычайна работа ў архівах зацягваецца на дзесяцігоддзі, бо шукаеш іголку ў стозе сена. Ты праглядаеш па вопісе справы, але іх назва не заўсёды дакладна адлюстроўвае змест. Напрыклад, справа называецца: «Аб рамонце такой вось царквы», і ў ёй акрамя дакументаў па арганізацыйных і грашовых пытаннях можа быць кантракт з мастаком на напісанне ікон для новага іканастаса, дзе пазначаны яго імя, пералік прац і даты. У назве справы гэта можа быць не адлюстравана, таму навуковая інтуіцыя сапраўды дапамагае ў такіх выпадках.

Ты будуеш гіпотэзы на вядомым табе матэрыяле, але адначасова трымаеш у галаве, што недзе можа захоўвацца дакумент, які ты не знайшоў, і які цалкам усё перакрэсліць

**— Напэўна, для любога даследчыка характэрны сумневы. З чым яны звязаныя ў вас?**

— Найперш з тым, што тэма спецыфічная, патрабуе ведаў і гісторыі як у цэлым, так і канфесійнай. Я не гісторык, хоць імкнуся развівацца ў гэтым накірунку, але ўсё адно ёсць нюансы, і не заўсёды хапае дакладных ведаў, каб з імі разабрацца. Яшчэ пытанні іканаграфіі: недастаткова толькі ведаць сюжэты (іх, калі маеш вопыт, можна высветліць), адзін і той жа сюжэт можа па-рознаму тлумачыцца, і ў кожнага твора можа быць свая першакрыніца. Трэба арыентавацца ў сакральным мастацтве іншых краін розных часоў, каб разумець: належыць тая ці іншая з'ява толькі нашай краіне ці мае агульны характар. Калі пачынаеш разбірацца, высвятляецца, што ты шмат чаго не ведаеш. Ці не заўважаеш таго, што ляжыць на паверхні.

Чым мне падабаецца мая тэма, звязаная з уплывам гравюр на іканапіс, гэта тым, што ты знайшоў гравюру, знайшоў абраз, параўноўваеш і бачыш, што яны адзін у адзін. Але сумневы заўсёды бываюць. Можна выказваць версіі, думкі, прыводзіць доказы і абгрунтаванні, і ўсё роўна сам сумняваешся, а ці так яно было. Ты будуеш гіпотэзы на вядомым табе матэрыяле, але адначасова трымаеш у галаве, што недзе можа захоўвацца дакумент, які ты не знайшоў, і які цалкам усё перакрэсліць.

Валерыя Данілевіч



**нарадзілася 15 лістапада 1992 года ў вёсцы Ражанка Шчучынскага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Натхняецца творчасцю С. Жадана, А. Разанава, А. Адамовіча, В. Морт, А. Хадановіча, В. Рыжкова. Лічыць, што ніколі нельга спыняцца на шляху да асабістага ідэала.**

## Хто я і дзе…

**1**

Гэты горад даўно перастаў быць калыскай маці,
Гэты горад здзічэў і цяпер не ратуе нікога.
Горад-шыбеніца глядзіць ашалелым вокам
На свой народ недалёкі,
Што не верыць ні ў чорта, ні ў Бога,
Ні ў сябе самога.

Гэты горад хапае ахвяру,
Павуціннем бясконцых вуліц сціскае цела,
Прыціскае да горла нож сумневаў,
Рэжа скуру
І праз бурую вадкасць
Высмоктвае радасць і мары,
Пакідаючы ў спустошанай абалонцы
Боль і гора.

Звар'яцела смяецца горад,
Калі бачыць, што нехта больш не можа
Трываць.

Ты адчуваеш, што кропка прыцэла
Лашчыць тваю патыліцу,
І абіраеш бясконца
Блукаць сярод аднатыпных дамоў,
Думаеш, што схаваўся, не трапіў у пастку.
Але гэтая частка квартала
Чакала цябе даўно —
Ты пятляеш сярод зубоў
У варожай пашчы.

І аднойчы горад самкне сківіцы.

**2**

Пасля таго, як старыя сышлі ў глебу
На вечны спакой,
Мы з маці
Прыбіраліся ў хаце.

Там было невыносна пуста,
Толькі Матка Боска
Глядзела з абраза на нас.

На стале замест стоса
Бліноў і кружочка лою —
Толькі чарка гарэлкі,
Накрытая лустай хлеба.

Было ціха. Так ціха, ажно звінела ў вушах.
Нават стрэлка
Гадзінніка ад адчаю
Замоўкла, спыніўшы час.

Жыццё паставіла шах
І мат,
Як звычайна.
Быў чалавек — шчаўчок, і яго няма.

У такія моманты думаеш пра працяг,
Сон не ідзе, доўга круцішся ў ложку.
Цягне
Хутчэй саджаць
Дрэвы, нараджаць,
Пакуль дзюбай
Касы смерць не скінула з шахматнай дошкі.

**3**

Кожнаму з нас
У свой час
На размеркаванні лёсу
Хросныя
Падарылі балванку жыцця.
Пяшчотна ўклалі яе ў рукі,
А што з ёй рабіць —
Нязграбнай ды босай —
А ні гуку.

Насіць яе гогалем?
Прадаваць бессаромна за срэбра?

Які працяг,
Ці працягнем тое, што трэба,
Ці працягнем да канца ўвогуле?

Я вось жыццё абточвала
Пад ціхі лускат
Станка часу.
Раз за разам
Рабіла насечкі, старанна зразала хібы.

Сцякала
Кроў па руках,
Але хіба ж гэта спыняла,
Калі было яшчэ столькі неапрацаванага метала.

У пыльнай майстэрні пуста,
Станок саржавеў —
Дарабіў сваю працу.
А ў мяне
Замест правай рукі — кукса,
Замест левай рукі — кукса

Ды распілаваная балванка ў шуфлядцы.

* * *

Валасы
Пасівеюць, адыдзеш да вечнага сну,
Прарасцеш з магілы чырвоным дыванам пярэсны.

Праз гады з таго дуба,
Што ты пасадзіў увесну,
Для твайго ўнука саб'юць труну.

**4**

Ты кажаш, што ляцець з вясёлкі,
Як з амерыканскай горкі,
Немагчыма?
Пацісну плячыма
І пайду збіраць спелыя зоркі
На варэнне.

Потым буду падаць насеннем
У глебу
І прарастаць мядовай расінай
На тонкай спіне
Пралескі,

Цягнуцца да неба
Густым падлескам,
Танцаваць факстрот
У гумовых ботах
І сукенцы з мараў
У абдымку з чаротам
На лоне
Жамчужнай рэчкі.

* * *

Дарэчы,
Перад тым, як ты будзеш
Старанна
Круціць пальцам ля скроні
І выклікаць санітараў,
Спытай, ці лётаюць рыбы,
Махаючы хібамі,
У крабаў са дна акіяна.

**5**

Панурая
Восень
Хутка
Пралезла пад скуру
Прастудай,
Пусціла брудныя
Парасткі смутку
У кожную клетку,
Прыбіла мой позірк да столі
І пралілася шматдзённым дажджом з вачэй.
Не саромейся, восень,
Давай болей болю,
Болей болю,
Болей гаючага
Болю,
Хутчэй!

Не шкадуй мяне, восень,
Лупцуй ашалелаю бурай,
Абрывай бура-жоўтае лісце маіх надзей,
Ну, а потым
Да поту
Грэбай
Яго ў кучы
І палі, каб жывога не засталося
Нідзе.

Абдымі мяне, восень,
Халодным кастрычніцкім ветрам,
Сцісні рэбры
Да гучнага хрусту,
Да кропляў з вачэй,
Хай самота цячэ
Па шчацэ,
Можа, стане лягчэй.
Разбудзі мяне, восень, старанна
З пяшчотнай любоўю,
Раздзялі мой сняданак,
Дай на цябе паглядзець
Вінавата —
У сваё адлюстраванне:
Тыя ж незагойныя раны
І заганы
Тыя ж.

* * *

Мая восень сышла, пакінуўшы
кубак гарбаты і паліто на ласціку,
Буду грэцца
І лаціць сэрца,
Што разбілася, спадзяюся, на шчасце.

**6**

Калі самота пускае атруту
У кроў
Летуценняў,
Са змрочнага ценю
Пакутаў
Адразу
З'яўляецца клоўн —
Мой асабісты блазан.

Ён умела жанглюе марамі,
Пад гітару
Спявае роспачныя частушкі,
На аднаколавым
Ровары
Разносіць водар
Жартаў
Наўкола
І за даўгія вушы
Выцягвае з капелюша
Удачу.

Гледачы рагочуць,
І мне, відавочна,
Смяяцца варта,
Але я ўсё роўна
Плачу —
Я з дзяцінства баюся клоўнаў.

**7**

— Калі на гэтай планеце ўсё канчаткова абрыдне
І стане зусім неістотна, хто я і дзе я,
Я апрану герметычны скафандр з надзеі
Ды веры
І палячу да экзасферы —
Наперад.
Туды, дзе нізкі
Зорак
Смяюцца так блізка
І нізка,
Казычуць золак
Заспаны,
А потым рассыпаюцца дробнымі пырскамі
Над роўняддзю галактычнага акіяна.

Пакінуўшы непрыкметна
Гора,
Пакуты
І смутак
У чорных дзірах,
Я буду пухнатай ласкай
Ныраць у кратовыя норы,
Каб трапіць хутчэй у казку —
Мой іншапланетны
Вырай.

Я буду ляцець туды бясспынна і доўга,
Пайду на пасадку над кратэрным логам
Пад спевы мусона,
Што цягнуць у сон.

— Не страшна табе? А калі там зусім нічога?

— А калі там усё?!

Настасся Нарэйка

**нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Працуе журналістам. Аўтар зборніка вершаў «Магдэбургскае права маёй душы» (2013). Рыхтуе да друку кніжку апавяданняў, у назве якой абавязкова будзе слова «вецер».**



## Жыві… Жыві!

* * *

Я гавару з Табой,
Нібыта ў цішыні
Адскокваюць ад сцен,
Як боб, пустыя словы.
Я гавару з Табой
І не прашу — ані.
Табе мяне судзіць.
Табе рабіць высновы.

Ты слухаеш мяне
Без гуку і без руху.
Нібыта нежывы.
А нежывая… я!
Ты слухаеш мяне.
О, слухай!
Толькі слухай!
Пакуль я гавару,
Жыве душа мая.

Я да Цябе пішу
Лісты мае і вершы.
І зоры за акном
Не зрушацца — ані.
Я да Цябе пішу.
Апошні мой і першы.
Чытай мяне. Услых!
Не трэба цішыні!

Ты адкладзеш убок
І сшыткі, і паперы.
І ўстанеш з-за стала…
І захлынецца сэрца.
Ты пойдзеш у цішы,
І ледзьве рыпнуць дзверы.
Я ж веру да канца:
Хто любіць — азірнецца.

І азірнешся Ты.
І зноўку я ўваскрэсну,
Як кожны раз, калі
Прыходзіць новы верш.
Як кожны раз, калі
Цвітуць пралескі ўвесну.
Як кожны раз, калі
Пішу Табе. Найперш.

* * *

Сняжынкі разбіваюцца аб шкло.
Завеі не відаць канца і краю.
Я ведаю: мінулае прайшло.
Я ведаю й на лёс не наракаю.

Я грэю ля агню ільдзінкі рук,
А слёз крышталь мне сыпле прама ў каву.
Я ведаю: ні крок, ні цень, ні гук
Не прывядуць сюды тваю аблаву.

Мне горка не ад кавы — ад цябе.
Ад вершаў, што ніколі не даходзяць,
Што стомлена вяртаюцца ў журбе
І вечарамі воч з мяне не зводзяць.

Я пісьмаў не паліла, а цяпер
Палю. І душыць попел іх гарачы.
І вые недзе вецер, нібы звер.
Я ўкленчыла ля полымя і плачу.

* * *

Ты стаміўся даўно ад мяне,
Недасяжна Вялікі…
Бачу словы бясконцыя ў сне.
Ды, на жаль, я — не Рыльке.

Мовай Гётэ пісаць да Цябе?
Толькі шэпты — не крыкі.
Я спрабую, спрабую ў журбе!
Ды, на жаль… я — не Рыльке.

Гэта Слова было — у Цябе.
Не вярну я пазыкі.
Выбачай. Завяршэнне сяўбе.
І няхай я — не Рыльке!

* * *

Ды за ім зачыняюцца дзверы
Бязгучна.
Бязгучна.
Я хілю галаву і не веру.
Не веру.
Не муч нас.

Я сяджу каля ложка.
Я дрэннаю буду сястрою.
Я вучылася трошкі
І, можа, цябе супакою.

Я трымаю руку,
Як апошні сярэбранік звонкі.
Ты даруй. На шнурку
Я нашу ўсе былыя пярсцёнкі.

Ты ніхто мне. А я… Я сястра.
Буду дрэннай сястрою.
Я глядач ля чужога кастра,
І твой боль я патрою.

Ты прабач. Не вучылі мяне
Ні лячыць, ні маліцца.
— Я памру? — Не памрэш.
І душа ў цішыні аж крыліцца.

За ўрачамі заўсёды
Бязгучна выстрэльваюць дзверы.
— Я памру? — Не памрэш…
І сама я ўжо ў гэта не веру.

* * *

А я, здаецца,
Ужо кахала…
І кава стыне.
А я, здаецца,
Заўсёды знала:
Ён вас не кіне.

А я, здаецца,
І не чакала —
Кахала проста.
Ды гэта мала.
Бязбожна мала!
Я сёння востаў.

Не верце, людзі,
Што не бывае
Каханне вечным.
Яно жывое.
І я жывая.
Падобны ў нечым.

І я, здаецца,
Калісьці згіну,
Сыду,
Растану.
Вы не кранайце
Слабую спіну —
Жывую
Рану.

Яна крывавіць,
Смыліць да нетраў,
Бо я ж ЖЫВАЯ!
Ды хто кахае,
Той крылы ветру
Не абрывае.

* * *

Не чапайце вы вершаў маіх!
Гэта болей не я.
Ім самотна і страшна
Ляжаць на паперы маўклівай,
Як на снезе. Дзе бачная
Кожная рыска здаля.
Углядаюся ў іх
З неадольнай усмешкай шчаслівай.

Гэта болей не я.
Гэта болей, чым я. Гэта свет,
Увабраны ў карункі
Загадкавых слоў немінучых.
І сыходзяць яны.
І гляджу, і хрышчуся я ўслед.
Мне б адзіна глыток роднай мовы
З крынічак гаючых!

Не чапайце вы вершаў маіх.
Не судзіце дарма
Іх па мне. Не судзіце.
Яны за мяне не ў адказе.
Я пішу, адпускаю. І ўсё.
І мяне ў іх няма.
Я іду па дарозе далей,
Каб забыцца паразу.

Я малюся за іх
Да таго, хто мне шчасце дае
І пісаць, і карункі сплятаць,
І бязмежна дзівіцца.
Я малюся за іх.
І пачуты малітвы мае.
Ды цаною адной —
За сябе, пра сябе не маліцца.





Юльяна Пятрэнка

**нарадзілася 13 снежня 1981 года ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна. Па адукацыі сурдапедагог. Займаецца сакратарскімі паслугамі і паслугамі па перакладу. Дзяцінства правяла ў вёсцы, вырасла на чарадзейных казках, паданнях і павер'ях. І да гэтага часу не перастае верыць у цуды.**

*А ну-ка, хуценька адарвіцеся ад сваіх клопатаў, рондаляў і мігрэняў, распраўце плечы і ўключыце бляск у вачах! Запрашаю вас у мой чароўны свет, дзе ажываюць дрэвы і размаўляюць птушкі, цвітуць дзівосныя кветкі, а легкакрылы вецер ахінае незвычайным водарам таямнічасці, у свет, напоўнены азярніцамі, дамавікамі, лесунамі і хатнікамі. Сумна не будзе!*

## Няпрошаныя госці

— Ну што? Казала я табе? — Аксана скрыжавала на грудзях азяблыя рукі і адкінулася на спінку сядзення. — Разумны дужа?

— Не пачынай… — Алесь паклаў далонь на стырно і асуджана ўздыхнуў, углядаючыся праз акно машыны ў цемру, дзе ашалела мітусіліся калматыя сняжынкі.

— Вось казала мне маці…

— Хопіць, Аксана! — ён счапіў рукі і незадаволена паглядзеў на дзяўчыну. — Калі ўжо на тое пайшло, дык гэта ты вінаватая, нашто было ў такое надвор'е да чорта на кулічкі сунуцца!

— А-а, вось як ты запеў! Ну дык давай усё для шлюбу ў нас і набудзем! Нічога, што сукенка ў тры разы даражэйшая, ты ж багаты ў мяне!

Алесь сцяў зубы і зноў вярнуўся да дарэмных спроб завесці рухавік.

Аксана нервова схавала за вуха бялявы завіток валасоў і ўтаропілася ў акно. Вецер мацнеў. Апускалася ноч, ахіляючы трапяткімі завірушнымі крыламі ўсё наваколле, быццам намагалася праглынуць машыну, што самотна стаяла сярод заснежанага поля.

Алесь раз за разам упарта круціў ключ, і матор раз за разам адгукаўся глухім рыкам ледзь жывога звера. Нарэшце ён зашпіліў цёплую куртку, накінуў каптур і неахвотна вылез з непаслухмянага опеля. Гучна бразнуў дзвярыма, ажно закружыліся ў салоне дробныя калючыя сняжынкі.

Аксана таксама шчыльней захуталася ў доўгую рудую дублёнку і нецярпліва застукала тонкімі абцасамі боцікаў па мокраму гумаваму дыванку. Хутка чакаць ёй надакучыла, дзяўчына расчыніла дзверцы і ступіла ў мяккі глыбокі снег. У твар дыхнула холадам і вільготным паветрам, сыпанула ў вочы колкімі сняжынкамі.

— Алесік, — заенчыла Аксана, абыходзячы машыну і правальваючыся па шчыкалатку ў тугі рыпучы снег. — Міленькі, увамкні печку, халодна!

— Як я яе табе ўвамкну, калі акумулятар здох? — буркнуў Алесь з-пад капота.

— Не крыўдуй, — крэпка абняла яго за шыю Аксана. — Ну? Алесік? Проста стаміліся… Хутчэй бы дадому… — і прыціснулася нафарбаванымі вуснамі да Алесевай халоднай шчакі.

Потым зірнула пад капот, быццам чакала ўбачыць там рашэнне праблемы, схавала рукі ў рукавы, нібы ў муфтачку, і кінула адсутны позірк удалячынь.

— Ой, глядзі, машына! — радасна штурхнула яна локцем Алеся. Той зноў узняў галаву, жмурачыся ад колкага снегу, што бязлітасна сыпаў у вочы. — Ну вунь жа ж! Хіба не бачыш? Святло мільгае! — не адставала Аксана. — Каля самага лесу!

Алесь прыглядзеўся больш уважліва:

— То не машына. На адным месцы зіхаціць.

— Хата?

— Не, па мапе да вёскі далёка.

— Па мапе…Вось і трэба было па мапе ехаць, а не па твайму дурному навігатару! Трыста метраў направа, трыста метраў налева! — яе светлыя валасы церабіліся ліхім ветрам, нібы мяккая шаўкавістая трава.

— Ды прычым тут гэта! — грукнуў капотам Алесь. — Дарогу хацелі зрэзаць.

— Зрэзалі… Ну, што стаіш? Ідзі, паглядзі! — і жаласліва дадала: — Калі ласачка-а-а…

Алесь недаверліва ўглядаўся ў цьмяны агеньчык. Потым кінуў позірк на незадаволены твар Аксаны і паслухмяна пакрочыў на святло, правальваючыся ў рыхлы снег амаль па калена. Дзяўчына тапталася на месцы, шморгала носам і прытанцоўвала.

Аднекуль з глыбіні лесу данеслася надрыўнае выццё. Аксана страпянулася і пабегла ўслед за будучым мужам, скачучы па яго глыбокіх слядах і замятаючы крысамі дублёнкі пухнатыя сумёты.

— А машыну хто глядзець будзе? — спыніўся Алесь.

— Адна баюся, лепш з табою, — нявеста зазірнула яму ў вочы і ўзяла пад руку. Воўчае выццё цяпер чулася зусім блізка, і Аксана мацней сціснула локаць мужчыны.

— Добра, чакай, — Алесь вызваліўся з яе рук і пабег да машыны. Забраў маленькую жаночую торбачку, замкнуў дзверы і заспяшаўся да сваёй нявесты, якая не пераставала баязліва азірацца па баках.

Ісці па глыбокім снезе было цяжка. Аксана моцна трымалася за Алесеву руку і ледзь перастаўляла ногі ў ботах на тонкіх высокіх абцасах.

Поцемкі наваліліся хутка. Стылае чорна-снежнае неба навісла над белым полем, змешваючыся з ім. Зараз вецер дзьмуў у спіну, і ісці стала лягчэй. Скрозь бясконцую завірушную мітусню, нібы маяк, памільгваў самотны жаўтлявы агеньчык.

Насустрач выступалі зубчастыя грэбні чорнага лесу, які стаяў абапал заснежанай прасёлкавай дарогі. Раптам з завірухі выплыла і паўстала перад вачыма невялікая крывенькая хацінка. Маленькае акенца кідала бледнае святло на маўклівы снег, патанала ў ім. Шызы дым, што выходзіў са старога коміна, не паспяваў узняцца ўгору, у чорнае неба, як адзічэлы вецер прыціскаў яго долу і бязлітасна матляў ва ўсе бакі. Пахла хвояй і смалой.

Старэнькі тын пакасіўся пад цяжарам снежных шапак. Групка высокіх раскідзістых дрэў навісала над хатай, змыкаючы чорнае вузлаватае галлё, і хвастала ім пад ударамі ветру па даху. За

самай хатай злавесна узнімаліся змрочныя грабяні густога лесу.

Алесь спыніўся і насцярожана зірнуў на Аксану. Дзяўчына стаяла ў нерашучасці і трывожна ўглядалася ў маленькае акенца, вакол якога няспынна мітусіліся белыя снежныя мятлікі. Калі звярынае выццё пачулася зусім побач, Аксана мацней сціснула сваю торбачку і заспяшалася наперад. Яна з цяжкасцю прабралася праз рэдкі тын да старой хацінкі, што паглядала на свет адным вокам, і нясмела загрукала у размаляваную марозам шыбу. Пачакала з хвіліну і затарабаніла зноў. За акном мільгануў зыбкі цень, і праз колькі хвілін рыпнулі дзверы.

— Хто там? — пачуўся з цемры асіплы старэчы голас.

— Добры вечар! — Аксана ўзнялася на дыбачкі і выцягла шыю, каб лепш разглядзець гаспадара. — У нас машына зламалася!

— Дзе можна трактар узяць, не скажаце? — смела ступіў наперад Алесь. — Я заплачу.

— Не ведаю, — пачулася ў адказ. — Там, за лесам, вёска.

На гэтым размова скончылася, дзверы грукнулі. Аксана не паспела адкрыць рот, каб упікнуць Алеся ў нерашучасці, як па храбусткаму снегу заспяшаліся да веснічак мяккія таропкія крокі.

Неўзабаве над плотам паказалася сівая галава і кручканосы маршчыністы твар з доўгай ускудлачанай барадой, якая развівалася на ветры.

— Што трэба? — стары вышэй узняў каўнер кажуха, хаваючыся ад колкага снегу.

— Машына, кажу, заглохла, — паўтарыў хлопец. — Акумулятар, відаць, здох…Падкурыць бы.

Стары маўчаў у роздуме. Алесь маўчаў таксама, чакаючы адказу і якой-небудзь прапановы.

Нарэшце загаварыла Аксана:

— Змерзла я зусім, і печка не працуе, халера яе бяры!

Стары зразумеў гэта правільна: адразу задрымцеў старымі веснічкамі, каб упусціць няпрошаных гасцей. Затым згорбіўся яшчэ больш, захутаўся ў стары кажух і пакрочыў у хату. Следам заспяшалася Аксана. Алесь сяк-так зачыніў веснічкі і пабег за ёю.

— Сюды, — вуглаватая постаць знікла за нізкімі дзвярыма, і госці нырнулі следам.

Хата дыхнула ў твар цяплом, гаркаватым пахам сасновай смалы і нейкіх зёлак. Стары скінуў у сенцах кажух і ў вялізных валёнках пакрочыў далей. Госці кінулі вопратку на стары куфар, пакінулі мокры абутак на плеценым палавічку і пашлёпалі па цёплай драўлянай падлозе ўслед. Мінулі яшчэ крэпкую драўляную лесвіцу наверх і, адкінуўшы трухлявую фіранку, увайшлі ў цесную куханьку, палову якой займала даўно нябеленая печ. Над ёй звісалі пучкі сушаных зёлак і нанізаныя на нітку вялізныя капелюшы грыбоў. На падлозе ляжалі вілкі і абы-як зваленыя дровы.

Стары ўладкаваўся на абшарпаным зэдліку каля самага стала, на якім самотна прымасцілася газавая лямпа. Яе цьмянае святло дрыжэла і калыхалася на аконным шкле.

Алесь незадаволена разглядаў гаспадара. Залапленыя нагавіцы былі запраўлены ў валёнкі, брудная камізэлька, з-пад якой выглядала шэрая ільняная кашуля, была зашпілена на адзін гузік. Стары ссунуў густыя сівыя бровы і засяроджана стругаў нешта з палена ножычкам. Мяккая жоўтая стружка снегападам сыпалася на падлогу.

Аксана апусцілася на другі зэдлік і падціснула азяблыя ногі ў тонкіх калготках. Абвяла позіркам пакой. З цёмнага вугла выглядаў завалены хламам і старой вопраткай тапчан. Над ім — пасечаны моллю дыван з казулямі і паляўнічымі.

— Вёска за лесам, — хрыпла паўтарыў стары, не адрываючыся ад сваёй справы.

— Гэта мы ўжо зразумелі, — пагадзіўся Алесь, разглядаючы небагатую абстаноўку.

— А мы з рынку едзем, накуплялі ўсяго для вяселля. Адно мытню пераехалі, а тут завея, — весела шчабятала Аксана. — І ваўкі. Чулі, як вьюць?

Яна паёжылася.

Стары адклаў у бок ножычак і прымружыў глыбокія чорныя вочы:

— Спаць наверсе будзеце, — узняў ён тонкі вузлаваты палец, бледны, як печ. Затым падняўся, адкрыў брудную засланку і падкінуў у чорную пашчу печы некалькі паленцаў. Весела затрашчаў у ёй чырвоны агеньчык, які з задавальненнем заглытваў бярозавыя дровы. — Спаць трэба, — пазяхнуў стары. — А заўтра двор мне пачысціце.

— Дык не пытанне, — адказаў Алесь і прыціснуў да сябе разгубленую нерадушным прыёмам Аксану. — Але невядома, ці завея сціхне.

— Сціхне, — расшпіліў стары адзіны гузік патрапанай камізэлькі. — Ваўчок на надвор'е вые.

— А-а-а, зразумела… — нацягнута ўсміхнулася Аксана. Павярнулася да Алеся і закаціла вочы, каб паказаць, што стары ўжо зусім не цяміць. Ледзь утрымалася, каб не пакруціць пальцам каля скроні.

— Кавы? — спытаў стары, пільна ўглядаючыся ў расчырванелы ад цяпла твар дзяўчыны.

— Не. А мы гэта…перашкаджаць вам не будзем? — пацікавілася яна.

— Вы мне — не. Толькі сядзіце там наверсе ціхенька…Ох, і дрэнная ноч… — яго вочы патухлі, і ён пачаў змятаць са стала хлебныя дробкі ў зморшчаную сухую далонь.

— Дык мы пайшлі? Наверх? — на ўсялякі выпадак перапытала Аксана і ўзнялася з зэдліка.

Стары кіўнуў і працягнуў займацца сваёй няхітрай справай.

Госці вярнуліся ў цёмныя сенцы.

— Дзе тут лесвіца, каб яе… — Алесь мацаў у прыцемках па сцяне.

— Чакай, зараз мабільнік знайду, — закешкалася ля куфра дзяўчына і выцягла з торбачкі мабільны.

— Ловіць?

— Не. Хоць пасвячу, каб шыю не зламалі, — яна павесіла торбачку на плячо, націснула кнопку і пачала аглядаць цесныя сенцы.

— Пайшлі, — махнуў галавой Алесь, запрашаючы нявесту наверх. — Усё лепш, чым у халоднай машыне начаваць.

— Ага, тым больш з ваўкамі, — пагадзілася дзяўчына. На ўсялякі выпадак павярнула ў свідравіне вялікі каваны ключ і заспяшалася па рыпучай лесвіцы наверх, абцягваючы вузкую сукенку.

— Ай! — раптам крыкнула Аксана. — Алесік! Павуцінне ў валасах заблыталася! Фу, брыдота! Знімі!

Алесь спачатку расчыніў люк, затым падаў даме руку. І толькі пасля таго, як хныкаючая Аксана апынулася на саламяным матрацы, ласкава правёў па яе мяккіх валасах рукой:

— Не крычы, няма там нічога.

— І павукоў няма? — памацала яна галаву.

— Не, — ён узяў з яе рук мабільнік, асвяціў памяшканне і хутка выключыў яго, пакуль Аксана не заўважыла павуцінне, што звісала са столі ў дальніх кутках.

— Ён што, на вышкі нас адправіў? — дзяўчына прысунулася бліжэй.

— Здаецца, так, — Алесь намацаў гару мяккіх пуховых падушак і прыцягнуў іх да сябе. — Душна тут…

— Дужа гасцінна, — уздыхнула Аксана і палезла ў кішэню. — Сам бы сюды лез, сыч стары… Цукерку будзеш? Шакаладную?

— Давай, — Алесь зашамацеў фанцікам. — Добра. Трэба ўкладвацца, заўтра яшчэ двор чысціць і за трактарам ісці.

Аксана хуценька запляла коску, а затым грэбліва агледзела матрац і падушкі. Яны здаваліся чыстымі і нават салодка пахлі невядомымі зёлкамі, ад якіх пачынала кланіць у сон.

Вочы ўжо прызвычаіліся да цемры, і дзяўчына ячшэ доўга ўглядалася ў маленькае акенца, за

якім мітусіліся пялёсткамі мяккія сняжынкі. Бялюткія-бялюткія, нібы найпрыгажэйшая ў свеце вясельная сукенка і пышная карункавая фата.

І толькі яна паспела заплюшчыць вочы, як пачулася працяглае жалобнае выццё.

— Алесь! Алесік! — заштурхала яго дзяўчына. — Воўк!

— То вецер у коміне гудзіць, спі, — пазяхнуў Алесь.

Але выццё пачулася зноў. На гэты раз зусім блізка. Хутка да пранізлівай звярынай песні далучыўся яшчэ адзін голас… І яшчэ адзін.

— Алесік, я баюся, — спалохана зашаптала Аксана і мацней учапілася ў ягоную руку.

— Бач, развыліся, сапраўдны канцэрт зладзілі! — Алесь неахвотна ўзняўся з матраца і паклыпаў да маленькага акенца.

Цікаўная дзяўчына пакрочыла ўслед.

— Ну што? — узнялася яна на дыбачкі і выглянула з-за яго пляча.

— Мяце.

— Бачу, што мяце. А ваўкі? Там?

— Няма нікога. У лесе недзе выюць.

— А гэта? — тыкнула яна тоненькім пальчыкам з яркім пазногцем у аконную раму.

Алесь кінуў позірк на нерухомую цень каля плота і зглытнуў.

Вялізны калматы звер сядзеў зусім блізка, амаль пад хатай. Праз колькі часу ён узняў у неба страшэнную морду і завыў так, што па скуры пабеглі мурашкі. На яго покліч адгукнулася з дзясятак звярыных галасоў, хутка паказаліся і іх уладальнікі.

Лясныя драпежнікі ўпэўнена падбіраліся да хаты, варушачы касматымі худымі лапаткамі.

Нягледзячы на завею, Аксане здавалася, што цьмянае святло кухоннай газнічкі адлюстроўваецца і скача ў іх ашалелых вачах.

— Мо сабакі? — з надзеяй папыталася дзяўчына.

— Не. Ваўкі, дакладна, — Алесь зацікаўлена разглядаў нахабных звяроў. — Стары, напэўна, прыкарміў.

— Навошта?

— А хто яго ведае. Ты ж і сама бачыла — крыху ён не ў сабе. Жыве сам у лесе, як бірук той. Тут не тое што з ваўкамі — з вавёркамі пасябруеш. Хадзем спаць.

— Ай! — ускрыкнула яна, калі раптам у шыбу грукнула нешта чорнае. — Мамачкі! Кажан!

— Не выдумляй, кажаны ўзімку не водзяцца, спяць.

— Ты ўпэўнены?

— Абсалютна. Ну, ты як маленькая. Сама падумай, ім есці няма чаго.

— А хто гэта тады? — не жадала здавацца дзяўчына.

— Птушка, напэўна, — Алесь пільна ўглядаўся ў цемру. — Так і ёсць. Вунь, глядзі, на дрэве сядзіць, — кіўнуў ён галавой.

Аксана ўзняла вочы на старое разлапістае дрэва і жахнулася: таўшчэзныя гузаватыя галіны спрэс былі аблеплены чорнымі птушкамі, нібы макавым зернем. Некалькі дзясяткаў кружылі над хатай, разгортваючы на паветраных патоках мяцежныя крылы.

— Алесік…гэта…гэта крумкачы, — трывожна зашаптала дзяўчына.

— А хоць бы і так. Што з таго? Кормяцца тым, што ваўкі не з’ядуць. Мы спаць сёння будзем?

— А табе не здаецца дзіўным, што ў такую завіруху птушкі і звяры не хаваюцца? — уголас папыталася Аксана, толькі яны ўлягліся.

— Мілая, давай спаць. Заўтра ўжо дома будзем, на сваёй канапе.

— Алесік, ну Алесь! — ізноў парушыла яна цішыню праз некалькі хвілін. — Там скрабецца нехта…

— Няма там нікога, спі ўжо! — буркнуў ён у адказ.

— А я кажу, ёсць! Схадзі, паглядзі. Там, у кутку. А раптам мыш?

— Ну, мыш і мыш. Не з'есць яна цябе.

— Алесь! — дзяўчына патрабавальна штурхнула яго ў плечы. — Хто з нас мужчына? Ідзі, кажу!

Алесь нешта прабубнеў сабе пад нос, але паслухмяна паплёўся ў дальні кут, асвятляючы дарогу экранам мабільніка.

Праз хвіліну ён вярнуўся на сваё месца, вымкнуў тэлефон і сабраўся улегчыся на другі бок. Але пад рукой піскнула, нешта мяккае і гарачае прабегла маленькімі чэпкімі лапкамі па сцягне.

Аксана аглушальна заверашчала:

— Пацук! Пацук! — яна ўскочыла на ногі і адчайна затупала. Затым скокнула ўбок, пры гэтым стукнулася галавой аб нізкую балку і заблыталася ў павуцінні.

Алесь, як і належыць сапраўднаму абаронцу, кінуўся на дапамогу, гатовы засланіць ад бяды, суцешыць і выцерці слёзы.

Але, на яго здзіўленне, слёз не было зусім.

— К чорту яго, дзеда гэтага! — гнеўна крыкнула дзяўчына і нават сціснула маленькія кулачкі. — Мы ідзём да машыны!

— Куды, да ваўкоў? — Алесь усё яшчэ трымаў яе за тонкія плечы.

— Дык ідзі і разбярыся! — вызвалілася яна з абдымкаў. — Няхай ваўкоў сваіх прагоніць і эвакуатар знойдзе! Грошай дай!

Алесь зусім не збіраўся выконваць усе яе капрызы і жаданні — выпраўляць старога ў завею, сярод ночы, на вуліцу, але вырашыў усё ж спусціцца ўніз і дамовіцца з гаспадаром пра больш зручныя ўмовы, хоць бы дзеля Аксаны. Ды і яму як ніяк выспацца трэба — заўтра раніцай зноў за стырно.

Алесь падняў за кольца пыльны драўляны люк і пачаў асцярожна, трымаючыся за рубленыя сцены, спускацца ўніз. Святла ў хаце не было — адзіная лямпа ўжо даўно патухла.

— Мі-я-а-а-аў! — кінуўся яму пад ногі пухнаты камячок і ледзь не збіў.

— А-а, каб цябе! — вылаяўся ў цемру Алесь і сплюнуў сабе пад ногі. — Ідзі вунь, мышэй лаві, лайдак!

Следам спатыкалася і скакала цераз прыступкі Аксана:

— Алесік, родненькі, я адна баюся. Там іх — вокам не акінуць, скрабуцца, варушацца…Я лепш з табою, — яна выняла тэлефон і націснула кнопку, каб пасвяціць.

— Эй, дзед, — баязліва зашаптаў Алесь у цемру, а потым абярнуўся да дзяўчыны: — Як зваць яго, дарэчы? — у адказ Аксана пацепнула плячыма і насцярожана замерла. Прывіднае блакітнае святло экрана падала на яе твар.

Зазірнулі ў кухню. Печка ўсё яшчэ пыхкала жарам, за чорнай засланкай ціхенька патрэсквала сухое паленне. Мабільнік слаба асвяціў невялічкі пакойчык і тапчан з гарою зваленага рыззя. Старога нідзе не было відаць.

Аксана мацней сціснула ў руцэ тэлефон і нерашуча пакрочыла за печ:

— Эй! Ёсць тут хто? Дзядуля?

Ніякага адказу не прагучала.

Дзяўчына асвяціла адзінае акенца і войкнула: на імгненне ёй падалося, што вялікія, жаўтлявыя, як поўня, вочы ўтаропіліся на яе праз шыбу. Яна хуценька заплюшчыла і расплюшчыла вочы, забіла вейкамі.

Нікога не было, толькі раіліся за акном белымі мятлікамі вострыя снежныя шматкі.

— Куды стары падзеўся? — насцярожана абярнулася Аксана і чамусьці перайшла на шэпт.

— Пэўна, на вуліцы, ваўкоў корміць…Мо, наверх лепей вернемся? — Алесь нервова перамінаўся з нагі на нагу.

— Ціха…Чуеш, за печчу нехта варушыцца? — яна асцярожна наблізілася да печы, што бялела ў прыцемках, і баязліва зазірнула за яе. Пранізліва ўскрыкнула, адскочыла далей і панеслася прэч, кінуўшы тэлефон і ледзь не збіўшы Алеся з ног.

Хлопец рушыў за ёй, у сенцы, дзе Аксана, босая, шалёна тузала ручку дзвярэй. Дзяўчыну калаціла.

— Што? Што, Аксаначка? Навошта дзверы ламаеш?

— Там…за печчу…змей цэлы клубок… — яе голас дрыжаў. — Ключ! Павінен быць ключ, я сама замыкала! — яна пачала мацаць рукамі па чорнай падлозе. Ударылася аб вядро, што стаяла ля парога. З яго лінулася студзёная вада з рэшткамі снегу.

— Табе падалося, — Алесь таксама апусціў рукі ў пошуках запаветнага ключа, — змеі спяць узімку.

Не паспела Аксана набраць паветра, каб паспрачацца, як на лесвіцы пачуліся крокі, зарыпелі недзе побач старыя масніцы. У кухні бразнула, і пачуўся брыдкі віскатлівы гук, нібы хтосьці драпнуў па шкле. Ізноў захалодзіла душу патрабавальнае звярынае выццё.

— Ой, мамкі мае, — здушана зашаптала Аксана і прыціснула да грудзей рукі. — Зараз нас саміх ваўкам скормяць…

Знянацку нешта моцна бухнула ў дзверы, быццам хто з разгону вырашыў вынесці іх. Ляпнуў уверсе люк, зашамацелі, забегалі ў цемры таропкія крокі, хтосьці кулём пакаціўся ўніз.

Алесь падхапіў нявесту за талію і нырнуў у нізкія дзверы пад лесвіцай з надзеяй адшукаць за імі гаспадара. Яны апынуліся ў цеснай каморцы, дзе акрамя павуціння, сухіх зёлак, пустых гаршкоў і збаноў на драўляных стэлажах і палічках, нічога не было.

Аксана ўселася на пыльны куфар і ўсхліпнула.

— Ну, ціха-ціха, не плач, — Алесь прыхіліў да сябе яе галаву. — Усё будзе добра.

— Ага, будзе…Да сапраўднага ведзьмака трапілі…У праклятым дом, як у фільме, ведаеш?

Алесь спрачацца не стаў, а толькі ціхенька прымасціўся побач:

— Калі б гэта ўсё раніцай адбывалася, то і зусім не страшна…Ці хоць святло б якое ў хаце было…

Жудасны вой пачуўся, здавалася, пад самымі дзвярыма, у хаце. Нехта задрапаў па дзвярах каморы. Забразгалі дзверы, заляскалі аканіцы. Затрэслася, загула, захадзіла хадуном хата.

Алесь падскочыў і пачаў спешна засланяць дзверы, барыкадаю настаўляючы адно на адно ўсё, што траплялася пад руку: лаву, паліцы, з якіх сыпаліся гаршкі, скрыні і нават кошыкі.

Прыціскаючыся адзін да аднаго, як спалоханыя верабейчыкі, яны сядзелі на бруднай падлозе і дрыжалі ад страху.

За дзвярыма мільгала туманнае нежывое святло, мітусіліся вуглаватыя цені, не сціхала звярынае выццё. Грукат мэблі, рыпанне масніц і ціхі шэпт не змаўкалі ні на хвіліну.

На досвітку, праўда, усё сціхла, і змучаныя бяссоннай ноччу госці нарэшце заснулі на цёплай драўлянай падлозе.

Разбудзіў іх нясмелы стук у дзверы.

— Дзеткі! Дзеткі, вы тут? — пачуўся лагодны старэчы голас.

Першым страпянуўся і адкрыў вочы Алесь, спалохана паглядзеў на вузкую палоску сонечнага святла пад дзвярыма.

— Дзетачкі, спіце, ці што?

— Не адчыняй, — шапнула Аксана, уяўляючы сабе старога з вялізным нажом у руках, і ўголас запыталася: — Хто там?

— Гаспадар ваш, — ветліва адказаў стары. — Не свавольце, адчыняйце! Будзем самавар ставіць, я ўжо і аладак напёк…

Алесь адсунуў у бок наваленую старую мэблю і баязліва прыадчыніў дзверы, упускаючы мяккія сонечныя прамяні, у якіх круціліся парушынкі.

— Хуценька давайце, — стары ўсміхаўся і выціраў высахлыя маршчыністыя рукі ручніком, які вісеў на худых плячах. — Вецер сціх, час у дарогу.

Алесь праводзіў спакойнага старога позіркам і дзівіўся. Усе начныя жахі здаваліся цяпер неверагодным чароўным сном.

Аксана выскачыла з каморкі і заспяшалася ў кухню, адкуль цудоўна пахла свежымі аладкамі.

— Ну вы даяце! — нязлосна смяяўся стары ў доўгую сівую бараду, пакуль госці з апетытам елі сняданак і распавядалі пра свае начныя прыгоды. — Куры засмяюць! От, гора! І дзе ж вы на маім двары ваўкоў бачылі? То сабака мой, Ваўчок, у хату прасіўся! Ці драпежнікаў адчуў, ці змерз у будцы. Ну, а мышы калі ёсць, то гэты гультай не спраўляецца, — стары ткнуў хударлявым пальцам у бок шэрага паласатага ката. Той сядзеў ля печы і ляніва лупаў бліпчастымі залатымі вачыма, нібы згаджаўся з гаспадаром.

— А крумкачы? — не жадала здавацца настойлівая дзяўчына.

— А што крумкачы? — прыгладзіў сівую бараду стары. — Птушкі вольныя, хіба адкажуць?

— А змеі за печчу?

— Ой, змеі…Вунь яны, змеі вашыя, — ён кіўнуў у бок скручаных вяровак. — Вось таму і прасіў вас наверсе ціхенька сядзець.

— Мяне не тое што сын у горад, а нават у гэты, як яго, дом для састарэлых не бяруць. З такою, значыць, хваробай. Лунатык я. Самнамбула па-вучонаму, — стары кінуў у свой кубак лыжку мёду і працягнуў: — абы што выпрабляю, ды зранку і не памятаю нічога. То на гарышчы прачнуся, то ў склепе, то ў каморы — галава курыная! От прыдумаў ключ ад дзвярэй у халодную ваду ці ў снег хаваць, так хоць ачухаюся ад холаду. А то выйду з хаты бяспамятны ды заблукаю дзе ў лесе — шукай ветра ў полі!

— Ой, мамачкі! — гарэзліва рассмяялася Аксана і пацягнулася за наступнай аладкай, смачнай, толькі з печы. — А я ледзь душу Богу не аддала! Тузаю-тузаю тыя дзверы, як дурніца!

Гледзячы на яе, расплыўся ў вінаватай бяззубай усмешцы і стары.

— А хіба лекаў ад гэтай хваробы няма? — насупіўся Алесь і падзьмуў на гарачую гарбату з ліпавым цветам.



Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.

— А ты чаго сядзіш, як мамыль? — ускінуў густыя бровы дзед. — З хвіліны на хвіліну трактар прыедзе. Так што лахі пад пахі — і да машыны!

Алесь адсунуў гарачы кубак убок і падскочыў да акна. І праўда, з занесенага снегам пагорка спускаўся і дымеў новенькі сіні трактарок.

— Вось дык дзед! — Алесь на хаду ўскочыў у боты, схапіў куртку і выскачыў за дзверы, адно пяты замільгалі.

— Пабег як падсмалены, — глянуў у акно стары і падбавіў кіпню.

— Вы прабачце нас, — раптам пасур'ёзнела Аксана. — Двор пачысціць абяцалі…

— Няхай сабе, — махнуў ён сухарлявай рукой. — Пераажыву. І ты бяжы, вавёрка гарэзлівая, годзе табе языком часаць…

У сенцах Аксана абула мяккія боцікі, зашпіліла дублёнку і патрэсла сухую руку старога:

— Дзякуй, дзякуй вам вялікі!

Стары моўчкі кіўнуў, усунуў у яе рукі торбачку і выправіў за дзверы.

Дзяўчына радасна заспяшалася скрозь бязмерныя маўклівыя сумёты. Лімоннае сонца сляпіла вочы і гуляла на іскрыстым звонкім снезе мірыядамі блікаў — бісерынак, пацерак, блёстак, нібы на доўгачаканай вясельнай сукенцы.

Высокі хударлявы хлопец сядзеў ў кабіне трактара і пакрысе выцягваў занесеную снегам аўтоўку. Рухавік хрыпеў і кашляў, але працаваць адказваўся.

— Нічога, да Калінкавіч дацягну, да Генкі на аўтасервіс! Свечы замяніць! — гучна, перакрываючы роў трактара, сказаў малады кіроўца, калі Аксана уладкавалася побач. — Вам пашэнціла, што я сёння ў горад, гэтай дарогай рэдка хто едзе!

Дзяўчына абярнулася назад. За стырном старога опеля сядзеў у цёплай куртцы Алесь, які адразу ўсміхнуўся і замахаў ёй рукой.

— Дык вам не наш стары хіба тэлефанаваў? — узняла яна блакітныя дапытлівыя вочы.

— Які яшчэ стары?

— Ну той, — няўпэўнена паказала яна рукой, — на ўскрайку лесу жыве.

— Ніхто там не жыве, — пацiснуў плячыма трактарыст.

— Ну, як жа …Мы ў яго начавалі і …Ой! мабільнік забылася! — пляснула рукамі дзяўчына. — Калі ласка, вельмі вас прашу, едзьце той дарогай, каля лесу. Я тэлефон забяру і яшчэ раз падзякую.

Трактарыст моўчкі ўтаропіўся ў яе.

— Я хуценька, — міла усміхнулася Аксана.

— Я ж кажу, што няма там нікога. Быў там калісьці хутар, гадоў сто таму назад. Ды разваліўся, парос ужо даўно. Адно, можа, гадзюкі водзяцца. Ды сіла нячыстая — ці то лесавікі, ці то дамавікі, — ён пасур'ёзнеў і панізіў голас: — Праўда-праўда, бабця мая казала…Праклятае месца.

— Ага, — засмяялася Аксана, — добрыя байкі, толькі нешта вы блытаеце. Я вам не пра хутар закінуты распавядаю, а пра хату ля самага лесу, маленькую такую, тынам абнесеную. Туды мне трэба.

— Ну-ну, — уздыхнуў кіроўца і дадаў газу. Трактар запоўз на ўзгорак, нырнуў носам уніз і запыхкаў да лесу, адкуль вялі нядаўнія сляды цяжкіх Алесевых бацінак і лёгкія, маленькія — Аксаніных боцікаў.

На старым чорным дрэве і гнілым плоце гаманілі, спрачаліся між сабой панурыя крумкачы. Далей віднеліся рэшткі колішніх будынкаў і разбураны каменны падмурак хаты, над якім сіратліва ўздымаўся прыпарушаны свежым снегам комін. Сляды Аксаніных боцікаў вялі акурат туды.

— Што, спыняемся? — ленавата спытаў хлопец. — Будзеш свой тэлефон шукаць?

Збялелая Аксана адчула, як на галаве заварушыліся валасы, і здушана вымавіла:

— Бог з ім, едзем. Новы куплю…



Рагнед Малахоўскі



**нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці. Аўтар кніг «Беражніца» (2005), «У дзённай мітусні» (2012), «Жыві!» (2014), «Кахання радок» (2016), «Выгнаннік дзьмухаўцовага раю» (2016), «Клічнікі дажджу» (2016). Фатаграфуе пейзажы і дзяўчат, піша электронную музыку, займаецца лёгкай атлетыкай. Жыве на Нарачы.**

# Паламаны рытм

## мары

усё што калісьці мы намарылі
пахавала пена аліварыі
апынулася па-за сістэмай
назаўсёды забытай тэмай

засталіся сябры і падпісанты
пазашлюбныя дзеці
палюбоўніцы
лісты да санты
над нараччу вецер

вочы слязьмі напоўняцца
засталіся тата і мама
пошта без спама
навальнічнае неба
ад краю да краю
а мяне магчыма чакае
паветраная яма

на развітанне
ні аб чым не прасіў
і ты маё каханне
ні аб чым мяне не прасі
на мове чужой прэса
усміхаецца сцюардэса
схавалася шасі

## рэзервацыя

загнанаму ў рэзервацыю
не грэшна разок і афігець
ад глыбіні самацэнзуры
ад колькасці нявыказаных
з-за боязі слоў
як злодзею мне вісець
на шыбеніцы ветракоў

натыкнуўся на рэкламную акцыю
толькі ўчора
збяры забытае і закатаванае
зашоранае і ў душы закансерваванае
і атрымай свабоду
пакінь рэзервацыю

## пыл

што пакіне пасля сябе
выпадковая сустрэча
напрыдумляем пытанні і адказы
адказы і пытанні
сарамліва глядзець у вочы
будзем толькі пад ранне
бо ў кожнага з нас свая
недатыкальная пустэча

зліццё выпадковых гукаў
абуджае натхненне
растлумачаць усе акалічнасці
у кодзе нулі і адзінкі
разбяжымся як запланавана кожным
пакуль не растануць у віскі ільдзінкі
бо ў кожнага з нас сваё
залатое напаўненне

і тады аб сабе нагадаюць
вужакі ў галаве ці матылькі ў жываце
байфлай дапаможа падзяліцца са светам
нецікавым нікому вынікам
а мозг фарматнуць
сёння думкі як смецце пад мыйнікам
кожны з нас геніяльны як пыл
у сваёй прастаце

## троль

памяняў старую трансмісію
графаманаў хай зайздрасць дзяўбе
актывізаваў новую місію
троліць самога сябе

мільён разоў разаб'юся
аб цела халоднае (ў)моўнай сцяны
і заткнуцца не пабаюся
абы не было вайны

і юзер ніводны ў граніце
не разгадае дзеяў маіх алгарытм

дзверы калі ласка зачыніце
я тут між іншым ламаю рытм

## дзве канстанты

думкі з варожай інтанацыяй
чакалі жорсткага кампрамісу
ад станцыі да станцыі
мы
дзве канстанты
у вайберы смайлы прымалі
і фактаў канстатацыі

не выкарабкацца з крызісу
затуманеныя галовы
проста матэрыял чалавечы

абяцалі сабе не прывязвацца
верылі ў простыя словы
спявалі пра простыя рэчы
а бывае часта
надыходзіць момант
калі патрэбна проста ўзяць
і адсекчы

## дэвальвацыя жыцця

сачу за інфармацыйнай лухтой
прапагандай цынічнай
дэвальвацыяй сумлення
а за вуглом чакае мардабой
атрута ў вадзе псеўдакрынічнай
ва ўласных сілах сумненне

не жадаю верыць ва ўвесь гэты трэш
у вузкім коле абмежаваных людзей
стаў майстрам прыдумваць адгаворкі
а бывае й кулакі да касцей сатрэш
у віры нечаканых і непрыемных падзей
аб душ гнілых пазалочаныя абгорткі

але аднойчы
нечакана для сябе робіш адкрыццё
як жа аказваецца проста
маладым і натхнёным выйсці з дому
і *свядома пахерыць жыццё*
*між вялізнага мноства*
*пахераных жыццяў свядома*[1].

## трэкліст

абнаўлю састарэлы трэкліст
запульсуюць між намі
рытмічна дынамікі
я для вас піяніст
я ствараю мелодыю целаў
я даследую кожныя ямінкі
бо таго гэта ноч захацела

і пагасне святло ў вакне
для мяне
а для вас
шэрыданс

## пункт незваротнасці

хацелася інтэлектуальнага гумару
ці моцнай жыццёвай сатыры
закрываў вочы на блуд аднагрупніц
і аднакласнікаў былых свінства
быў гатоў да любога
выкінутага лёсам нумару
ды стала страшна
калі ў трыццаць чатыры
ад бухла памёр сябар дзяцінства

кожнае імгненне мае
свой пункт незваротнасці
можна экспрэсам праляцець
праз маладосць
так і не дазнацца
хто ты на самай справе ёсць
а пасля сусвет палягае
зусім у іншай плоскасці

магчыма недзе на Шляху Млечным
мы будзем жыць вечна
але тут і цяпер зусім іншае сніцца
разбіты аб падводныя рыфы карабель
раструшчаная ў руках сініца
расстраляны ў небе журавель

[1] З Чарльза Букоўскага.



**Анастасія Васілевіч**

# У чым іх феномен?

Тое, што «ТЭАРТ» менавіта форум тэатральнага мастацтва, а не проста тэатральны форум, ужо пашырае яго межы і дазваляе зразумець яго міждысцыплінарную накіраванасць. Канешне, тэатр сінтэтычны па сваёй прыродзе, ён выкарыстоўвае выразныя сродкі ўсіх відаў мастацтва, але зараз гэта адбываецца настолькі яскрава, што, як казала тэатразнаўца Марына Давыдава, хутка, магчыма, усе мастацтвы ператворацца ў адно вялікае крэатыўнае поле.

Водгулле гэтай неновай тэндэнцыі можна прасачыць і ў беларускай праграме «ТЭАРТа». Пранікненне лялек у драматычны тэатр, вербацімы і тэатральная дакументалістыка, плыня візуальнага тэатра, для якога характэрна адсутнасць прамога наратыву, частае імкненне да перфарматыўнасці — перыферыйнай тэрыторыі мастацтваў. У гэтым годзе на форуме можна было ўбачыць яркі прыклад узаемапранікнення ў беларускай арт-прасторы: блок перформансаў «penAtra(C)ion» стварылі сучасныя айчынныя мастакі, якія амаль ніяк не звязаныя з тэатрам.

Замежная праграма кожны год дазваляе ўбачыць, як працуюць з магчымасцю «змешвання» небеларускія творцы — яны часта задаюць тон развіццю нашага андэграунда, які потым становіцца авангардам. І размова ні ў якім разе не пра другаснасць айчынных эксперыментаў — наадварот, пра асэнсаванне замежных і сваіх патрэб. Беларуская тэатральная суполка заўсёды спадзяецца на спектаклі-адкрыцці, і гэтым разам, бадай, самымі чаканымі сталі «Дэменцыя» тэатра «Пратон» з Венгрыі і «Кінг сайз» швейцарскага тэатра «Відзі-Лазан». Два сусветна вядомыя рэжысёры — Карнэль Мундруца і Крыстаф Марталер і дзве зусім розныя, але, што парадаксальна, вельмі падобныя працы.

«Кінг сайз» Крыстафа Марталера[1] ідзе каля гадзіны, менавіта такой назвай вызначаецца памер вялікага ложка. У шыкоўным інтэр’еры павільённай дэкарацыі двое ўлюбёных ці ўвогуле чужых адзін аднаму людзей спяваюць народныя і хітовыя песні пра каханне на розных мовах свету. Яны граюць на фартэпіяна, наводзяць ранішні і вячэрні марафет, ляжаць пад коўдрай. Нейкае арыстакратычнае і «нафталінавае» Залюстэр’е з патайнымі дзвярыма і шафамі, з якіх выходзіць састарэлая жанчына, — апагеем яе дзіўнасці становіцца паяданне спагеці з уласнай торбы. Здаецца, што мы трапілі на здымкі нейкай моднай аперэты, і добра, калі ў дзевяностыя. Часам гэта камічна, часам цікава, увогуле прыгожа, але калі казаць шчыра —сумна. У двух сэнсах рускага перакладу гэтага слова: і «скучно», і «грустно». Таму што праблема адзіноты, якую ўздымае сваёй працай Марталер, амаль нікога не абыходзіць. І самае страшнае — ператварыць сваё жыццё ў гэткую аперэту: бесклапотна спяваць пра каханне, прыхарошвацца, а ў душы адчуваць пустату.

Пустата — гэта пэўны стан хворых дэменцыяй, тых, хто губляе памяць дзень за днём. Але ў спектаклі «Дэменцыя» Карнэля Мундруца[2] пацыенты быццам зусім разумныя — прынамсі спачатку. Тым не менш пра тое, каго ж усё-такі ў сучасным грамадстве можна назваць здаровым (чытай: тым, хто цвяроза ацэньвае рэчаіснасць), і разважае рэжысёр. Паралельна з гэтым ён уздымае пытанні цяласнасці, звязаных з гэтым магчымасцей кантраляваць свае паводзіны, фізічнага і ментальнага гвалту, самасвядомасці. Што ёсць нармальна, а што не, чаму мы быццам не разумеем працэсы, якія адбываюцца ў навакольным свеце? Калі казаць пра бытавое разгортванне сюжэта — знешнія абставіны прыводзяць галоўнага ўрача старой бальніцы да ўнутранага канфлікту: аддаць будынак за вялікія грошы і з’ехаць за мяжу ці застацца і дапамагаць хворым. Спачатку ён ідзе на крымінальнае злачынства: прымушае пацыентаў падпісаць у паперах, што яны здаровыя і могуць ісці дадому, хоць дома, канешне, у іх ўжо няма. Але потым, асэнсаваўшы, што бальніца — гэта і яго прытулак, вяртаецца акурат пад Новы год і дорыць ўсім «самы чаканы падарунак» — поліэтыленавыя пакеты, якія потым аказваюцца на галовах герояў, як і бенгальскія агні ў іх руках. Менавіта так пацыенты бальніцы разам з доктарам і медсястрой уваходзяць у новае студзеньскае жыццё. Усё гэта адбываецца на святочным фоне: сцяна бальніцы цалкам абвешаная гірляндамі.Абодва спектакля, як і чакалася, выклікалі вялікі рэзананс і сярод звычайных гледачоў, і экспертаў. Дык у чым іх феномен?

[1] Музыкальны дырэктар — Бендыкс Дэтлефсен.
[2] Музыка Яноша Семянэя.

## Выхад з лесу

Глядач свядома прыходзіць у тэатр, каб трапіць у палон мастацтва. Часам гэта не падобна да палону: прыемны сюжэт, прыгожыя дэкарацыі — тым не менш дастаткова звычайнае, знаёмае амаль ніяк не выводзіць гледача з зоны камфорту. Нават тое, што існуе зал, — у ім дзверы. З «Дэменцыі» сысці не атрымаецца: гледачоў праводзяць да месцаў праз сцэну і дэкарацыі. «Кінг Сайз» адбываецца на той жа пляцоўцы — з яго сысці можна, але таксама нязручна. А тут на табе — у першым выпадку жорсткая тэма і аголеная натура, ў другім — невыносна прыкры мюзікл, што ўжо больш нагадвае палон. Але зараз менавіта гэта і каштоўна ў мастацтве: магчымасць для гледача спазнаць штосьці на сваім вопыце, і гэты вопыт, як казаў кампазітар Джон Кейдж, «павінен быць такім жа новым, як калі б вы заблукалі ў лесе». І сапраўды, заблукаць атрымоўваецца ў першую чаргу з-за множнасці сваіх адчуванняў. Прыходзіцца шукаць іншае выйсце, і такім становяцца непазбежныя асэнсаванне і рэфлексія, самае меншае — прыняцце альбо адмаўленне правіл гульні.

## Спектакль, як дзіўны сон

Рэальнасць сноў часам вельмі падобная да бытавой, часам фантасмагарычная, поўная жорсткасці ці пяшчоты. Менавіта калі спіць, чалавек вызваляе сваё падсвядомае. Тое, што спектакль павінен быць падобным да сну, — даўняя ідэя, росквіт якой адбыўся ў XX стагоддзі з ростам папулярнасці псіхааналізу. Напрыклад, у Антанена Арто яна трансфармавалася ў тэорыю тэатра жорсткасці. Гэта таксама звязана з набыццём новага вопыту, бо ў сне магчыма ўсё, і мы можам дазволіць сабе больш, чым у рэальным жыцці. Калі казаць пра «Дэменцыю» — тут вялікая прастора для сублімацыі таемных жаданняў: забойствы, сексуальныя перверсіі, перавышэнне паўнамоцтваў і гвалт. Пры гэтым галоўнай застаецца балючая тэма не толькі хворых людзей і іх залежнасці, а ўсяго соцыума гэтай бальніцы. Колеры аповеда змяняюцца вельмі хутка — вось гратэск, вось ужо нават фантасмагорыя, потым натуралістычныя сцэны. У пэўныя моманты ўсё паходзіць на «дзюдзік», сіткам, трылер і калядны мюзікл — менавіта на такой ноце заканчваецца спектакль. «Кінг сайз» — гэта прэсны сон, прыгожы, ні пра што. Ці пра што? Вось таму ён і патрэбен…

## Сэнсавае вогнішча

Абодва спектаклі ўспрымаюцца лёгка. Па-першае, іх тэкставыя асновы змяшчаюць у сабе прыёмы абсурдысцкай драматургіі, і мы разумеем, што тут усё па сваіх законах. Па-другое, існуе кантраст формы і зместу. «Штосьці не ў парадку», — думае глядач, калі хворыя дэменцыяй апранаюць пакеты для ўдушэння. Але гэта адбываецца ў такіх абставінах, што становіцца нават смешна, і калі забіваюць аднаго з герояў — гэта таксама не так страшна. А тое, як медсястра мыецца ў прысутнасці хворых, камічна. І увогуле, усе спяваюць — значыцца, весела. А ў «Кінг сайзе» спяваюць на працягу ўсяго спектакля, ды навокал прыгожа — пра якую драму тут можна казаць? З гэтых іскраў кантрасту кожны глядач можа раскласці сваё сэнсавае вогнішча.

## Эфект шыпучкі

Калі «прачынаешся», пачынаеш асэнсоўваць «сон». Спектаклі не пакідаюць адчування страху і цяжару, наадварот, могуць узняць настрой. Выходзіш і думаеш: «Так, добры спектакль, актуальны, утрымлівае шмат сэнсаў», — радуешся, што часткова іх разгадаў. Пачынаеш займацца звычайнымі справамі. А пасля адбываецца эфект, падобны да ўздзеяння шыпучага ледзянца. Было салодка, а потым ён як выбухне ўнутры кіслінкай — і ўсё, становіцца спачатку не па сабе, а потым і ўвогуле вельмі страшна. Паступова прыходзіць усведамленне, наколькі жахлівыя гэтыя гісторыі, наколькі словы могуць не адпавядаць дзеянням, і як лёгка часам падмануць самога сябе.

І калі ты паспытаеш такіх ледзянцоў — захочацца яшчэ. Канешне, шмат іх з'есці не атрымаецца, бо будзе дрэнна фізічна. Але часам можна сябе пабалаваць — калі хоць раз наведаеш такі тэатр, напэўна, адмовіцца ад яго будзе складана.

Паступова і ў нас з'яўляюцца месцы, дзе можна паглядзець падобныя спектаклі.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

# праект «ВАРШТАТ»

**Стагоддзе: XVI**

**Асоба: Францыск Скарына**

**Падзея: парцэляцыя Біблії**

**У выпуску:**

- Алесь Суша. Кім быў і хто для нас ёсць сёння Францыск Скарына (пачатак)
- Ігар Клімаў. Асветніцкія і духоўныя традыцыі Скарынавай кнігі
- Ксенія Тарасевіч. Тытульны аркуш — «фасад» кнігі (артыкул-ілюстрацыя з працягам)
- Цытатнік, або Тое, што надрукавана даўно, але варта чытаць сёння, бо не менш актуальнае і патрэбнае



**Бь яабте ёо ршмьфвзд м умёже**

Алесь Суша

# Кім быў і хто для нас ёсць сёння Францыск Скарына

Францыск Скарына з'яўляецца, верагодна, самым яркім і найбольш вядомым творцам беларускай культуры, здольным прадставіць яе ва ўсёй шматграннасці і паўнаце. Гэта сапраўды чалавек-энцыклапедыя і ўніверсальная асоба. Яго талент праявіўся літаральна ва ўсім: беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, выдавец, перакладчык Бібліі на родную мову, пісьменнік, філосаф-гуманіст, тэолаг, вучоны, лекар, батанік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік…

Нашаму сучасніку складана нават уявіць, якім чынам гэтыя абсалютна розныя іпастасі спалучаліся ў асобе аднаго чалавека. Як ў часы Скарыны, гэтак і сёння наяўнасць такога шматбаковага таленту ёсць вялікая рэдкасць. Аднак, верагодна, толькі дзякуючы сваім надзвычайным здольнасцям Францыск Скарына здзейсніў сапраўдную культурную рэвалюцыю, адкрыў перад нашымі продкамі прастору новых магчымасцей і шляхоў далейшага развіцця, ні многа ні мала — змяніў сусвет беларусаў.

Францыск Скарына першым з усходніх славян выдаў кнігу друкарскім спосабам і зрабіў кніжнае слова (а праз яго і ўсе веды чалавецтва) даступным для «люду паспалітага», гэта значыць, для ўсіх і для кожнага. Была адкрыта новая эпоха ў культурным развіцці нашага народа. Менавіта таму беларускага першадрукара называюць сапраўдным волатам эпохі Адраджэння.

Але Скарына заўсёды заставаўся патрыётам сваёй зямлі. Для яго вобраз паўнацэннага грамадзяніна непарыўна звязаны з наяўнасцю патрыятычнага пачуцця, любові да роднай зямлі. У сваіх працах Скарына сцвярджае права людзей ганарыцца і любіць сваю Айчыну, выступае за роўнасць усіх народаў між сабою і за каштоўнасць кожнага з іх паасобку. Выконваючы ўласны запавет, слаўны палачанін у кожнай са сваіх кніг абавязкова падкрэсліваў уласнае паходжанне і з нязменнай павагай да роднага месца пазначаў, што кніга «выкладзена доктарам Францыскам Скарынам са слаўнага горада Полацка».

Падобныя рысы, на думку многіх даследчыкаў, характэрныя для нешматлікіх, але надзвычай таленавітых дзеячаў эпохі Адраджэння (Рэнесансу)[1]. Сваім пасіянарным служэннем на карысць чалавецтву яны нярэдка істотна апярэджвалі свой час і пры гэтым фарміравалі яго. Яны моцна адрозніваліся ад сваіх сучаснікаў і далёка незаўсёды былі зразумелымі і зразуметымі. Аднак да іх як найбольш яркіх прадстаўнікоў еўрапейскага Адраджэння сёння скіроўваюцца погляды многіх даследчыкаў і жыхароў Еўропы XXI стагоддзя, бо менавіта яны заклалі пачаткі сучаснай еўрапейскай культуры.

[1] Burke, P. The Renaissance / Peter Burke. — London [etc.] : MacMillan Education, 1987. — VII, 75 p. — (Studies in European history).
Далейшы артыкул — гэта спроба аналізу асобы Францыска Скарыны ў кантэксце розных іпастасяў гэтай шматграннай асобы як прадстаўніка эпохі Адраджэння.

## Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта “Варштат”

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Баараакадрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова “абракадабра” — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур'ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца зашыфраваная частка выразу. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў “Маладосці” за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выраз, можна атрымаць ад “Маладосці” шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя “Маладосці”. Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*




Партрэт Ф. Скарыны паводле гравюры з яго выдання.

## Студэнт

Жыццё Францыска Скарыны — жыццё асветніка. Гэта жыццё чалавека, які звязаў сябе з перадачай ведаў пра навакольны свет сваім сучаснікам і нашчадкам. Але каб набыць тыя багатыя веды, Скарына мусіў прайсці шлях маральнага і інтэлектуальнага самаўдасканалення праз навучанне ў самых розных вучэбных установах Беларусі і замежжа.

Пачатковую адукацыю Францыск Скарына атрымаў у буйнейшым духоўным цэнтры тагачаснай Беларусі — родным горадзе Полацку, які быў знакаміты сваёй старажытнай незалежнасцю, гаспадарчай і царкоўнай актыўнасцю, багатай духоўнай спадчынай, велічнымі праваслаўнымі храмамі з іх кніжна-пісьмовымі і мастацкімі традыцыямі, буйнымі бібліятэкамі і архівамі. Здаўна ў Полацку развівалася сістэма навучання моладзі[2].

Як мяркуюць даследчыкі, першапачатковую адукацыю Скарына мог атрымаць у Полацкім бернардзінскім манастыры, які дзейнічаў у горадзе з 1498 года[3]. Тут ён мог вывучаць лацінскую мову, бо, як паказала далейшае развіццё падзей, у наступныя гады ён ужо паспяхова карыстаўся гэтай мовай падчас навучання і працы за мяжою. Малаверагодна, што Скарына мог вывучыць гэту складаную мову самастойна ці праз кантакты з заезджымі гандлярамі.

Пра сувязь з бернардзінамі можа таксама сведчыць і каталіцкае імя Скарыны, верагодна, дадзенае яму пры хрышчэнні (відаць, паўторным) у гонар святога Францыска — апекуна бернардзінскага ордэна. З гістарычных крыніц вядома, што полацкім манастыром кіраваў Лявон з Ланьцута[4], які схіліў да веры многіх палачан.

Полацкія бернардзіны мелі цесныя сувязі з віленскімі братамі, што магло паспрыяць пераезду Скарыны ў сталіцу Вялікага Княства Літоўскага — Вільню. Пачатковую адукацыю ён, верагодна, пашырыў у кафедральнай школе ў Вільні, якая была найбольш вядомай з усіх каталіцкіх школ у беларуска-літоўскай дзяржаве. Тут ён завяршыў сваю школьную вучобу, пасля чаго прыняў рашэнне паступаць ва ўніверсітэт.

У тыя часы многія з выпускнікоў віленскай кафедральнай школы працягвалі вучобу ў Кракаўскім універсітэце. Менавіта такое рашэнне прыняў і Францыск Скарына. У 1504 годзе ён паступіў у Кракаўскі ўніверсітэт, заснаваны яшчэ ў 1364 годзе, пасля рэарганізаваны і зноў адкрыты ў 1400 годзе. Цесныя палітычныя стасункі

[2] Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зб. дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 7.
[3] Vladimirovas, L. Pranciskus Skorina — Vilniaus spaudos pradininkas / L. Vladimirovas. — Vilnius: Valstybine politines ir mokslines literaturos leidykla, 1956. — P. 8.
Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. / Белорус. гос. ун-т.; отв. редакторы: А. П. Сальков, О. А. Яновский [и др.]. — Минск, 2008. — Вып. 3. — С. 126.
[4] Gawrylczyk, B. Dekanat Połocki w świetle opisów parafii z 1784 roku : Praca magisterska / Bartołomiej Gawrylczyk ; pod kierunkiem prof. dr hab. Józefa Maroszka; Uniewersytet w Białymstoku, wysział historyczno-socjologiczny: Instytut Historii. — Białystok, 2005. — 146 s. — S. 11.
Murawiec, W. F. Bracia mniejsi, zwani bernardynami, w Wielkim Księstwie Litewskim w latach 1468—1628 / Wiesław Franciszek Murawiec // Geografia i Sacrum; Bolesław Domański, Stefan Skiba (red.). — Kraków : IGiGP UJ, 2005. — Tom 1.— S. 415-426.



Помнік Скарыну-студэнту ля БДЭУ, г. Мінск.

паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім паспрыялі з’яўленню ў Кракаве студэнтаў з Беларусі: для іх гэта быў самы блізкі, адносна танны і даступны з усіх універсітэтаў Еўропы.

Кракаўскі ўніверсітэт знаходзіўся пад кантролем і ўплывам каталіцкай царквы і быў прызваны спрыяць пашырэнню каталіцтва на польскіх, беларускіх, літоўскіх, украінскіх і іншых землях. У той жа час з яго сцен выйшлі шматлікія асветнікі і рэфарматары, якія часам нават супрацьпастаўлялі сябе традыцыйнаму хрысціянству, як, напрыклад, Сымон Будны.

У 1504 годзе ва ўступных дакументах Кракаўскага ўніверсітэта з’явіўся запіс «Францыск, сын Лукі з Плоцка» (Полацка)[5] і побач запіс пра выплату ўступнага ўзносу ў 2 грошы. На працягу двух гадоў (мінімальны тэрмін навучання) малады палачанін засвоіў так званыя «сем вольных навук», у лік якіх тады ўваходзілі граматыка, рыторыка, логіка, арыфметыка, геаметрыя, музыка і астраномія[6]. У сваіх пазнейшых выданнях Скарына апісаў гэту навуковую сістэму, якая дазваляе атрымаць важнейшыя веды аб навакольным свеце і займець грунтоўную адукацыю. Шмат увагі студэнты таксама надавалі вывучэнню філасофіі Арыстоцеля і Платона, твораў антычных аўтараў Цыцэрона і Вергілія, лацінскай мовы.

Пасля завяршэння курса навучання ў Кракаўскім універсітэце Скарына выдатна здаў экзамен на ступень бакалаўра арціум, што давала яму права працаваць педагогам і чытаць студэнтам некаторыя курсы. Але на гэтым навучанне Францыска Скарыны не скончылася. Ён вырашыў працягваць сваю адукацыю ў галіне медыцыны.




Студэнты паводле гравюры XVI стагоддзя.

## Доктар «у навуках»

Вялікі гонар як сёння, так і ў часы Скарыны — дасягнуць вышэйшай прыступкі ў навуковай іерархіі — ступені доктара навук. І гэта вяршыня не стала для Скарыны недасяжнай, чым ён, бясспрэчна, ганарыўся. Сам Скарына неаднаразова называў сябе ў сваіх жа выданнях доктарам філасофіі і доктарам «у лекарскіх навуках».

На жаль, нам дагэтуль невядома, дзе ён атрымаў вучоную ступень доктара філасофіі. Магчыма, ён здолеў гэта зрабіць ў Кракаўскім або Пражскім універсітэце. Даволі часта юнакі пасля атрымання ступені бакалаўра філасофіі працягвалі навучанне і выходзілі на атрыманне доктарскіх рэгалій.

[5] Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. / Белорус. гос. ун-т.; отв. редакторы: А. П. Сальков, О. А. Яновский [и др.]. — Минск, 2008. — Вып. 3. — С. 126.

[6] Vladimirovas, L. Pranciskus Skorina — Vilniaus spaudos pradininkas / L. Vladimirovas.— Vilnius: Valstybine politines ir mokslines literaturos leidykla, 1956. — P. 9.




Старажытная гравюра з выявай настаўніка і студэнтаў.

Калі час і месца атрымання Скарынам ступені доктара філасофіі нам невядомыя, то пра яго другую навуковую ступень гістарычныя крыніцы захавалі некаторую інфармацыю. Восенню 1512 года ён бліскуча вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны ў славутым Падуанскім універсітэце. 5 лістапада адбылося прадстаўленне беларускага юнака калегіі найслаўнейшых падуанскіх дактароў філасофіі і медыцыны, якія сабраліся ў царкве святога Урбана[7]. Вядучы цырымоніі — віцэ-прыёр Тадэй Мусаці — адзначыў у сваім уступным слове, што ў Падую прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар філасофіі, які звярнуўся да калегіі з просьбай здаць экзамены бясплатна, што яму і было дазволена. Малады чалавек назваў сябе русінам, які прыехаў з вельмі далёкіх краёў.

На наступны дзень у той жа царкве ў прысутнасці 14 прафесараў і дактароў калегіі беларус Францыск Скарына паспяхова вытрымаў папярэднія дыскусіі і дыспуты з выдатнымі вучонымі і быў дапушчаны да асноўнага экзамену па медыцыне[8]. Пасля ўсіх выпрабаванняў, 9 лістапада 1512 года, у біскупскім палацы ў прысутнасці вядомых вучоных, грамадскіх і царкоўных асоб Падуі Скарына быў абвешчаны доктарам медыцыны[9].

Гэта была знамянальная падзея не толькі ў яго жыцці, але і ў гісторыі беларускай культуры: сын полацкага купца змог пераканаўча даказаць, што здольнасці і прызванне важнейшыя за арыстакратычнае паходжанне. Больш таго, малады вучоны, які прыехаў у Італію з далёкага Полацка, так уразіў мясцовых інтэлектуалаў, што яго партрэт быў змешчаны ў зале славы Падуанскага ўніверсітэта сярод сарака найбольш вядомых выпускнікоў.

## Лекар

У антычным свеце, у часы Сярэднявечча і Адраджэння медыцына лічылася адной з вядучых навук. Яна прыцягвала ўвагу многіх выдатных дзеячаў еўрапейскай рэнесанснай культуры, у тым ліку такіх слаўных, як Леанарда да Вінчы.

Францыска Скарыну, як чалавека прагматычнага, выхадца з купецкага асяроддзя, у большай ступені цікавілі практычныя аспекты медыцынскіх ведаў, якія дазвалялі займацца лекарскай дзейнасцю.

У Падуанскім універсітэце, дзе Скарына абараніў званне доктара медыцыны, у пачатку XVI стагоддзя працавалі ажно 13 медыцынскіх кафедр. Асноўная ўвага пры выкладанні медыцыны надавалася вывучэнню і тлумачэнню класічных прац Авіцэны, Гіпакрата, Галена, але якраз у гэтыя часы назіралася ўзмацненне практычнай часткі ў навучальным працэсе.

---

[7] Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зб. дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 10.

[8] Shutava, V. Again about Skaryna in Padua: attendees / V. Shutava // Belarusian Review. — 2015. — Vol. 27. № 2. — P. 21—27.
Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 11.

[9] Vladimirovas, L. Pranciskus Skorina — Vilniaus spaudos pradininkas / L. Vladimirovas. — Vilnius: Valstybine politines ir mokslines literaturos leidykla, 1956. — P. 11—13.
Немировский, Е. Л. Франциск Скорина : жизнь и деятельность белорусского просветителя / Е. Л. Немировский. – Минск : Мастацкая літаратура, 1990. — 597 с.— С. 204–205.

Звычайна для атрымання ступені доктара неабходна было засвоіць пяцігадовы вучэбны курс медыцыны. Аднак вядома, што ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі ў Венецыянскай Рэспубліцы Падуанскі ўніверсітэт у 1509—1516 гадах быў закрыты. З гэтай прычыны гісторыкі вагаюцца ў меркаваннях наконт таго, дзе Скарына ўсё ж здолеў атрымаць медыцынскую адукацыю. Магчыма, такім месцам быў Кракаўскі ўніверсітэт, дзе працавалі дзве кафедры медыцыны, але яны не мелі права на зацвярджэнне доктарскіх ступеняў. Больш верагодным падаецца, што малады палачанін вучыўся ўсё ж у Падуі. Ёсць меркаванне: некаторыя кафедры нават у гэты час працягвалі працаваць, а многія выкладчыкі выкладалі ў хатніх умовах. Урэшце, сам факт склікання калегіі для абароны Францыска Скарыны якраз у час ваенных дзеянняў сведчыць пра тое, што Падуанскі ўніверсітэт працягваў дзейнічаць і ў гэты перыяд.

Медыцынскія веды і доктарская ступень не раз саслужылі добрую службу беларускаму асветніку. Так, напрыклад, вядома, што з сярэдзіны 20-х гадоў XVI стагоддзя Скарына адначасова выконваў функцыі сакратара віленскага біскупа і займаўся медычнай дзейнасцю[10].

Ёсць і іншыя сведчанні. Напрыклад, Францыск Скарына па нейкіхпрычынах у 1530 годзе наведаў Кёнігсберг (сучасны Калінінград). Верагоднай прычынай такога візіту многія лічаць распаўсюджванне ў тых краях небяспечнай эпідэміі — англійскай гарачкі. Тады Вялікі герцаг Альбрэхт Брандэнбургскі звярнуўся па дапамогу да медыкаў суседніх краін, і Скарына, мусіць, адгукнуўся.

Яшчэ цікава, што, вяртаючыся з Кёнігсберга ў Вільню, Скарына вывез з сабою двух майстроў — лекара і друкара[11]. Нават апошнія гады яго жыцця былі звязаны з медыцынскай дзейнасцю: чэшскі кароль Фердынанд I запрасіў Францыска Скарыну ў Прагу для працы ў якасці каралеўскага медыка і садоўніка. Гэтыя факты сведчаць пра захаванне у беларускага вучонага і асветніка цікавасці да медычнай практыкі.



Доктарскі дыплом Мікалая Каперніка, атрыманы ім ў італьянскім горадзе Ферары ў 1503 годзе.

[10] Гячаускас, Э. Франциск Скорина — секретарь виленского епископа Иоанна из князей литовских / Э. Гячаускас // Федоровские чтения 1982 : [материалы научной сессии, посвященной теме “История книги в Литве. Русско-литовские книжные связи”, 1982 г., Вильнюс] / отв. ред. Е. Л. Немировский. — Москва, 1987. — С. 62.

[11] Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. / Белорус. гос. ун-т.; отв. редакторы: А. П. Сальков, О. А. Яновский [и др.]. — Минск, 2008. — Вып. 3. — С. 131.



Анатамічны тэатр Падуанскага ўніверсітэта — самы старажытны ў свеце.



Вячка Целеш.
У лекарскіх навуках доктар Францішак Скарына (1990).

## Каралеўскі садоўнік

Яшчэ падчас навучання і абароны доктарскай дысертацыі ў Падуанскім універсітэце Францыск Скарына, верагодна, зацікавіўся батанікай, бо вывучэнне лекавых раслін было абавязковым для будучых медыкаў. Нездарма менавіта пры Падуанскім універсітэце ў 1545 годзе быў заснаваны найбольш старажытны з пастаянна дзеючых батанічных садоў свету.

Свае здольнасці беларускі асветнік і вучоны мог праявіць у Вільні пасля вяртання на Радзіму з Падуі ці Прагі. Прыблізна ў гэты час непадалёк ад Віленскага бернардзінскага манастыра, замкавай гары і каралеўскіх палацаў, у самым цэнтры горада быў створаны так званы Бернардзінскі сад.

У поўнай меры талент Скарыны-садоўніка праявіўся у сярэдзіне 1530-х гадоў, калі ён канчаткова выехаў за мяжу і пасяліўся ў добра знаёмай яму Празе. Там яго веды былі выкарыстаны чэшскім каралём Фердынандам I. Той запрасіў Францыска Скарыну для працы ў якасці каралеўскага садоўніка («заградніка») у нядаўна адкрытым Каралеўскім садзе на Градчанах[12]. Пасля доўгіх пошукаў добрага садоўніка, якога не атрымалася знайсці нават у самой Празе, 22 мая 1535 года кароль паслаў па такога чалавека па імені Францыск з Вены[13]. Верагодна, гэтым італьянскім садоўнікам быў ніхто іншы, як наш Францыск Скарына, які меў добрую італьянскую адукацыю ў галіне батанікі.

У Каралеўскім садзе на Градчанах Скарына разводзіў паўднёвыя расліны. У 1539 годзе разам з ім тут працаваў доктар Вэніус з Галандыі. Аднак у сувязі з эканамічнымі цяжкасцямі ў тым жа годзе абодва каралеўскія садоўнікі былі звольнены з працы. Вынік працы беларускага батаніка відавочны: ён стварыў у Празе цудоўны італьянскі рэнесансны сад.

*працяг у наступным нумары...*

---

[12] Немировский, Е. Л. Франциск Скорина: жизнь и деятельность белорусского просветителя / Е. Л. Немировский. — Минск: Мастацкая літаратура, 1990.— 597 с. — С. 507.
[13] Načeva-Marvanová, M. Stratifikace bohemismů ve Skarynově překladu Bible (Píseň Písní, 1518) — pohleh na Skarynu z českého břehu / M. Načeva-Marvanová // České vědomí Bělarusi. — Praha, 2013. — S. 314.
Sokolová, F. K 500. výročí narození F. Skoryny / F. Sokolová // Francisko Skoryna v díle českých slavistů: Sborník k 500 jubileu narození významnégo běloruského humanisty, 1490—1990; Vyber uspor.: Františka Sokolová. — Praha: Národní knihovna: Slovanská knihovna, 1992. — S. 13.
Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зб. дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 18.

Ігар Клімаў

# Асветніцкія і духоўныя традыцыі Скарынавай кнігі

**Чым пільней навукоўцы, ды і цікаўная публіка ўглядаюцца ў постаць Францішка Скарыны, тым больш значны маштаб набываюць яго асоба і яго дзейнасць. Адпаведна тым больш велічнай выглядае яго справа на тле эпохі і ў перспектыве наступных часоў для ўсяго ўсходняга славянства, нават для ўсіх славян.**

1

Асноваай духоўнай спадчыны Скарыны стала няпоўная Біблія, выдадзеная ў 1517—1519 гадах у Празе Чэшскай. Гэтая Біблія ўключала толькі кнігі Старога Запавету, ды і то няпоўнасцю. У прыватнасці, свет пабачылі: Пяцікніжжа, кнігі Ісуса Навіна, Суддзяў, чатыры кнігі Царстваў, кнігі Руф, Эклезіяст, Песня Песняў, Плач Ераміі, Эсфір, Псалтыр, Прыпавесцей Саламонавых, Іова, прарока Данііла, а таксама Юдзіф, Наймудрасці Ісуса Сірахава і Наймудрасці Саламона. Не выключана, што Скарынам было выдадзена больш кніг, чым вядома цяпер, аднак прамых доказаў гэтаму пакуль няма.

Свае кнігі Скарына друкаваў не ў тым парадку, як яны ішлі ў тагачасных кодэксах Св. Пісання. Першым у 1517 годзе выйшаў Псалтыр (6.08.), затым — кнігі Іова (10.09.), Прыпавесцей Саламонавых (6.10.), Ісуса Сірахава (5.12.). У 1518 годзе — Эклезіяст (2.01.), Песня Песняў (9.01.), Наймудрасці Саламона (19.01.), кнігі Царстваў (10.8.), Ісуса Навіна (20.12.). З выданняў 1519 года датаваныя толькі кніга Юдзіф (9.02.) і кніга Суддзяў (15.12.), тады як шэраг друкаў дэманструюць толькі год выхаду (1519): кнігі Руф, Эсфір, Плач Ераміі, Данііла і Быцця, а астатнія наогул не маюць даты: Выхад, Левіт, Лічбы і Другі Закон. Але апошнія чатыры кнігі, што ўваходзяць у склад Пяцікніжжа, у навуцы датуюцца паводле першай кнігі — Быцця. Такі парадак выдання біблейскіх кніг выглядае выпадковым ці адвольным.

Але, калі ўгледзецца больш уважліва, то можна заўважыць у ім пэўную логіку. Першым быў выдадзены Псалтыр — найбольш пашыраная ў хрысціянскім свеце біблейная кніга, паводле якой вучыліся не толькі набожнасці, але чытанню і пісьму. Затым (з 10.09.1517 г. па 19.01.1518 г.) Скарына выпусціў г. зв. Кнігі Наймудрасці (Libri sapientalis), асобны хрысціянскі зборнік біблейных павучальных твораў (у складзе шасці кніг: Іова, Прыпавесцей Саламонавых, Эклезіяста, Песні Песняў, Наймудрасцей Саламона, Ісуса Сірахава). Гэты зборнік быў вядомы як заходняму (каталіцкаму), так і грэчаскаму (праваслаўнаму) свету, хаця меў і там, і там даволі слабае распаўсюджванне з прычыны асобнай павучальнасці яго твораў. Такі тэматычны выбар тлумачыцца хутчэй за ўсё тым, што беларускі выдавец жадаў выпусціць спачатку найбольш апавядальныя, цікавыя для шырокага чытача творы Бібліі. Магчыма, на той момант ён не быў упэўнены ў выданні астатніх біблейных кніг.

Толькі пасля Кніг Наймудрасці Скарына пераходзіць да выдання (1518—1519) Старэйшых Прарокаў і крыху пазней Пяцікніжжа, найважнейшых частак Св. Пісання. Старэйшых Прарокаў ён выдае цалкам у складзе кніг Навіна, Суддзяў, Самуіла і Цароў; паводле грэка-праваслаўнай традыцыі дзве апошнія кнігі выступаюць у яго пад назвай 1—2-я Царстваў (1—2-я Самуіла) і 3—4-я Царстваў (1—2-я Цароў). Аднак выдае ён Старэйшых Прарокаў не запар: спачатку выходзяць кнігі 1—4-я Царстваў (10.8.1518 г.) як адзіны комплекс, затым кнігі Навіна (20.12.1518 г.) і, напэўна, пазней за ўсе — кніга Суддзяў (15.12.1919 г.). Апрача іх Скарына ў розны час выдае астатнія кнігі з мегілот (частка іх ужо прысутнічала ў Кнігах Наймудрасці), кнігу Юдзіф, а таксама кнігу прарока Данііла. Такім чынам, асноўныя цыклы Старога Запавету былі ім апублікаваныя.

Парцэляцыя Бібліі — беспрэцэдэнтная з'ява для той эпохі, ва ўсялякім выпадку, у славянскім свеце. На парцэляцыю Скарыну прымусілі пайсці хутчэй за ўсё меркантыльныя меркаванні

Некаторыя ўскосныя аргументы схіляюць да думкі, што Скарына выдаў, па меншай меры, увесь Стары Запавет. Падставай для гэтага служаць некалькі рукапісаных кодэксаў, дзе копіі вядомых біблейскіх кніг Скарыны (перапісаных нават з яго прадмовамі) суседнічаюць з невядомымі ў яго выданні кнігамі. Гэта ануфрыеўскі кодэкс 1575—1577 гадоў з тэкстам поўнага Старога Запавету, падзеленым у XIX стагоддзі на дзве часткі, якія захоўваюцца зараз у Львове і Санкт-Пецярбургу, і недатаваны віленскі кодэкс (XVI ст.), з тэкстам Малодшых Прарокаў. Гэта спакушала розных даследчыкаў (А. Флароўскі, А. Алексютовіч, Я. Неміроўскі, Г. Галенчанка і інш.) засвоіць Скарыне пераклад усіх старазапаветных кніг у гэтых кодэксах. Яны дапускаюць, што гэта — пераклад Скарыны, які дайшоў да нас толькі ў рукапісных копіях. Але мова і пераклад старазапаветных кніг у гэтых кодэксах дэталёва нікім не даследаваліся. П. Уладзіміраў, які знаёміўся з імі, схіляўся да думкі, што яны перакладаліся з чэшскай версіі. Ва ўсялякім выпадку, стыль фрагментаў прадмоў да кніг Малодшых Прарокаў у ануфрыеўскім кодэксе яўна не скарынаўскі; напісаны ж яны старабеларускай мовай з моцным уплывам заходнеславянскага сінтаксісу. Хутчэй за ўсё, біблейныя кнігі Скарынавага выдання былі проста дапоўненыя пісарамі паводле іншых і больш позніх крыніц, ніяк не звязаных са Скарынам.

**2**

Склад выдадзеных Скарынам кніг, на першы погляд, здаецца бессістэмным; ва ўсялякім выпадку, ён недастатковы ні для хрысціянскага, ні для іўдзейскага канону Св. Пісання. Тым не менш, можна ўбачыць пэўную тэндэнцыю ў гэтых публікацыях — увагу Скарыны да іўдзейскага Св. Пісання. Пражскія выданні ахопліваюць асноўную частку іудзейскага канона: Закон (Torah, у Скарыны — Тгорах), Прарокі (Nebhi'im, якія складаюцца са Старэйшых і Малодшых Прарокаў), Пісанне (Kethubhim). З іх Скарына выдаў увесь Закон (Быцця, Выхад, Левіт, Лічбы, Другі Закон), усіх Старэйшых Прарокаў (Навіна, Суддзяў, Самуіла, Цароў), усе пяць мегілаў Пісання — т. зв. мегілот (Руф, Эклезіяст, Песня Песняў, Плач Ераміі, Эсфір), чатыры з астатніх сямі кніг Пісання (Псалтыр, Прыпавесці Саламонавыя, Іоў, прарок Данііл). Бракуе толькі Малодшых Прарокаў і трох кніг іўдзейскага Пісання. Гэта дазваляе меркаваць, што ў Скарыны быў план выдаць увесь Стары Запавет цалкам, аднак нейкія абставіны перашкодзілі выпусціць апошнюю серыю біблейных кніг.

Увага да іўдзейскага канона ў выдавецкай дзейнасці Скарыны не азначае, што ён быў іўдаістам ці жыдуючым: ён выпусціў тры кнігі (Юдзіф, Наймудрасці Саламона, Ісус Сірахаў) з дзесяці некананічных, якія хрысціянская традыцыя дадавала ў склад Св. Пісання і якіх няма ў іўдзейскім каноне, апрача таго, тытульныя назвы ўсіх кніг Скарына падае паводле хрысціянскай і, прынамсі, праваслаўна-славянскай традыцыі, таксама, як і парадак псалмоў; Псалтыр ён выдаў разам з 10 біблейскімі песнямі, у склад якіх уваходзіць і новазапаветны фрагмент.

Прычынай іўдаістычных зацікаўленняў Скарыны трэба, напэўна, лічыць філалагічны фундаменталізм, які з канца XV стагоддзя зрабіўся папулярным сярод еўрапейскіх гуманістаў. На гэты час як тэкст Св. Пісання (у выглядзе Вульгаты — г. зн. перакладнога тэксту), так і яго разуменне (інтэрпрэтацыя) сталі ўсё менш і менш задавальняць вучоных-гуманістаў, асабліва спрактыкаваных у веданні старажытных моў. Выйсце яны бачылі ў звяртанні да першакрыніц Св. Пісання, да першасных гучанняў і значэнняў біблейнага тэксту. Паколькі Стары Запавет быў створаны пераважна на старажытнаяўрэйскай мове, то пры яго выданні ці перакладзе хрысціянскія гуманісты галоўную ўвагу сталі надаваць яўрэйскай філалогіі. Тэкст хрысціянскага Старога Запавету яны пачалі суадносіць з іўдзейскім канонам; разуменне Старога Запавету стала ўяўляцца немагчымым без уліку старажытнаяўрэйскай традыцыі.

Пражская «Біблія» Скарыны якраз і адлюстроўвае цікавасць фундаменталісцкі настроенага хрысціяніна да яўрэйскай філалогіі. Паказальна, што Скарына пачынае выданне Св. Пісання не з Евангелля, як гэта было звычайна ў яго час, а са Старога Запавету. У сваіх прадмовах ён згадвае яўрэйскія назвы біблейных кніг, а таксама асобныя яўрэйскія імёны, тлумачыць іх этымалогію і падае нават цэлыя цытаты (у кірылічнай транслітарацыі) з яўрэйскага

тэксту. Аднак астатнія часткі іўдзейскага канона Св. Пісання (кнігі Ездры і Нееміі, Хронік (Параліпомена), а таксама кніга Малодшых Пракрокаў) у яго выданні невядомыя.

Праўда, згадкі самога Скарыны заахвочваюць думаць, быццам ён выдаў больш кніг, чым вядома сёння. На пачатку прадмовы да кнігі Плач Ераміі Скарына паведамляе, што пра біяграфію прарока ён *ширей написал есми во предословии своем на книги прочества его*. Множны лік кнігі прымушае меркаваць, што гуманіст выдаў асобна не толькі Прароцтвы Ераміі, але і Ліст Ераміі (звычайна, Плач, Ліст і Прароцтвы аб'ядноўваюць у адну кнігу Ераміі). Аднак не выключана, што гэтую згадку пра Ерамію Скарына зрабіў у разліку на будучую публікацыю ўсёй кнігі, якая так і не адбылася. Для прыкладу можна ўказаць на прадмову да ўсіх кніг Царстваў, дзе Скарына, пералічваючы розныя цыклы біблейных кніг, піша: *о сих всех книгах, мною на руський язык ново выложеных и о именах их ширей в предословиях от мене на кожныи родельне положеных, выписано знойдеши*. Падобна да таго і ў прадмове *во всю Бівлію* ён пералічвае склад усіх кніг Бібліі, зазначаючы, што *о сих книгах всея Бивлии ... розделы вократце положих*. У абодвух выпадках Скарына як пра свае гаворыць і пра тыя біблейныя кнігі, якія на той час ён яшчэ не выдаў. Відавочна, што такія заявы ён рабіў, разлічваючы на іх выданне ў будучым. Напрыканцы прадмовы да віленскага Саборніка (1522) беларускі гуманіст, кажучы пра раздзелы выдання, адзначае: *главы же, яко и во всех книгах Бивліи, Ветхаго и Новаго закона, мною на руськи язык выложеных, ... розделне узриши*. У гэтым выпадку таксама трэба дапускаць, што выдавец меў на ўвазе будучыя ці магчымыя публікацыі. Таму ўласным спасылкам Скарыны на самога сябе давяраць не выпадае, хаця яны ясна сведчаць, што ў яго былі планы выдаць усю Біблію поўнасцю.

Сустракаліся Скарынавы выданні нават у польскіх кляштарах і касцёлах. На гэтай падставе не выпадае казаць аб канфесійнай выключнасці кніг Скарыны

**3**

Няма згоды сярод даследчыкаў пра прыроду біблейнага тэксту ў выданнях Скарыны. Некаторыя даследчыкі трымаюцца думкі пра высокі філалагічны ўзровень Скарынавых публікацый, іх вялікую тэксталагічную грунтоўнасць, выкарыстанне арыгіналаў ды перакладаў на розных старажытных мовах. Аднак гэта сумнеўна. Варта ўлічваць, што біблейныя тэксты Скарыны не адрасаваліся інтэлектуалам. Мэтай яго біблейных публікацый была асвета як мага больш шырокіх колаў свайго народа *(руси)*, а не тэалагічныя ці герменеўтычныя пошукі, цікавыя высокаадукаваным царкоўнікам і гуманістам. Таму наўрад ці скарынаўскія публікацыі патрабавалі нейкай асабліва складанай філалагічнай працы. Хутчэй за ўсё яны зазнавалі толькі сціплую тэксталагічную падрыхтоўку падчас выдання. Адпаведна, і самастойнасць Скарыны як перакладчыка выклікае вялікі сумнеў. Напрыклад, сам характар яго віленскай публікацыі робіць бессэнсоўным пераклад малітоўніка («Малой падарожнай кніжкі»), а таксама Апостала і Псалтыра, добра вядомых ў літургічнай практыцы. Папулярныя мэты пражскіх выданняў таксама ставяць пад пытанне патрэбу ў асобным перакладзе старазапаветных кніг, асабліва тых, што існавалі ў царкоўнаславянскіх перакладах. Шэраг старазапаветных тэкстаў, якія выдаваў Скарына ў Празе, ужываюцца і ў літургіі. Так, трэцяя частка кніг Быцця і Прытчаў Саламонавых у складзе царкоўнаславянскага Парымійніка чытаецца ў час Вялікага пасту. І апрача таго, амаль усе выдадзеныя ў Празе кнігі Старога Запавету ў часы Скарыны ўжо існавалі ў царкоўнаславянскім перакладзе (іншая справа, ці быў той цалкам даступны яму). Фактычна, Скарына толькі рэдагаваў існы царкоўнаславянскі тэкст, папраўляючы яго паводле чэшскага перакладу, але імкнуўся па магчымасці мінімізаваць змены ў тэксце, асабліва віленскіх выданняў. Гэта была звычайная практыка ў галіне еўрапейскіх перакладаў Св. Пісання, і яна ніколькі не прыніжае працы Скарыны і яе высокага прызначэння. Рэдагаванне існага перакладу было абумоўлена імкненнем выдаўца захаваць шырокавядомыя чытанні біблейнага тэксту, што абяцала прыманне і выкарыстанне друкаў на яго Радзіме.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне і пра характар перакладу Скарыны — тут таксама не існуе адзінагалосся паміж даследчыкамі. Звычайна нелінгвісты, жадаючы надаць большую самастойнасць (на іх думку) дзейнасці Скарыны, лічаць перакладам усе яго выданні, тады як лінгвісты выказваюцца больш абачліва. Біблейныя публікацыі Скарыны яны лічаць у лепшым выпадку толькі частковым перакладам, вызначаючы пражскія выданні як перакладныя, а віленскія як неперакладныя, да апошніх таксама далучаецца і пражскі Псалтыр. Наконт гэтых выданняў прызнаецца, што ў іх Скарына абмежаваўся толькі моўнай «адаптацыяй кніжнаславянскага тэксту» (А. І. Жураўскі). Насамрэч, крытэрыі, на якіх грунтуюцца лінгвісты пры падзеле выданняў Скарыны на перакладныя і неперакладныя, паказваюць толькі большую ці меншую прысутнасць царкоўнаславянізмаў у біблейных тэкстах Скарыны, бадай, не больш за тое. Таму казаць пра беларускую мову ў яго пражскіх ці віленскіх біблейных публікацыях — перабольшанне. Яе трэба шукаць якраз у прадмовах Скарыны да біблейных друкаў.

**4**

Важную асаблівасць Скарынавага кнігадруку складае парцэляцыя пры выданні Бібліі, г. зн. публікацыя яе асобнымі выпускамі (звычайна па адной біблейскай кнізе). Св. Пісанне ён выклаў як серыю маляўнічых кніжак, кожная з якіх мела асобную тытульную старонку і ўласныя прадмову ды пасляслоўе. Пры гэтым Скарына трымаўся адзіных прынцыпаў падачы тэксту (фармат, паласа набору, шрыфт, мастацкае афармленне) і тым самым прадугледжваў магчымасць звядзення ўсіх выданняў пад адну вокладку. Дзеля гэтага ён выпусціў агульную прадмову да ўсёй Бібліі з тытульным лістом «Бівлія руська».

Парцэляцыя Бібліі — беспрэцэдэнтная з'ява для той эпохі, ва ўсялякім выпадку, у славянскім свеце. На парцэляцыю Скарыну прымусілі пайсці хутчэй за ўсё меркантыльныя меркаванні: з аднаго боку, выданне асобных выпускаў Бібліі было лягчэй прафінансаваць, а з другога боку, гэта палягчала пакупнікам набыццё кніг (друкаваныя кнігі каштавалі зусім нятанна), а, значыцца, і збыт выданняў, што азначала хуткі зварот укладзеных сродкаў. Такая навацыя спрыяла лепшай папулярызацыі Св. Пісання, якое рабілася дасяжным для большай колькасці чытачоў.

Відавочна, парцэлююючы Біблію, выдавец разлічваў, што ахвочы чытач пакрысе набудзе ўсе ці большасць выпускаў пражскай «Бівліі» і звядзе іх пад адну вокладку, у адзін фаліянт. Сапраўды, даследчыкамі адшуканыя такія зводы (XVI ці XVII стст.) Скарынавых друкаў з Прагі. Аднак усе яны паходзяць з Захаду — былі зроблены прадстаўнікамі заходняй культуры. Ва ўсходніх славян ніводнага такога зводу не адзначана. З гэтага можна зрабіць выснову, што аўдыторыя на яго Радзіме проста не заўважыла ці праігнаравала такую магчымасць, або была нагэтульні незаможнай, што была не ў стане набыць некалькі розных пражскіх выпускаў.

**5**

Уяўленне пра аўдыторыю, якой Скарына адрасаваў свае друкі, часткова могуць даць правіненцыі (запісы на маргінэсе) яго кніг. Такія запісы даўней рабіліся ўладальнікамі з мэтай пазначыць прыналежнасць кнігі і засцерагчы яе ад раскрадання. Правіненцыі Скарынавых друкаў сведчаць, што яго выданні распаўсюджваліся ў асноўным на Беларусі, Украіне і Масковіі; асноўнымі спажыўцамі яго выданняў былі праваслаўныя колы гэтых краін. Галоўнымі карыстальнікамі выданняў Скарыны станавіліся праваслаўныя мяшчане беларускіх і ўкраінскіх гарадоў; трапляліся Скарынавы друкі і ў бібліятэках магнатаў Рэчы Паспалітай; знаходзіліся яны таксама ў прыватных зборах духоўных асоб, у буйных царквах і манастырскіх бібліятэках, як праваслаўных, так пазней і уніяцкіх, а таксама ў зборах стараабрадцаў. Сустракаліся Скарынавы выданні нават у польскіх кляштарах і касцёлах. На гэтай падставе не выпадае казаць аб канфесійнай выключнасці яго кніг. Рознымі шляхамі яны траплялі ў Польшчу, Чэхію, Усходнюю Прусію і нават Данію ды Паўднёвую Германію. Ужо ў XVI стагоддзі кнігі Скарыны былі вядомыя асобным царкоўным і свецкім інтэлектуалам Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Усе асноўныя канфесіі і рэлігійныя плыні Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў той ці іншай ступені пазнаёміліся з выданнямі

Спробы адшукаць ў Скарыны сацыяльна-класавыя адрасацыі здаюцца ўсё ж такі вульгарызатарствам. Не менш прыкра выглядаюць і спробы некаторых сучасных аўтараў прадставіць Скарыну клерыкальным пісьменнікам праваслаўнага кшталту

беларускага асветніка. Праўда, для заходніх плыняў гэта была хутчэй цікаўнасць да экзотыкі, тады як для праваслаўных спажыўцоў яго выданні доўга захоўвалі сваю актуальнасць. Пра пэўную папулярнасць яго кніг сярод чытачоў гаворыць і спісы, якія рабіліся са Скарынавых друкаў (стара- і новазапаветных) у XVI—XVII стагоддзях на Беларусі, Украіне і нават у Масковіі. Праўда, такія спісы нярэдка былі пазбаўлены імя Скарыны ці згадкі пра факт выдання ім кніг.

Цікава, што сам Скарына нідзе не гаворыць пра чытачоў, якім адрасуе выдадзеныя біблейныя кнігі, у канфесійных тэрмінах. У лепшым выпадку ён карыстаецца экуменічнай, кафалічнай тэрміналогіяй *(братія моя, люд посполитый)*, а часцей — лінгваэтнічнай *(русь, люд руського языка)* ці сацыяграфічнай *(люди простые* ці *посполитые)*. Спробы адшукаць ў Скарыны сацыяльна-класавыя адрасацыі, што рабілася асобнымі савецкімі аўтарамі ў XX стагоддзі, здаюцца ўсё ж такі вульгарызатарствам. Не менш прыкра выглядаюць і спробы некаторых сучасных аўтараў прадставіць Скарыну клерыкальным пісьменнікам праваслаўнага кшталту. Як тыя, так і гэтыя высілкі маюць кан'юнктурны і агістарычны характар. Скарына бачыў сваю аўдыторыю вельмі шырока: у лінгваэтнічным плане ён адрасаваў свае кнігі ледзь не ўсім ўсходнім славянам, а ў сацыяграфічным — усім пісьменным людзям, не выключаючы ніводнага сацыяльнага шыхту.

Тут важна падкрэсліць, што свае кнігі Скарына адрасаваў усё ж пэўнай мэтавай аўдыторыі — свецкім асобам, а не царкоўнікам. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў і шматлікіх паслядоўнікаў, якія выпускалі пераважна літургічныя тэксты, Скарына, напэўна, упершыню сярод кірылічных друкаў выдаў сакральны тэкст як нелітургічны і адрасаваў яго свецкаму чытачу. Таму перад біблейнымі кнігамі ён змясціў ясныя і займальныя прадмовы папулярнага характару, у якіх спрабаваў зрабіць даступнымі для звычайнага чытача складаныя сюжэты, вобразы і экспрэсію Старога Запавету. Але разам з гэтым беларускі гуманіст у сваіх прадмовах папулярызаваў некаторыя веды тагачаснай гуманітарнай навукі. У сваіх тлумачэннях Св. Пісання ён зыходзіў з далягляду менавіта свецкіх асоб, што ў першую чаргу мелі патрэбу ў маральным і інтэлектуальным выхаванні.

Цікава, што рэчышча папулярызацыі зусім не адпавядала практыцы перакладаў Ераніма, паслядоўнікам якога Скарына сябе лічыў і які адрасаваў свой пераклад багасловам. Але затое папулярызацыя добра ўпісвалася ў дэмакратычныя кірункі надыходзячай Рэфармацыі. Праўда, гэта зусім не сведчыць пра тое, што Скарына прытрымліваўся пратэстанцкіх поглядаў. Яго сучаснік Мартын Лютар трымаўся якраз элітарнай практыкі падачы Св. Пісання чытачу.

**6**

Дзеля дасягнення сваіх мэт па папулярызацыі Св. Пісання Скарына пайшоў на змены і навацыі не толькі ў змесце і мове сваіх выданняў, але таксама ў іх афармленні. Таму яго друкі сталі сапраўды наватарскімі — перш за ўсё ў сваім знешнім абліччы. Знешні выгляд кнігі — ілюстрацыі, арнаментальнае аздабленне, шрыфт (як, наогул, графіка пісьменнасці) — заўжды мае пэўную сацыякультурную функцыю, адносіць тэкст да пэўнай культурнай, моўнай ці рэлігійнай плыні. Выданні Францішка Скарыны, выкананыя ў Празе і Вільне, займаюць асобнае месца ў сацыякультурнай прасторы сваёй Айчыны.

Як даўно было адзначана даследчыкамі, маляўнічае афармленне Скарынавых выданняў было падпарадкавана папулярным мэтам (В. Шматаў). І хаця ілюстрацыя рабіла кошт выдання больш высокім, аднак дасягнутая дзякуючы ёй прывабнасць і займальнасць кнігі спрыяла потым яе лепшаму продажу. Ілюстрацыі ў пражскай «Біўліі» ўжываліся на тытульных аркушах, і толькі ў кнігах 3-й Царстваў, Выхад і Левіт (прычым у апошняй — паўтарэнне ранейшых ілюстрацый, акрамя тытульнай) маюцца ілюстрацыі і на старонках. У

гэтых выпадках гравюры, як пісаў сам Скарына ў прадмовах да кнігі Выхад і 3-й Царстваў, служылі дапаможнікам чытачу, «каб лепей зразумець», тады як у астатніх выпадках, змешчаныя на вокладцы, яны надавалі прывабнасць выданням. Як адзначаюць спецыялісты, выяўленчая мова Скарыны — простая і даходлівая, без сюжэтных складанасцей (В. Шматаў).

Не была стандартнай для таго часу і публікацыя Скарынам свайго партрэта (у канцы кнігі Ісуса Сірахава і 4-й Царстваў), хаця падобныя прэцэдэнты на той час ужо меліся ў еўрапейскім друку.

Але па меншай меры экзатычна выглядалі для ўсходнеславянскага чытача (у большасці сваёй праваслаўнага) ілюстрацыі пражскіх выданняў Скарыны. Дрэварыты пражскіх выданняў былі зроблены, відаць, майстрамі ў Чэхіі і Германіі, але ў любым выпадку — пад уплывам нямецкага мастацтва. Ілюстрацыі паказвалі заходнееўрапейскі (а значыць, і каталіцкі) свет. У якасці фону на ілюстрацыях часам выступае заходнееўрапейскі сярэднявечны горад ці замак з каменнымі мурамі, звычайна гатычнай архітэктуры (касцёлы нават з аркбутанамі), радзей раманскай (Плач Ераміі). Унутраныя інтэр'еры памяшканняў маюць прафіляваныя нэрвюры і стрэльчатыя вокны, радзей — раманскія аркі (ілюстрацыя, вядомая сярод даследчыкаў як «Аарон»). Вопратка персанажаў выяўляе сярэднявечныя сялянскія, мяшчанскія ці рыцарскія строі, сустракаюцца нават біскупскія мітры (кніга 1-я Царстваў). Віленскія ілюстрацыі таксама маюць каталіцкі характар. Шэраг ілюстрацый у віленскай «Малой падарожнай кніжцы», як было высветлена даследчыкамі, непасрэдна ўзяты ці ўзыходзяць да «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля (Нюрнберг, 1493), выдадзенай А. Кобергерам.

Гэта ўсё яшчэ не сведчыць пра свядомае пераймание заходнееўрапейскіх традыцый. Справа ў тым, што дрэварыты Скарыны былі толькі часткова выкананы мясцовымі заходнееўрапейскімі майстрамі, але ў большай частцы закупаліся ў іншых друкарнях, пасля таго, як яны там ужо былі ўжыты ў іншых друках. Гандаль спажытымі дрэварытамі быў звычайнай практыкай у раннюю эпоху кнігадрукавання, калі выдавец быў абмежаваны ў сродках, а сацыякультурны змест малюнка мала каго цікавіў (ці не адыгрываў істотнай ролі). Скарына не задаволіўся ілюстрацыяй, але і ў тэкставых аздобах (застаўкі, ініцыялы), і ў малюнку шрыфту, і ў прапорцыях старонкі пайшоў за чужыннымі ўзорамі, нечуванымі яшчэ на яго Радзіме.

Не толькі ілюстрацыі, але і шрыфт Скарынавых выданняў кантрастуе з традыцыямі яго Айчыны. Усе спецыялісты адзначаюць заходні тып шрыфту Скарыны, выкананы пад уздзеяннем лацінскага шрыфту і, у прыватнасці, рэнесанснай антыквы. Антыкву ў Еўропе на той час ужывалі для свецкай літаратуры, тады як канфесійныя творы набіраліся рознымі відамі гатычнага шрыфту. Цікава, што расійская грамадзянка, уведзеная ў 1708 годзе Пятром I і блізкая паводле малюнка да Скарынавага шрыфту, выкарыстоўвалася для набору толькі свецкіх тэкстаў. Праўда, асобныя літары блізкія да паўустава старабеларускіх і царкоўнаславянскіх помнікаў, і таму даследчыкі мяркуюць, што Скарына браў свае ўзоры з беларускіх грамат і рукапісаў. Але ў цэлым шрыфт Скарыны значна больш блізкі да выявы і прапорцый шрыфтоў у Заходняй Еўропе, чым да рукапісных почыркаў на яго Радзіме. Хаця прынята казаць пра арыгінальнасць яго шрыфту, даўно была адзначана блізкасць Скарынавага шрыфту да басанскай кірыліцы, якой у XVI стагоддзі ў Венецыі друкаваліся кнігі для католікоў Босніі і Далмацыі (першае выданне выпусціў Джорджа Русконі, 1512). Таксама даўно выказана меркаванне, што ўзорам для грамадзянскага шрыфту Пятра I паслужыў менавіта шрыфт Скарыны, які мог быць скарыстаны публікатарам першых расійскіх тэкстаў у Галандыі Іллёй Капіевічам, беларусам па паходжанні.

**7**

Нягледзячы на шчыры патрыятызм Скарыны і патрыятычныя мэты яго публікацый, бліжэйшыя нашчадкі адрынулі Скарынава аблічча кнігі, якая сваім шрыфтом, аздабленнем і кампазіцыяй тэксту імкнулася ўвесці заходнееўрапейскія стандарты кнігадрукавання. І хаця брацкія друкарні на Беларусі ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў звярталіся да арнаментыкі Скарыны, а віленскія выданні Мсціслаўца цытавалі асобныя яго пасажы, але больш адметных уплываў Скарынавых друкаў не заўважана. Нават каталіцкія і

уніяцкія выданні, якія вызначаліся арыентацыяй на заходнееўрапейскае друкарства, ігнаравалі стыль Скарыны. Афармленне яго выданняў, як заключылі даследчыкі, ішло насуперак усім мясцовым мастацка-прыкладным традыцыям.

Тым не менш адна канфесія ўзяла сабе за ўзор па меншай меры шрыфт выданняў Скарыны. Гэта былі беларускія пратэстанты 2-й паловы XVI стагоддзя: друкарня Мацея Кавячынскага ў Нясвіжы, якая ў 1562 годзе выдала катэхізіс і невялікі трактат Сымона Буднага, і невядомая друкарня Васіля Цяпінскага, які ў 1570-х гадах выдаў уласны пераклад Евангелля. Верагодна, на гэтай падставе выданні Скарыны пазней лічыліся некаторымі дзеячамі пратэстанцкімі. Так, маскоўскі эмігрант Андрэй Курбскі ў канцы XVI стагоддзя сцвярджаў, што «пераклад Лютаравай Бібліі згаджаецца ва ўсім са Скарынавай Бібліяй», а віленскі уніят Антон Сялява на пачатку XVII стагоддзя называў Скарыну «ерэтыком гусіцкім». Аднак падобныя меркаванні маглі грунтавацца не столькі на змесце выдавецкай працы Скарыны, сколькі на знешнім выглядзе яго выданняў і іх чэшскім паходжанні.

Ёсць меркаванне, што Скарынавы шрыфт пераймала і славянская друкарня барона Ханса Унгнада ва Ураху (Вюртэмберг), пратэстанцкага эмігранта са Штырыі. Гэтая друкарня выдала ў 1561—1564 гадах лацінкай, кірыліцай і глаголіцай каля дзясятка кніг (катэхізісы, Новы Запавет, буквары і інш.) на славенскай і харвацкай мовах; кнігі былі напісаны ці перакладзены славенцам Прымажам Трубарам і харватамі Стафанам Конзулам Істранінам і Антонам Далматам (Далматынам). Аднак гэта памылковая высНова, абумоўленая генетычным падабенствам кірыліцы Скарыны і урахскага кола пратэстантаў. На самай справе ўзорам для ўрахскай друкарні служылі кірылічныя і глагалічныя выданні Венецыі.

Аднак цікавасць да «рутэнскіх» літар сапраўды адзначаная ў славенскіх і харвацкіх пратэстантаў. Вядома, што Прымаж Трубар, перш чым узяцца за свае выданні, адшукваў «венецыянскія і рускія выданні і літары», а таксама зносіўся з князем Мікалаем Радзівілам, які абяцаў выслаць яму «рускую друкаваную Біблію». Але ў практычным плане ім было прасцей звярнуцца да бліжэйшай (тэрытарыяльна і культурна) крыніцы — Венецыі, чым арыентавацца на графіку чужыннага выдання, рызыкуючы быць непрынятымі сваімі чытачамі на Радзіме. У прадмове да першай часткі кірылічнага Новага Запавета (Цюбінген, 1562) Стафан Конзул Істранін і Антон Далмата пісалі, што яны трымаліся першых сербскіх друкаў Венецыі. Пазней (з канца XVI ст.) і рыма-каталіцкая Congregatio de propaganda fide, якая выдала шэраг кніг кірыліцай і значна больш — глаголіцай, графіку сваіх кірылічных шрыфтоў брала з венецыянскіх крыніц.

У славенскай граматыцы пратэстанта Адама Бохарыча (Вітэнбэрг, 1584) называюцца тры славянскія пісьмовыя сістэмы: «арфаграфія кірыліцы», «арфаграфія рутэнікі» і «арфаграфія глаголіцы». Шрыфт, які Бохарыч выкарыстоўвае дзеля ілюстрацыі кожнай з сістэм, для «кірыліцы» адлюстроўвае царкоўнаславянскае пісьмо, а для «рутэнікі» — шрыфт, як мяркуюць, басанскіх і Скарынавых выданняў. Аднак на самай справе Бохарычавы прыклады для «рутэнікі», як і для глаголіцы, адлюстроўваюць шрыфт менавіта ўрахскіх друкаў.

Падводзячы высновы разгляду кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны, трэба асабліва падкрэсліць яго асветніцкія і духоўныя памкненні. Выбар біблейных кніг для публікацыі адлюстроўвае светапогляд беларускага асветніка. Выданне напачатку Псалтыра, а затым Кніг Наймудрасці з усёй пэўнасцю сведчыць аб асветніцкіх мэтах Скарыны. Выпуск наступных кніг Старога Запавету паказвае, што беларускі асветнік прызнаваў і разумеў вартасць і непераходнае значэнне іўдзейскага канона для хрысціянскага чытача. Аднак не меншае значэнне для характарыстыкі светапогляду Скарыны мае знешняе аблічча яго выданняў. І ў гэтым плане яны даюць яскравы прыклад увядзення чужынных узораў у айчынную традыцыю. Паўстае пытанне, ці магло тагачаснае праваслаўнае асяроддзе Беларусі прыняць нестандартную Скарынаву кнігу? Некаторыя факты даюць падставы сцвярджаць, што навацыі Скарыны былі адхілены ці праігнараваны. Выключэннем сталі славянскія пратэстанты 2-й паловы XVI стагоддзя, аднак іх дзейнасць была даволі слабай, каб замацаваць узніклую традыцыю. Тым не менш духоўны, асветніцкі імпульс Скарыны адчуваўся на ўсходнеславянскіх землях яшчэ некалькі стагоддзяў пасля спынення ім сваёй дзейнасці.

## Тытульны аркуш — «фасад» кнігі

Ад самага пачатку кнігадрукавання тытульны аркуш лічыцца своеасаблівым «фасадам» кнігі. Ва ўсе часы ён выконвае не толькі функцыянальныя задачы — паведаміць асноўныя звесткі (аўтар, назва кнігі, месца выдання), але і стварае ўнікальную ўверцюру да твора. Тытул уяўляе душу цэлага. З гэтага пункту гледжання па тытуле, лепш нават, чым па афармленні тэксту, можна меркаваць пра змест эпохі.

Продкам сучаснага тытульнага аркуша з'яўляецца калафон (грэч. «канцоўка», «апошні радок») — інфармацыя пра аўтара і перапісчыка, час і месца стварэння твора, змешчаная на апошняй старонцы рукапіснай або друкаванай старадаўняй кнігі. Першыя калафоны былі знойдзены яшчэ на шумерскіх клінапісных таблічках, ёсць варыянты калафонаў у старадаўніх кітайскіх скрутках, персідскіх мініяцюрах і насценных роспісах. Для рукапісных фаліянтаў размяшчэнне звестак на апошняй старонцы было лагічным: перапісчыкі стваралі кнігу цягам некалькіх гадоў, часам працу аднаго чалавека завяршаў другі, таму яны спакойна рабілі выданне, а ў канцы дадавалі праўдзівыя «выхадныя звесткі». Назва твора (звычайна даволі вялікая) і імя аўтара змяшчаліся і ў пачатку кнігі, але ніяк не аддзяляліся ад асноўнага тэксту.

Першыя кнігі для шматлікіх людзей былі незразумелай навінкай, таму вельмі часта тытульны аркуш выконваў рэкламную функцыю: такія элементы мастацкай аздобы, як тагачасны лагатып — выдавецкая марка (першая — яшчэ ў інкунабулах 1457 года), ксілаграфічныя рамкі (першая — у 1476 годзе), вялікія гравюры, незвычайнае геаметрычнае размяшчэнне радкоў прываблівалі патэнцыйнага чытача • • •

*Ксенія Тарасевіч*


КАТИХИЅІСЪ
ТО ЕСТЪ,
НАУКА СТАРОДАВНАЯ ХРІСТІАН-
СКАЯ Ѡ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРО-
СТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУ-
СКОГО, ВЪ ПЫТАНЯХЪ Ѡ-
КАЗѢХЪ СОБРАНА.
Ѡ ПЕРЪВАГО СВЕТОГО АПОСТОЛА
ПЕТРА ПОСЛАНІА ЗАЧАЛО

Катэхізіс Сымона Буднага. 1562 год.



Царица Савва беседуе с царем Саломоном

Еклесиастесъ или Соборникъ премудряго царя Саломона. Зуполне выложеный на рускый языкъ, докторомъ Францискомъ Скорининымъ сыномъ с Полоцька



Кніга Эклезіяста. 02.01.1518.



ГРАММАТІКА
СЛОВЕНСКА
Съвершенна искуства осми частій слова, и иных нуждных.
Новω съставлена А, Z.
ВЪ ВИЛНИ
Вдрукарни Братской.
Ро бго. аф҃чѕ. А ѿ създанія міра, ѕрг.
Мц, Ферала в.

Лаўрэнцій Зізаній. «Граматыка».1596 год.

## Цытатнік, або Тое, што надрукавана даўно, але варта чытаць сёння, бо яно не менш актуальнае і патрэбнае

*Хто шмат есць і шмат п'е, той не доўга будзе жыць на свеце, бо страўнік, размаітымі пакармамі і напоямі напоўнены, не можа таго стравіць, распіраецца і баліць, потым боль ад страўніка па ўсім целе разыходзіцца і Душу з цела выганяе. Тыя ж людзі, якія мала ядуць і п'юць, тыя доўга жывуць на свеце. Людзі бедныя, якія мала зямных каштоўнасцей маюць, доўга жывуць на свеце. Заможныя ж людзі, якія шмат багацця маюць, не могуць доўга на свеце жыць, бо яны бавяць час на вясёлых банкетах, ядуць шмат, п'юць і ўпіваюцца.*

*Іанікі Галятоўскі (пач. XVII ст. — 1688).*
*Казанне ў нядзелю 25 па Сыходжанні Святога Духа «Пра перавагу беднага жыцця над багатым»*

*Не ўмець чытаць з разуменнем усёй глыбіні — найвялікшае зло для кожнага! Сапраўды, як Катон піша: «Чытаць і не разумець прачытанага — ёсць пагарда і смех». Каб не даваць падставаў для такіх высноваў, возьмемся моцна за навуку і адзін другога ў дабрадзейнай працы будзем пераўзыходзіць.*

*Лаўрэнцій Зізаній*
*(каля 60г. XVI ст. — 1634).*
*Пасланне навучэнцам*

*Усіх пабожных дзеля Хрыста просім, каб нічога не мелі супроць тых, каторыя нас шчыплюць, знявагамі пераследуюць. Каб не жадалі ім… зыходжання полымя з неба, пазбаўлення маёмасці і пасадаў. У адпаведнасці з Словам Божым і Хрыстовай навукай зычце ім усялякага дабра. Разам з намі прасіце за іх пана Бога, каб апамяталіся і былі выратаваныя, каб не пазбавілі сябе, з іх вартасцямі і славай, вялікай Божай ласкі.*

*Васіль Цяпінскі (каля 1540—1603).*
*Прадмова*

*Як адзін сенатар рымскі другога караў за тое, што права Айчызны сваёй не ведаў, гэтак і кожны наш абываталь заслугоўвае прачуханкі за тое, што вольнасцю сваёй выхваляецца, а законаў сваіх умець і разумець не хоча, тых законаў, якія вольнасць яго дазваляюць захоўваць.*

*Леў Сапега (1557—1633).*
*Зварот да ўсіх станаў*
*Вялікага княства Літоўскага*

*Як усе ўласцівасці цела ў сукупнасці дапамагаюць чалавеку, гэтак і кожны чалавек павінен дадзены яму талент скарыстоўваць дзеля памнажэння агульнага дабра. Каб шанаваў кожнага і любіў, бо гэта найвялікшы Божы дарунак, без якога нічога не здзейсніцца.*

*Францыск Скарына*
*(канец 80-х гг. XV ст. — каля 1551).*
*Сказанне да «Першага паслання святога апостала Паўла да карынфянаў»*

*…хіба дзевам не трэба сарамаціцца і хаваць сваю аздобу, ціхмяна хадзіць, благачынна мовіць. … хіба дзевам можна скакаць пасярод гасціны, пасярод п'яных людзей, пасярод распуснікаў бегаць бессаромна.*

*Грыгоры Цамблак (1364—1419).*
*Слова на адсячэнне галавы святога і слаўнага прарока і папярэдніка Хрысціцеля Іаана*

**Ірына Клышэўская**

# Формула шчасця

**1.**

Верабей Чык прачнуўся пасярод ночы ад страшэннага грукату.

— Шт-то гэта? Гром? — спалохана цыркнуў братка Чубчык.

— Шт-то ты! Якая навальніца пасярод зімы?

Тут ірванула зусім блізка, і нейкі асколак ударыўся ў іх дах.

— Страляюць! Узрываюць! — перапалохалася сарока.

— Крах! Вайна! — падхапіла яе сяброўка.

Зноў прагучаў залп. Насельнікі гарышча замерлі і прыслухаліся.

— Ура! — пачулася звонку.

— Шт-то гэта? Ужо перамога? — з надзеяй цыркнуў Чуня.

— Непадобна, — пракурлыкаў голуб Гуль і на ўсялякі выпадак схаваўся за драўлянай бэлькай. Удалечыні зноў грымнула.

— Ура! З Новым годам! — закрычалі на вуліцы людзі.

— Што-йта я! — ляпнуў сябе ў лоб верабей Штойс. — Як я мог забыцца! Гэта ж Новы год!

— Канешне, Новы год, — закурлыкалі галубы, супакоіўшыся.

— Усё добра. Гэта людзі адзначаюць Новы год. Спіце, мае птушачкі, — працырыкала вераб'іха Рычы.

Але Чык не мог заснуць. Яго разбірала цікаўнасць. Ён нарадзіўся ў канцы лета, і канешне, ніколі не бачыў Новы год. Недзе побач прагрымела, і неба з іх боку ярка асвяцілася. Чык паспяшаўся да акна. Хутка данёсся жудасны свіст, пасля воплеск, у небе расцвіла гіганцкая іскрыстая кветка.

— Цудоўна! Цудоўна! — крычаў ён, гледзячы на феерверк.

— Чык, пара спаць! Чу-чуеш? — паклікала яго вераб'іха-маці.

— Чую, чую. Яшчэ трошкі!

— З Новым годам! З Новым шчасцем! — шумна віншавалі адзін аднаго людзі.

— Чы-чы-чы! — ціха паўтараў пра сябе Чык.

У яго замерзлі лапкі, і дзюбка пачала нагадваць лядзяш, але ён не мог адарвацца ад чароўнага відовішча. Толькі калі людзі разышліся па хатах, і ўсё навокал сціхла, верабейчык вярнуўся ў нагрэтае гняздзечка.

— Мамачка, гэта цудоўнае свята, праўда?

— Так, так.

— З Новым годам! — паўтарыў Чык толькі што вывучанае вітанне людзей.

— Спі, Чык, спі, маленькі!

— З Новым шчасцем!

**2.**

Чык прачнуўся раней за ўсіх птушак. Яму не цярпелася ўбачыць, якое яно — новае шчасце. Трэба сказаць, што Чык быў не толькі цікаўным, але і вельмі ўважлівым верабейчыкам. У іх вераб'інай сям'і часта гулялі ў няхітрую гульню «Знайдзі пяць адрозненняў». Кожную раніцу Чык з радасцю знаходзіў вакол шчаслівыя адрозненні. І сёння ён намерваўся знайсці пяць па пяць па пяць адрозненняў — бо ноччу ж быў Новы год!

— Новы год, Новы год! — весела працырыкаў Чык, падлятаючы да акенца гарышча. Ён сеў на самы край і вызірнуў.

— З Новым годам! — звонка цырыкнуў Чык.

Глухая цішыня праглынула вітанне.

— З новым шч-часцем… — упалым голасам завяршыў верабейчык.

Ён уважліва разглядаў ціхія вулкі. Узіраўся ў цёмныя вачніцы хат. Сонная цішыня. Нават брэху сабак не чуваць. Нешта падказала верабейчыку, што ўсё шумнае, яркае, вясёлае «шчасце» прайшло

разам з навагодняй ноччу. І асабіста яго, Чыка, чакаюць звычайныя вераб'іныя будні. Як заўсёды ранкам, хацелася есці, і ён нецярпліва чакаў вяртання бацькі. Нарэшце Штойс уляцеў на гарышча, прынёсшы на крылах свежасць марознага ранку.

— Ну шт-то? — з надзеяй папытала вераб'іха.

— Што-йта пуста ўсюды. Людзі будуць доўга спаць.

— Разумею, — пакорліва кіўнула Рычы.

— А сабачыя міскі? — нагадаў Чык.

— Пустыя.

— А кантэйнеры?

— Ты ж ведаеш, усё смецце вывезлі перад Новым годам.

— А кармушка бабы Веры?

— Пустая. Відаць, старэнькая ў госці паехала.

— Шкада.

Верабейчыкі сумна ўздыхнулі.

— Што-йта дзюбкі павесілі? Выйсце ёсць! — бадзёра цырыкнуў Штойс.

— Шт-то-што-што?

— Цудоўны сняданак для цуда-дзетак пройдзе… — урачыста пачаў тата Штойс.

— Дзе-дзе? — загаманілі птушаняты, падскокваючы ад нецярпення.

— Дзе? У заапарку, на старой рынкавай плошчы!

— Што ты, Штойс! Гэта так далёка! — спужалася мама Рычы. — Гэта так небяспечна!

— Ура, чур-чура! Чурыкі я першы за татам лячу!

— Не, я!

— Што-йта шумна! — Штойс строга зірнуў на птушанят. І тыя адразу прыціхлі. — Правядзём інстр-рукт-таж. Што трэба зрабіць, каб не трапіць у пашчу льва або тыгра?

— Але мы яшчэ ніколі не былі ў іх у гасцях.

— Галоўнае правіла — трэба глядзець у два вокі!

Штойс працягваў вучыць птушанят, а Чык з захапленнем глядзеў на яго. Вось які ў яго бацька — лепшы ў свеце верабей. На кожнае пытанне ведае адказ. І галоўнае — заўсёды знойдзе выйсце.

**3.**

На другі дзень яны зноў балявалі ў заапарку. Пасля шчодрай трапезы зграйка вераб'ёў пасела на правады. Дарослыя вераб'і ціха перагаворваліся, малыя гулялі ў квача, каб не змерзнуць. А Чык цікаўна разглядаў драўляныя аднапавярховыя дамы ўздоўж дарогі. За імі высілася школа. Там, кажуць, можна пажывіцца, але дзеці цяпер на канікулах, а значыць, гэты аб'ект пакуль цікавасці не ўяўляе. Іншая справа — крама. Чык краем вока назіраў, як дзверы крамы адчыняліся, упускаючы і выпускаючы людзей.

— Так, відаць, што Новы год прайшоў, — прагаварыла сарока, усаджваючыся на ліхтарны слуп.

— Чаму? — павярнуўся да яе Чык.

— Глядзі: пакеты амаль пустыя. Дакладная прыкмета.

— Перад Новым годам чалавек ідзе ў краму з поўным кашальком, а выходзіць з пустым кашальком, але поўным кошыкам, — патлумачыў дзед-верабей. — А калі не можа ўсё панесці, вязе да машыны на цялежцы.

— Ого, уяўляю, колькі гэта ежы! — прысвіснуў вечна галодны Чубчык.

— І яны ўсё гэта з'ядаюць за адну ноч? — здзівіўся Чык.

— Ну, мо за дзве або тры, не ведаю, — прызналася чэсна сарока.

Чыку чамусьці зрабілася сумна. Але трэба сказаць, што гэты верабейчык не ўмеў сумаваць доўга. Ф-р-р! Ён ускудлаціў пер'е, праганяючы сум, і весела зірнуў уніз.

— Чубчык, глядзі, — штурхнуў ён братку. — Наша суседка прыйшла.

— Чу-чу, навошта? На звяроў паглядзець? — здзівіўся Чубчык.

— Што ёй яшчэ рабіць, небарацы? — па-даросламу ўздыхнула Чуня.

Чык успомніў, што так заўсёды ўздыхае мама Рычы, гледзячы на новую суседку. Гэтым летам два чалавекі — муж і жонка — купілі стары суседскі дом. Рычы якраз выседжвала птушанят і часта бачыла, як сумна жанчына глядзела на птушынае гняздо, на маленькіх птушак.

— Няшчасныя! Такія адзінокія! — спачувальна ўздыхала вераб'іха.

— Што-йта будзе? Нічога не зробіш, — адказваў Штойс.

Летнімі вечарамі муж і жонка садзіліся на ганак і доўга сядзелі, слухаючы шчабятанне птушак.

— Такія харошыя і такія няшчасныя, — зноў уздыхала Рычы.

— Чаму няшчасныя? — спытаў аднаго разу Чык.

Штойс і Рычы пераглянуліся:

— Няма шчасця, вось і няшчасныя…

Усе гэтыя ўспаміны ў адно імгненне пранесліся ў маленькай вераб'інай галаве. І трэба сказаць, што Чык не ўмеў раздумваць доўга. Ён любіў дзейнічаць. Убачыўшы «няшчасную суседку», ён тут жа скокнуў уніз і павітаў яе:

— З Новым годам! З новым шчасцем!

Суседка чамусьці яго не зразумела:

— Есці хочаш, небарака? У мяне нічога для цябе няма.

— Ды я сыты! — цырыкнуў Чык і ўзляцеў на казырок крамы.

Ён быў пакрыўджаны. Такая прыгожая і разумная, а не зразумела Чыка і, галоўнае, не пазнала яго. Вось з правадоў пухкім камячком зваліўся Чубчык.

— Чу-чу! Падайце жабраку! — жаласна запішчаў ён, гледзячы на жанчыну.

— Хоць бы павітаўся! — злосна падумаў Чык.

— Я ж табе сказала: нічога ў мяне няма, — ласкава прамовіла суседка.

— Гэта ты мне сказала, а не яму, — цырыкнуў зверху Чык. — Для гэтых людзей мы, вераб'і, аднолькавыя.

— Чубчык есці хоча! Чу-чу, есці хачу! — жаласна цыркаў Чубчык.

— Вось абжора! Толькі што з заапарка вылецеў, — думаў Чык.

— Чу-чу! — патрабаваў Чубчык.

— У мяне нічога няма, — жанчына, сумеўшыся, абмацвала кішэні.

— Ёсць! Ёсць! — Чубчык нахабна пазіраў на поўны пакет.

— Гэта падарункі дзеткам, — апраўдвалася жанчына. — А, успомніла, у мяне ў сумачцы пячэнне заставалася.

Чубчык урачыста паглядзеў на старэйшага брата: вучыся, маўляў, як прасіць трэба.

— Так, брат, — настойлівасці табе не займаць, — усміхнуўся зверху Чык.

Жанчына раскрышыла пячэнне і кінула яго Чубчыку.

— Ча-ча! Удача! — закрычаў Чубчык, паспешліва дзеўбучы крошкі.

— Хоць бы падзякаваў, — буркнуў Чык.

Але злаваць не было калі: на рынкавую плошчу выруліў стары аўтобус, і жанчына паспяшалася за ім.

— Ага, некага сустракае, — здагадаўся Чык, падлятаючы бліжэй.

Жанчына ішла ўздоўж аўтобуса, узіраючыся ў яго вокны. Раптам твар яе асвятліла ўсмешка. «Дачакалася, знайшла», — зразумеў верабей. З аўтобуса выходзілі дзеці. Выхавацелі дапамагалі ім спускацца па прыступках і разбіралі на пары, папраўляючы шапкі і шалікі. Чамусьці ў маленькіх вераб'іных грудзях зашчымела. Недарэмна ён цэлую восень гуляў у «знайдзі пяць адрозненняў». Ён адразу назваў бы пяць па пяць адрозненняў гэтых дзяцей ад усіх астатніх, якіх ведаў на сваёй вуліцы.

— Бедненькія птушаняткі! — жаласліва піскнула Чуня.

— Чу-чы, вы чые? — крыкнуў зверху Чык.

Дзеці, узяўшыся за рукі, ціха праходзілі міма.

— Чые вы? — рэхам паўтарыў Чуня.

Дзеці маўчалі.
— Ды нічые яны! — з раздражненнем адказала цётка варона.
— Як нічые?! — ахнула Чуня. — Такога не бывае!
— У людзей бывае! — раззлавалася варона.
— Усё бывае, — думаў Чык. — Дзядзька Чыйв трапіў у лапы да кошкі, а сусед-верабей загінуў пад коламі машыны… Але іх птушанят прынялі ў вялікую вераб'іную сям'ю. Цяпер яны нашы. А тут чалавечыя дзеці — і нічые!
— Няшчасныя! — зусім як вераб'іха-маці, уздыхнула Чуня.
— Проста-такі няшчасныя! Апранутыя, абутыя, сытыя, на экскурсіі іх возяць, — варона вылучыла асобна рэдкае замежнае слова. — Хараство! Дзякаваць павінны, а не слёзы ліць.
Варона шумна ўзляцела. А верабейчыкі паскакалі за калонай дзяцей. Седзячы на прутах вальера, Чык не зводзіў вачэй з суседкі і трох маленькіх дзяўчынак. Як памяняўся твар жанчыны, калі яна ўзяла ў свае рукі маленькія дзіцячыя далонькі! Як памяняліся дзеткі, калі яна ўзяла іх за рукі! Але Чыку гэтым разам не хацелася гуляць у «знайдзі пяць адрозненняў». Ён глядзеў, як пяшчотна яна развітваецца з дзяўчынкамі, і адчуваў, як нешта цёплае разгараецца ў яго сэрцайку.
— Як яна іх адрознівае? — выпаліў Чубчык. — Гэтыя чалавечкі ўсе на адзін тварык!

**4.**

«Нічыых» дзяцей пасадзілі ў аўтобус і павезлі, а праз дзень з'ехаў і заапарк. Для вераб'ёў надышоў цяжкі час. Маразы мацнелі, зямлю пакрыла тонкая кара.
Ранкамі вераб'іная сям'я аблятала ўсе навакольныя двары. Птушкі хутка збіралі змерзлыя крошкі вакол сабачых місак і ляцелі далей. Калі згаладалыя верабейчыкі стамляліся ад пустых пералётаў, яны збіраліся ў сваім гняздзе і чакалі вяртання старэйшых. Звычайна разгаралася спрэчка: што гэтым разам знойдзе тата Штойс — высахлую траву на аднаму яму вядомай пустцы ці забыты ўсімі некрануты куст шыпшыны?
У той дзень ішоў снег. Ён пачаўся з самага ранку, калі тата Штойс паляцеў на разведку. Снег валіў суцэльнай сцяной.
— Нялётнае надвор'е! — прагаварыў Чык.
— Зноў галодныя спаць ляжам, — прабурчаў Чубчык.
— Дзе ж наш татка прапаў? — піскнула Чуня.
— Хутчэй бы вярнуўся — так есці хочацца!
— Зноў ты пра ежу, Чуб! Ляж паспі і ўсё пройдзе!
— Не буду спаць! Зноў сланечнік прысніцца! — з жахам прагаварыў Чубчык.
Вераб'і весела зацырыкалі. Сланечнік у сумёце галавой на паўнеба — гэты жах праследаваў Чубчыка некалькі начэй.
— А мне снілася, што на кожным дрэве вісяць кармушкі — поўныя-паўнюткія… — тужліва цыркнула Чуня.
— Стоп! Правіла нумар адзін — пра ежу не гаварыць! — строга нагадаў Чык.
— Пра што тады гаварыць? — тужліва працягнуў Чубчык.
— Давай пра лета марыць! Мама Рычы, раскажы нам пра лета.
— Спачатку прыйдзе вясна, першая вясна ў вашым жыцці, — пачала Рычы.
Чык заплюшчыў вочы, уяўляючы, як гэта ўсё будзе: сонца, цеплыня, ручаі, зялёныя парасткі, жучкі, новыя гнёзды, птушаняткі…
— А раптам яна не прыйдзе?
— Прыйдзе-прыйдзе! За зімою заўсёды прыходзіць вясна, — супакоіла мама Рычы. — Заўсёды…
— Так бывае заўсёды… заўсёды… — скрозь дрымоту чуў Чык.
— Так, так, назаўсёды! Я сама гэта чула! Так спяшалася, усіх апярэдзіла! — уварваўся ў цішыню голас сарокі.
Чык расплюшчыў вочы, убачыў у праёме акна стомленага бацьку і кінуўся да яго:
— Ура! Тата вярнуўся!
— Не перабівай старэйшых! — сарока злёгку дзеўбанула Чыка ў патыліцу.
— Прывітанне, маленькі! — Штойс хуценька схаваў сынка пад крыло.

— Дык я працягваю, — сарока строга зірнула на вераб'ёў. — Я іх проста каля электрычкі сустрэла, ад самага вакзала праводзіла. Усё чула, усё ведаю! Старшанькая спытала: «Ты нас на святы бярэш? На выхадныя?» А яна адказвае: «Не, назаўсёды!» Так-так, назаўсёды! Ды вунь яны ідуць, глядзіце!

Вераб'і лёгка ўзляцелі і ўселіся на карніз. У канцы завулка паказаліся людзі. Двое дарослых вялі за рукі трох маленькіх.

— Глядзі, іх таксама трое, — радасна ўсклікнула Чуня.

Людзі адчынілі брамку, прайшлі да хаты.

— Вось і наш дом. Цяпер вы тут будзеце жыць, — сказаў мужчына, дастаючы ключы. Дзяўчынкі баязліва маўчалі.

— Хвалююцца, бедненькія, — прагаварыла мама Рычы. — І стаміліся з дарогі.

— Мяў! — прагучала з-за вугла, і на ганак лёгка ўзбегла пушыстая кошка.

— Сцеражыся! — закрычаў Чык.

Але дзеці, відаць, не баяліся кошак.

— Кіса, кіса! — заўсміхаліся дзяўчынкі.

— Гэта наша Лапачка, — сказала жанчына. — Лапачка, гэта твае маленькія гаспадыні — Аліна, Танюша і Даша.

Кошка, вуркочучы, церлася аб ногі жанчыны, а Чык стараўся запомніць чалавечыя імёны.

«Танюша, Даша. Не, гэтыя "шшш" немагчыма працырыкаць! Давядзецца шыпець, як кошка», — думаў ён.

— Гэта старэйшая, Танюша. Ёй шэсць гадоў, — гаварыла жанчына.

— Та-та-та, — паўтарылі малодшыя вераб'і.

— Якое худзенькае птушаня, — уздыхнула вераб'іха.

— Што-йта! — адказаў Штойс. — Адкормяць.

— Сярэдняя — Аліна, ёй чатыры, — працягвала жанчына.

— Лі-лі-лі, — зацырыкалі верабейчыкі.

— І вусны, і носік у больках, — узіралася вераб'іха.

— Гэта проста прастуда, — вызначыла ўсёведка-сарока. — У людзей бывае.

— Слабенькая, — галасіла вераб'іха.

— Што-йта! — сказаў Штойс. — Вылечаць.

— Гэта малодшая, Даша. Ёй тры гадочкі.

— Да-да-да, — паўтарылі вераб'і.

— Не, не, не чапай яе! — крыкнула Рычы, але было позна.

Кошка лапай адкінула працягнутую дзіцячую далоньку. Маленькая крыкнула і кінулася з плачам да жанчыны:

— Мамачка!

— Хто ж да кошкі ў лапы лезе? — паківаў галавой Чубчык. — Вось дурненькая!

— Што-йта! — упэўнена прагаварыў Штойс. — Паразумнее, усяму навучыцца.

— Што ж вы не заходзіце? — засмяяўся мужчына.

Дзверы за людзьмі зачыніліся. Вераб'і вярнуліся да гнязда, не заўважаючы адсутнасці бацькі. Праз колькі хвілін ён апынуўся ў праёме акна з вялікім кавалкам батона ў дзюбе:

— Лапачка ад батона адмовілася? — здагадалася вераб'іха.

— Дзівачка, — пацісну ў крыльцамі Чубчык.

— Давайце есці! — весела цырыкнуў верабей.

— Гэтая частка — Чыку. Гэтая частка — Чубчыку. Гэтая частка — Чуні. Гэтая — маме, — дзяліў здабычу тата Штойс.

Ён быў вельмі задаволены сабой і вельмі шчаслівы.

Сытых вераб'ёў хутка адолеў сон. Штойс, Рычы, Чубчык і Чуня спалі, схаваўшы дзюбкі ў пух. Чык пераступаў з лапкі на лапку і ніяк не мог прыстроіцца на начлег.

— Гуля-гуляеш? — спытаў голуб Гуль. — Не заснуць?

— Як яны там? — Чык кіўнуў дзюбкай на суседні дом. — Вось бы ў акенца зірнуць.

— Нядобра ў чужыя вокны зазіраць, — паківаў галавой Гуль.
— Шт-то яны зараз робяць, як думаеш?
— Дзетак кормяць, як усе.
— А шт-то пасля?
— Што ўсе дзеткі ноччу робяць? Спяць. Спі, Чык. Гулі-гулі, — закурлыкаў голуб. — Гулі-гулі.
Усе паснулі.

**5.**

Прачнуўся Чык ад вясёлага шчабятання. Ён падляцеў да акенца і зірнуў у двор.
— Чы! — свіснуў ён у здзіўленні.
Ад ганка бабы Веры ішлі свежыя сляды. У кармушцы ляжалі крошкі хлеба. На скрыні каля хлява — сноп каласоў і…
— Чубчык! Чубчык, прачынайся! — паклікаў Чык братку.
— Цуд! Мары здзяйсняюцца! — крычаў Чубчык, пікіруючы ўніз да вялізнай галавы сланечніка.
— Шт-то гэта значыць? — пыталася Рычы.
— Што-йта я? Зусім забыўся! Гэта Раство! — адказаў верабей Штойс.
У гэтым радасным перапалоху вераб'і не адразу заўважылі суседак.
— Прынцэсы вы мае, — ласкава гаварыла з імі жанчына, папраўляючы на дзяўчынках яркія абноўкі.
— Ах, якія снегіры-малінаўкі! — задаволена цыркнула мама Рычы.
— А што ў руках у яе? — Чубчык разглядаў падарункавыя пакеты. — Шт-то за ежа?
— Не, каб павітацца спачатку! — буркнуў Чык. — Усё цябе, драбяза, вучыць трэба.
— Чы-чы-чы, вось і вучы! — весела цыркнуў Чубчык.
— Чыр-чар-ром! — цыркнуў радасна Чык, усаджваючыся на галінку слівы.
— З Раством, маленькі, з Раством! — адказала яму жанчына.
Ф-р-р! Чык узляцеў на дах хлява. Сэрцайка яго радасна трапяталася — зразумела, правільна зразумела!
— Ча-ча-ча! — пракрычаў ён зверху.
— Я зразумела! Ён жадае шчасця нам! Так, мамачка? — запляскала ў ладкі Алінка.
— Канешне, дачушка.
— Тата, тата ідзе! — закрычала Танюшка і з усіх ног кінулася да брамкі.
— Санацькі вязе, з гойкі катацца будзім! — лепятала Даша.
Мужчына прысеў, шырока раскінуўшы рукі, і лёгка падхапіў дзяўчынак.
— Вось шчабечуць, маленькія птушкі! Радуюцца! — любавалася зверху вераб'іха.
— Угадайце, што тата сваім дачкам прынёс?
— Нашым дачкам, — шчасліва выдыхнула жанчына.
— Шакаладку? — спытала Алінка.
— Цукерачку? — Танюшка ўзнялася на дыбачкі, стараючыся дацягнуцца да кішэні.
— Не ўгадала. Тата сваім прынцэсам купіў вітамінкі — мандарынкі. Трымайце: мандарынка — для Алінкі…
— Аранжавая, як сонейка, — ціха прагаварыла дзяўчынка.
— Мандарынка — для Танюшкі, мандарынка — для Дашачкі і яшчэ адна — для мамачкі, — раздаваў падарункі мужчына.
— Сапраўдны верабей! — гледзячы на мужчыну, сказаў Чык.
— Наш чалавек! — працягнуў верабей Штойс.
— Шчасце якое! — радасна ўздыхнула Рычы.
Смех, пацалункі, цёплыя абдыманні — якое шчасце! Дзіцячы смех, птушынае шчабятанне, пяшчотныя пагляды, радасныя ўсмешкі — якое шчасце!
— Дык яко-о-ое яно, ваша шча-а-асце? — жмурачыся ад сонца, мяўкнула кошка.
— Рознае, — звонка крыкнуў ёй зверху Чык.
Бо і малому вераб'ю зразумела, што шчасце сваё ў кожнага. Шчасце атрымліваць і шчасце аддаваць. Шчасце дзяліць і шчасце дзяліцца. Шчасце насычацца дабрынёй і шчасце выхоўваць. Новае шчасце і вечнае шчасце. Шчасце любіць і быць любімымі.

*Пераклад з рускай мовы Святланы Воцінавай.*



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Брэсцкая вобласць, Драгічынскі раён, вёска Заказель.
Капліца-пахавальня Ажэшкаў. 1849 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

# Досціны будні #4:

## "Лепшае – дзецям"




ISSN 0131-2308
9 770131 230003 17001